ГЕРОЛЬД  LITHERLAND

**№ 19** **Горадня–Менск** **2013**

“***Герольд Litherland***”© – навуковы геральдычны часопіс. Выдавец і рэдактар – Аляксей Шаланда (Менск). Галоўны рэдактар – Віталь Галубовіч (Горадня). Рэдакцыйная рада: Сяргей Амелька (Горадня), Віталь Карнялюк (Горадня), Андрэй Радаман (Менск), Андрэй Янушкевіч (Мір). Часопіс распаўсюджваецца толькі па замове. Наклад 100 асобнікаў. Пры передруку спасылка на часопіс “*Герольд Litherland*” абавязковая. Адрас для допісаў: **E-mail: Litherland@tut.by**

## АД РЭДАКЦЫІ

Генеалогія – адносна новы накірунак у беларускай гістарыяграфіі. На жаль, у вялікай ступені яна стала даменам не прафесійных даследчыкаў, а ўласна аматараў, якія, не абцяжарваючы сябе навуковымі прынцыпамі працы, пошукам новых крыніц і крытычным стаўленнем да інфармацыі, ствараюць новую квазігістарычную прастору. У сувязі з гэтым, гістарычная навука павінна больш увагі надаваць генеалагічным штудыям, паказваць якасныя ўзоры даследаванняў, а не ісці ўслед за саматужніцтвам і бясконца выпраўляць памылкі.

У Беларусі даўно наспела патрэба ў рэгулярных генеалагічных канферэнцыях, якія б стымулявалі цікавасць да спецыяльных гістарычных навук. Не менш надзённай праблемай застаецца стварэнне адпаведных навуковых структур для каардынацыі навуковых доследаў у галіне генеалогіі. Інстытуцыйнай асновай для такой працы можа стаць утвораны ў красавіку 2013 г. “*Цэнтр генеалагічных даследаванняў*” (ЦГД). Асноўнымі задачамі цэнтра з’яўляецца інфармаванне грамадскасці ў галіне генеалогіі, арганізацыя навуковых мерапрыемстваў, падрыхтоўка і рэалізацыя даследчых праектаў па вывучэнні гісторыі шляхецкіх родаў Вялікага Княства Літоўскага.

Цікавасць беларускага грамадства да вынікаў працы генеолагаў абумовіла галоўную тэматыку чарговага нумара “*Герольда Litherland*”, які скампанаваны пераважна з генеалагічных даследаванняў. Мы будзем імкнуцца ў будучым надаваць ім асаблівую ўвагу. Натуральна, не былі пакінуты па-за ўвагай і традыцыйныя сюжэты, якія складаюць падмурак навуковай спецыялізацыі нашага выдання.

Прадстаўленыя ў гэтым нумары “*Герольда Litherland*” даследаванні з’яўляюцца своеасаблівай ілюстрацыяй сучаснага стану беларускай генеалогіі. Дасягненні айчыных і замежных даследчыкаў у гэтым накірунку за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў прааналізаваныя ў артыкуле Сяргея Рыбчонка. У рубрыку “*Артыкулы*” таксама ўвайшлі тэматычныя рэканструкцыі, прысвечаныя асобным пытанням генеалогіі і геральдыкі (Г.Брэгер, А.Шаланда, А.Ліцкевіч).

У раздзеле “*Матэрыялы*” мы друкуем працяг гербоўніка Ваўкавыскай шляхты XVI-XVIII ст. (А.Шаланда) і вялікае даследаванне, прысвечанае князям Адзінцэвічам ды Падбярэзскім (Ф.Чарняўскі).

У традыцыйным для нашага выдання раздзеле “*Крыніцы*” у навуковае абарачэнне ўводзіцца прывілей Мастам на магдэбургскае права 1791 г., дзве справы пра вывады шляхецтва ў другой палове XVI ст. і ўнікальная беларуская грамата XV ст. у суправаджэнні разгорнутай крыніцазнаўчай характарыстыкі.

*З М Е С Т:*

**АРТЫКУЛЫ**:



**МАТЭРЫЯЛЫ**:



**КРЫНІЦЫ**:



**РЭЦЭНЗІІ:**

**Сяргей Рыбчонак**
**(Менск)**

# ГЕНЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ: ДАСЯГНЕННІ І ПЕРСПЕКТЫВЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

Дэмакратычныя пераўтварэнні ў грамадстве ў сярэдзіне 1980-х – пачатку 1990-х гг., аднаўленне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі паспрыялі з'яўленню ў шырокіх колах насельніцтва вялікай цікавасці да гісторыі сваіх продкаў. Было адноўлена вывучэнне генеалогіі ў навуковых і вышэйшых навучальных установах краіны. Пра актывізацыю навуковай генеалогіі сведчаць і абароненыя ў апошні час кандыдацкія дысертацыі, а менавіта М.Ялінскай "*Источники о дворянских родах западноевропейского происхождения в белорусских губерниях конца XVIII – начала XX вв.*" (2005 г.) і С.Рыбчонкам "*Крыніцы масавага паходжання па генеалогіі Беларусі сярэдзіны XVII – пачатку XX ст. (па матэрыялах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі)*" (2010 г.). Пэўную ўвагу крыніцам па генеалогіі шляхты прысвяціла і Н.Казлоўская ў сваёй кандыдацкай дысэртацыі "*Шляхта белорусских земель Великого Княжества Литовского: рос. дореволюц. и совет. историография и источниковедение проблемы*" (2001 г.).

У апошняе дзесяцігоддзе XX – пачатку XXI ст. з'явіўся шэраг важных работ, прысвечаных самым розным тэарэтычным і практычным пытанням. Назіраюцца цесныя сувязі спецыялістаў па генеалогіі Беларусі, Польшчы, Расіі і іншых краін, у т. л. распрацоўка сумесных праектаў. Генеалагічныя пошукі актыўна практыкуюцца рознымі грамадскімі аб'яднаннямі ў Беларусі і за яе межамі. З'явіўся вялікі пласт генеалагічных твораў, падрыхтаваных аматарамі, часцей з даследаваннем уласнага радаводу. У цэлым генеалогія Беларусі на сучасным этапе развіваецца вельмі дынамічна і ў агульным рэчышчы з сусветнай генеалогіяй.

Мяркуем, казаць аб адраджэнні генеалогіі ў Беларусі можна з канца 1980-х гг. Менавіта тады з'явіліся дзве праблемныя работы, назвы якіх гавораць самі за сябе. Гэта артыкулы Д.Карава "*Отечественная генеалогия (Вехи пройденного пути)*"[1] і А.Грыцкевіча "*Задачы беларускай генеалогіі*"[2]. З таго часу мінула 25 гадоў, і, здаецца, ёсць неабходнасць прааналізаваць "*перыяд адраджэння*" генеалогіі ў Беларусі. На жаль, у нас няма магчымасці разглядзець усе друкаваныя працы, бо іх занадта многа. Найпершую ўвагу звернем на найбольш важныя, знакавыя работы. Менавіта яны прадставяць нам галоўныя накірункі развіцця навукі, што дазволіць убачыць і праблемныя не вырашаныя яшчэ пытанні.

Самое існаванне беларускага народу ў поліэтнічнай дзяржаве вяло да моцных этнакультурных кантактаў, працэсаў узаемапранікнення, асіміляцыі і міграцыі на нашых землях. Таму і генеалогія ў Беларусі не можа быць абмежавана канкрэтнымі этнічнымі, грамадскімі ці тэрытарыяльнымі фактарамі без пэўнай долі ўмоўнасці. Па гэтай прычыне нам прыдзецца разважаць не толькі аб работах уласна беларускай гістарычнай школы, але і аб найбольш значных і цікавых нам даследаваннях гісторыкаў суседніх краін.

Найперш аб работах агульна-тэарэтычнага плана. Прадмет генеалогіі і методыка даследаванняў падрабязна выкладзены Ю.Шыманьскім[3], Д.Шахаўскім[4] і І.Варанчук[5].

---

[1] Карев, Д.В. Отечественная генеалогия (Вехи пройденного пути) // Наш радавод: сб. ст.: материалы I и II межресп. науч. конф. по ист. краеведению Белоруссии и генеалогии, Радунь, 18 нояб. 1988 г., Гродно, 28 нояб. 1990 г.: в 2 кн. / Гродн. обл. краевед. ассоц.; отв. ред. и сост. Д.В.Карев. Гродно, 1990. Кн.1. С.72-79.
[2] Грыцкевіч А.П. Задачы беларускай генеалогіі // Наш радавод: сб. ст.: материалы I и II межресп. науч. конф. по ист. краеведению Белоруссии и генеалогии, Радунь, 18 нояб. 1988 г., Гродно, 28 нояб. 1990 г.: в 2 кн. / Гродн. обл. краевед. ассоц.; отв. ред. и сост. Д.В.Карев. Гродно, 1990. Кн.1. С.114-116.
[3] Szymański, J. Genealogia // Nauki pomocnicze historii. Warszawa, 2004. S.70-106.
[4] Шаховской, Д.М. Приемы изучения источников по русской генеалогии в новейшей исследовательской практике // Археографический ежегодник за 1988 год / Акад. наук СССР, Отд-ние истории, Археорг. комис.; редкол.: С.О.Шмидт [и др.]. М., 1989. С.93-103.

Агульная гістарыяграфія генеалогіі Беларусі асветлена Г.Галенчанка[6]. Праблемы і перспектывы развіцця навукі разглядаліся расійскімі навукоўцамі В.Мядушэўскай[7], У.Кобрыным[8] і С.Рыбчонкам[9]. Бібліяграфічны накірунак маюць працы Г.Цалей[10], Р.Красюкова[11], В.Рыхлякова[12]. Па Беларусі адпаведныя звесткі падрыхтаваў А.Залівака[13], але спроба (асабліва ў першай публікацыі) не атрымалася поўнай і ўдалай. Агульныя асаблівасці генеалогіі Беларусі разглядаліся С.Рыбчонкам[14]. З пашырэннем кола крыніц, якія прымяняюцца ў генеалогіі, вельмі актуальным стала пытанне іх сістэматызацыі і класіфікацыі. Варта адзначыць грунтоўны дапаможнік, падрыхтаваны расійскімі архівістамі[15]. У ім зроблена спроба сістэматызацыі генеалагічных крыніц, даецца кароткая характарыстыка асобных відаў, якія існавалі ў Расійскіх царстве і імперыі (больш 100 крыніц). Пытанне класіфікацыі крыніц разглядалася і аўтарам[16].

Характэрнай рысай сённяшняга дня стала і ўвага да новых крыніц, асабліва масавага паходжання, якія могуць выкарыстоўвацца для вывучэння генеалогіі шырокіх непрывілеяваных слаёў насельніцтва. Вывучаліся такія крыніцы як пасямейныя і прызыўныя спісы, інвентары і інш.[17]. Некалькі артыкулаў прысвечаны пытанням

---

5 Ворончук, І.О. Родоводи волинської шляхти XVI-першої половини XVII ст. (реконструкція родинних структур: методологія, методика, джерела). Наук.-метод. вид. Київ: Вища школа, 2009. 512 с.

6 Галенчанка, Г.Я. Генеалогія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: Б.І.Сачанка (гал. рэд.) [і інш.]. Мн., 1994. Т.2. С.505-507.

7 Медушевская, О.М. Генеалогические исследования польских историков // История и генеалогия: С.Б.Веселовский и проблемы историко-генеалогических исследований: сб. ст. / Акад. наук СССР, Ин-т истории СССР; редкол.: Н.И.Павленко (отв. ред.) [и др.]. М., 1977. С.266-273.

8 Кобрин, В.Б. Перспективы развития генеалогических исследований // Генеалогические исследования: сб. науч. тр. / Рос. гос. гуманитар. ун-т ; редкол.: В.А.Муравьев (отв. ред.) [и др.]. М., 1994. С.23-34.

9 Рыбчонак, С.А. Генеалогія Беларусі – набыткі і праблемы // Архівазнаўства, крыніцазнаўства, гістарыяграфія Беларусі: стан і перспектывы: тэз. міжнар. навук.-тэарэт. канф., Менск, 1-2 снеж. 1993 г.: у 2 ч. / Беларус. навук.-даслед. цэнтр дакументазнаўства і арх. справы, Беларус. дзярж. ун-т, Нац. арх. Рэсп. Беларусь. Мн., 1993. Ч.2. С.96-99.

10 Celej, A. Bibliografia genealogii i heraldyki polskiej za lata 1980-2001. Warszawa: DiG, 2006. 391 s.

11 Красюков, Р.Г. Обзор русской советской литературы по генеалогии за 70 лет (1917-1987) // Изв. Рус. генеал. о-ва. 1994. Вып.1. С.55-80.

12 Опыт библиографии отечественной генеалогии: библиогр. указ.: в 3 ч. / Рус. генеал. о-во, Творч. группа по изучению элиты рос. о-ва XIX - нач. XX в.; сост. В.Н.Рыхляков. СПб.: ВИРД, 1998. Ч.1/2. 126 с.

13 Заливако, А.С. Историография генеалогии Беларуси (X-XXI вв.). СПб.: Нев. простор, 2004. 92 с.

14 Рыбчонак, С. Асаблівасці генеалогіі Беларусі // Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі, XIII-XX ст.: матэрыялы міжнар. навук. канф., Гродна, 3-5 ліп. 1996 г. / Захад.-беларус. гуманітар. цэнтр даслед. Усход. Еўропы, Гродзен. дзярж. ун-т, Беларус. дзярж. музей гісторыі рэлігіі; адк. рэд. і склад. Д.Караў. Гродна, 1996. С.131-135. (Наш радавод; кн.7).

15 Генеалогическая информация в государственных архивах России: справ. пособие / Федер. арх. агентство, Всерос. науч.-исслед. ин-т документоведения и арх. дела; отв. сост. С.Н.Романова. М.: [б. и.], 2004. 278 с.

16 Рыбчонак, С. Класіфікацыя крыніц па генеалогіі. Прамыя і ўскосныя крыніцы // Архіварыус : зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2001. Вып.1 / рэдкал.: А.К.Галубовіч [і інш.]. С.148-158.

17 Рыбчонак, С. Помнікі на каталіцкіх могілках і ў касцёлах Мінска (паводле звестак 1910 г.) // Каштоўнасці мінуўшчыны: праблемы сбераджэння гіст.-культур. спадчыны Менска: матэрыялы канф., Менск, 12 лістап., 1997 г. / Рэсп. і Мін. гар. саветы Беларус. добраахвот. т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры; агул. рэд. С.В.Марцэлева. Мн., 1998. С.105-110; Рыбчонак, С. Крыніцы па генеалогіі беларускай шляхты і правядзенне архіўных даследаванняў // Гербоўнік беларускай шляхты / Нац. цэнтр па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Нац. гіст. арх. Беларусі, Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. Мн., 2002. Т.1 / Т.Капіца [і інш.]. С.17-27; Рыбчонак, С.А. Прызыўныя і пасямейныя спісы апошняй чвэрці XIX - пачатку XX ст. як крыніца па генеалогіі Беларусі: спецыфіка інтэрпрэтацыі, ацэнка верагоднасці звестак і ступень захаванасці // Беларускі археаграфічны штогоднік / Дзярж. кам. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Археагр. каміс., Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. 2008. Вып.9. С.146-154; Рыбчонак, С.А. Інвентары маёнткаў другой паловы XVI - першай паловы XIX ст. як крыніца па генеалогіі Беларусі: асаблівасці складання, ацэнка верагоднасці інфармацыі і ступені захавання // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы юбілейнай навук.-практ. канф., прысвеч. 70-годдзю Нац. гіст. арх. Беларусі, Менск, 8 ліп. 2008 г. / Дэпартамент па арх. і справаводству М-ва юстыцыі Рэсп. Беларусь, Нац. гіст. арх. Беларусі; навук. рэд. У.І.Адамушка. Мн., 2008. С.124-134; Сліж, Н. Крыніцы па гісторыі шляхецкай сям'і XVI-XVII ст. // Герольд Litherland. 2001. № 2. С.67-73; Штакельберг,

верагоднасці звестак у крыніцах і іх інтэрпрэтацыі[18], захаванасці комплексаў асноўных генеалагічным крыніц, прынамсі ў менскім НГАБ[19]. З'явіліся і метадычныя парады для даследчыкаў генеалогіі па матэрыялах НГАБ у Менску[20]. Указаныя работы безумоўна паспрыяюць актывізацыі практычных росшукаў, будуць карысны і спецыялістам, і аматарам.

Важнае месца займае распрацоўка радаводаў знакамітых дзеячоў Беларусі. У гэтым шэрагу вартыя ўвагі: Р. Гарэцкі (радавод М.Гарэцкага)[21], З.Яцкевіч (Ядвігіна Ш.)[22] і іншыя даследчыкі[23]. Як вынік пашырэння вобласці генеалогіі з'явіліся працы з даследаваннем радаводаў сялян і мяшчан. Можна ўзгадаць працы М.Макарава[24], Т.Міхяёнак[25], В.Станішэўскага[26] і інш.[27] Іх пакуль няшмат, але несумненна будзе з'яўляцца ўсё больш. Пераважная большасць прац аднак прысвечана сёння шляхецкай генеалогіі. Прааналізуем іх падрабязней, бо гэтыя даследаванні вельмі значныя для развіцця медыевістыкі і найбольш цікавыя для нашае ўвагі. Для зручнасці вылучым некалькі асобных значных груп.

***Публікацыі крыніц.*** Перш за ўсё адзначым аднаўленне польскімі гісторыкамі ў 1987 г. і літоўскімі ў 1993 г. выдання кніг Метрыкі ВКЛ, якія з'яўляюцца адной з галоўных крыніц[28]. У 1988 г. друкаваны зборнік "*Дэкрэты Галоўнага Літоўскага*

---

Ю.И. Архивные источники и их использование для биографических исследований // Культура народов Великого княжества Литовского и Белоруссии XIII-нач. XX вв.: материалы междунар. науч. конф. по регион. истории Вост. Европы, Гродно, 22-24 окт. 1991 г.: в 3 кн. / Белорус. фонд культуры, Гродн. обл. отд-ние ; редкол.: Э.Банснис [и др.]. Гродно, 1991. Кн.3, ч.1. С.154-161. (Наш радавод).

[18] Носевич, В.Л. К вопросу о достоверности метрических книг второй половины XVIII-первой половины XIX в. // Материалы церковно-приходского учета населения как историко-демографический источник: сб. ст. / Алт. гос. ун-т; отв. ред. В.Н.Владимиров. Барнаул, 2007. С.94-102.

[19] Рыбчонок, С.А. Комплексы основных генеалогических источников в Национальном историческом архиве Беларуси // Арх. і справаводства. 2007. № 5. С.88-95; Рыбчонак, С.А. Сохранность основных генеалогических источников в НИАБ: сравнительный анализ и оценка возможности проведения исследований // Крыніцазнаўства, археаграфія, архівазнаўства ў XX-XXI ст. у Беларусі : зб. навук. арт., прысвеч. 100-годдзю з дня нараджэння М.М.Улашчыка / Беларус. дзярж. ун-т ; рэдкал.: С.М.Ходзін (адк. рэд.) [і інш.]. Мн., 2008. С.239-246.

[20] Рыбчонак, С.А. Крыніцы па генеалогіі Беларусі XVI-пачатку XX ст.: метад. парады. Мн.: Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы, 2003. 74 с.

[21] Гарэцкі, Р. Радавод Максіма Гарэцкага // Род. слова. 1994. № 2. С.65-70.

[22] Яцкевіч, З. Радавод Ядвігіна Ш. // Род. слова. 1999. № 8. С.206-212.

[23] Дзянісаў, У.М. Новыя дакументы да біяграфіі і радаводу Марка Шагала // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2004. Вып.2 / рэдкал.: А.К.Галубовіч [і інш.]. С.96-99; Жаўняркевіч, Р.С. Радавод Хаіма Суціна // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2001. Вып.1 / рэдкал.: А.К.Галубовіч [і інш.]. С.36-41.

[24] Макараў, М.Дз. Крупенічы: гісторыя віцебскага мяшчанскага роду XVI ст. // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2006. Вып.4 / рэдкал.: Ю.М.Бохан [і інш.]. С.159-167.

[25] Михеенок, Т. Павичи – род крестьянский // Арх. і справаводства. 2001. № 2. С.103-107.

[26] Станишевский, В.Н. Родословная Станишэвских: ист. очерк. Мн.: Белорус. издат. т-во "Хата", 1997. 63 с.

[27] Русаў, П. Менскія радаводы магдэбурскай эпохі // Спадчына. 2000. № 2. С.163-188; Яцкевіч, З.Л. Азаровічы – род магілёўскіх фундатараў і дабрадзеяў // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2001. Вып.1 / рэдкал.: А.К.Галубовіч [і інш.]. С.46-51; Урублеўскі, В.В. Нарыс сялянскага радаводу братоў Лукаша і Васіля Гарбацэвічаў (сярэдзіна XVIII-пачатак XX ст.) // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2008. Вып.6 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.222-228.

[28] У 1987-2012 гг. навукоўцамі Літвы, Беларусі і Польшчы выдадзена больш 35 кніг Метрыкі ВКЛ. З-за абмежаванасці артыкула згадваем толькі першыя: Metryka Litewska: w 2 t. / Pol. Akad. Nauk, Inst. Historii; Akad. Nauk Litewskiej SSR, Inst. Historii; oprac. A.Rachuba; red. A.Gieysztor [et al.]. Warszawa: Państ. Wydaw. Nauk., 1987. T.1: Księga Sigillat 1709-1719. 267 s.; Lietuvos Metrika (1427-1506). Užrašymų knyga 5 / parengė E.Banionis. Vilnius: Moksio ir encikl. leidykla, 1993. 402 s.

*Трыбунала (1583-1655)*”[29]. Яшчэ былі апублікаваны падымныя тарыфы па асобных ваяводствах ВКЛ: Віленскім[30], Троцкім[31], Брэсцкім, Мсціслаўскім, Навагрудскім, Смаленскім[32]. З іншых апублікаваных крыніц трэба назваць наступныя: крыжапрыводная кніга шляхты ВКЛ 1655 г.[33], Руская (Валынская) Метрыка (1652-1673)[34] і інш.[35] Апошняе дасягненне – выданне зборніка тэстаментаў (пераважна шляхты), падрыхтаванае супрацоўнікамі НГАБ, змяшчае 115 тэстаментаў[36]. Зрэшты, ёй папярэднічала праца Е.Аўгустыняк, якая таксама нам вельмі цікавая[37].

Зроблена перавыданне такіх важных і даўно рарытэтных крыніц па гісторыі Беларусі як летапісы і хронікі (сярэднявечча і раннемадэрны час)[38] і перапіс войска ВКЛ 1528 г.[39] Да апублікаваных крыніц зроблены якасныя паказальнікі, што дазваляе вельмі зручна імі карыстацца. Таксама былі перавыдадзены “*Кампендыум*” В.Каяловіча[40], “*Гербоўнік шляхты Віцебскай*” Ф.Пекасінскага[41], вядомыя помнікі Абуховічаў і завершана выданне “*Дыярыуша*” Яна Антонія Храпавіцкага[42].

Другія публікацыі былі менш маштабныя. Г.Семянчуком і А.Шаландай апублікаваны падымны тарыф шляхты Ваўкавыскага павета за 1734 г.[43] Друкаваліся

---

29 Lietuvos Vyriausiojo Tribunolo sprendimai (1583-1655) / parengė V.Raudeliūnas, A.Baliulis. Vilnius: Mintis, 1988. 670 s.

30 Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: woj. Wileńskie 1690 r. / Pol. Akad. Nauk, Inst. Historii; oprac. A.Rachuba. Warszawa: Państ. Wydaw. Nauk., 1989. 373 s.

31 Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: woj. Trockie 1690 r. / Pol. Akad. Nauk, Inst. Historii; oprac. H.Lulewicz. Warszawa: Neriton, 2000. 340 s.

32 Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: woj. Brzeskie Litewskie 1667-1690 r. / opr. A.Rachuba. Warszawa: Neriton, Inst. Historii PAN, 2000. 227 s. Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: woj. Nowogródzkie 1690 r. / pod red. A.Rachuby; opr. H.Lulewicz, A.Rachuba. Warszawa: Neriton, Inst. Historii PAN, 2002. 290 s.; Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: woj. Mścisławskie 1667 r. / opr. A.Rachuba; Inst. Historii Pol. Akad. Nauk. Warszawa: DIG, 2008. 95 s.; Metryka Litewska: rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego: woj. Smoleńskie 1650 r. / pod red. A.Rachuby; opr. S.Dumin, A.Rachuba; Inst. Historii Pol. Akad. Nauk. Warszawa: DIG, 2009. 237 s.

33 Памятники истории Восточной Европы = Monumenta historica res gestas Europae orientalis illustrantia: источники XV-XVII вв.: в 7 т. / Рос. гос. арх. древ. актов, In-t historyczny Uniw. Warszawskiego, Centrum historii Europy Srodkowo-Wschodniej; редкол.: И.Граля [и др.]. М.; Варшава: [б. и.], 1995-2004. Т.4: Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г. / сост.: Е.Е.Лыкова, М.Кулецкий; отв. ред. Б.Н.Флоря. 1999. 261 с.

34 Памятники истории Восточной Европы = Monumenta historica res gestas Europae orientalis illustrantia: источники XV-XVII вв.: в 7 т. / Рос. гос. арх. древ. актов, In-t historyczny Uniw. Warszawskiego, Centrum historii Europy Srodkowo-Wschodniej; редкол.: И.Граля [и др.]; сост. П.Кулаковский. М.; Варшава: [б. и.], 1995-2004. Т.5: Руська (Волинська) метрика: Книга за 1652-1673 рр. 1999. 606 с.

35 Актавая кніга Полацкага магістрата 1650 г.: зб. дак. / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі; склаў і падрыхт. да друку М.Ю. Гардзееў. Мн.: Беларус. навука, 2006. 270 с.

36 Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст. (з актавых кніг Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі) / Склад.: А.Ф.Аляксандрава, В.У.Бабкова, І.М.Бобер; Нац. гіст. архіў Беларусі. Мн.: Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2012. 736 с.

37 Augustyniak, U. Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa: 1992. 249 s.

38 Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрны час // Тэматычны дадатак да нумару “ARCHE” № 9 за 2009. / Укл.: В.Воронін. / ARCHE-Пачатак, 2010. 902 с.

39 Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года: Метрыка Вялікага княства Літоўскага: кн.523: Кніга публічных спраў 1 / НАН Беларусі, Ін-т гісторыі; падрыхт.: А.І.Груша [і інш.]; рэдкал.: Г.Я.Галенчанка (адк. рэд.) [і інш.]. Мн.: Беларус. навука, 2003. 444 с.

40 Kojałowicz-Wijuk, W. Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego tak zwany Compendium / W.Kojałowicz-Wijuk. Kraków: Herold Pol., 1897. 527 s. – reprint: Poznań: Heroldium, 2002.

41 Piekosiński, F. Herbarz szlachty Witebskiej / F.Piekosiński. Kraków: Księg. Sp. Wyd. Polskiej, 1898. 219 s. – reprint: Poznań: Heroldium, 1998.

42 Pamiętniki Filipa, Michała i Teodora Obuchowiczów (1630-1707). / pod red. A.Rachuby; opr. H.Lulewicz, A,Rachuba. Warszawa: DIG, 2003. 640 s.

43 Семянчук, Г., Шаланда, А. Падымны “Тарыф” шляхты Ваўкавыскага павета 1734 г. // Герольд Litherland. Горадня-Менск. 2011. № 18. С. 159-175.

розныя спісы шляхты: спіс шляхты Крамянецкага павета, якая не стала да прысягі каралю і Кароне Польской у 1569 г. (А.Ліцкевіч)[44], спіс харугвы шляхты Ваўкавыскага павета 1621 г. (Г.Семянчук)[45], спісы харугваў шляхты Лідскага павета 1698 г. (С.Амелька)[46]; спісы шляхты Магілёўскай губ. за 1783-1784 гг. (Я.Анішчанка)[47]; тэстаменты: Гальшкі Яўфіміі з кн. Вішнявецкіх Радзівіл (В.Пазднякоў)[48], Крыштофа Весялоўскага (Т.Яшчолт, Г.Рыжэўскі)[49], Валенція Ваньковіча (І.Сычова)[50]; розныя эпіграфічныя крыніцы: у Гарадзенскім фарным касцёле (Ю.Гардзееў)[51], у Гарадзенскім бернардынскім касцёле (Г.Паўлоўская)[52].

***Даследаванні генеалогіі тытулаваных і магнацкіх родаў.*** Адна з першых работ – "*Генеалогія Беларусі*" расійскага даследчыка А.Нарбута[53]. У працы сабрана мноства агульных гістарычных звестак і радаводаў з розных друкаваных крыніц. Арыгінальнасцю выдзяляецца другая частка — асновы генеалогіі Беларусі, якую аўтар звёў выключна да княжацка-шляхецкай генеалогіі і прапанаваў яе перыядызацыю, аднак нават крыніцы па шляхецкай генеалогіі XIX ст. ім не былі разгледжаны. Зразумела, што праца мела вялікую цікавасць у канцы 1990-х гг., але сёння выкарыстаныя ў ёй гербоўнікі з большага даступны ў арыгінале, і лепш карыстацца імі.

Другой значнай з'явай стала работа "*Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12-18 стагоддзяў*" В.Насевіча[54]. Коратка прадстаўлены гісторыя і радаводы беларускіх галін Рурыкавічаў, Гедымінавічаў, Радзівілаў, Сапег, Хадкевічаў, Пацаў і інш. значных родаў ВКЛ і РП, спісы валадароў і асоб, займаўшых важнейшыя пасады (ваяводы і кашталяны віленскія і троцкія, канцлеры, гетманы). Гледзячы на сціслы аб'ём працы, у цэлым аўтар раскрыў пытанне добра.

Зрэшты, працы на гэтым пачатковым этапе часта былі пабудаваны на кампіляцыі ці пераказе ўжо вядомых звестак, у лепшым выпадку змяшчалі спробу іх новага аналіза. Новага тут, зразумела, нічога не было адкрыта. У гэтым сэнсе першай спробай уласна гісторыка-генеалагічнага даследавання стала работа Э.Загарульскага, прысвечаная

[44] Ліцкевіч, А.У. Рэестр шляхты Крамянецкага павета, якая не стала да прысягі на вернасць каралю і Кароне Польскай 16 чэрвеня 1569 г. (дакумент з 583-й кнігі Метрыкі ВКЛ) // Беларускі археаграфічны штогоднік / Дзярж. кам. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Археагр. каміс., Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. 2007. Вып.8. С.183-198.

[45] Семянчук, Г. Попіс шляхты Ваўкавыскага павета 1621 г. // Герольд Litherland. Горадня. 2004. №1-2. С. 44-51.

[46] Амелька, С. Да пытання аб складзе палітычнай эліты шляхты Лідскага павета ВКЛ у другой палове XVII ст. // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.86-95.

[47] Анішчанка, Я.К. Спісы шляхты Магілёўскай губерні за 1783-1784 гг. // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2007. Вып.5 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.60-84; Анішчанка, Я.К. Спісы шляхты Магілёўскай губерні за 1783-1784 гг. // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2008. Вып.6 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.110-131; Анішчанка, Я.К. Спісы шляхты Магілёўскай губерні за 1783-1784 гг. // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2009. Вып.7 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.75-99.

[48] Пазднякоў, В.С. Тэстамент Гальшкі Яўфіміі Радзівіл з князёў Вішнявецкіх (1569-1596) // Беларускі археаграфічны штогоднік / Дзярж. кам. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Археагр. каміс., Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. 2007. Вып.8. С.207-221.

[49] Яшчолт, Т. Крыштаф Весялоўскі гербу Агеньчык і яго тэстамент // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2008. Вып.6 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.86-109.

[50] Сычева, И.А. Духовное завещание Валентия Ваньковича // Паведамленні Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Мн., 2001. Вып.3 / рэдкал.: У.І.Пракапцоў (адк. рэд.) [і інш.]. С.36-42.

[51] Гардзееў, Ю. Матэрыялы да генеалогіі і эпіграфікі ў гарадзенскім Фарным касцёле // Герольд Litherland. 2004. № 1/2. С.27-29.

[52] Паўлоўская, Г. Лацінскія пахавальныя інскрыпцыі XVII ст. у Бернардынскім касцёле Горадні // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.37-44.

[53] Нарбут, А.Н. Генеалогия Белоруссии: в 4 вып. М., 1994-1996. 4 вып.

[54] Насевіч, В.Л. Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12-18 стагоддзяў. Мн.: Беларус. Энцыкл., 1993. 49 с.

генеалогіі полацкіх князёў Ізяслававічаў[55]. Аўтар выкарыстаў практычна ўсе даступныя яму крыніцы і зрабіў рэканструкцыю радаводу. Работа добрая, аднак спрэчныя месцы засталіся, і на сённяшні дзень ужо ёсць удакладненні.

Тым часам у нашых суседзяў з’явіўся шэраг важных цікавых прац. Нагадаем творы польскіх гісторыкаў З.Удавішэўскага (генеалогія Ягелонаў і Вазаў)[56], Т.Васілеўскага (паходжанне Радзівілаў)[57], Я.Тэнгоўскага (Гедымінавічы, Свірскія)[58], Е.Сапегі (Сапегі)[59], Л.Падгарадэцкага (Хадкевічы)[60], І.Чаманьскай (Вішнявецкія)[61], Т.Кемпы (Астрожскія)[62], І.Ліпіньскага (Масальскія)[63], І.Седлікоўскай (Тышкевічы)[64], Н.Асадаўскене (Кішкі)[65]. Вялікую цікавасць для нас мае работа Д.Дамброўскага пад назвай “*Радаслоўе віцебскіх князей – параўнаўчы аналіз зместа*”[66]. Шырокі пласт генеалогіі польскіх арыстакратычных родаў прадстаўляе праца Т.Зяліньскай, якую лічым вельмі якасным даследаваннем[67]. Фундаментальны твор, які можна лічыць з большага ўзорным, падрыхтаваў Д.Дамброўскі, і тычыцца ён генеалогіі Мсціслававічаў (Галіцка-Валынскія князі)[68]. У 2011 г. грунтоўную манаграфію, прысвечаную паходжанню князёў Радзівілаў, выдаў М.Антаневіч[69].

Генеалогія многіх княжаскіх родаў асвятляецца ў манаграфіях украінскіх даследчыкаў Л.Вайтовіча (Рурыкавічы, Гедымінавічы і інш.)[70] і Н.Якавенка (Гедымінавічы і з іх паходзячые, Вярэйскія, Лукомскія, Агінскія, Жыжэмскія, Пузыны, Пронскія і інш.)[71]. Бадай што самую фундаментальную працу па Рурыкавічах падрыхтаваў Д.Данскі (465 асоб)[72]. Згадаем і распачатае ў Расіі выданне “*Дваранскія роды Расійскай імперыі*”: пакуль выйшлі 4 тамы з радаводамі тытулаванай шляхты. У 2-м томе змешчаны князі з ВКЛ (Гедымінавічы, Радзівілы, Чартарыскія, Вішнявецкія, Сангушкі і інш.), а ў 3-м томе - дадаткі[73].

Практычна па ўсіх знаных княжацкіх, магнацкіх і шляхецкіх родах (тут не называем) ёсць артыкулы ў 3-хтомнай “*Энцыклапедыі ВКЛ*”, падрыхтаваныя вядомымі гісторыкамі А.Грыцкевічам, В.Насевічам, В.Пазднякоўым і інш.[74] Важнейшыя з апошніх

[55] Загорульский, Э.М. Генеалогия полоцких князей Изяславичей. Мн.: ВУЗ-Юнити, 1994. 31 с.
[56] Wdowiszewski, Z. Genealogia Jagiełłonów i Domu Wazów w Polsce. Warszawa: Avalon, 2005. 336 s.
[57] Wasilewski, T. Pochodzenie rodu Radziwiłłów-Ościków // Miscellanea Historico-Archivistica / Nacz. Dyrekcja Arch. Państ., Arch. Główne Akt Dawnych. Warszawa: DIG, 1997. T.VII. S.11-17.
[58] Tęgowski, J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław: Wydaw. Hist., 1999. 320 s.
[59] Dom Sapieżyński. Opr.: E.Sapieha. Warszawa: Państ. Wydaw. Nauk, 1995. 806 s.
[60] Podhorodecki, L. Dzieje rodu Chodkiewiczów. Warszawa: Bellona, 1997. 209 s.
[61] Czamańska, I. Wiśniowieccy. Monografia rodu. Poznań: wyd. Poznańskie, 2007. 552 s.
[62] Kempa, T. Dzieje rodu Ostrogskich. Totuń, 2002. 194 s.
[63] Lipiński, I. Massalscy – linia wołkowyska od XVI do początku XIX wieku // Genealogia. Studia i Materiały Historyczne. T. 11. Red.: M.Górny. Poznań-Wrocław: Wyd. Historyczne, 1999. S.21-65.
[64] Siedlikowska, I. Przodkowie Tyszkiewiczów – problemy identyfikacji // Klio. 2003. №3. S.28-43.
[65] Asadauskienė, N. Kiškų giminė LDK XV-XVII a.: (genealoginis tyrimas). Vilnius: Vaga, 2003. 390 p.
[66] Dąbrowski, D. Radoslowle kniaziey witebskich – analiza porównawcza treści // Genealogia. Studia i Materiały Historyczne. T. 14. Red.: M.Górny. Poznań-Wrocław: Wyd. Historyczne, 2002. S.31-69.
[67] Zielińska, T. Poczet polskich rodów arystokratycznych. Warszawa, 1997. 591 s.
[68] Dąbrowski, D. Genealogia Mścisławowiczów: pierwsze pokolenia (do początku XIV wieku). Kraków: Awalon, 2008. 816 s.
[69] Antoniewicz, M. Protoplasci książąt Radziwiłłów. Dzieje mitu i meandry historiografii. Warszawa: DIG, 2011. 423 s.
[70] Войтович,Л.В. Генеалогія династий Рюриковичів і Гедеминовичів. Київ: [б. в.], 1992. 199 с.
[71] Яковенко, Н. Українська шляхта з кінця XIV-до середини XVII століття: Волинь і Центральна Україна. Київ: Критика, 2008. 472 с.
[72] Донской, Д.В. Рюриковичи. Исторический словарь. Москва: Русская панорама, 2008. XXX + 834 с.
[73] Дворянские роды Российской империи = Families of the nobility of the Russian empire : в 10 т. авт.-сост.: П.Гребельский [и др.]. СПб.: ИПК “Вести”, 1993-1998. 4 т.
[74] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Мн.: БелЭн, 2005. Т.1. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Дадатак. Мн.: БелЭн, 2010. Т.3.

работ – артыкулы В.Чаропкі (Гедымінавічы)[75], А.Шаланды (Міндоўг)[76], Г.Кіркене (Хадкевічы)[77], В.Насевіча (Друцкія)[78], В.Вароніна[79], Н.Сліж (Трубецкія, Саламярэцкія)[80], А.Брыля (Гальшанскія)[81], Г.Люлевіча (Тышкевічы)[82], А.Скеп'ян (Алелькавічы)[83], Т.Кемпы (Агінскія і Стэткевічы)[84], Я.Завадзкага (Кішкі)[85] і інш.[86]

***Гербоўнікі.*** Практыка публікацыі гербоўнікаў у Беларусі была адноўлена аўтарам, Зм.Яцкевічам і інш. гісторыкамі ў 1997 г. з выданнем "*Малога гербоўніка Наваградзкай шляхты*", у ім апрацаваны вывады шляхты з Навагрудскага павета ў Віленскім ДДС у 1798–1801 гг. (202 роды)[87]. Працягнуў серыю Зм.Яцкевіч. На падставе матэрыялаў вывадаў шляхецтва ў Аршанскім земскім правінцыйным судзе за 1794-1795 гг. ім былі падрыхтаваны "*Малы гербоўнік Халопеніцкай шляхты*" (131 род)[88]. У 2002 і 2007 гг. выйшлі два тамы "*Гербоўніка беларускай шляхты*" (на літары "А" і "Б"), падрыхтаваныя супрацоўнікамі НГАБ, у ім апрацаваны вывады шляхецтва, справы аб дваранстве родаў і генеалагічныя табліцы з былога архіва Менскага ДДС[89]. Гэта дазволіла працягнуць генеалогію ў XIX ст., адпаведна ў 1-м томе змешчаны 192, у 2-м - 320 радаводаў.

---

75 Чаропка, В. Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх // Беларус. гіст. часоп. 2001. № 5. С.48-61; № 6. С.42-53.

76 Шаланда А. Паходжанне і лёс роду Міндоўга // Герольд Litherland. Горадня, 2003.№ 1-2.С.3-9.

77 Kirkienie, G. Korzenie rodu Chodkiewiczów // Białorus. Zeszyty Hist. 2002. № 17. S.34-56.

78 Насевіч, В.Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі Вялікага княства Літоўскага (XIV-XVI стст.) // Старонкі гісторыі Беларусі / М.М.Крывальцэвіч [і інш.]; рэдкал.: М.П.Касцюк, М.В.Біч, Г.В.Штыхаў. Мн., 1992. С.83-104.

79 Варонін, В.А. Князь Юрай Лынгвенавіч Мсціслаўскі. Гістарычны партрэт. Мн.: Тэхналогія, 2010. 63 с.

80 Сліж, Н.І. Гісторыя роду Трубецкіх у Вялікім княстве Літоўскім // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2007. Вып.5 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.137-159; Сліж, Н. Малодшая галіна княжацкага роду Саламярэцкіх на Піншчыне // ARCHE-пачатак. 2011. № 3 (102). Сакавік. С.225-234.

81 Брыль, А.Ф. Князі Гальшанскія ў Кіева-Пячэрскім памянніку // Герольд Litherland. Горадня-Менск, 2011. № 18. С.41-46.

82 Lulewicz, H. Miszkowicze, Kalenikowicze, Tyszkowicze (Tyszkiewicze) – cztery pokolenia w dziejach rodu (XV wiek–pierwsza połowa XVI wieku) // Władza i prestiż. Magnateria Rzeczypospolitej w XVI-XVIII wieku. / pod red.: J.Urwanowicza. Białystok: Wyd. Uniwersytetu, 2003. S.305-329.

83 Skiepjan, A. Olelkowicze w XVI wieku w zyciu spoleczno-kulturalnym Wielkiego Księstwa Litewskiego // Władza i prestiż. Magnateria Rzeczypospolitej w XVI-XVIII wieku. / pod red.: J.Urwanowicza. Białystok: Wyd. Uniwersytetu, 2003. S.551-560.

84 Kempa, T. Kariery przedstawicieli prawosławnych rodów Ogińskich i Stetkiewiczów w XVII wieku – podobieństwa i różnice awansu spolecznego, ekonomicznego i politycznego // Władza i prestiż. Magnateria Rzeczypospolitej w XVI-XVIII wieku. / pod red.: J.Urwanowicza. Białystok: Wyd. Uniwersytetu, 2003. S. 345-368.

85 Zawadzki, J. Anna z Radziwiłłów Kiszczyna, 2v. Sadowska - burzliwe losy dziedziczki fortuny // Władza i prestiż. Magnateria Rzeczypospolitej w XVI-XVIII wieku. / pod red.: J.Urwanowicza. Białystok: Wyd. Uniwersytetu, 2003. S. 381-392.

86 Канановіч, У. Клецкія Радзівілы // Беларус. мінуўшчына. 1994. № 3. С.10-14; Рыбчонак, С. Алелькавічы і Слуцк // Беларус. гіст. часоп. 1996. № 1. С.58-63; Хмяльніцкая, Л. Род фундатараў і мецэнатаў // Віцеб. сш. 1995. № 1. С.42-51; Князі Масальські: документи і матеріали XVI ст. / Підг.: А.Блануци, Д.Ващука. Київ: Університет. вид. "Пульсари", 2007. 176 с.; Русина, О. Історія Київського князівства XIV-XV ст. у світли нових даних // Україна крізь віки: Зб. наук. пр. на пошану акад. НАН України проф. Валерія Смолія. Київ: Інст. історії України НАН України, 2010. С. 184-202.

87 Малы гербоўнік Наваградзкай шляхты / А.Гануш [і інш.]; Дзярж. кам. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь. Мн.: Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы, 1997. 160 с.

88 Яцкевіч, З.Л. Малы гербоўнік халопеніцкай шляхты. Мн.: Міжнар. фонд "Беларус. кнігазбор", 1999. 111 с.

89 Гербоўнік беларускай шляхты: у 2 т. / Нац. цэнтр па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь; Нац. гіст. арх. Беларусі; Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. Мн.: БелНДІДАС: Нац. арх. Рэсп. Беларусь, 2002-2007. Т.1 / Т.Ю.Капіца [і інш.]. 2002. 493 с. Гербоўнік беларускай шляхты: у 2 т. / Нац. цэнтр па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь; Нац. гіст. арх. Беларусі; Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. Мн: БелНДІДАС: Нац. арх. Рэсп. Беларусь, 2002-2007. Т.2 / С.А.Рыбчонак [і інш.]. 2007. 672 с.

Значную цікавасць мае гербоўнік польскага гісторыка Я.Цехановіча “*Рыцарскія роды Вялікага княства Літоўскага*”[90]. Ён падрыхтаваны на вялікай колькасці крыніц. Гледзячы на яе аб’ёмнасць, трэба адзначыць, што праца не напісана роўна, адным родам адводзіцца многа ўвагі, пра другіх – ужо вядомая кароткая згадка, з большага пераказваюцца звесткі з вядомых гербоўнікаў, якія аўтар месцамі дапаўняе архіўнымі звесткамі, пераважна з матэрыялаў былога Віленскага ДДС, што захаваліся сёння ў ДГА Літвы ў Вільні. Зрэшты, Я.Цехановіч часта абмяжоўваецца згадкамі пра знакамітых прадстаўнікоў роду, не прэтэндуючы на рэканструкцыю радаводу.

Перавыдадзена 2-хтомная манаграфія К.Пуласкага з радаводамі польскіх шляхецкіх родаў на Падоллі і Валыні[91]. У 2009 г. украінскай даследчыцай І.Варанчук выдрукаваны радаводныя табліцы 60 шляхецкіх родаў на Валыні ў XVI – 1-й палове XVII ст.[92] Татарскім шляхецкім родам ВКЛ прысвечана праца расійскага даследчыка С.Думіна[93]. З дзесятак шляхецкіх родаў, прадстаўнікі якіх пражывалі на ўсходнебеларускіх землях, у т.л. Бялевічы, Гуркі-Рамейкі, Дзяружынскія, Кулікоўскія, Мілашэвічы, Гурскія, Жаброўскія, Сціблы і інш., згаданы ў працы расійскага даследчыка Д.Шпіленкі[94].

З апошніх работ варта назваць працы Зм.Яцкевіча і А.Залівакі. Першым падрыхтаваны малыя гербоўнікі Чавускай і Рагачоўскай шляхты: апрацаваны вывады шляхецтва больш 60 родаў у Рагачоўскім земскім правінцыйным судзе за 1773-1778 гг.[95] Твор другога мае іншую назву, але з’яўляецца, па сутнасці такім жа малым гербоўнікам: у ім апрацаваны захаваўшыеся за канец XVIII – пачатак XIX ст. вывады шляхецтва ў Магілёўскім ДДС, больш 120 вывадаў[96]. Негледзячы на тое, што падобныя крыніцы не прадстаўляюць вялікай складанасці для аналіза, апошняя праца, на жаль, аказалася слаба падрыхтаванай, змяшчае шмат недакладнасцей і памылак.

Каб скончыць гэтую частку, згадаем яшчэ адну працу, распачатую А.Шаландай. Яна тычыцца шляхты Ваўкавыскага павета і мае назву “*Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ў другой палове XVI-XVIII ст.*”[97]. Пакуль апублікаваны артыкулы па шляхецкіх родах з прозвішчамі на “*А-В*” (44 прозвішча). Згаданая работа заснавана на вывучэнні вялікай колькасці друкаваных і архіўных крыніц. У аснову гербавай ідэнтыфікацыі родаў пакладзены адшуканыя аўтарам пячаткі. У цэлым, работа робіцца вельмі кваліфікавана і, мяркуем, можа быць добрым узорам для наступоўцаў.

***Даследаванні шляхецкай генеалогіі.*** Мусім абмежавацца толькі самымі важнымі і цікавымі з нашага погляду працамі. У гэтай групе прадстаўлены работы самага рознага плана, як манаграфіі, прысвечаныя асобным родам, так і артыкулы, прысвечаныя пэўнай сям’і ці важнаму прадстаўніку роду.

Найперш трэба згадаць манаграфіі В.Папко. Першая з іх прысвечана гісторыі рода Дзяконскіх і іх зямельнай маёмасці ў Беларусі[98]. Другая больш шырокага плана мае назву “*Шляхта Ваўкавыскага павета ў XIX – пачатку XX ст.: гісторыка-генеалагічнае*

---

[90] Ciechanowicz, J. Rody rycerskie Wielkiego Księstwa Litewskiego: w 6 t. Rzeszów: Fosze, 2001-2006. 6 t.

[91] Pułaski, K. Kronika polskich rodów szlacheckich Podola, Wołynia i Ukrainy. T. I-II. Warszawa: DIG, 2004.

[92] Ворончук, І.О. Родоводи волинської шляхти XVI-першої половини XVII ст. (реконструкція родинних структур: методологія, методика, джерела). Наук.-метод. вид. Київ: Вища школа, 2009. 512 с.

[93] Dumin, S. Herbarz rodzin tatarskich Wielkiego Księstwa Litewskiego. Gdańsk: Związek Tatarów Rzeczypospolitej Polskiej, 2006. 187 s.

[94] Шпиленко, Д.П. Материалы к родословию смоленского дворянства. М.: Старая Басманная, 2006. 304 с.

[95] Яцкевіч, З.Л. Малы гербоўнік Чавускай шляхты // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2007. Вып.5 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.222-229; Яцкевіч, З.Л. Малы гербоўнік Рагачоўскай шляхты // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Вып.6. Мн., 2008. С.250-261; Вып.7. Мн., 2009. С.267-281; Вып. 8. Мн., 2010. С.255-276.

[96] Залівака, А. Шляхта Магілёўскай губерні. Радаводы. Фасцыкул III. Мн.: Энцыклапедыкс, 2013. 276 с.

[97] Шаланда А. Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой палове XVI-XVIII ст. (А) // Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1-2. С.2-21.

[98] Папко, В.М. Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX-XX стст. Берасце: Альтернатива, 2009. 232 с.

*даследаванне*"[99]. У ёй аўтар разглядае пытанні службовай кар'еры, адукацыі, выхавання і сямейнага побыту прадстаўнікоў шляхецкага стану згаданага рэгіёна на падставе шырокага кола публікаваных і архіўных крыніц. Таксама прадстаўлены некалькі радаводаў вядомых родаў і вялікая колькасць адшуканых аўтарам матэрыялаў да генеалогіі мясцовых шляхецкіх родаў. Падобны, але больш просты нарыс лідскай шляхце прысвяціў Ч.Малеўскі, ён падрабязней спыніўся на паўстанцах 1863 г.[100] Радавод знакамітага шляхецкага роду Храптовічаў добра даследаваны польскім гісторыкам Г.Рыжоўскім[101]. Гісторыі рода Чапскіх на Беларусі прысвечана больш папулярная праца А.Валахановіча[102].

Шэраг артыкулаў, падрыхтаваных аўтарам і У.Свяжынскім, быў друкаваны ў часопісе "*Спадчына*": разглядаліся радаводы Абуховічаў, Аскеркаў, Верашчакаў, Карафа-Корбутаў, Кмітаў, Корсакаў, Ходзькаў[103]. Некалькі прац па генеалогіі і геральдыцы асобных родаў апублікаваны А.Шаландай. Ім даследаваліся шляхецкія роды Міцкевічаў (лідская лінія), Пуціўлянінаў Свяцкіх, Завацкіх, Жарноўскіх, Ядкоўскіх, Боўфалаў Дарашкевічаў, Аляхновічаў, Абухоўскіх[104].

Сямейныя і шлюбныя сувязі ў многіх родах плённа вывучаюцца Н.Сліж (Агінскія, Александровічы, Буткевічы, Бутлеры, Валовічы, Гнявінскія, Градкоўскія, Длугаборскія, Жэляроўскія, Ісайкоўскія, Катовічы, Кердзеі, Манькоўскія, Мялешкі, Сапоцькі, Рукевічы, Славагорскія, Талочкі, Чарніцкія, Шышкі, Шчансновічы, Яцынічы)[105]. Пэўную цікавасць

---

[99] Папко, В.М. Шляхта Ваўкавыскага павета ў XIX-пач.XX стст.: гіст.-генеалагічн. даследав. Мн: выд. В.Хурсік, 2012. 364 с.
[100] Malewski, Cz. Rody szlacheckie w powiecie lidzkim na Litwie w XIX wieku. Wilno: Czas, 2002. 113 s.
[101] Ryżowski, G. Ród Chreptowiczów herbu Odrowąż. Kraków: Avalon, 2006. 352 s.
[102] Валахановіч, А.І. Графы фон Гутэн Чапскія на Беларусі. / Навук. рэд. У.К.Ракашэвіч; Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. Мн.: БелНДІДАС, 2003. 84 с.
[103] Рыбчонак, С., Свяжынскі, У. Абуховічы гербу Ключ раздвоены // Спадчына. 1998. № 6. С.210-225; Аскеркі гербу Мурдэліо зменены // Спадчына. 1999. № 4. С.197-211; Кміты гербу Харугвы // Спадчына. 2000. № 5/6. С.137-151; Радавод Верашчакаў гербу Касьцеша. // Спадчына. 1998. № 4. С.59-73; Радавод Карафа-Корбутаў гербу Корчак // Спадчына. 1999. № 5/6. С.165-176; Радавод Корсакаў гербу Корсак // Спадчына. 2000. № 2. С.200-216; Радавод Ходзькаў гербу Касцеша // Спадчына. 2001. № 3. С.188-200.
[104] Шаланда, А. Матэрыялы да генеалогіі роду Міцкевічаў у XVII-XIX ст. // Герольд Litherland. Горадня. 2001. № 2. С.72-74; Шаланда, А. Радавод і герб зямян Гарадзенскага павету Пуціўлянінаў Свяцкіх у другой палове XVI-XVIII ст. // Герольд Litherland. Горадня. 2001. № 1. С.7-21; Шаланда, А., Рыбак, Н. Рукапісны дадатак да "Гербоўніка" Барташа Папроцкага: род Завацкіх у ВКЛ (XVII-XVIII ст.) // Герольд Litherland. Горадня. 2001. № 3/4. С.114-120; Шаланда, А. Радавод Жарноўскіх герба "Рагаля" ў канцы XVI-XVIII ст. // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Мат. рэгіянальнай гіст.-краязнаўчай канф., прысв. 750-годдзю г.Слоніма і 70-годдзю заснавання Слонімскага раён. краязнаўчага музея ім. І.І.Стаброўскага. Слонім: ГАУПП "Слонімская друкарня", 2002. С.128-133; Шаланда, А.І. Матэрыялы па даследаванню радаводу і герба Ядкоўскіх у фондах ГДГАМ // Краязнаўчыя запіскі. Вып.5. / Гродзенскі дзярж. гіст.-археал. музей. Гродна, 2000. С.50-57; Шаланда, А. Гербы роду Боўфалаў Дарашкевічаў з Гарадзенскага павета ВКЛ у XVI-XVIII ст. // Герольд Litherland. Горадня. 2006. №17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.44-48; Шаланда А. Удакладненні да гербу і радаводу Аляхновічаў // Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей: Зб. арт. / Пад рэд. І.П.Крэня. Ваўкавыск, 1997. С.75-77; Шаланда А. Род Абуховічаў vel Абухоўскіх у Гарадзенскім павеце ў XVI-першай палове XIX ст. і іх герб // Проблемы национального сознания польского населения на Беларуси: Мат-лы Международной научной конференции, Гродно, 7-9 ноября 2003 г./ ОО "Союз поляков Беларуси". Барановичи: Баранов.укрупн.тип., 2004. С.204–218.
[105] Сліж, Н. Цудатворны абраз Маці Божай Студэнцкай і гарадзенская шляхта: ідэнтыфікацыя, радаводы, сувязі // Герольд Litherland. Горадня-Менск. 2011. № 18. С.47-93. Сліж, Н. Унутрысямейныя адносіны ў сям'і Мялешкаў са Слонімскага павета ВКЛ у другой палове XVII ст. // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.76-86; Сліж, Н.У. Вяноўныя запісы ў слонімскай земскай кнізе за 1575 г. // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі: гісторыя і сучаснасць : матэрыялы юбілейнай навук.-практ. канф., прысвеч. 70-годдзю

уяўляе артыкул С.Данскіх, прысвечаны шляхце італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ (Сцыпіёны, Ліманты)[106].

Шэраг прац прысвечаны асобным значным прадстаўнікам вядомых шляхецкіх родаў, у т.л. тым, якія вызначыліся ў гісторыі і культуры Беларусі. Гэта артыкулы З.Яцкевіча (Ян Чачот, Яўстафі Тышкевіч, Адам Кіркор)[107], Я.Янушкевіча (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Максім Багдановіч)[108], І.Войніча (Сільвестр Косаў)[109], У.Вяроўкіна-Шэлюты (Васіль Цяпінскі)[110] і інш.[111]

Таксама былі друкаваны радаводы і розныя даследаванні з матэрыяламі па генеалогіі і гісторыі наступных родаў: Цеханавецкія (С.Думін, А.Рахуба, І.Сікорская-Кулеша)[112], Абрамовічы на Варнянах (А.Цеханавецкі, А.Рахуба)[113], Міцкевічы (А.Грыцкевіч)[114], Пачобуты-Адляніцкія (А.Рахуба[115], Л.Хмяльніцкая[116]), Маеўскія, Вайніловічы, Дварэцкія-Багдановічы, Стыпулкоўскія, Хлявінскія (С.Рыбчонак)[117], Акуні (Я.Завадзкі)[118], Галаўні (А.Радаман)[119], Дамейкі (М.Германовіч)[120], Сямашкі

---

Нац. гіст. арх. Беларусі, Менск, 8 ліп. 2008 г. / Дэпартамент па арх. і справаводству М-ва юстыцыі Рэсп. Беларусь, Нац. гіст. арх. Беларусі; навук. рэд. У.І.Адамушка. Мн., 2008. С.135-149.

106 Данскіх, С. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.57-68.

107 Яцкевіч, З. Радавод Яна Чачота. Мн.: МФ “Беларус. кнігазбор”, 1996. 15 с.; Яцкевіч, З. Радавод Яўстафія Тышкевіча // Арх. і справаводства. 1999. № 2. С.61-66; Яцкевіч, З.Л. Радавод А.Г. Кіркора ў святле новых архіўных дакументаў // Беларускі археаграфічны штогоднік / Дзярж. кам. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Археагр. каміс., Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. 2003. Вып.4. С.177-184.

108 Янушкевіч, Я. Радаводнае дрэва Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, або працяг – будзе // Род. слова. 1993. № 12. С.55-61; Янушкевіч, Я. Радавод М.Багдановіча // Беларускі гістарычны часопіс. 1991. № 12. С.33-35.

109 Войніч, І.Я. Новыя звесткі да радаводу пісьменніка, царкоўнага і грамадскага дзеяча XVII ст. Сільвестра Косава // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2005. Вып.3 / рэдкал.: А.К.Галубовіч [і інш.]. С.25-36.

110 Вяроўкін-Шэлюта, У. Васіль Цяпінскі й род Слушкау-Цяпінскіх у 16 стагодзьдзі // Годнасць. 1994. № 1 (2). С.15-21.

111 Сычева, Н.В. Анеля Ванькович из Ростоцких – жена Валентия Ваньковича // Ваньковичи / Сост.: Н.А.Голубева и др.; редкол.: Т.В.Белова [и др.]. Мн.: Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2012. 456 с., ил. (Белорусский родовод). С.273-280.

112 Dumin, S. Ciechanowieccy herbu Dąbrowa. / S.Dumin, A.Rachuba, J.Sikorska-Kulesza. Warszawa: DIG, 1997. 223 s.

113 Ciechanowiecki, A. Rys genealogiczny rodziny Abramowiczów na Wornianach. / A.Ciechanowiecki, A.Rachuba. // Przegląd Wschodni. T.II. Z.3 (7). 1992/93. Warszawa, 1994. S.595-609.

114 Грыцкевіч, А. Беларускія карані радаводу Міцкевічаў // Спадчына. 1999. № 2. С.143-162.

115 Rachuba, A. Poczobutowie Odlaniccy w świetle nowych źródeł archiwalnych // Miscellanea Historico-Archivistica / Nacz. Dyrekcja Arch. Państ., Arch. Główne Akt Dawnych. 2000. T.11. S.159-167.

116 Хмяльніцкая, Л. Віцебскія карані роду Адляніцкіх-Пачобутаў // Віцеб. сш. 2000. № 4. С.132-136.

117 Рыбчонак, С. Радавод Вайніловічаў гербу “Сыракомля” змененая // Герольд Litherland. Горадня-Менск. 2011. № 18. С. 116-123; Рыбчонак, С. Дварэцкія-Багдановічы : матар’ялы да гэнеалёгіі // Годнасць. 1996. № 1 (3). С.57-70; Рыбчонак, С. Радавод Стыпулкоўскіх герба Дзях // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Менск, 7-11 верас. 1998 г. / рэдкал.: А.Мальдзіс (гал. рэд.) [і інш.]. Мн., 1998. С.102-107. (Беларусіка=Albaruthenica; кн.11); Рыбчонак, С.А. Радавод Хлявінскіх гербу “Радван” // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2006. Вып.4 / рэдкал.: Ю.М.Бохан [і інш.]. С.168-179; Rybczonek, S. Przodkowie Adama Mickiewicza po kądzieli // Blok-Notes Muzeum Literatury im. Adama Mickiewicza. 1999. № 12/13. S.177-187.

118 Zawadzki, J. Okuniowie herbu własnego: z dziejów awansu społecznego na Litwie wczesnonowożytnej // Miscellanea Historico-Archivistica / Nacz. Dyrekcja Arch. Państ., Arch. Główne Akt Dawnych. 2000. T.11. S.169-193.

119 Радаман, А. Палітычныя кар’еры Ёсіфа Галаўні і яго сыноў у Наваградскім павеце ВКЛ (другая палова XVI-першая палова XVII ст.) // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ:

(С.Амелька)[121], Нарбуты і Юндзілы (А.Нарбут)[122], Белазоры (І.Рачкоў)[123], Валадковічы (Ф.Чарняўскі)[124], Халецкія (Ю.Міцік)[125], Янушкевічы (В.Гарбачова)[126], Ваньковічы (Д.Лісейчыкаў)[127], Офенбергі (В.Хурсік)[128]; Цяпінскія (Г.Гайдук)[129], Паўлоўскія (Я.Чарнецкі)[130], Біспінгі (В.Карпыза)[131], Незабытоўскія (С.Лісенка)[132], Вэберы дэ Лінбургі (М.Ялінская)[133].

Актывізаваліся і аматары генеалогіі. Як правіла, гэта навукова-папулярныя даследаванні ўласнага радаводу. Серыю пад назвай "*Летапіс беларускай шляхты*" распачаў А.Стэцкевіч-Чабаганаў. На сёння выйшлі 3 тамы, апісаны такія роды як Сацкевічы-Стэцкевічы, Карафа-Корбуты, Казановічы, Некрашэвічы, Татуры, Сеўрукі, Кернажыцкія, Маствіловічы[134]. Аўтар імкнецца да максімальнага выкарыстання адшуканых крыніц і рэканструкцыі поўнага радавода, што, зразумела, часам непад'ёмна. Мусім адзначыць, што ў выданні сустракаюцца і малакрытычныя звесткі, запазычаныя найчасцей з позніх вывадаў шляхецтва. Праца добра аформлена, пакаленныя роспісы аўтар дапаўняе публікацыей тэкстаў і выяў асобных цікавых дакументаў, складзены імянныя паказальнікі. У цэлым, выданне можа быць добрым узорам для наступоўцаў.

---

гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.72-76.

[120] Германовіч, М. Гісторыя сям'і Дамейкаў – спроба яе ўзнаўлення // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы Міжнар. навук. канф., Менск, 7-11 верас. 1998 г. / рэдкал.: А.Мальдзіс (гал. рэд.) [і інш.]. Мн., 1998. С.424-428. (Беларусіка=Albaruthenica; кн.11).

[121] Амелька, С. Шляхецкі род Сямашкаў гербу "Лебедзь": рассяленне, паходжанне і гісторыка-культурнае значэнне ў XVI-XIX стст. // Герольд Litherland. 2001. № 1. С.27-34.

[122] Нарбут, А.Н. Нарбуты: происхождение и родословные // Наш радавод: сб. ст. : материалы I и II межресп. науч. конф. по ист. краеведению Белоруссии и генеалогии, Радунь, 18 нояб. 1988 г., Гродно, 28 нояб. 1990 г.: в 2 кн. / Гродн. обл. краевед. ассоц.; отв. ред. и сост. Д.В.Карев. Гродно, 1990. Кн.2. С.263-269; Нарбут, А.Н. Юндзиллы – древний род из Гродно // Наш радавод : сб. ст.: материалы I и II межресп. науч. конф. по ист. краеведению Белоруссии и генеалогии, Радунь, 18 нояб. 1988 г., Гродно, 28 нояб. 1990 г.: в 2 кн. / Гродн. обл. краевед. ассоц.; отв. ред. и сост. Д.В.Карев. Гродно, 1990. Кн.2. С.117-122; Юндзиллы (герба Лебедь, Лидский уезд, Гродненская губерния) // Наш радавод: сб. ст.: материалы I и II межресп. науч. конф. по ист. краеведению Белоруссии и генеалогии, Радунь, 18 нояб. 1988 г., Гродно, 28 нояб. 1990 г.: в 2 кн. / Гродн. обл. краевед. ассоц.; отв. ред. и сост. Д.В.Карев. Гродно, 1990. Кн.2. С.287-291.

[123] Рачкоў, І. Белазоры Гарадзенскай і Віленскай губерняў у XVIII-XX стст. // Герольд Litherland. 2002. № 1. С.2-6.

[124] Чарняўскі, Ф.В. Да жыццяпісу Тодара Валадковіча, пісара земскага менскага, у 1655-1688 гг. // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып.8 / рэд.: Ю.М.Бохан [і інш.]. Мн.: НГАБ, 2010. С.213-234.

[125] Мицик, Ю. Халецькі – провідний шляхетський рід Речицького краю у XVII-XVIII ст. // Україна крізь віки: Зб. наук. пр. на пошану акад. НАН України проф. Валерія Смолія. Київ: Інст. історії України НАН України, 2010. С.1050-1072.

[126] Гарбачова, В.В. Маёнтак Дзягільна і яго ўладальнікі (1831-1871 гг.) // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып.8 / рэд.: Ю.М.Бохан [і інш.]. Мн.: НГАБ, 2010. С.138-146.

[127] Лисейчиков, Д.В. Поколенная роспись рода Ваньковичей // Ваньковичи / Сост.: Н.А.Голубева и др.; редкол.: Т.В.Белова [и др.]. Мн.: Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2012. 456 с., ил. (Белорусский родовод). С.17-30.

[128] Хурсік, В. Род Офенбергаў у гісторыі Беларусі // Беларус. гіст. часоп. 2002. № 6. С.38-45.

[129] Гайдук, Г.В. Документы рода Цяпинских // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып.8 / рэд.: Ю.М.Бохан [і інш.]. Мн.: НГАБ, 2010. С.235-242.

[130] Чарнецкі, Я. Паўлоўскія герба "Ляліва" з Навагрудскага ваяводства // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып.8 / рэд.: Ю.М.Бохан [і інш.]. Мн.: НГАБ, 2010. С.243-250.

[131] Карпыза, В. Род Біспінгаў у Ваўкавыскім павеце ў XVIII-XX ст. // Герольд Litherland. Горадня. 2001. № 2. С.49-52.

[132] Лисенко, С. Потіївсько-Горбулівська підлінія Радомишльської генеалогічної лінії роду Незабитовських (друга половина XVIII-перша половина XX ст.) // Спеціальні історичні дисципліни: питання теорії та методики. Генеалогія та геральдика. / Зб. наук. пр. / Відп. ред. Г.В.Боряк, упоряд. В.В.Томазов. Київ: НАН України; Інст. історії України, 2010. Число 17. С.115-129.

[133] Елинская, М. Веберы де Линбурги, дворяне белорусские // Арх. і справаводства. 2000. № 5. С.130-134.

[134] Статкевіч-Чабаганаў, А.В. Я – сын Ваш : Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба "Касцеша"; Карафа-Корбуты герба "Корчак". Мн.: Роднае слова, 2011. 576 (592) с.

З іншых работ можна згадаць твор В.Юршы “*Фамільная кніга*”[135]. У ім прадстаўлены матэрыялы да генеалогіі многіх шляхецкіх родаў Ашмянскага павета і выкарыстана багата архіўных крыніц пераважна за канец XVIII-XIX ст. Большасць аматарскіх прац аднак пакуль ёсць хутчэй спробы чым навуковыя даследаванні[136].

***Даведнікі.*** Тут паспрабуем асвятліць розныя важныя даведнікі, складзеныя на падставе аналіза публікаваных і архіўных крыніц, а таксама працы, якія падаюць змест крыніц, біяграмы прадстаўнікоў родаў і розныя тэматычныя (пераважна імянныя) паказальнікі, значныя для генеалагічных даследаванняў.

Найперш згадаем пра серыі “*Ураднікі старадаўняй Рэчы Паспалітай XII-XVIII стст.*” і “*Ураднікі Вялікага княства Літоўскага*”. Праект быў распачаты польскімі гісторыкамі. Першым быў падрыхтаваны спіс цэнтральных ураднікаў ВКЛ[137], пазней выйшлі падобныя спісы па Інфлянтах, Віленскаму і Троцкаму ваяводствах[138], Смаленскай зямлі і інш.[139] Біяграфічны склад літоўскай эліты ў канцы XIV-XV ст. вельмі падрабязна разглядзеў Р.Пятраўскас, якую працу можна лічыць адным з апошніх дасягненняў гісторыкаў Літоўскай Рэспублікі[140]. Яшчэ варта назваць грунтоўны даведнік, прысвечаны асабоваму складу афіцэрскага корпуса войска ВКЛ[141].

Адпаведныя спісы ўраднікаў у 2-й палове XVI – 1-й палове XVII ст. па Полацкім, Віцебскім і Менскім ваяводствах, Гарадзенскім і Ваўкавыскім паветах былі складзены А.Радаманам, В.Галубовічам і Д.Вілімасам[142].

Падобную працу пачаў рабіць і беларускі даследчык Ф.Чарняўскі, толькі падае не проста спісы, а таксама біяграмы ўраднікаў Менскага ваяводства ў XVI-XVIII ст. На сёння ўжо выйшлі 3 выпускі: усяго прадстаўлена 11 урадаў, па якіх апісана 329 асоб[143]. Трэба заўважыць, што аўтарскі стыль вельмі своеасаблівы (часта эмацыянальны і цяжкаваты), аднак праца падае шмат новых гістарычных фактаў, заснаваных пераважна на архіўных

---

135 Юрша, В.А. Фамильная книга. Мн.: Энциклопедикс, 2007. 369 с.

136 Гецевич, А.К. Гецевичи: прошлое и настоящее (XIII-начало XX в.): моногр. Гродно: ГрГУ, 2010. 109 с.

137 Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII-XVIII wieku. Spisy: w 11 t. / pod red. A.Gąsiorowskiego. Wrocław [etc.]: Ossolineum, 1985-1994. T.XI: Urzędnicy centralni i dostoynicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV-XVIII wieku. Spisy / oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba. Kórnik, 1994. 255 s.

138 Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII-XVIII wieku. Spisy: w 11 t. / pod red. A.Gąsiorowskiego. Wrocław [etc.]: Ossolineum, 1985-1994. T.IX: Urzędnicy inflanccy XVI-XVIII wieku. Spisy / oprac. K.Mikulski, A.Rachuba. Kórnik, 1994. 292 s.

139 Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy: w 4 t. / pod red. A.Rachuby. Warszawa: DiG, 2003-2009. T.IV: Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie. XIV-XVIII wiek / oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk. 2003. 412 s.

140 Petrauskas R. Lietuvos diduomené XIV a. Pabagoje-XV a. Sudétis–struktūra–valdžia. Vilnius, 2003. 379 p.

141 Machynia, M. Oficerowie Rzeczypospolitej Obojga Narodów. 1777-1794. Spisy. T.II. Oficerowie wojska Wielkiego Księstwa Litewskiego. 1777-1794. Spisy. Sztab, kawaleria, artyleria, wojska inżynierskie i piechota / M.Machynia, V.Rakutis, Cz.Srzednicki. Kraków: Wyd. Nauk., 1999. 542 s.

142 Радаман, А., Галубовіч, В., Вілімас, Д. Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства (другая палова XVI-першая палова XVII ст.) // Commentarii polocenses historici. Полацак, 2004. Т. I. С.73-80; Радаман, А., Галубовіч, В., Вілімас, Д. Земскія ўраднікі Віцебскага ваяводства ў другой палове XVI-першай палове XVII ст. // Commentarii polocenses historici. Наваполацк-Менск, 2005. Т.II. С.51-61; Радаман, А., Галубовіч, В., Вілімас, Д. Земскія ўраднікі Менскага ваяводства ў другой палове XVI-першай палове XVII ст. // Commentarii polocenses historici. Наваполацк-Менск, 2006. Т. III. С.65-69; Радаман, А., Галубовіч, В., Вілімас, Д. Земскія ўраднікі Гарадзенскага павета ВКЛ (другая палова XVI-першая палова XVII ст.) // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.98-109; Радаман, А., Галубовіч, В., Вілімас, Д. Земскія ўраднікі Ваўкавыскага павета ВКЛ (другая палова XVI-першая палова XVII ст.) // Герольд Litherland. Горадня-Менск. 2011. № 18. С.143-155.

143 Чарняўскі, Ф.В. Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI-XVIII стагоддзяў: (Біяграф. давед.). Баранавічы: БелАніГал, 2007. 256 с. (вып.1 – Стольнікі, падстоліі, лоўчыя, струкчашыя Мінскага ваяв.); Чарняўскі, Ф.В. Ураднікі Менскага ваяводства XVI-XVIII стст.: біяграф. давед.: Вып.II: (скарбнікі, стражнікі). / нав. рэд. З.Л.Яцкевіч. Мн.: Зміцер Колас, 2012. 544 с.; Чарняўскі, Ф.В. Ураднікі (пасады, тытулы) Менскага ваяводства XVI-XVIII ст.: (Біяграф. давед.). 2009. Вып.III (канюшыя, абозныя, крайчыя, мастаўнічыя і будаўнічыя). Мн.: ТАА “Белпрынт”, 2009. 288 с.

судовых крыніцах. Менавіта таму аўтару прыходзіцца разбірацца найчасцей з зямельна-маёмаснымі спрэчкамі. Хацелася б убачыць больш увагі да службовай кар'еры і выкарыстання вядомых публікаваных крыніц. Зрэшты, спакваля ўзровень якасці працы расце.

Неабходна сказаць яшчэ пра дзве мнагатомныя працы гісторыка Я.Анішчанкі, якія тычацца пераважна XVIII ст. Абедзве працы ўкладзены паводле алфавіту і падрыхтаваны на падставе актавых судовых кніг. Першая прадстаўляе матэрыялы па ўрадніках усіх беларускіх паветаў ВКЛ[144], другая – па звычайнай (сярэдняй рукі) шляхце і друкуецца тамамі па асобных паветах і ваяводствах[145]. Аўтарам падаюцца кароткія звесткі пра прадстаўнікоў асобных родаў (часам жонак і дзяцей), займаемыя імі пасады, зямельную ўласнасць і інш. са спасылкамі на архіўныя крыніцы. Па сутнасці гэта выбарачны імянны паказальнік да актавых кніг. Праца падрыхтавана па-руску, у той час як згаданыя крыніцы пісаны выключна па-польску, таму ў аўтара сустракаецца шэраг памылак у прозвішчах і назвах маёнткаў. Тым не менш лічым згаданыя работы важнымі, бо ўводзяць у навуковы зварот многа новых звестак, і вартымі для знаёмства.

Выбарку па землеўласніках 1-й паловы XVI ст. на падставе кніг Метрыкі ВКЛ зрабілі В.Мянжынскі і А.Дзярновіч. Імі падрыхтаваны звесткі па Ашмянскім, Брэсцкім, Камянецкім і Кобрынскім паветах[146]. Польскім даследчыкам Т.Гайлем па друкаваных крыніцах быў складзены найбольш поўны на сённяшні дзень спіс шляхецкіх родаў РП з указаннем ужываных імі гербаў (падаецца да 37000 прозвішчаў, больш 4500 гербаў[147]. Друкаваліся разнастайныя спісы шляхецкіх родаў, зацверджаных у дваранстве Расійскай імперыі ці пражываўшых у Беларусі па асобных губернях і паветах[148].

З іншых рарытэтаў успомнім публікацыю рэестра зместа кніг Рускай (Валынскай) Метрыкі[149]. Апісанню матэрыялаў архіва уніяцкіх мітрапалітаў на Беларусі прысвечаны работы С.Паўловіч[150]. Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага манастыра, які захаваўся ў

---

144 Анішчанка, Я.К. Збор твораў. У 6-ці т. Т.4. Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ пры Станіславе Панятоўскім: Спісы на рускай мове. Мн.: выд. В.Хурсік, 2008. 532 с.; Анішчанка, Я.К. Збор твораў. У 6-ці т. Т.6. Ураднікі беларускіх земляў ВКЛ у першай палове XVIII ст.: Спісы на рускай мове. Мн.: выд. В.Хурсік, 2010. 392 с.; Анішчанка, Я.К. Ураднікі беларускіх земляў Расійскай імперыі на рубяжы XVIII-XIX стст.: Спісы на рускай мове. Мн.: выд. В.Хурсік, 2011. 392 с.

145 Анищенко, Е.К. Шляхта Брестского воеводства: Список XVIII ст. Мн.: изд. В.Хурсик, 2011. 236 с.; Анищенко, Е.К. Шляхта Волковысского повета: Список XVIII ст. Мн.: изд. В.Хурсик, 2012. 256 с.; Анищенко, Е.К. Шляхта Слонимского повета: Список XVIII ст. Мн.: изд. В.Хурсик, 2012. 244 с.; Анищенко, Е.К. Шляхта Мстиславского воеводства: Список XVIII ст. Мн.: изд. В.Хурсик, 2013. 308 с.

146 Мянжынскі, В., Дзярновіч, А. Шляхта і яе зямельныя ўладанні ў Ашмянскім (Ошменским) павеце ў першай палове XVI ст. (паводле Кнігаў № 12-31 Метрыкі ВКЛ) // Metriciana: даслед. і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага: у 3 т. / Аддз. спец. гіст. навук Ін-та гісторыі НАН Беларусі; рэдкал.: Г.Галенчанка [і інш.]. Мн., 2001. Т.1. С.46-108; Мянжынскі, В., Дзярновіч, А. Шляхта, іншыя землеўласнікі і землеўладальнікі ды іхныя зямельныя ўладанні ў Берасцейскім, Камянецкім і Кобрынскім паветах у другой палове XV-першай палове XVI ст. (паводле Кнігаў №№ 12-31 Метрыкі ВКЛ) // Metriciana: даслед. і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага: у 3 т. / рэдкал.: А.Дзярновіч (гал. рэд.) [і інш.]. Мн., 2004. Т.3. С.57-196.

147 Gajl, T. Herbarz polski od średniowiecza do XX wieku. Gdańsk: L&L, 2007. 544 s.

148 Spis szlachty wylegitymowanej w guberniach grodzieńskiej, mińskiej, mohylewskiej, smoleńskiej i witebskiej / oprac. S.Dumin, S.Górzyński. Warszawa: ARBOR-DiG, 1992. 156 s.; Дзядзенка, З. Аршанская шляхта. Мн.: [б. в.], 1996. 64 с.; Чарнецкі, Я.А. Беларуская шляхта на тэрыторыі Радамышльскага павета Кіеўскай губерні (канец XVIII-першая трэць XIX ст.): гісторыка-дэмаграфічны аналіз // Архіварыус: зб. навук.-папул. паведамл. і арт. / Нац. гіст. арх. Беларусі. Мн., 2008. Вып.6 / рэдкал.: Ю.І.Бохан [і інш.]. С.228-236; Залівака, А. Шляхта Магілёўскай губерні. Спісы. Фасцыкул II. Мн.: Энцыклапедыкс, 2012. 80 с.

149 Руська (Волинська) Метрика. Регести документів Коронної канцелярії для українських земель (Волинське, Київське, Брацлавське, Чернігівське воєводства) 1569-1673. Перед.: П.Грімстед. Опр.: О.Василюк, М.Возьнякова, Л.Демченко, І.Струмінський. Київ, 2002. 984 с.

150 Архіў уніяцкіх мітрапалітаў: дак. да гісторыі царквы ў Беларусі XV-XIX ст. у фондзе "Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяц. цэркваў у Расіі": даведнік / Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы, Полац. грэка-катал. грамада; склад.: С.І.Паўловіч, Т.М.Мальцава. Мн.: БелНДІДАС; Полацк: Сафія, 1999. 383 с.

Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, пачалі апісваць Г.Брэгер і Л.Лінская[151]. Асобныя артыкулы асвятляюць архіўныя крыніцы па генеалогіі шляхты: гэта працы А.Вайс (матэрыялы па генеалогіі ў зборах ГАСА ў Варшаве)[152], Я.Завадзкага (дакументы розных родаў, якія захаваліся ў Радзівілаўскім архіве ў ГАСА[153], дакументы роду Палубінскіх[154]), В.Мікульскага (дакументы роду Гарнастаеў)[155], З.Антановіч (крыніцы па генеалогіі пінскай шляхты)[156] і інш.[157]

Для даследавання генеалогіі XIX ст. цікавы паказальнік Д.Дразда са звесткамі пра землеўладальнікаў Менскай губерні[158]. У яго аснову пакладзены вядомы друкаваны "*Спіс землеўладальнікаў Менскай губерні*" за 1876 г., які аўтар дапоўніў звесткамі больш чым з 20-ці архіўных фондаў (пераважна розных судовых устаноў), захаваўшыхся ў НГАБ Менска. Даведнік падае кароткія звесткі пра землеўладальніка і маёнтак, назвы асобных справаў, якія тычацца згаданага маёнтка, і іх архіўныя індэксы, укладзены ў алфавітным парадку, змяшчае імянны паказальнік. Падобную больш простую працу па землеўладальніках толькі Менскага павета ў канцы XIX ст. раней выдаў А.Залівака[159]. У ёй апрацаваны два друкаваных спіса і адзін рукапісны архіўны за 1901 г.

Значнымі матэрыяламі для даследавання шляхецкай генеалогіі ў XIX – пачатку XX ст. уяўляюцца некропалі. Традыцыя выдання падобных прац аднаўлена і ў Беларусі. Гэта апісанні пахаванняў Кальварыйскіх могілак у Менску (Т.Чарняўская, А.Ярашэвіч, А.Сакалоўская)[160], Гарадзенскія праваслаўны і каталіцкі некропалі (В.Чарапіца, Я.Размус, Ю.Гардзееў)[161] і інш.[162]

---

[151] Брэгер, Г., Лінская Л. Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1687-1702). // Беларускі археаграфічны штогоднік / Дзярж. кам. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Археагр. каміс., Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. Мн.: БелНДІДАС, 2006. Вып.7. С.225-237; Брэгер, Г., Лінская Л. Фрагмент архіва Слуцкага Трайчанскага Свята-Траецкага манастыра ў фондах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі (1703-1719). // Беларускі археаграфічны штогоднік / Дэпарт. па арх. і справаводству Рэсп. Беларусь, Археагр. каміс., Беларус. навук.-даслед. ін-т дакументазнаўства і арх. справы. Мн.: БелНДІДАС, 2007. Вып.8. С.72-88.

[152] Materiały genealogiczne, nobilitacje, indygenaty w zbiorach Archiwum Głównego Akt Dawnych w Warszawie / Oprac. A.Wajs. Warszawa: DiG, 2001. 136 s.

[153] Zawadzki, J. Archiwalia róznych rodów przechowywane w Archiwum Warszawskim Radziwiłłów // Miscellanea Historico-Archivistica / Nacz. Dyrekcja Arch. Państ., Arch. Główne Akt Dawnych. Warszawa: DIG, 1997. T.VII. S.127-133.

[154] Zawadzki, J. Papiery Polubińskich i ich dóbr przechowywane w Archiwum Warszawskim Radziwiłłów // Miscellanea Historico-Archivistica / Nacz. Dyrekcja Arch. Państ., Arch. Główne Akt Dawnych. Warszawa: DIG, 1998. T.IX. S.13-32.

[155] Mikulski, W. Dokumenty Hornostajów i innych rodzin rusko-litewskich z XVI-XVII w. w zespole Archiwum Potockich z Radzynia // Miscellanea Historico-Archivistica / Nacz. Dyrekcja Arch. Państ., Arch. Główne Akt Dawnych. Warszawa: DIG, 1997. T.VIII. S.133-141.

[156] Антановіч, З. Крыніцы па генеалогіі шляхты Пінскага павета ВКЛ XVI-пач. XX ст. // Герольд Litherland. 2006. № 17: Павятовая шляхта ВКЛ: гісторыя, геральдыка, генеалогія, культура (XVI-XVIII ст.): матэрыялы навук. канф., Горадня, 18 лют. 2005 г. / рэд. А.Шаланда. С.7-23.

[157] Нарбут, А. Документы и материалы по родословию белорусской шляхты в зарубежных архивах и библиотеках // Арх. і справаводства. 1999. № 4. С.17-21; Анішчанка, Я.К. Вывады шляхецкіх генеалогій у актах земскіх і гродскіх судоў XVIII ст. // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі: гісторыя і сучаснасць: матэрыялы юбілейнай навук.-практ. канф., прысвеч. 70-годдзю Нац. гіст. арх. Беларусі, Менск, 8 ліп. 2008 г. / Дэпартамент па арх. і справаводству М-ва юстыцыі Рэсп. Беларусь, Нац. гіст. арх. Беларусі; навук. рэд. У.І.Адамушка. Мн., 2008. С.16-27.

[158] Дрозд, Д. Землевладельцы Минской губернии, 1861-1900: справочник; 2-е изд., испр. и доп. Мн.: Медисонт, 2012. 710 с.

[159] Залівака, А.С. Спіс землеўладальнікаў Менскага павета. Мн.: НАРБ, 2005. 100 с.

[160] Rzymsko-katolicki cmentarz Kalwaryjski w Mińsku na Białorusi: (suplement) / Nar. Instytucja Kultury, Ośrodek Ochrony Zabytkowego Krajobrazu; oprac. T.Czerniawska, A.Jaroszewicz; red. nauk. R.Brykowski. Warszawa, 2000. 304 s.; Сакалоўская, А.С. Кальварыя. Мн.: [б. в.], 1997. 204 с.

[161] Черепица, В.Н. Гродненский Православный некрополь: с древнейших времен до нач. XX в. Гродно: Гродн. гос. ун-т, 2001. 228 с.; Rozmus, J. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków: Wydaw. Nauk. WSP, 1999. 120 s.

Напрыканцы артыкула хацелася б выказаць некалькі меркаванняў наконт перспектыўных накірункаў развіцця генеалогіі і генеалагічных даследаванняў у Беларусі. Вельмі запатрабавана максімальна поўная бібліяграфія па генеалогіі. Узорам тут можа стаць вышэйуказаная праца Г.Цалей, у якой згадана больш 2000 манаграфій, артыкулаў, рэцэнзій і палемік.

З ліку старых друкаў быў бы цікавы крытычны разбор прац В.Каяловіча. Пэўным узорам для аналіза тут можа стаць нядаўна выдрукаваны твор Ю.Дацкай "*Карона Польская Каспара Нясецкага*"[163]. Таксама, мяркуем, было б цікава прааналізаваць рукапіс М.Шанцілы з радаводамі княжацкіх і магнацкіх родаў ВКЛ, пра які напісаў А.Мірановіч[164].

У цэлым, можна канстатаваць, што найлепш распрацавана генеалогія княжацкіх і магнацкіх родаў Беларусі. Гэта не значыць аднак, што тут усё якасна і поўна даследавана. Вывучаюцца новыя, раней невыкарыстаныя крыніцы, якія дазваляюць удакладніць многія спрэчныя моманты.

З апошніх дасягненняў варта сказаць аб вяртанні ў генеалогію постаці графа К.Ажароўскага, пра яго аўтарам будзе неўзабаве надрукаваны асобны артыкул. Тым часам рукапісная спадчына графа часткова захавалася ў НГАБ Менска, і да сёння, як аказалася, прадстаўляе навуковую вартасць. Так графам былі складзены неблагія радаводы Валовічаў. Гэтыя крыніцы былі прааналізаваны намі і выкарыстаны пры падрыхтоўцы радаводу Валовічаў у XV – пачатку XVII ст. (артыкул будзе неўзабаве надрукаваны). Таксама граф пакінуў рукапіс радавода Іллінічаў (максімальны на сёння), звесткі з якога няпоўна выкарыстала Л.Сысоева[165].

Што ж тычыцца генеалогіі заможнай ці сярэдняй шляхты, то тут неасвоены пласт бачны яскрава. Умоўна кажучы, усе роды, пра якіх не паспеў напісаць у сваім гербоўніку А.Банецкі, за выключэннем хіба даследаваных пазней, павінны быць разгледжаны з навуковага погляду. Гэта тычыцца, асабліва, родаў на прозвішча, якія пачынаюцца на літару "М" і далей, да канца паводле лацінскага алфавіта. Зрэшты практыка паказвае, што пакуль няма нейкай генеалогіі (княжацкай, магнацкай, шляхецкай), вывучанай поўна, дакладна і з апошняй кропкай.

Што тычыцца перспектыўных накірункаў. Трэба было б разабрацца нарэшце з полацкімі Ізяслававічамі. Нагадаем вывад гісторыка А.Шаланды ў рэцэнзіі на вядомую работу Э.Загарульскага: "*...кніга Э.Загарульскага, на жаль, не запаўняе існуючы прагал у беларускай гістарыяграфіі па праблеме радаводу полацкіх князёў, а з'яўляецца толькі яшчэ адной прыступкай да сур'ёзнай генеалагічнай працы, патрэба ў якой адчуваецца ўжо даўно*"[166]. Тут жа не абыйсці і князёў Друцкіх, з разгалінаваным радаводам якіх гісторыкам таксама хапае клопатаў.

Што тычыцца перыяду ВКЛ. Было б вельмі карысна разабрацца з пачаткамі вядомых русінскіх родаў. Пад гэтым тэрмінам разумеем не канфесійны аспект (праваслаўныя роды), а этнічны, г.зн. роды рускага ці беларускага, а не літоўскага ці польскага паходжання. Пра іх напісана ўжо шмат, але пачаткі радаводу часта з "*белымі плямамі*". Напрыклад, нядаўняя знаходка В.Пазднякова (артыкул друкуецца ў гэтым жа

---

[162] Ханецкі, В. Пахаванні на могілках у Астрашыцкім Гарадку, Раўбічах, Ваколіцы, Губічах (да 1917 года) // Годнасць. 1997. № 2 (4). С.45-51; Гайба, М.П. Могілкі і пахаванні у Навагрудку: краязн. нарыс. Мн.: Пейто, 2000. 36 с.

[163] Dacka, I.M. "Korona Polska" Kaspra Niesieckiego: pomnik staropolskiego piśmiennictwa heraldycznego. / Inst. Historii PAN. Warszawa: DIG, 2004. 272 s.

[164] Nieznany herbarz Michała Szęciłły / [wyd.] A.Mironowicz. London: Voice of Time, 1992. 59 s.

[165] Сысоева, Л. Генеалогия Ильиничей: новые материалы // Мірскі замак як гісторыка-культурны феномен XV – пачатку XX стагоддзя. Новыя даследаванні. Навук.-практ. канф. 29 мая 2004 г., г.п. Мір Гродзен. вобл. ў рамках II Беларускага фестывалю мастацтваў "Мірскі замак – 2004". / Навук. рэд.: Н.Ф.Высоцкая. Мн.: ТАА "Белпрынт". С.61-73.

[166] Шаланда, А. Рэцэнзія на: Загорульский, Э.М. Генеалогия полоцких князей Изяславичей. Мн.: "ВУЗ-ЮНИТИ", 1994. 30 с. // Герольд Litherland. Горадня. 2003. № 9-10. С.32-34.

нумары) дазваляе меркаваць, што паміж Іллінічамі і князямі Друцкімі было сваяцтва (шлюб). З іншых значных родаў, якія яшчэ не даследаваны добра і поўна, назавём Солтанаў, Тышкевічаў, Іллінічаў, Валовічаў, Гарнастаеў, Валадковічаў, Корсакаў, Пацееў і г.д. Высвятленне пачатковай гісторыі ўказаных родаў дазволіла б беларускім навукоўцам прыступіць да высвятлення персанальнага складу русінскай эліты ВКЛ у другой палове XV – першай палове XVI ст. і яе ролі, вагі ў дзяржаве. Прасцей кажучы, патрэбна адпаведнае даследаванне падобнае да манаграфіі Р.Пятраўскаса.

У цэлым перыяд "*другая палова XV – першая палова XVI ст.*" застаецца пакуль недастаткова вывучаным у беларускай генеалогіі. З большага гэта тлумачыцца частай адсутнасцю ў крыніцах даты і прозвішча, што ўскладняе ідэнтыфікацыю патрэбных асоб і існуючыя паміж родамі сувязі. Гэта зацягвае даследаванне па часе, надае яму гіпатэтычны характар. Таму перспектыўным прадстаўляецца вывучэнне захаваных крыніц і максімальная ідэнтыфікацыя згаданых у іх асоб. Гэта дасць магчымасць рэальна і грунтоўна ўстаражытніць радаводы многіх шляхецкіх родаў Беларусі. Узорным прыкладам тут можна лічыць працу Г.Люлевіча, у якой аўтар ідэнтыфікаваў асобы ўдзельнікаў т.зв. "*Рускага сіноду*" 1476 г.[167]

Варта яшчэ раз нагадваць, што сучасныя генеалагічныя даследаванні патрабуюць вырашэння многіх аспектаў. Гэта: вывучэнне бібліяграфіі і дасягненняў папярэднікаў і іх аналіз, крытычнае стаўлення да крыніц, асабліва складзеных з уласна генеалагічнай мэтай, увага да навуковага прадстаўлення свайго даследвання згодна сучасных навуковых норм і правілаў як з боку аўтара, так і рэцэнзента, апора на незалежныя крыніцы. Бо памылкі гісторыкаў нараджаюць часцей толькі новыя праблемы, якіх і так хапае.

[167] Lulewicz, H. Problem identyfikacji postaci na Rusi Litewskiej w drugiej połowie XV wieku // Świat pogranicza. Inst. Historyczny Uniwersytetu Warszawsk. Warszawa: DIG, 2003. S.97-115.

**Аляксей Шаланда**
**(Менск)**

## ГЕРАЛЬДЫКА КНЯЗЁЎ АГІНСКІХ: ГЕНЕЗІС, ЛЕГЕНДА, ФАКТЫ[168]

Геральдыка князёў Агінскіх пакуль не дачакалася сур'ёзнага навуковага даследавання. У сувязі з гэтым, наш артыкул трэба разглядаць як падрыхтоўчы этап вывучэння геральдычна-сфрагістычнай спадчыны дадзенага роду, дзе галоўную сваю ўвагу мы спынім на паходжанні, як рэальным, так і легендарным, іх гербаў.

Першае, што адразу здзіўляе пры знаёмстве з геральдыкай князёў Агінскіх – даволі позняе з'яўленне іх герба ў друкаваных і рукапісных гербоўніках ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Дастаткова адзначыць, што ўпершыню герб князёў Агінскіх зафіксаваў у сваім гербоўніку ВКЛ Войцах Віюк Каяловіч, праца якога датуецца сярэдзінай XVII ст. Назваўшы яго "*Агінец*" "*бацька*" шляхецкай геральдыкі ВКЛ апісаў яго наступным чынам: "*Павінен быць знак такім кшталтам, як бачыш [тут] намаляваны, у чырвоным полі. У кляйноце тры пёры стравуса*"[169]. Які быў колер самога знаку – ён не падаў. Са спасылкай на старонкі "*Хронікі*" Яўхіма Бельскага, аўтар адзначыў, што такі герб прынеслі ў ВКЛ у пачатку XVI ст. князі Агінскія і Пузыны з Северскай зямлі пасля захопу апошняй вялікім князем маскоўскім[170]. Аднак, зварот да ўказанай В.Каяловічам старонкі ў "*Хроніцы*" Я.Бельскага нічога не даў – апошні пісаў там пра князёў Азярэцкіх і Масальскіх, але ні словам не ўзгадаў князёў Агінскіх з Пузынамі[171]. Іншымі словамі В.Каяловіч пра гісторыю


*Герб "Агінец" па В.Каяловічу, каля 1650 г.*


*Герб князёў Агінскіх па А.Сваху, 1705 г.*


*Герб "Агінскі" па К.Нясецкаму, 1740 г.*


*Герб князёў Агінскіх канец XVIII–XIX ст.*

герба апошніх нічога пэўнага не ведаў. Затое ён упэўнена выводзіў згаданыя роды з легендарнага гораду Казельска[172]. Апошнюю інфармацыю, наколькі можна меркаваць, аўтар гербоўніка шляхты ВКЛ атрымаў непасрэдна ад прадстаўнікоў роду або Агінскіх, або Пузынаў, праўда, ніяк гэты факт не пракаментаваўшы. Так ці інакш, але ён падаў так званую "*северскую*" версію паходжання князёў Агінскіх.

Першым, хто падаў герб князёў Агінскіх у сваім гербоўніку, выдадзеным ў Пазнані ў 1705 г., быў ксёндз францішканін Антоні Свах. Малюнак герба пад княжацкай мітрай меў у яго творы характар устаўкі без ніякіх аўтарскіх каментароў[173]. Але ён дакладна падаваў кшталт гербавай выявы і княжацкай шапкі над тарчай.

Яшчэ адзін аўтар – Каспар Нясецкі – складальнік агульнага гербоўніка шляхты Рэчы Паспалітай у першай палове XVIII ст., апісваў герб князёў Агінскіх зусім па-іншаму: "*Павінна быць абозная брама, а на яе версе крыж раздзёрты, над гелмам княжацкая*

[168] Тэма артыкулу была агучана ў Горадні 8-9 кастрычніка 2010 г. на VI Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Адбіткі дзяржаўнай і культурнай дзейнасці князёў Агінскіх (да 245-й гадавіны з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага)".

[169] Kojałowicz, W. Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego tak zwany Compendium (далей – Compendium). Kraków, 1897. S.189.

[170] Kojałowicz W. Compendium. S.189.

[171] Kronika Polska Marcina Bielskiego nowo przez Joach. Bielskiego syna iego wydana. Kraków, 1597. F.524.

[172] Kojałowicz, W. Compendium. S.189.

[173] Swach A. Herby Polskie... Poznań, 1705. F.56.

*мітра*", ды і называў яго інакш: "*Агінскі*"[174]. Іншымі былі ў К.Нясецкага і гербавыя колеры: "*Як мне прыйшлося бачыць на розных месцах, брама павінна быць чырвоная, крыж белы, поле тарчы блакітнае*"[175]. Акрамя змены колераў замест пёраў у кляйноце ў гербе Агінскіх замацавалася княжацкая мітра. Не было ўпэўненнасці ў К.Нясецкага і ў адносінах да раздзертага крыжа, бо ён прыводзіць меркаванне "*некаторых*", што замест яго павінна быць белая лілія: "*lilji białej, w cyrkule złotym listki*"[176].

Такім чынам, у першай палове XVIII ст. герб князёў Агінскіх стаў выглядаць у параўнанні з ранейшым часам інакш – з'явілася княжацкая мітра, памяняліся гербавыя колеры і назва, што ў сваю чаргу сведчыць аб пераасэнсаванні ў родзе сваёй гербавай выявы і наданні ёй іншых функцый.

У першую чаргу, звяртаюць на сябе ўвагу словы пра "*абозную браму*". К.Нясецкі апісуючы так гербавы знак князёў Агінскіх спасылаўся на рукапіс В.Каяловіча, але ў таго, як мы ведаем, нічога падобнага няма[177]. Тэма "*брамы*" была К.Нясецкім далей развіта так: "*Герб гэты набыты з той аказіі, што, калі татары браму ў абозе праламалі, продак гэтага дому спрычыніўся да перамогі, бо з ім князі рускія татараў выгналі і разбілі*"[178]. Па-сутнасці, перад намі пададзена ў скароце гербавая легенда князёў Агінскіх, якая тлумачыла яго сэнс і паходжанне. Невядомы продак Агінскіх выступае тут як спадручны "*рускіх*" князёў, а не як князь, што з аднаго боку сведчыць пра стварэнне гербавай легенды ў часы шляхецкай роўнасці і дэмакратыі, калі болей цаніліся не тытулы, а якасці такія, як мужнасць, вернасць, адвага. З другога – гербавая легенда добра паказвае механізм натуралізацыі клейнавай выявы ў больш зразумелую "*браму*". У аснове апошняй ляжаў прынцып падабенства абстрактных клейнаў-знакаў на нейкія рэалістычныя рэчы.

Няма сумненняў, што змены ў геральдыцы князёў Агінскіх былі выкліканы палітычнымі фактарамі. Рост уплыву князёў Агінскіх у ВКЛ і Кароне Польскай у другой палове XVII ст. прымусіў іх перагледзець "*северскую*" версію іх паходжання, бо ў новых палітычных рэаліях яна становіцца малапрыдатнай. Таму кароткі "*северскі*" радавод паглыбляецца ў гісторыю і становіцца "*кіеўскім*", выводзячы род Агінскіх ад вялікага князя Ўладзіміра Святаслававіча Кіеўскага. "*Кіеўская*" версія паходжання князёў Агінскіх стала шырока вядомай ўжо ў канцы XVII ст., пра што сведчыць тагачасная панегірычная літаратура[179]. Новая легенда выконвала некалькі важных для прэстыжу роду задач. Па-першае, яна абгрунтоўвала княжацкі тытул Агінскіх. Па-другое, тлумачыла паходжанне іх прозвішча – быццам бы ад мянушкі "*Агонь*" князя Грыгорыя Юр'евіча, бацька якога быў некалі князем на Казельску[180]. Апошні "*факт*" звязваў дзве версіі паходжання – "*северскую*" і "*кіеўскую*" – у адную.

Для падмацавання свайго княжацкага тытулу Агінскімі ў 1702 г. у актавыя кнігі Галоўнага Трыбунала ВКЛ быў унесены фальшывы ўніверсал караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста з загадам рыхтавацца да вайны "*князю Фёдару з Казельска Агінскаму, маршалку гаспадарскаму ВКЛ, віленскаму кашталяну, магілёўскаму, гаінскаму старосце*"[181]. Ужо ў 1707 г. новы "*кіеўскі*" радавод князёў Агінскіх – ад князя Ўладзіміра Святаслававіча – быў апублікаваны Віленскай езуіцкай Акадэміяй на спецыяльнай гравіраванай блясе: "*na blasze sztychowana*"[182]. У 1732 г. у Варшаве Андрэем

---

[174] Niesiecki K. Korona Polska przy Złotey wolnosci Starożytnemi Wszystkich Kathedr, Prowincyi, y Rycerstwa Kleynotami ... ozdobiona... Lwów, 1740. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. Lipsk, 1841. T.VII. S.48.
[175] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.49.
[176] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.49.
[177] Kojałowicz W. Compendium. S.189.
[178] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.48-49.
[179] Марзалюк І. Наша "кіеўская" й "літоўская" спадчына.// Спадчына. 2002. № 5-6. С.12-13. Tereškinas A. Imperfect communities. Identity, discourse and nation in the seventeenth-century Grand Duchy of Lithuania. Vilnius, 2005. P.206, 229.
[180] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.49.
[181] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S.289. Спасылка 2.
[182] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.49. Dacka I.M. "Korona Polska" Kaspra Niesieckiego. Pomnik staropolskiego piśmiennictwa heraldycznego. Warszawa, 2004. S.78

Пэзарскім ён быў выдадзены на латыні асобнай кнігай і ад гэтага часу стаў агульнапрынятым у ВКЛ і Рэчы Паспалітай[183].

Геральдычна так званы "*кіеўскі*" радавод праявіўся ў замацаванні ўжо ў канцы XVII ст. за гербавай выявай Агінскіх асацыяцыі з "*брамай*", з'яўлення ў гербе княжацкіх атрыбутаў – мітры і плашча, а пазней – у канцы XVIII–пачатку XIX ст. – далучэння роду да агульнадынастычнага герба Рурыкавічаў – "*Святога Юрыя*". Апошні ў ВКЛ быў вядомы як "*Пагоня Руская*", аднак, у князёў Агінскіх ён займеў тую адметнасць, што замест дзіды вершнік трымаў шаблю[184].

Наколькі ўстойлівым быў зварот "*Herbowna Oginskich Brama*" ў першай палове XVIII ст. сведчыць выдадзены ў 1739 г. у Вільні твор ксяндза Міхала Пашкевіча з казаннем на смерць трэцяй жонкі віцебскага ваяводы Марцыяна Міхала Агінскага Крыстыны Абрамовіч († 14 ліпеня 1738 г.)[185]. Згодна з афіцыйным радаводам, продкам Марцыяна Міхала Агінскага ў панегірыку называецца кіеўскі князь Уладзімір Святаслававіч: "*...sladem Wielkiego Włodzimierza protoplasta...*"[186]. Як "*абозную чырвоную браму*", а на ёй "*белы раздзерты ўверсе крыж*", з княжацкай "*мітрай над гелмам*", апісваў у 1763 г. герб Агінскіх, наданы іх "*продку за тое, што татараў прагнаў*", Бенядыкт Хмялёўскі[187]. Услед за ім тыя ж каляровыя характарыстыкі з княжацкай мітрай "*над гелмам*" паўтарыў у сваёй геральдычнай працы Пётр Малахоўскі, дадаўшы пра герб: "*На Русі перад 990 годам добра вядомы*"[188]!

Такім чынам, з другой паловы XVII ст. род князёў Агінскіх фактычна выводзіў свае пачаткі ад летапіснага Рурыка. Іх герб павінен быў падмацоўваць прэстыжны, але даволі спрэчны, радавод, які ўжо ў Каспара Нясецкага выклікаў падазрэнні. Апошні прызнаваў за імі толькі княжацкі тытул: "*Ахвотна прызнаю так заслужанай у гэтым Каралеўстве фаміліі тое, што з князёў ідзе ... і няма нічога больш праўдападобнага, што з Рускіх князёў, але вывад гэтага дому цяжка аргументавана даказаць...*"[189]. Як давёў у канцы XIX ст. польскі даследчык Юзаф Вольф, род князёў Агінскіх выводзіўся ад смаленскага князя ***Дзмітрыя Іванавіча Глушонка***, які атрымаў маёнтак Агінты ў Жыжморскім (Ковенскім) павеце, ад чаго яго нашчадкі з сярэдзіны XVI ст. пачалі звацца Агінскімі[190].

З канца XVI ст. князі Агінскія сталі дадаваць да свайго прозвішча прыдомак "*з Казельска*". Першым, хто ўжо ў 1585 г. падпісаўся з такім дадаткам, быў князь ***Багдан Мацвеевіч Агінскі***, троцкі падкаморы[191]. Гэта дазваляе бачыць менавіта ў яго асобе верагоднага аўтара першага так званага "*северскага*" радаводу Агінскіх. Прыдомак "*з Казельска*" быў ім яўна ўзяты са старажытнарускіх звестак беларуска-літоўскіх летапісаў, дзе абаронцы Казельска ад мангола-татараў асабліва праславіліся: "*И оттуду в татарех не смеаху назвати град тои Коз(е)леск, но зваху тъи Злыи град, понеже бишяся по 7 недель...*"[192]. Праўда, летапісны Казельск ляжаў у Разанскай зямлі, але ў ВКЛ у XVI ст. з мясцовых летапісаў была больш вядома яго прыналежнасць да Вялікага княства Маскоўскага[193].

---

[183] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.416. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.49.

[184] Грыцкевіч А. Агінскія // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя (далей – ВКЛЭ). Мн.: БелЭн, 2005. Т.1. С.202. Гл., таксама: Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. Poznań, 1883. R.V. S.177.

[185] Paszkiewicz M. Ślady bez zawady JW.JP.Krystyny z Abramowiczów Oginskiey... Wilno, 1739. F.A. Гл. таксама: Нікалаеў М. Гісторыя Беларускай кнігі. Кніжная культура Вялікага княства Літоўскага. Мн.: БелЭн, 2009. С.355 (герб Агінскіх, 1739 г.).

[186] Paszkiewicz M. Ślady bez zawady... F.Av.

[187] Chmielowski B. Zbiór krótki herbów Polskich oraz wsławionych cnotą i naukami Polaków. Warszawa, 1763. S.225.

[188] Małachowski P. Zbiór nazwisk szlachty. Wyd. 2. Lublin, 1805. F.701-702.

[189] Niesiecki K. Korona Polska. T.III. F.417. Niesiecki K. Herbarz polski. T.VII. S.50.

[190] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.288-289.

[191] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.289, 294.

[192] ПСРЛ. Летописи белорусско-литовские. М.: Наука, 1980. Т.35. С.25.

[193] ПСРЛ. Т.35. С.43, 60, 78, 110, 144, 165, 191, 212, 233.

Асоба князя Багдана Мацвеевіча Агінскага даволі значная ў гісторыі і культуры ВКЛ[194]. Яго складаныя асабістыя гербы аздабляюць старонкі старадрукаў, якія былі выдадзены ў еўеўскай друкарні ў 1611 і 1616 г.: тарча падзелена на чатыры часткі, у 1-ай клейнавы знак накшталт нізкай "*П*"-падобнай падставы, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом (родавы), у 2-ой – месяц рагамі ўверх, паміж імі шасціпраменная зорка (герб "*Ляліва*" маці Кацярыны Іванаўны Юрлоўны), у 3-яй – страла вастрыём дагары, якая вылятае з трох дугаў, складзеных у кветку (герб бабкі па бацьку Багумілы Паўлаўны ці Пашкоўны), у 4-ай на нізкай "*П*"-падобнай падставе стаіць страла вастрыём дагары (герб бабкі па маці нейкай Ганны, жонкі Івана Юрлова), над тарчай гелм са шляхецкай каронай, у кляйноце тры пёры стравуса, вакол тарчы намёт з лісця, па баках кляйноту ініцыялы: "*B[ohdan]*" || "*O[giński]*" і ўнізе па баках тарчы – "*P[odkomorzy]*" || "*T[rocki]*"[195]. Адзначым, што ў змешчаных у старадруках вершаваных эпіграмах на яго гербы матыў з "*брамай*" яшчэ адсутнічае, а самая гербавая выява падавалася як "*Крест ся Христов*", які ёсць "*знак набоженства и сталое веры*"[196]. Пра гісторыю герба "*дому Окгинских*" паведамлялася, што ён "*с продков поданый*" і ім "*здавна их здобят сынове и дщеры*"[197]. Вядома, трэба рабіць папраўку на жанр і тып крыніцы, але ананімны паэт адзначыў сярод іншых якасцей Святога Крыжа тое, што ім "*варварских народов полки побеждают*"[198]. Як можна меркаваць, паступова з такіх інтэрпрэтацый склаўся неабходны матэрыял для невядомага стваральніка гербавай і радаводнай легендаў Агінскіх.

Добра арыентуючыся ў гісторыі ВКЛ па мясцовых летапісах і хроніках невядомы аўтар пры стварэнні радаводу князёў Агінскіх па нейкай прычыне праігнараваў паведамленне "*Хронікі Быхаўца*" пра Алехну Глазыніча, які праславіўся ў бітве з чэхамі яшчэ ў часы Казіміра Ягайлавіча: "*І паланілі ў той сечы шмат паноў чэшскіх ды сілезскіх з войска Ірыкавага, сярод якіх і пана Перштынскага. Злавіў яго князь Глашына, княжыч смаленскі, які потым стаў акольнічым смаленскім*"[199]. Сапраўды, князь Алехна Васільевіч Глазыніч быў смаленскім акольнічым у 1486-1500 г.[200] Ён жа прыходзіўся родным братам Івана – бацькі Дзмітрыя і Івана Глушонкаў[201]. Здавалася б асоба князя Глазыны добра пасавала на тое, каб быць адзначанай у радаводзе. Але гэтага не адбылося.

Растлумачыць, чаму невядомы аўтар радаводу не звярнуў увагі на гераічнага продка Агінскіх, можна толькі тым, што згаданы ў "*Хронікі Быхаўца*" князь Алехна Глазыніч не пакінуў нашчадкаў па мужчынскай лініі, а брат яго – сапраўдны продак Багдана Мацвеевіча Агінскага – князь ***Іван Васільевіч Глазыніч*** – недзе яшчэ да 1494 г. здрадзіў вялікаму князю літоўскаму і ўцёк у Маскву, пакінуўшы ў ВКЛ сваю жонку з дзецьмі[202]. Відаць, далёкая крэўнасць першага і здрада прапрадзеда спрычыніліся да таго, што згаданыя асобы мала падыходзілі для афіцыйнага радавода князёў Агінскіх, які пачаў стварацца ў канцы XVI ст.

Важным таксама было супадзенне імёнаў казельскага князя Васіля: "*сущу же в нем князу младу Василью*"[203] і бацькі прапрадзеда – князя Васіля Глазыны, які яшчэ ў вялікага князя літоўскага і караля польскага Казіміра выслужыў воласць Мсціславец у Смаленскай зямлі[204]. Не стрымала нават тое, што ў летапісах лёс казельскага князя застаўся невядомы:

---

[194] Скеп'ян Н. Мецэнацтва сям'і Багдана Агінскага // Спадчына. 2002. №2-3. С.176-177.
[195] Цітоў А. Геральдыка Беларусі. Мн.: МФЦП, 2007. С.42, 50. Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.289, 293.
[196] Старажытная беларуская літаратура: Зборнік. Уклад. Л.Курбека. Мн.: Юнацтва, 1990. С.307, 308.
[197] Старажытная беларуская літаратура. С.307.
[198] Старажытная беларуская літаратура. С.307.
[199] Беларускія летапісы і хронікі. Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997. С.144.
[200] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Ziemia Smoleńska i województwo Smoleńskie XIV-XVIII wiek. Pod red. A.Rachuby. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.Romaniuk. Warszawa, 2003. T.IV. S.52.
[201] Пташицкий С. Князья Пузыны. Историко-генеалогические материалы. СПб., 1899. С.39. Табліца.
[202] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.93.
[203] ПСРЛ. Т.35. С.25.
[204] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.93.

“*А о князи Василии неведомо есть; иnии глаголаху, яко у кръви утопл есть, понеже мал бе, 12 лет*”[205]. Як можна меркаваць, галоўным матывам для стваральніка “*северскай*” версіі паходжання князёў Агінскіх было імкненне як раз паказаць вернасць іх продкаў гаспадару – вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму. Герб жа павінен быў з аднаго боку даказаць старажытнасць роду, а з другога – праз расшыфроўку гербавай выявы як варыянту Святога Крыжа – засведчыць вернасць князёў Агінскіх праваслаўнай веры продкаў, а таксама іх мужнасць і ваяўнічасць у змаганні з адвечнымі ворагамі Русі і ВКЛ – варварамі-татарамі.

Пазнейшая “*кіеўская*” версія праз сувязь з кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам, добра вядомым у ВКЛ з летапісаў і хронік хрысціцелем Русі, не толькі абгрунтоўвала княжацкі тытул Агінскіх і тлумачыла іх прозвішча. Яна таксама сведчыла пра іх русінскае і праваслаўнае паходжанне, што, зрэшты, адпавядала праўдзе. Як можна меркаваць па панегірыстычнай літаратуры другой паловы XVII ст., натхняльнікам “*кіеўскага*” радавода быў сын Багдана Мацвеевіча – ***Аляксандр Багданавіч Агінскі***, троцкі кашталян. На яго гравюрным партрэце, датаваным 1667 г., добра відаць над галавой княжацкую мітру[206]. У сваю чаргу, вядомы з еўеўскага старадруку 1641 г. яго асабісты складаны герб: тарча падзелена на чатыры часткі, у 1-ай клейнавы знак накшталт нізкай “*П*”-падобнай падставы, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом (родавы), у 2-ой – два наканечнікі стрэлаў вастрыямі ўверх і ўніз, якія датыкаюцца канцамі (герб “*Багорыя*” маці Раіны Грыгораўны Валовіч), у 3-яй – месяц рагамі ўверх, паміж імі шасціпраменная зорка (герб “*Ляліва*” бабкі па бацьку Кацярыны Іванаўны Юрлоўны), у 4-ай – тры ўрубы, якія змяншаюцца зверху ўніз (герб “*Карчак*” зменены невядомай бабкі па маці першай жонкі Грыгорыя Багданавіча Валовіча), над тарчай закратаваны гелм са шляхецкай каронай, у кляйноце тры пёры стравуса, вакол тарчы намёт з лісця і ініцыялы па колу, якія чытаюцца злева направа і зверху ўніз: “*А[лександр] О[кгинский] Х[оружий] В[еликого] К[нязства] Л[итовского] Н[адворный] Р[огачевский] Д[орсунишский] С[тароста]*”[207].

Такім чынам, гербававы родавы знак князёў Агінскіх стваральнікамі радаводных версій быў “*прачытаны*” ў рэчышчы сваіх рэлігійных уяўленняў і летапісных звестак. Але, на самой справе вытокі герба роду князёў Агінскіх ляжаць ў клейнавых напячаткавых выявах князёў Глушонкаў, у прыватнасці, князя ***Івана Іванавіча Глушонка*** (1499 г.), брата родапачынальніка Агінскіх – Дзмітрыя Іванавіча. Пры жаданні ў ім можна ўбачыць даволі блізкае падабенства на старажытныя знакі Рурыкавічаў, але прасачыць іх генетычную сувязь сёння не ўяўляецца магчымым. Відавочна адное – князі Агінскія ў сваім знаку пайшлі па шляху спрашчэння родавага кляйна, што вынікае з пячаткаў сына князя Багдана Дзмітравіча Глушонка – ***Мацвея Багданавіча Агінскага***, датаваных 1555 і 1556 г.[208] Менавіта, згаданая форма гербавага знаку замацавалася ў родзе, пра што сведчыць геральдычна-сфрагістычны матэрыял XVI–XVIII ст.:



**(1). Іван Іванавіч Глушонак**, князь, 1499 г.

**Выява**: у полі пячаткі клейнавы знак накшталт дзвух упісаных адная ў другую “*П*”-падобных падстаў з загнутымі ў паўколы канцамі, з унутранай выходзіць доўгі просты крыж, верхні канец якога раздзерты ў котвіцу, надпіс у атоку пячаткі: “+ *ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ИВАНА ИВАНОВ(ича)*”.

**Пячатка**: круглая, Ø 24 мм[209], іншыя характарыстыкі адсутнічаюць.

---

[205] ПСРЛ. Т.35. С.25.

[206] Tereškinas A. Imperfect communities. P.206.

[207] Цітоў А. Геральдыка Беларусі. Мн.: МФЦП, 2007. С.44.

[208] Однороженко О. Руські королівські, господарські та князівські печатки... С.146, 290-291. № 518-519.

**Друк**: Однороженко О. *Руські королівські, господарські та князівські печатки XIII–XVI ст*. Харків, 2009. Т.ІІ. С.290. № 513.

Пячатка князя Івана Іванавіча Глушонка 1499 г. дэманструе яго клейнавы знак яшчэ без слядоў геральдызацыі. З другога боку відаць генетычная блізкасць напячаткавага знаку Івана з гербавай выявай князёў Агінскіх – нашчадкаў яго брата Дзмітрыя Іванавіча Глушонка.

**(2). Мацвей Багданавіч Агінскі**, князь, 1555 г.

**Герб**: на картушовай тарчы клейнавы знак накшталт "*П*"-падобнай падставы з загнутымі ў паўколы канцамі, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом, над тарчай галінка з сям'ю адросткамі, па баках якой ініцыялы: "*M[atwiej]*" || "*B[ohdanowicz]*".



**Пячатка**: авальная, 16×18 мм[210], іншыя характарыстыкі адсутнічаюць.

**Друк**: Однороженко О. *Руські королівські, господарські та князівські печатки XIII–XVI ст*. Харків, 2009. Т.ІІ. С.290. № 518.

Апублікаваная ўкраінскім даследчыкам Алегам Аднарожанкам гербавая пячатка князя Мацвея Багданавіча Агінскага сведчыць пра той кшталт геральдычнай выявы, які пазней замацаваўся ў яго нашчадкаў. Ініцыялы на ёй "*MB*" яскрава фіксуюць час замацавання ва ўладальніка родавага прозвішча "*Агінскі*" – сярэдзіна XVI ст. Мацвей Багданавіч ужо стала ім карыстаўся, таксама як і княжацкім тытулам[211].

Разам з тым, няма надзейных згадак пра тое, што ён пісаўся "*з Казельска*", як таго хоча Войцах Каяловіч: "*Maciey kniaź Ogiński z Kozielska łowczy w.x.L. ciwun Wileński...*"[212]. Памыліўся апошні і ў пасадах Мацвея. Не быў ён лоўчым ВКЛ[213]. Дакладна вядома толькі, што ў 1553 г. Мацвей Багданавіч быў наместнікам ковенскага старосты Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча[214].

Невядома на які дакумент абапіраўся Анатоль Грыцкевіч пры ўказанні на 1547 г. як пачатак выкарыстання Агінскімі прыдомку "*з Казельска*"[215]. Калі гэта быў згаданы вышэй універсал Жыгімонта Аўгуста "*князю Федору зъ Козельска Окгинскому*"[216] ад 1 красавіка 1547 г., то ён быў падробкай, выкрытай яшчэ Юзафам Вольфам. Як непаразуменне трэба разглядаць сцьверджанне Сяргея Верамейчыка, што Агінскія пачалі пісацца "*з Казельска*" з 1555 г.[217] Болей падстаў верыць дакладнаму ў гэтым пытанні Юзафу Вольфу[218].

**(3). Агінскі Самуэль Леў Багданавіч**, цівун троцкі, 1641 г.

**Герб**: на тарчы клейнавы знак накшталт "*П*"-падобнай падставы з загнутымі ў бакі канцамі, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом ("*Агінец*"), над тарчай гелм са шляхецкай каронай, у кляйноце тры пёры стравуса, вакол тарчы намёт, па баках кляйноту ініцыялы: "*I[an]*" || "*O[giński]*".

---

209 Однороженко О. Руські королівські, господарські та князівські печатки XIII-XVI ст. Харків, 2009. Т.ІІ. С.145, 290. № 513.

210 Однороженко О. Руські королівські, господарські та князівські печатки... С.146. № 518.

211 Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.293.

212 Kojałowicz W. Compendium. S.189.

213 Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV-XVIII wieku. Spisy. Oprac. H.Lulewicz, A.Rachuba. Kórnik, 1994. S.66.

214 Urzędnicy Wielkiego księstwa Litewskiego. Spisy. Województwo Trockie XIV–XVIII wiek. Pod red. A.Rachuby. Opr. H.Lulewicz, A.Rachuba, P.P.Romaniuk, A.Haratym. Przy współpr. A.Macuka i J.Aniszczanki. Warszawa, 2009. T.II. S.404, 433.

215 Грыцкевіч А. Агінскія // ВКЛЭ. Т.1. С.202.

216 АВАК. Вильна, 1886. Т.XIII. С.25.

217 Верамейчык С. Міхал Клеафас Агінскі, 1765–1833: Продкі, жыццё ў Залессі, нашчадкі (спроба храналогіі). Мн.: ВТАА "Кавалер Паблішэрс", 2003. С.17.

218 Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.293.

**Пячатка**: адбітак, выразаная ў аркушы кустодзея, захаванасць добрая, 15х16 мм[219].
**Друк**: упершыню.

2 лютага 1641 г. у Віцебску Самуэль Агінскі разам з жонкай Сафіяй Бялевіч выдаў пад такой пячаткай свой касацыйны ліст. Падпісаўся па-польску: "*Samuel Oginski ciwun Trocki*". Сярод сведкаў падпісаліся таксама: Язафат Палаўко, полацкі ігумен, іераманах Елісей, маркаўскі ігумен і Ян Пыпка Ахацінскі.

Несупадзенне ініяцыяла "*Г*" на пячатцы з імёнамі Самуэля Льва Агінскага дазваляе думаць, што ён для свайго ліста выкарыстаў або чужы штэмпель, або падрыхтаваны раней бланк з адбіткам не сваёй пячаткі. Але чыя гэта магла быць пячатка? На нашу думку, найбольш верагодным уладальнікам апошняй з'яўляецца памерлы ў 1640 г. без нашчадкаў родны брат Самуэля мсціслаўскі кашталян ***Ян Багданавіч Агінскі***[220]. Іншую яго пячатку з дакумента ад 1614 г. апісаў украінскі геральдыст Алег Аднарожанка. Як вынікае з яго апісання герб не меў на той пячатцы кляйнота[221]. У сувязі з апошнім, адзначым, што ў друкаваным намі тут поўным гербе Яна Багданавіча Агінскага адсутнічаюць якія-небудзь княжацкія геральдычныя элементы.



Што датычыць герба Самуэля Льва Агінскага, то ён захаваўся на яго магільным саркафагу ў царкве ў Кронях (цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі): тарча падзелена на чатыры часткі, у 1-ай клейнавы знак накшталт нізкай "*П*"-падобнай падставы, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом (родавы), у 2-ой – два наканечнікі стрэлаў вастрыямі ўверх і ўніз, якія датыкаюцца канцамі (герб "*Багорыя*" маці Раіны Грыгораўны Валовіч), у 3-яй – месяц рагамі ўверх, паміж імі шасціпраменная зорка (герб "*Ляліва*" бабкі па бацьку Кацярыны Іванаўны Юрлоўны), у 4-ай – тры ўсечаныя ўрубы, якія змяншаюцца зверху ўніз (герб "*Карчак*" невядомай бабкі па маці), над тарчай закратаваны гелм са шляхецкай каронай, у кляйноце тры пёры стравуса, вакол тарчы намёт з лісця і ініцыялы па колу: "*S[amuel]L[eon]O[giński] C[iwin]T[rocki] D[zierżawca]K[ormiałowski] I M[?]*"[222]. Як бачна, яго асабісты складаны герб быў падобны на той, якім карыстаўся яго родны брат Аляксандр Багданавіч Агінскі.

**(4). Агінскі Марцыян Аляксандр з Казельска**, ваявода троцкі, староста радашкоўскі, мсцібогаўскі, рагачоўскі, дарсунішскі і сідрычынскі, 1675 г.




**Герб**: авальная картушовая тарча падзелена на пяць частак, у 1-ай у цэнтры на шчыце клейнавы знак накшталт нізкай "*П*"-падобнай падставы, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом ("*Агінец*"), у 2-ой – арол з раскіданымі крыламі, на грудзях якога падкова канцамі дагары з простым крыжам паміж імі, у 3-яй – два наканечнікі стрэлаў вастрыямі ўверх і ўніз, якія датыкаюцца канцамі ("*Багорыя*"), у 4-ай – падвойны крыжастрэл ("*Ліс*"), у 5-ай – месяц рагамі ўверх, паміж імі шасціпраменная зорка ("*Ляліва*"), над тарчай тры гелмы са шляхецкімі каронамі, у кляйноце сярэдняга тры пёры стравуса, правага – хвост паўліна, на тле якога арол з узнятымі крыламі трымае ў левай лапе падкову канцамі дагары з крыжам паміж імі, левага – паўлін трымае ў дзюбе пераламаную пасярэдзіне стралу, вакол тарчы намёт, надпіс у атоку: "+ *MARTIAN Z KOZIELSKA OGINSKI PALATIN TROCKI RADO: MSCIBO: DORS: ROHA: CA*".
**Пячатка:** адбітак, паміжаркушная кустодзея, захаванасць добрая, 40х45 мм[223].
**Друк**: Шаланда А. *Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой*

[219] НГАБ у Менску. Ф.694. Воп.4. Спр.954. Ч.І. Арк.173.
[220] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.297-298.
[221] Однороженко О. Руські королівські, господарські та князівські печатки...С.146. № 520.
[222] Matušakaitė M. Išėjusiems atminti. Laidosena ir kapų ženklinimas LDK. Vilnius, 2009. Nr 156.
[223] НГАБ у Горадні. Ф.128. Воп.1. Спр.13. Арк.3.

*палове XVI–XVIII ст. (А).*// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2. С.8.

24 верасня 1675 г. у Росі Марцыян Аляксандр Агінскі, ваявода троцкі выдаў падцвярджальны ліст Андрэю Станіславу Шышмановічу, генералу Ваўкавыскага павета на пажыццёвае валоданне 2 валокамі грунту ў маёнтку Рось. Падпісаўся: “*Marcian Oginsky wda Trocky mp*”.

Марцыян Аляксандр Агінскі (*1632 г., † 26 студзеня 1690 г.) быў сынам Аляксандра, ваяводы менскага і Кацярыны з Палубінскіх. У 1-м полі яго асабістага герба быў родавы “*Агінец*”, у 2-м – герб маці “*Ястрабец*” зменены, у 3-м – герб бабкі Раіны (Рэгіны) Валовіч “*Багорыя*”, у 4-м – герб “*Ліс*” бабкі па маці Зоф’і Сапегі. Па правілах у 5-м полі выява месяца з зоркай (“*Ляліва*”) павінна была належаць да прабабкі па бацьку. Ёю была Кацярына Іванаўна Юрлоўна[224]. Сярэдні кляйнот – тры пёры стравуса – адпавядаў родаваму гербу Агінскіх, правы – гербу маці з Палубінскіх, левы – гербу бабкі з Валовічаў.

15 мая 1684 г. Марцыян Аляксандр Агінскі стаў канцлерам ВКЛ. Вядомы тым, што ў 1686 г., як прадстаўнік ВКЛ, падпісаў мірны дагавор Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Герб “*Агінец*” канцлера Марцыяна Аляксандра Агінскага быў змешчаны нават на вялікай пячатцы ВКЛ, вырабленай у тым жа годзе спецыяльна для падпісання “*трактата Грымултоўскага*”[225]. Ён не ўжываў княжацкага тытулу, затое пісаўся з 1684 г. па сваёй жонцы Марцыбэле Ганне Глябовіч “*графам на Дуброўне*”[226]. Не называў яго князем і Войцах Каяловіч[227]. Тым не меней, на фрэсцы з партрэтам Марцыяна Аляксандра Агінскага ў касцёле ў Рыконтах у яго гербе замест гелму з каронай і кляйнотам была намалявана ўжо княжацкая мітра, а ў чырвоным полі тарчы была пададзена выява “*брамы*” залатога колеру[228]. Гэта былі першапачатковыя гербавыя колеры Агінскіх, бо ў першай палове XVIII ст. яны былі зменены, як адзначыў вышэй у сваім гербоўніку Каспар Нясецкі.

Вядома таксама яшчэ адная гербавая пячатка Марцыяна Аляксандра Агінскага, якой ён карыстаўся ў 1685 г.:

**(5). Агінскі Марцыян Аляксандр з Казельска**, ваявода троцкі, 1685 г.




**Герб**: на авальнай тарчы клейнавы знак накшталт “*П*”-падобнай падставы на выгнутых ножках з вострымі канцамі, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом (“*Агінец*”), над тарчай княжацкая мітра, вакол герба дзве галінкі, звязаныя пад тарчай, па баках мітры ініцыялы: “*M[arcyan]*” || “*O[giński]*”, унізе каля перавязаных канцоў галінак: “*W[ojewoda]*” || “*T[rocki]*”.

**Пячатка**: авальная, 16×18 мм[229], іншыя характарыстыкі адсутнічаюць.

**Друк**: Однороженко О. *Руські королівські, господарські та князівські печатки XIII–XVI ст*. Харків, 2009. Т.ІІ. С.291. № 522.

На прыкладзе пячатак троцкага ваяводы Марцыяна Аляксандра Агінскага добра відаць як адбываўся ў яго гербах праз замену гелму з каронай і кляйнотам на мітру пераход ад “*шляхецкай*” традыцыі да княжацкай. Звернем ўвагу яшчэ на кшталт самой мітры – яна падаецца без крыжа на кулі наверсе аксамітнай шапкі, што было цалкам у геральдычных традыцыях ВКЛ.

[224] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.293.
[225] Gumowski M. Pieczęcie królów polskich. Kraków, 1910. S.64.
[226] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.300-301.
[227] Kojałowicz W. Compendium. S.189.
[228] Matušakaitė M. Išėjusiems atminti. Nr 281.
[229] Однороженко О. Руські королівські, господарські та князівські печатки... С.147. № 522.

**(6). Агінскі Грыгоры Антоні з Казельска**, харужы вялікі ВКЛ, староста судовы ваўкавыскі, 1691 г.
**Герб**: тарча падзелена на пяць частак, у 1-ай у цэнтры на шчыце выява зацертая, у 2-ой – клейнавы знак накшталт літары "*M*", з якой выходзіць доўгі просты крыж, у 3-яй – два наканечнікі стрэлаў вастрыямі ўверх і ўніз ("*Багорыя*"), у 4-ай і 5-ай – выявы зацертыя, над тарчай шляхецкая карона, па баках тарчы дзве галінкі, надпіс у атоку: "* *HR[EHORY] ANTONI OGINSKI ... ... ... [WOŁ]KOWISKI ~*".
**Пячатка**: адбітак на паперы, захаванасць кепская, Ø 43 мм[230].
**Друк**: Шаланда А. *Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVIII ст. (Б).*// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 3–4. С.91.

30 студзеня 1691 г. у Ваўкавыску пячатка ад імя Грыгорыя Антонія з Казельска Агінскага, харужага вялікага ВКЛ, старосты ваўкавыскага была прыкладзена да позвы ў ваўкавыскі земскі суд Станіславу Яну Млоцкаму, войскаму закрачымскаму і яго жонцы Крысціне Янаўне Трызнянцы, старасцянцы ваўкавыскай, N Русецкаму, кашталянічу ваяводства Менскага і яго жонцы Ганне Янаўне Трызнянцы, старасцянцы ваўкавыскай, былой Генрыкавай Райскай, Пятру Пякарскаму, мечніку Берасцейскага ваяводства і айцу Ўладзіславу Сушыцкаму па скарзе Пятра Ваўка і яго жонкі Зоф'і Дамаслаўскай. Падпісаў позву Крыштаф Алендскі, пісар земскі ваўкавыскі: "*Крыштоф Оленъдский писар*".




Грыгоры Антоні Агінскі († 17 кастрычніка 1709 г.) быў сынам Яна, харужага (1650 г.) і маршалка ваўкавыскага (1657 г.), пісара польнага ВКЛ (1668 г.), ваяводы мсціслаўскага (1672 г.), ваяводы полацкага і гетмана польнага ВКЛ (1682 г.) і Ганны з Сямашкаў. У цэнтры на шчыце ў 1-м полі яго асабістага герба павінен быць родавы "*Агінец*", у 2-м – герб уласны маці з роду Сямашкаў, у 3-м – герб прабабкі па бацьку Раіны Валовіч "*Багорыя*", у 4-м і 5-м, на нашу думку, павінны быць гербы: ўласны "*Магіла*" бабкі па бацьку Зоф'і Білевіч і "*Карыбут*" бабкі па маці княжны Аляксандры Варанецкай. Аднак, магчыма, замест апошняга мог быць і герб "*Пагоня*" жонкі княжны Тэклі ці Тэафілы Чартарыйскай[231]. У такім выпадку было б зразумелым размяшчэнне гербу прабабкі па бацьку ў 3-м полі.

Найбольш цікавы элемент герба Грыгорыя Антонія з Казельска Агінскага – карона. Як бачна, гэта яшчэ не княжацкая мітра, але ўжо і не простая шляхецкая карона. Болей падстаў бачыць у ёй адную з разнавіднасцяў графскіх каронаў у ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Але няма звестак аб валоданні Грыгорыем Антоніем Агінскім графскім тытулам. Не карыстаўся ён і тытулам князя[232]. Як бы там не было, але такі кшталт кароны выдае высокія амбіцыі ўладальніка герба, які быў думны са свайго паходжання.

**(7). Агінскі Марцыян Міхал з Казельска**, ваявода віцебскі, маршалак Генеральнай канфедэрацыі правінцыі ВКЛ, барысаўскі, перавальскі, вярбоўскі староста, 1734 г.
**Герб**: на авальнай картушовай тарчы клейнавы знак накшталт "*П*"-падобнай падставы на выгнутых ножках з вострымі канцамі, на якой стаіць просты крыж з раздзёртым у котвіцу верхнім канцом ("*Агінец*"), тарча ляжыць на княжацкім плашчы пад княжацкай мітрай.
**Пячатка**: адбітак № 1, чырвоны сургуч, захаванасць выдатная, 25x26 мм[233].
**Друк**: Шаланда А. *Сапраўдны гербоўнік шляхты Ваўкавыскага павета ВКЛ у другой палове XVI–XVIII ст. (А).*// Герольд Litherland. Горадня, 2004. № 1–2. С.9.

---

[230] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.511. Арк.1 адв.
[231] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.295, 305, 309.
[232] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.309.
[233] НГАБ у Горадні. Ф.1664. Воп.1. Спр.594. Арк.1.

10 жніўня 1734 г. у абозе на Ваўкавышчыне Марцыян Міхал Агінскі, маршалак Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ і Антоні Пацей, стражнік вялікі і генеральны войскаў ВКЛ выдалі ліст, паводле якога маёнтак Лыскаў ксяндза Яна Быхаўца, каноніка віленскага, плябана лыскоўскага, пробашча воўпенскага вызваляўся ад усіх жаўнерскіх пабораў. Падпісаўся: "*Marcian Oginski wda Wbski Marszałek Gen Konfed WXLitt*".



Марцыян Міхал Агінскі (*1672 г., † 2 красавіка 1750 г.) быў сынам Шымана Караля Агінскага, мечніка ВКЛ, падкаморыя віцебскага і Тэадоры з Корсакаў. У сваю чаргу Шыман Караль прыходзіўся згаданаму вышэй Марцыяну Аляксандру Агінскаму, ваяводзе троцкаму і канцлеру ВКЛ стрыечным братам[234]. Адзначым, што Марцыян Міхал Агінскі, нягледзячы на наяўнасць ужо ўсіх патрэбных атрыбутаў у сваім гербе, яшчэ не ўжываў княжацкага тытулу[235].

Такім чынам, прадстаўлены геральдычна-сфрагістычны матэрыял князёў Агінскіх выдатна ілюструе эвалюцыю ў XVI–XVIII ст. іх княжацкага клейнавага знака ў герб. Можна вылучыць тры асноўныя этапы гэтага працэса геральдызацыі:

- ***канец XV–першая палова XVI ст.*** – замацаванне ў князёў Глушонкаў і іх нашчадкаў – Агінскіх – у якасці гербавай выявы спрошчанай формы родавага кляйна; першая фаза геральдызацыі – размяшчэнне клейнавага знаку на геральдычнай тарчы;
- ***другая палова XVI–першая палова XVII ст.*** – набыццё гербавай выявай спадчыннасці, спробы яе тлумачэння праз натуралізацыю і міфалагізацыю (расшыфроўка знаку спачатку як Святога Крыжа, а пазней – як "*брамы*", стварэнне на падставе старажытнарускіх звестак беларуска-літоўскіх летапісаў гербавага міфа і набыццё гербам назвы "*Агінец*"); другая фаза геральдызацыі (набыццё кляйноту ў выглядзе трох пёраў стравуса, першая колеравая расфарбоўка: чырвонае поле, залатая выява); час функцыянавання "*северскай*" версіі паходжання князёў Агінскіх – "*з Казельска*";
- ***другая палова XVII–XVIII ст***. – замацаванне гербавай легенды ў свядомасці як уладальнікаў (дадатак да прозвішча "*з Казельска*" становіцца сталым), так і сучаснікаў ("*брама Агінскіх*" становіцца ўстойлівым зваротам у тагачаснай літаратуры); трэцяя фаза геральдызацыі (набыццё геральдычных княжацкіх атрыбутаў – мітры і плашча, другая колеравая расфарбоўка: поле тарчы блакітнае, выява "*брамы*" чырвона-срэбраная); час функцыянавання "*кіеўскай*" версіі радаводу князёў Агінскіх – ад кіеўскага князя Ўладзіміра Вялікага.

---

[234] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.304, 322.
[235] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S.322-323.

**Герман Брэгер**
**(Менск)**

# МАЯНТКОВА-ГЕНЕАЛАГІЧНЫЯ ДАКУМЕНТЫ Ў КНІГАХ ВІЛЕНСКАГА ЗАМКАВАГА ЎРАДА 1542-1566 г., ЗАХАВАНЫЯ Ў СКЛАДЗЕ МЕТРЫКІ ВКЛ

Дакументы маянткова-генеалагічнага характару, г.зн. дакументацыя і справаводства, дзе апавядаецца гісторыя пэўных маянтковых уладанняў і правоў уласнасці на іх прадстаўнікоў шляхецкага стану, а таксама генеалагічныя распрацоўкі шляхецкіх родаў для доказу шляхетнага паходжання на падставе пэўнага шэрагу архіўных крыніц і збораў былі распаўсюджаны даволі шырока ў часы ВКЛ у XVI-XVIII ст., а таксама на землях былога ВКЛ у часы Расійскай Імперыі ў канцы XVIII-XIX ст. Такога рода крыніцы ў разнастайных кірунках натарыяльна-судовага справаводства ў шырокім прамежку часу ў кантэксце розных эпох патрабуюць асобнага грунтоўнага даследавання, асабліва ў частцы гісторыка-прававой і маянтковай дакументацыі. Крыніцазнаўчы аспект генеалагічнай навукі ўжо даўно распрацоўваецца ў свеце, у тым ліку і беларускімі даследчыкамі, аднак вывучэнне крыніц з тэрыторыі былога ВКЛ у асноўным абмяжоўваецца перыядам Расійскай Імперыі, г. зн. так званым “*разборам былой польскай шляхты*”.

Дакументальныя крыніцы маянткова-генеалагічнага характару даволі шырока выкарыстоўваюцца ў гістарычных даследаваннях, аднак навуковы разгляд гэтай дакументацыі, створанай ў часы ВКЛ, практычна не праводзіўся. У дадзеным артыкуле мы паспрабуем намеціць гэтую праблему на прыкладзе дастаткова ранніх для гэтага кшталту дакументаў у складзе аднаго з архіўных комплексаў.

Выбраны архіўны комплекс не выпадковы – ён унікальны ў сваім родзе сярод захаваных і дастаткова глыбока прапрацаваны аўтарам у межах сваёй навуковай тэмы. Захаваны фрагмент Архіва Віленскага замкавага ўрада (або Віленскага ваяводства і замка), які існаваў перад увядзеннем ІІ Статута ВКЛ 1566 г., дайшоў да нашага часу толькі дзякуючы свайму размяшчэнню на захоўванне ў Архіве Канцылярыі ВКЛ (Метрыцы ВКЛ). Прычыны гэтага размяшчэння не высветлены канчаткова, можна толькі меркаваць, што кнігі Віленскага ўраду перыяда віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага (1551–1565 г.) захоўваліся разам з бягучым справаводствам вялікакняскай канцылярыі часу яго канцлерства і разам былі здадзены ў Архіў Канцылярыі ВКЛ пасля яго смерці. Непасрэдна да гэтай перадачы мог спрычыніцца дворны маршалак, земскі падскарбі і пісар ВКЛ Астафей Багданавіч Валовіч, які пасля смерці ваяводы з ліпеня 1565 па сакавік 1566 г. выконваў абавязкі спраўцы Віленскага ваяводства. Як пісар ВКЛ ён заведваў часткай справаводства Канцылярыі, а ў сакавіку 1566 г., склаўшы з сябе абавязкі спраўцы Віленскага ваяводства (з прызначэннем віленскім ваяводай Мікалая Радзівіла Рудога), атрымаў ад караля і вялікага князя літоўскага новаўтвораны ўрад падканцлера ВКЛ, што дазваляе патлумачыць перамяшчэнні згаданых архіваў. Таксама, верагодна, захаванню радзівілаўскай часткі архіва Віленскага ўрада пры Метрыцы ВКЛ мог паспрыяць і Матыс Савіцкі, які быў пісарам нябожчыка віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага непасрэдна пры яго канцылярыі (бо былі пісары ваяводы, якія падпісвалі дакументы канцылярыі *“суддзяў высажоных ваяводай на віленскі ўрад*”), які атрымаў каралеўскі прывілей на пісарства ВКЛ адначасова з падканцлерствам Астафея Багданавіча Валовіча. Кнігі папярэдніх віленскіх ваяводаў, прынамсі, Яна Юр’евіча Глябовіча (1542-1549 г.), ужо дакладна вядома, захоўваліся ў Архіве Скарба ВКЛ і загінулі разам з усім скарбавым архівам пры штурме Вільні маскоўскімі войскамі ў жніўні 1655 г.

У складзе Метрыкі ВКЛ (РДАСА, ф.389 (арыгіналы), НГАБ у Менску, ф.КМФ-18 (мікрафільмы)) захаваліся 22 актавыя кнігі Віленскага ўрада за 1542, 1546-1566 г. (справа 259 (Суд.45) за 1561-1566 г., пазначаная ў “*Описании книг и актов Литовской Метрики*”

Станіслава Пташыцкага як “*Кніга Віленскага гродскага суда*”, з’яўляецца кнігай урада дворнага маршалка Астафея Багданавіча Валовіча). Сярод іх тры кнігі віленскага ваяводы Яна Юр’евіча Глябовіча за 1542, 1546-1549 г. (якія патрапілі ў Метрыку ВКЛ, верагодна, дзякуючы Астафею Багданавічу Валовічу, які быў пісарам Віленскага ўрада пры Глябовічу), дзве кнігі спраўцы Віленскага ваяводства Івана Гарнастая, земскага падскарбія ВКЛ, за 1549-1551 г., які мог пакінуць іх у Метрыцы ВКЛ, бо да сваёй смерці спраўваваў урад пісара ВКЛ, і астатнія – кнігі ўрада віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага і ўрада яго “*суддзяў высажоных*” за 1551-1565 г. з дапіскамі ўрада віленскага спраўцы Астафея Багданавіча Валовіча і яго суддзяў за 1565-1566 г. (у тым ліку дзве кнігі Віленскай замкавай юрыздыкі ўрада віленскага намесніка). У Літве вывучэннем гісторыі і функцыянавання Віленскага замкавага суда дарэформеннага перыяда таксама займаюцца вядомыя даследчыцы Юрата Кяўпене і Раймонда Рагаўскене, а выданнем судовых кніг Метрыкі ВКЛ, у тым ліку і кніг Віленскага ўрада – Ірэна Валіканітэ і іншыя[236].

Унікальнасць разглядаемых крыніц абумоўлена найперш дастаткова раннім перыядам іх стварэння, у часы фармавання судовай сістэмы ВКЛ, а таксама тым, што да 1566 г., г.зн. да судова-адміністрацыйнай рэформы ў ВКЛ і пачатку дзеяння справаводства паводле прынятага II Статута ВКЛ, захаваліся, па сутнасці, толькі два асноўныя архіўныя комплексы дзяржаўных установ ВКЛ – Метрыка ВКЛ, у разнародны склад якой акрамя дакументацыі вялікакняскай канцылярыі (дзейнасці як самога вялікага князя, так і паноў-рады і асобных маршалкаў, выступаўшых ад імя і па загаду вялікага князя) уваходзяць асобныя кнігі ўрадаў канцлераў, земскіх і дворных маршалкаў ВКЛ, ураду сталовых маёнткаў каралевы Боны, а таксама асобныя дакументы дзейнасці гаспадарскіх маршалкаў і іншых дворныхураднікаў, і вышэй згаданы фрагмент архіва Віленскага ўрада. Архівы іншых ваяводскіх і мясцовых дзяржаўных адміністрацыйна-судовых утварэнняў гэтага часу практычна не захаваліся, за выключэннем адзінкавых кніг і дакументаў (напрыклад, дзве кнігі віцебскага і полацкага ваяводаў – захоўваюцца ў складзе Метрыкі ВКЛ, фрагменты справаводства навагародскага ваяводы Івана Гарнастая і берасцейскага старосты Астафея Багданавіча Валовіча – у кнігах Віленскага ўрада, апублікаваныя ў XIX ст. кнігі Гарадзенскіх замкавага і земскага судоў і Слонімскага земскага суда).

Дакументы маянткова-генеалагічнага характару да 1566 г. трапляюцца ў першую чаргу ў кнігах цэнтральных органаў улады – Канцылярыі ВКЛ (Метрыцы ВКЛ), як асноўнай крыніцы па вывучэнню таго часу. Але ў дадзенай публікацыі разгледзім вывучаемыя дакументы, захаваныя ў складзе канцылярыі мясцовай улады сярэдняга звяна – віленскага ваяводы і яго “*суддзяў высажоных*”, якія былі судом першай інстанцыі для значнай часткі гаспадарскіх зямян і баяр Віленскага ваяводства (павета). На прыкладзе некалькіх самых яскравых дакументаў вызначым іх тыпалогію, апішам гісторыю згадваемых паселішчаў і іх уладальнікаў, акрэслім іх генеалагічныя сувязі і паспрабуем высветліць, наколькі магчыма, як рэтраспектыўная гісторыя, апісаная ў тых дакументах, і звязаныя з ёй людзі асветлены ў захаваных дакументах таго часу.

Апісваемыя дакументы маянткова-генеалагічнага характару можна падзяліць на дзве асноўныя групы: 1) натарыяльна-апавядальныя дакументы (вячыстыя запісы здзелак (дар, продаж і інш.) і апавяданні перад урадам аб пэўных абавязацельствах і намерах); 2)

---

[236] Кяупене, Ю. Книги Вильнюского замкового суда XVI в. в составе Литовской Метрики. – Lietuvos Metrika. 1588 metų tyrinėjimai, sudarė E.Banionis, Z.Kiaupa, Vilnius, 1992, p.71-84; Kiaupienė, J. Vilniaus vietininko Stanislovo Hamšėjaus 1559-1564 m. teismo knygos. – Lietuvos miestų istorijos šaltiniai, sudarė Z.Kiaupa, E.Rimša, Vilnius, 1992, p.61-75; Kiaupienė, J. XVI a. ikireforminio Vilniaus pilies teismo knygos-kopijos Lietuvos Metrikoje. Struktūrinė ir informacinė analizė. – Lietuvos Metrika. 1991-1996 metų tyrinėjimai, sudarė Z.Kiaupa, A.Urbanavičius, Vilnius, 1998, p.36-92; Ragauskienė, R. XVI a. ikireforminio Vilniaus pilies teismo raštininko ir Lietuvos Metrikos metrikanto karjera: Motiejaus Savickio (apie 1530 – apie 1581) atvejis. – Inveniens quero. Ieškoti, rasti, nenurimti, sudarė G.Blažienė, S.Grigaravičiūtė, A.Ragauskas, Vilnius, 2011, p. 566-584; Ragauskienė, R. Vilniaus vietininkai ikireforminiame Vilniaus pilies teisme 1542-1566 m.: nuo Luko Bezskio iki Stanislovo Hamšėjaus. – Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės istorijos kraštovaizdis, sudarytoja R.Šmigelskytė-Stukienė, Vilnius, 2011, p.463-481.

судова-працэсуальныя дакументы (дэкрэты, скаргі, апавяданні аб здарэннях). Часам інфармацыя аб пэўных падзеях і людзях утрымліваецца ў дакументах абедзьвюх груп.

**Група 1. Натарыяльна-апавядальныя дакументы.**

**Род Калатоўкаў.** Валькініцкі (алькеніцкі) і ляпунскі харужы Іван Іванавіч Савіч-Рызгорскі, некалі ажаніўшыся з Зофіяй Мацкевічаўнай, дачкой валькініцкага і ляпунскага дзяржаўцы Андрэя Мацкевіча, у адказ за яе выправу 200 коп грошаў запісаў ёй з савітасцю 400 коп грошаў, забяспечаныя на трэцяй частцы ўсіх сваіх айчызных, мацярызных, купленых і выслужаных маёнткаў. Значна пазней, пазбягаючы цяжкасцяў для дзяцей выдзелу, на выпадак сваёй смерці, для іх маці трэцяй часткі ад усіх маёнткаў, ён лістом ад 10 ліпеня 1556 г. перанёс і забяспечыў згаданую вяноўную суму на адным сваім маёнтку Рызгора (Рызгоры)[237], які знаходзіцца ў мілі ад мястэчка Быстрыца Віленскага павета[238].

У сваім запісе жонцы ў абгрунтаванне свайго неаспрэчнага валодання маёнткам ён даў апісанне гісторыі правапераемнасці гэтай уласнасці, што з'яўляецца даволі рэдкай з'явай для такога рода дакументаў у той час. Іван Савіч аддзедзічыў чацвертую частку Рызгораў па смерці сваёй маці Зофеі Багданаўны Калатоўчыча[239], а астатнія тры часткі набыў у яе трох сясцёр, сваіх цётак – Паланеі з яе дачкой Настассяй Багданаўнай, а таксама незамужніх Настассі і Зосі Калатаўянак[240]. Некалі прадзед Івана Савіча па мацярынскай лініі Міхайла Шамакавіч Калатоўка выслужыў маёнтак Рызгора, можна меркаваць, у караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча, хоць у дакуменце наўпрост не называецца імя надаўцы, недзе ў сярэдзіне XV ст. На карысць надання маёнтка менавіта вялікім князем гаворыць геаграфічная прывязка паселішча да гаспадарскай Быстрыцы, землі якой у XV-XVI ст. займалі даволі разлеглыя тэрыторыі і за ракой Віліяй. Аднак ёсць ускосныя звесткі аб службе Багдана Калатоўкі уплывоваму роду XV ст. Доўгердавічаў, уласнікам навакольных латыфундый Свіраны, Варняны і Лынтупы (гл. ніжэй). Наступным уласнікам Рызгоры быў сын згаданага Міхайлы Калатоўкі Багдан Міхайлавіч Калатоўка, а па яго смерці – адзіны сын апошняга Дарамен. Як сказана ў дакуменце, маёнтак дастаўся маці Івана Савіча Зофеі і яе сёстрам па смерці іх бацькі Багдана Міхайлавіча Калатоўкі, а таксама па нябожчыку іх брату Дарамену "*по пустой руце*", г.зн. па памерламу бяздзетна. Дакладна прасачыць парадак спадчыннасці ад Багдана і Дарамена да сясцёр апошняга немагчыма, бо не вядома, хто калі паміраў. Аднак прыведзеная ў дакуменце фраза дазваляе меркаваць, што сёстры па смерці бацькі маглі валодаць невялікай часткай маёнтка (дочкі, не ў залежнасці ад іх колькасці, мелі права толькі на чацвертую частку бацькоўскіх маёнткаў або грашовую кампенсацыю за яе ад братоў, у сваю чаргу мацярынскія маёнткі паміж братамі і сёстрамі дзяліліся пароўну), а толькі па смерці брата Дарамена падзялілі паміж сабой асноўную частку ўладання.

Пра прадстаўнікоў рода Калатовак у Метрыцы ВКЛ адзінкавыя і вельмі кароткія згадкі. Пра Міхала Шамакавіча ўвогуле нічога не ўдалося адшукаць. Багдан Калатоўка згадваецца ў дароўным запісе Ганны Доўгірдаўны для свайго мужа Івана Ілльініча, пацверджаным каралём Казімірам 18 кастрычніка 1481 г.[241] Даслоўна, паміж іншымі ўладаннямі, яна запісала яму трэцюю частку сваёй "*атчызны*", г.зн. двор Лынтупы і "*...дворецъ на имя Едупи и з землею, и з людьми, а земли* ***слугъ своихъ*** *(вылучана – Г.Б.) Станькову а Мацькову, а Жеребилову, а* ***Богданову Колотовъчича*** *(вылучана – Г.Б.), а Миколаеву, а Марькову зъ людьми и з землями, и со всимъ по тому, какъ они держали...*". На карысць таго, што згаданая зямля Багдана Калатоўкі не з'яўляецца Рызгорамі, гаворыць тое, што маёнтак Ядупі знаходзіцца даволі далёка ад Рызгораў (на тэрыторыі

---

[237] Цяпер на тэрыторыі Астравецкага раёна Гарадзенскай вобласці, на беразе ракі Віліі, недалёка ад вёскі Рытань. Драўляны панскі дом 18 ст. знішчаны ў сярэдзіне 1980-х гадоў.

[238] НГАБ у Менску (далей – НГАБ). КМФ-18, воп. 1, спр.252, арк.92 адв.-95. Дакумент актыкаваны 11.07.1556 самім І.І.Савічам.

[239] У дакуменце варыянт напісання прозвішча наступны: **Колонтовчыча**.

[240] У дакуменце варыянт напісання прозвішча наступны: **Колотовъянокъ**.

[241] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4 (1479-1491). Vilnius, 2004, p.111-112, nr.66.

цяперашняга Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці, недалёка ад Лынтупаў), да таго ж, на згаданы час Багдан зямлю ўжо не трымаў (фраза ў дакуменце "*какъ они держали*"), а Рызгоры пажалаваны раней яго бацьку і пераходзілі па спадчыне.

Дарамен Багданавіч згадваецца сярод іншых баяр Віленскага павета ў недатаваным лісце караля Жыгімонта I[242], пісаным да шэрагу паноў і ўраднікаў, у т.л. да анікшценскага дзяржаўцы Юрыя Грыгор'евіча і гаспадарскага крайчага Грыгорыя Грыгор'евіча Осцікавічаў, князя Ждана Аляксандравіча Свірскага і дзяцей нябожчыка князя Міхайлы [Петкавіча] Свірскага, якія былі суседзямі Дарамена. Кароль загадвае панам не забіраць баярскія маёнткі і не прымушаць баяр да службы, бо яны маюць на гэтыя маёнткі лісты (несумненна, гаспадарскія) з правам служыць таму, каму пажадаюць[243]. Тут маецца на ўвазе Дараменаў маёнтак Рызгоры, хоць назвы не фігуруюць у дакуменце, што дадаткова сведчыць аб вялікакняскім наданні Рызгораў. У 1528 г. у войска ВКЛ сярод гаспадарскіх баяр Меміжскага павета Віленскага ваяводства Дарамін Багданавіч выстаўляў са свайго маёнтка аднаго каня[244].

Захаваліся яшчэ два цікавых дакумента Віленскага ўрада, якія дапаўняюць вышэй згаданую інфармацыю – гэта выракі віленскага ваяводы Яна Юр'евіча Глябовіча ад 5 верасня 1542 г. (у Быстрыцы) і 27 верасня 1542 г. (у Вільні, канчатковы) па скарзе ўдавы Дарамена баярыні Віленскага павета Мілохны на баярына таго ж Віленскага павета Івана Савіча (гэта той жа вышэй згаданы Іван Іванавіч Савіч-Рызгорскі)[245]. З дакументаў мы даведваемся, што нябожчык Дарамен запісаў сваёй жонцы Мілохне за яе пасаг 100 копаў грошаў, забяспечыўшы на сваім маёнтку Рызгоры (гэта першая дакументальная згадка паселішча), а перад смерцю тэстаментам абавязаў свайго пляменніка Івана Савіча выплаціць ёй 50 копаў грошай гатоўкай, а рэшту "*шацункомъ*" (г.зн. рухомасцю і нерухомасцю паводле разліку). Улічваючы даволі працяглы тэрмін афармлення дамоваў і судовых працэсаў у той час, можна меркаваць, што Дарамен памёр у 1540 або 1541 г., як мы ведаем, не пакінуўшы дзяцей. Раз Іван Савіч павінен быў разлічыцца з удавой, то ўжо тады ён быў галоўным спадкаемцам нябожчыка, г.зн. яшчэ пры жыцці Дарамена адкупіў у цётак права спадчыны на маёнтак па яго смерці (верагодна, разам з іх невялікімі часткамі). Пасля смерці Дарамена ўдава і Іван заключылі лістовую дамову, па якой Іван адразу выплаціў Мілохне 50 копаў грошаў у лік дзвюх частак Рызгораў, а пазней абавязаўся выдзеліць і паступіць ёй у пажыццёвае валоданне трэцюю частку маёнтка. Па розных прычынах выдзел трэціны маёнтка замарудзіўся, што прывяло да судовых разбіральніцтваў перад віленскім ваяводай. У рэшце рэшт, так як Мілохна адмовілася ад часткі маёнтка, а Іван не адмаўляў свой абавязак, ваявода прысудзіў выплату Іванам Мілохне астатніх 50 копаў грошаў гатоўкай. Таксама ў дакументах ёсць згадка, што маці Івана Савіча яшчэ жыва і жыве не з сынам, а "*на особномъ хлебе мешкаетъ*", г.зн. мае свой двор з зямлёю, відаць, такжа ў Рызгорах (сваёй атчызне).

**Род Лібахонскіх-Плаксічаў.** 2 лютага 1553 г. перад Віленскім урадам з'явіўся служэбнік троцкага ваяводы Мікалая Радзівіла Рудога Грышка Марцінавіч, апавядаючы ад свайго імя і імя сваёй "*браціі*" Івана і Федзькі Андрэевічаў і Багдана Плаксіча аб смерці іх "*брата*" Грышкі Багданавіча Плаксіча і яго жонкі Матруны, у якіх на захаванні знаходзіліся лісты-прывілеі пана Андрэя Доўгірдавіча і яго дачкі княгіні Алены Доўгірдаўны[246]. У сваіх тэстаментах нябожчыкі адпісалі, што перадаюць гэтыя лісты на

[242] Дакумент знаходзіцца паміж лістамі за 30 ліпеня і 4 жніўня 1524 г.
[243] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 14 (1524-1529). Vilnius, 2008, p.185-186, nr.431.
[244] Перапіс войска Вялікага княства літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523 / Кніга публічных спраў 1. Мн.: Беларуская навука, 2003, с.69.
[245] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 230 (1542). Vilnius, 200, p., nr. 30, 36; НГАБ, ф. КМФ 18, воп. 1, спр. 230, арк. 42-43, 50-52 адв.
[246] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 246, арк.14 адв-16 адв. У дакуменце Алена Доўгірдаўна памылкова названа сястрой Андрэя Доўгірдавіча; яна была жонкай князя Петкі (Пятра) Ірыкавіча Свірскага.

захоўванне Бабаедавічу Пятроўскаму[247], баярыну гаспадарскай маршалкавай Юр'евай Осцікавіча. Аднак у яго лістоў не аказалася (нейкім чынам не былі перададзены), таму Грышка Марцінавіч прадставіў ва ўрад копіі гэтых прывілеяў да актыкацыі на выпадак якога здарэння ("*чтоб какой омылки не было*").

Ніжэй апавядання ў дакумент упісаны тэксты згаданых прывілеяў. Першы з іх – ліст Андрэя Доўгірдавіча, дзедзіча Свіранаў[248], пісаны ў 1461 г. (дзень і месяц не пазначаны), якім запісаў навечна свайму слузе Мітку Лібахонскаму з Бранска за яго верную службу маёнтак, г.зн. зямлю Мацееўскую над ракой Страчай[249] з рознымі ўгоддзямі і 10-цю чалавекамі. Пададзена кароткае апісанне межаў гэтай зямлі, згадваюцца тапонімы "*Койлово струнье*", "*Минарев колодезь ку Тищом*", размешчана зямля каля вялікай дарогі Полацкай. Мітка абавязаны быў служыць пану Андрэю да яго смерці, а па яго смерці Мітка і яго нашчадкі мелі права служыць каму заўгодна. Да арыгінала дакумента, які быў хутчэй за ўсё пісаны на пергаміне, была прывешана пячатка Андрэя Доўгірдавіча[250]. Другі ліст – пацверджанне Алены Доўгірдаўны, дзедзічкі Свіранаў, княгіні Петкавай Ірыковіча (Свірскай) сваім баярам-слугам Багдану, Яцку і Марціну Міткавічам на маёнтак на рацэ Страчы з зямлёй Мацееўскай і людзьмі, які выслужыў іх бацька Мітка Лібахонскі з Бранска ў яе брата (так у дакуменце!) нябожчыка Андрэя Доўгірдавіча, з дазволам служыць або яе сынам, або вялікаму князю, або іншым панам. Пісаны гэты дакумент у Свіранах 25 лютага 12 індыкта (1494 г.).

З гэтым родам сітуацыя складаная. Прозвішча Лібахонскі/Любахонскі ў дакументах XV-XVI ст., акрамя вышэй прыведзеных, больш нідзе не сустракаецца. Аднак гэты род вядомы па дакументах XVII-XVIII ст., прадстаўнікі якога валодалі згаданым маёнткам Страча-Мацееўшчына ў XVII ст. і страцілі яго ў XVIII ст. З прыведзеных дакументаў відаць, што Мітка Лібахонскі паходзіў з Бранскага павета, адкуль, як і з іншых памежных з Масквой рэгіёнаў, пад час шматлікіх ваенных канфліктаў між суседнімі дзяржавамі выходзіла мясцовая шляхта ў глыб ВКЛ. Мітка даволі рана, перад 1461 г., збег з Бранска, за гэты час не захаваліся спісы мясцовага баярства (падобныя спісы ёсць у Метрыцы ВКЛ за канец XV – пач. XVI ст.), таму ідэнтыфікаваць яго практычна не магчыма. Можна дапусціць меркаванне, што Мітка паходзіў, звяртаючы ўвагу на яго прозвішча, з Любагошчскай воласці Бранскага павета. Захаваўся ліст вялікага князя Казіміра да бранскага намесніка ад 16 лютага 1499 г. аб пацверджанні гаспадарскаму дваранiну Багдану Калантаеву валодання Любагошчскім даннікам Ілейкам у Бранскім павеце, якога раней Казімер надаў за службу яго брату Васку Калантаеву[251].

Аб Багдане, Яцку і Марціне Міткавічах таксама практычна ніякіх звестак няма. Можна зрабіць толькі пэўныя дапушчальныя меркаванні аб Багдане. 31 сакавіка 1517 г. перад земскім маршалкам Янам Мікалаевічам (Радзівілам) скардзілася Багданавая Плаксіная Багдана на гаспадарскіх баяр Крэўскага павета Грыгорку і Шымку Мікалаевічаў Мельвідовічаў аб перахоўванні яе збеглай нявольнай Агрэніцы. Баяры адказвалі, што Агрэніца іх атчызная і сама да ніх прыбегла. Пад час следства і паказання сведкаў аказалася, што колькі часу таму нябожчык Багдан Плакса, калі быў яшчэ жывы,

[247] Імя ў дакуменце прапушчана. У Нікіфара [Бабаеда] Пятроўскага былі два сыны Ян і Васілій Пятроўскія і дачка Настасся Нікіфараўна Бабаедаўна, замужам за Багданам Іванавічам, якія выступаюць у дакуменце ад 3.01.1564; на гэты час Нікіфар быў ужо нябожчыкам (НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 260, арк. 701адв.-702).

[248] Цяпер вёскі Вялікія і Малыя Свіранкі ў Падольскім сельсавеце Астравецкага раёна Гарадзенскай вобласці.

[249] Хутар Страча-Мацееўшчына, былы фальварак, існаваў да нядаўняга часу ў Міхалішскім сельсавеце Астравецкага раёна.

[250] Выпіс з кніг Ашмянскага земскага суда актыкацыі гэтага прывілея разам з іншымі дакументамі рода Любахонскіх быў захоплены 1 верасня 1655 г. жаўнерамі маскоўскага войска ў ашмянскага зямяніна Станіслава Стэфана Любахонскага, які разам з іншай шляхтай хаваўся ад ваеннай навалы ў Камароўскай пушчы каля Свянцянаў. Пра гэта ён занёс пратэстацыю ў кнігі Ашмянскага гродскага суда 5 жніўня 1656 г. Выпіс пратэстацыі актыкаваны ў Ашмянскім земскім судзе 31 студзеня 1788 г. (НГАБ. Ф. 1776, воп. 1, спр. 6, арк. 316-317 адв.).

[251] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 5 (1427-1506). Vilnius, 2012, p.118-119, nr.193.

быў запрошаны бацькам адказчыкаў Мікалаем Мельвідовічам у якасці суддзі з яго рукі на капу па справе аб зямлі з Івашкам Белым. За гэтую працу Мікалай, не маючы наяўных грошаў, падараваў Багдану туюю Агрэніцу. Каторую ўласнасць на чалядніцу цяперашні суд і пацвердзіў Багданавай Плаксінай[252]. Можна з вялікай верагоднасцю меркаваць, што згаданы ў дакуменце 1553 г. нябожчык Грышка Багданавіч Плаксіч, які захоўваў дакументы сваіх продкаў Лібахонскіх, ёсць сынам Багдана Плаксы, а той, у сваю чаргу, ёсць тым Багданам Міткавічам з дакумента 1494 г., старэйшым сынам Мітка Лібахонскага, па каторай лініі і перадаваліся арыгіналы родавых дакументаў. У попісе войска ВКЛ 1528 г. не ўдалося ідэнтыфікаваць ні ўдаву Багдана Плаксы, ні яго сыноў – згаданага Грышку, які памёр перад 1553 г., і Івана Багданавіча Плаксіча, які фігуруе ў дакументах 1552-1557 г.

Звесткі пра Яцку Міткавіча адшукаць не ўдалося. Марцін Міткавіч фігуруе ў попісе войска ВКЛ 1528 г. сярод баяр Медніцкага павета, якія не маюць людзей (падданых), і абавязаныя самі ехаць на ваенную службу[253]. Улічваючы, што пазнейшыя Плаксічы мелі землі таксама і пад Варнянамі, то яны маглі служыць пад Медніцкай харугвай (Страча-Мацееўшчына тэрытарыяльна падпарадкоўвалася ў той час Мемежскай харугве). Нейкі Грышка Марцінавіч згадваецца сярод гаспадарскіх баяр Віленскага павета ў вышэй цытаваным недатаваным лісце Жыгімонта I (1524 г.)[254], як сусед Дарамена Багданавіча (гл. ***Род Калатоўкаў***). Верагодна, гэта той жа Грышка Марцінавіч, што і ў дакуменце 1553 г., бо падзеі адбываюцца ў адным і тым жа дастаткова вузка акрэсленым рэгіёне. Пад той жа Медніцкай харугвай, як і Марцін Міткавіч, у попісе 1528 г., але сярод баяр-шляхты, што служаць на кані, выступае Грыгорэй Марцінавіч з братамі Якубам і Лаўрэнам на адным кані[255]. Ідэнтыфікацыя яго з нашым Грышкам Марцінавічам пад пытаннем. Аднак нейкі Грыгорэй Марцінавіч выступае ў дакументах у апісваемым рэгіёне: 3 лютага 1549 г. як пан і дзяк падпісаў "*па-руску*" у Свіры дакумент, датычны маёнтка Аймуцяны[256] (суседні са Страчай-Мацееўшчынай, цяпер вёска Вялікая Страча Астравецкага раёна); 20 кастрычніка 1550 г. гаспадарчы зямянін Грыгорэй Марцінавіч быў суддзёй-дзельчым у справе Яна Юр'евіча ў Дубніках (каля Варнянаў)[257]. Грышка Марцінавіч Плаксіч быў забіты ў 1555 г. сваім стрыечным братам Іванам Багданавічам Плаксічам, уласнікам дворца Страцкага, пра што захавалася справаводства ў кнігах Віленскага ўрада[258].

**Група 2. Судова-працэсуальныя дакументы.**

**Род Будзілаў.** 28 верасня 1542 г. перад віленскім ваяводай Янам Юр'евічам Глябовічам явіўся пан Марцін Юр'евіч Шэмятовіч са скаргай ад свайго імя і ад імя сваёй маці пані Янавай Юндзілавай Малгарэты на сыноў нябожчыка пана Мікалая Будзіла Юрыя і Станіслава аб нежаданні імі выконваць пастанову суда гаспадарскіхураднікаў, прызначаных вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Старым[259]. Пры гэтым Марцін прадставіў перад ваяводай згаданы судовы дэкрэт віцебскага ваяводы, гаспадарскага маршалка, ваўкавыскага дзяржаўцы Мацея Войцехавіча Яновіча (Клочкі) і князя Івана Андрэевіча Палубенскага, напісаны ў Вільні 30 красавіка 1542 г., тэкст якога ўпісаны ў разглядаемы дакумент. Тады перад гаспадарскімі ўраднікамі скардзілася сама пані Янавая Юндзіловіча Малгарэта разам са сваім сынам (ад першага шлюбу) Марцінам Шэметам на свайго роднага брата, тады яшчэ жывога, Мікалая Будзілу аб невыдачы ёй выправы з атчызны. Мікалай прадставіў суду рэестр рухомай маёмасці, якую Малгарэце выдзеліла іх маці пры сваім жыцці. Аднак Малгарэта павінна была атрымаць у выправу палову ад

---

[252] Русская Историческая Библиотека (далей – РИБ), т. XX. Литовская Метрика, т. 1, Пб, 1903, слп.452-454, № 342.
[253] Перапіс войска…, с.60.
[254] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 14 (1524-1529). Vilnius, 2008, p.185-186, nr.431.
[255] Перапіс войска…, с.60.
[256] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 40, арк. 267. Дакумент актыкаваны ў кнігах Віленскага ўрада 23.08.1558.
[257] Тамсама, спр. 238, арк. 623 адв.
[258] Тамсама, спр. 247, арк. 355 адв.; спр. 252, арк. 184.
[259] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 230 (1542). Vilnius, 200, p., nr. 38; НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 230, арк. 56-60.

чацвертай часткі бацькоўскага нерухомага маёнтка або адпаведную грашовую кампенсацыю, чаго не атрымала, а другая палова належала іх сястры, не названай у дакуменце з імя. Суддзі да канчатковага выраку паслалі гаспадарскага двараніна Богуша Федкавіча Кохана на апісанне атчызных маёнткаў цяжэбных бакоў і складанне каштарысу.

У адказ Юры і Станіслаў Будзілы паведамілі віленскаму ваяводзе, што не бароняць выдзелу сваёй цётцы Малгарэце яе атчызнай часткі, аднак дваранін папісаў не толькі атчызныя маёнткі, але і неналежныя да атчызны – маёнтак Свір, які адзыскала іх бабка (жонка дзеда), і частку Аляксандраўскіх маёнткаў (па Аляксандру Мангірдавічу, дваюрадным дзядулі братоў па лініі маці). У доказ адпаведнай прыналежнасці гэтых маёнткаў браты прадставілі два старажытныя дакументы, якія паказвалі генеалагічную лінію Будзілаў і іх сваяцкія повязі з іншымі родамі. Тэксты гэтых дакументаў упісаны ў разглядаемы намі дэкрэт Яна Юр'евіча Глябовіча.

Першы з іх – дэкрэт вялікага князя Аляксандра, пісаны ў Вільні 20 красавіка 2 індыкта (1499 г.), па скарзе гаспадарскай зямянкі Ашмянскага павета Марцінавай Нарушэвіча Рожы (Будзілаўны) на сваю нявестку, жонку памерлага брата Станькавую Будзіловіча Святохну аб праве ўласнасці на маёнтак Свір (перад тым на загад гаспадара справу разглядаў жамойцкі староста Станіслаў Янавіч (Кезгайла), які прадставіў свой вырак вялікаму князю для канчатковага рашэння). Рожа паведаміла, што быццам бы яе маці нябожчыца Будзілавая пры жыцці запісала ёй 50 копаў грошаў, забяспечыўшы суму на маёнтку Свір, а Святохна, трымаючы маёнтак, не хоча выплочваць грошы. У адказ Святохна казала, што Свір – гэта атчызна яе мужа Станька Будзіловіча, брата скаржніцы, а не мацярызна, і іх маці муж ніякага вена не запісваў, таму не магла Будзілавая дачцэ грошы адпісваць. Да таго ж Рожа не прадставіла суду матчынага запісу. Таму вялікі князь пацвердзіў вырак жамойцкага старосты аб прысуджэнні маёнтка Свір Святохне, як атчызны мужа, і яе дзецям.

Другі дакумент – дэкрэт вялікага князя і караля Жыгімонта І, пісаны ў Вільні 3 лютага 12 індыкта (1509 г.[260]). Ён паказвае генеалагічныя сувязі Мікалая Станькавіча Будзіловіча, які тут запісаны як ***Миколай Бутькович***, з родам Монгірдавічаў[261] і сваяцкія адносіны з прадстаўнікамі іншых родаў. Такім чынам, вялікаму князю і панам-радзе скардзіліся Адам Міхайлавіч, Мікалай Буцькавіч і Ян Зычыла на пані Аляксандравую Монгірдавіча (яе ўласнае імя не названа), што яна па смерці мужа Аляксандра Монгірдавіча трымае ўсе яго маёнткі і не дапускае скаржнікаў да падзелу, як да блізкасці іх жонак. А іх жонкі – пляменніцы Аляксандра, дочкі яго брата Венцлава, таксама нябожчыка, адзіныя спадчынніцы дзядзькі, памерлага бяздзетна. Аляксандравая адказвала, што муж запісаў ёй адзін маёнтак навечнасць, а на другім забяспечыў вена ў памеры 300 копаў грошаў. Суд прызнаў гэты запіс няслушным, не паводле права спраўленым, і выдаў вырак: калі яна застанецца "*на вдовьем стольцы*", то мае трымаць маёнткі пажыццёва, а пасля яе смерці адразу пераходзяць згаданым спадчыннікам; калі ж пойдзе замуж, то мае ў вене трымаць пажыццёва трэцюю частку маёнткаў, якую нашчадкі могуць выкупіць у таго, каму па смерці яна запіша, а дзве часткі мае цяпер перадаць скаржнікам ва ўласнасць. Дарэчы, гэты дэкрэт захаваўся ў 2-й Судовай кнізе (спр. 222 па сучаснай нумарацыі) Метрыкі ВКЛ і быў апублікаваны[262].

У рэшце рэшт, віленскі ваявода Ян Юр'евіч Глябовіч, выслухаўшы аргументы абодвух бакоў, пастанавіў: так як маёнтак Свір з'яўляецца атчызнай як для Мікалая

---

[260] Прыняты менавіта 1509 г., які адпавядае 12 індыкту, таму, што сярод паноў-рады пры вялікім князі прысутнічае віленскі ваявода Мікалай Радзівіловіч, памерлы перад 1522 г., а наступны 12 індыкт – 1524 г.

[261] Увага! Не трэба блытаць гэты род **Монгірдаў** з магнацкім родам **Мантыгірдавічаў**, дзедзічаў на Лоску, якія зрэдку ў дакументах у лацінскай транскрыпцыі выступаюць як **Mongyrdowicz**, і ў літоўскай гістарыяграфіі прынята напісанне гэтага прозвішча як **Mantigirdas**, так і **Mangirdas** (гл.: R. Petrauskas. Lietuvos diduomenė XIV a. pabaigoje – XV a. Sudėtis – struktūra – valdžia. Vilnius, "Aidai", 2003, p. 259-262. У гэтай манаграфіі няма артыкула пра згаданы намі род **Монгірдаў**).

[262] РИБ, т. XX, слп. 595-597, № 54.

Будзілы, так і для яго сястры Малгарэты па іх бацьку Станьку Будзіловічу, то браты Юры і Станіслаў павінны яго ўключыць у падзел з цёткай; а на Аляксандраўскія маёнткі Малгарэта правоў не мае, бо гэта спадак Мікалаю Будзіле па яго жонцы. Тэрмін выдзелу долі для Малгарэты быў прызначаны ў чатыры тыдні.

Высветлім, якая інфармацыя ёсць у Метрыцы ВКЛ і іншых крыніцах пра першых прадстаўнікоў рода Будзілаў. Пратапласта рода Будзіла ў дакуменце 1499 г. не згадваецца наўпрост, а падразумяваецца ўскосна па жонцы Будзілавай. Абодва да гэтага часу даўно памерлыя, прычым муж памёр раней за жонку. Жылі ў сярэдзіне 15 ст. У вядомых дакументах 15 ст. згадкі пра ніх не адшуканы. Станька Будзіловіч ужо не жыў у 1499 г., у дэкрэце выступаюць яго ўдава Святохна і сястра Рожа Марцінавая Нарушэвіча. Адзіны захаваны дакумент, у якім выступае "*Stanislaus Budylowycz*" – арыгінальны пергамін 1486 г. на лацінскай мове. Гэта дароўны запіс Венцлава Монгірдавіча разам са сваім братам Аляксандрам, зяцем Station Станіславам Будзіловічам і яго сынам Андрэем і нашчадкамі Віленскаму кляштару францішканаў Святой Дзевы Марыі на чалавека Пятра з братамі і штогадовую даніну з іх маёнтка вушаткам мёду, трыма вепрамі і дзевяццю бочкамі жыта. За гэта манахі павінны адпраўляць дзве імшы ў год за здароўе ахвярадаўцаў і іх нашчадкаў[263]. Тут трэба звярнуць увагу на пэўныя нестыкоўкі ў дакументах. Па-першае, выдаўцы "*Kodeksa*" ў польскамоўным аўтарскім загалоўку да дакумента называюць Станіслава Будзіловіча *братанкам* (пляменнікам) Венцлава Монгірдавіча, пераклаўшы так лацінскае слова *filiaster*. Аднак няма ніякіх падставаў надаваць ім такі ўзровень кроўнага сваяцтва, бо братанак мае тое ж прозвішча, што і дзядзька, а пляменнік па сястры называецца *сестранцом*, але і пра гэта цяжка меркаваць. А слова *filiaster* таксама перакладаецца як *зяць*. Улічваючы, што і Венцлаў, і Станіслаў памерлі прыкладна ў адзін час – паміж 1486 г. і 1490-мі г., а сын Станіслава Мікалай Будзіла быў жанаты з дачкой Венцлава (гл. дэкрэт 1509 г.), то слушна меркаваць, што яны былі аднаго пакалення, таму лічым, што Станіслаў быў зяцем Венцлава не як муж яго дачкі (што супярэчыць вядомым дакументам), а як муж яго сястры. З дакумента 1499 г. мы ведаем, што яе звалі Святохна, якая не жыла ўжо да 1509 г. Атрымліваецца, што Мікалай Будзіла быў жанаты з дваюраднай (вуечнай) сястрой, што было даволі частай практыкай у той час.

Рожа Будзілаўна, акрамя дакумента 1499 г., больш нідзе не выступае. Яе муж Марцін Нарушэвіч, сын Станька Нарушэвіча, згадваецца ўсяго адзін раз у рэестрах данін караля Казімера, запісаных пісарам Федкам, пачынаючы з 17 сакавіка 1488 г.: "*Мартину, Станькову сыну Нарушевича, 6 копъ з мыта въ Менъску, а 6 копъ с корчомъ в Красномъ Селе*"[264]. Яго бацька Станька Нарушэвіч увогуле згадваецца апрыоры ў рэестрах тых жа данінаў для іншых людзей: за 14 снежня 1486 г. як трымаючы гаспадарскія корчмы ў Медніках і Ашмене і за 17 сакавіка 1488 г. як трымаючы *віны* гаспадарскія[265]. Нашчадкі гэтай лініі Нарушэвічаў нідзе больш не сустракаюцца ў актах, верагодна, Марцін Нарушэвіч з Рожай Будзілаўнай не мелі дзяцей.

Мікалай Станькавіч (Станіслававіч) Будзіловіч выступае ў актах дастаткова часта, таму спынімся толькі на асноўных этапах яго жыцця. Упершыню ён згадваецца ў не раз цытаваным дэкрэце 1509 г. як *Мікалай Буцькавіч*, відаць, у хуткім часе пасля смерці маці Святохны. У той час быў жанаты з неназванай з імя дачкой нябожчыка Венцлава Монгірдавіча, з якой меў сыноў Юрыя і Станіслава. Паводле попіса войска ВКЛ 1528 г. у рэестры баяр Рудомінскага павета Віленскага ваяводства Мікалай Будзіловіч выстаўляў на вайну 15 коней[266], што сведчыць аб дастаткова буйных яго маёнтках для павятовага баярына. У 1529 і 1533 г. засядаў ў вялікакняскім судзе пры гаспадарскіх маршалках[267]. У

[263] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Tom I (1387-1507). Wydali ks. Jan Fijałek i Władysław Semkowicz. Kraków i in., 1932-1948, s.402-403, nr 346. Пергамінны дакумент з Архіва Віленскай каталіцкай капітулы цяпер захоўваецца ў Бібліятэцы Літоўскай Акадэміі Навук імя Т. Урублеўскага (LMAVB).
[264] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4 (1479-1491). Vilnius, 2004, p.58, nr 16.4.
[265] Ibidem, p.52, nr 13.3; p. 63, nr 16.4.
[266] Перапіс войска…, с. 68.
[267] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 225 (1528-1547). Vilnius, 1995, p. 91, nr 115; p. 127, nr 179.

1540–1541 г. згадваецца як майшагольскі намеснік каралевы Боны[268], верагодна, гэты ўрад трымаў да смерці, памёр перад 28 верасня 1542 г. (глядзі вышэй цытаваны дэкрэт гэтага дня). Быў жанаты другім шлюбам, бо яго сын Юры Мікалаевіч Будзіла ў справе 1552 г. згадвае сваю мачаху, не называючы яе імя[269]. Яе згадвае сам Мікалай Будзіла імем Ядзьвіга (не ўдакладняючы паходжання) ў судовай справе 1541 г. аб апецы над яе сястрой Яганнай, манахіняй закону Святога Бернардына, якая пайшла ў кляштар пасля смерці мужа Бартламея Юрцэвіча каля 1532 г.[270] З таго часу яна ўтрымлівалася пад апекай Мікалая, што гаворыць аб яго шлюбе з Ядзьвігай яшчэ да гэтага часу.

Малгарэта Станькаўна Будзіловіча была двойчы замужам: ад першага мужа Юрыя Шэмета мела сына Марціна, а ў 1542 г. згадваецца ўжо замужам за Янам Юндзілам. У Мікалая і Малгарэты была яшчэ адна сястра, не названая з імя, якая толькі аднойчы згаданая ў вышэй цытаваным дэкрэце ад 30 красавіка 1542 г.

**Род Ваўчковічаў (Воўчкаў).**

17 студзеня 1556 г. перад урадам земскага маршалка ВКЛ Мікалая Радзівіла, віленскага ваяводы, скардзіўся гаспадарскі маршалак, віленскі канюшы і падканюшы, радунскі дзяржаўца Юры Якубавіч Воўчка на гаспадарскага маршалка, менскага старосту, краснасельскага дзяржаўцу Васіля Цішковіча аб быццам бы няслушным набыцці блізкасці скаржніка – зямлі Міхалкаўшчыны Вашкелевіча ў Камені Харэцкім[271] Віленскага павета[272]. Юры Воўчка трымаў частку зямлі па спадчыне, а частку набыў па блізкасці ад Мікалая, сына Яна Івашкавіча Ляньковіча. А адказчык паведаміў, што брат Мікалая Ляньковіча Шчапан прадаў яму ў 1554 г. свой маёнтак ў Камені Харэцкім і Камені Завельскім як трэцюю частку ад усёй атчызны, і паставіў перад урадам таго Шчапана Ляньковіча. Суд загадаў Юрыю Воўчку ў першую чаргу распрэвіцца з Шчапанам Ляньковічам, а таксама загадаў абодвум бакам прадставіць лініі сваіх родаў, каб дазнацца, хто бліжэй мае права на гэтую зямлю. Юры Воўчка прадставіў на "*цэдуле*" распісаны ўвесь свой род, адкуль вынікала, што ў агульнага продка Відзімона было тры сыны: 1) Івашка, названы Вошкелем, 2) Карэйва і 3) Марцін Воўчка, у якога быў сын Якуб, ад якога нарадзіўся скаржнік Юры Воўчка. Далей, ад Карэйвы нарадзіўся нейкі Нарбут, у якога былі сыны Мікалай і Жыгімонт; апошнія свае маёнткі параспрадавалі, а Юры Воўчка іх паскупляў па блізкасці ў розных людзей. Род гэтых Мікалая і Жыгімонта Нарбутавічаў заняпалы, засталася толькі дачка Яна Жыгімонтавіча Настасся, але Юры Воўчка бліжэйшы да маёнткаў, чым яна, "*па мячу*". Нарэшце, Івашка, або Вошкел, спладзіў шасцярых сыноў – Юхна, Якуба, Яна, Давіда, Аляксандра і Міхалка. Пяцёра старэйшых братоў памерлі без плода, а Міхалка Вошкелевіч пакінуў сына Шчастнага і дачку Барбару. Гэтыя дзеці, застаўшыся малымі сіротамі па смерці бацькі, апынуліся пад апекай Яна Івашкавіча Ляньковіча невядома па якому праву. Потым Шчастны Міхалкавіч, не выйдзя з-пад апекі, недзе згінуў, і пра яго няма ніякіх звестак. А Ян Ляньковіч, трымаючы ў апецы Барбару, пазней сцвярджаў, што маёнткі набыў у Шчастнага. Аднак яго купчы ліст судом не быў прызнаны ("*былъ в суду загамованъ*").

У сваю чаргу Шчапан Ляньковіч паведаміў, што сярод шасці сыноў Вошкелевых была яшчэ іх сястра Ганна, з якой ажаніўся дзед Шчапана Івашка Ляньковіч, у якіх нарадзіўся вышэй згаданы Ян Івашкавіч Ляньковіч, таму ён, Шчапан, з братам Мікалаем бліжэйшы да Вошкелеўскіх маёнткаў. У адказ Юры Воўчка не прызнаваў тую Ганну дачкой Вошкеля, а паведзіў яе сястрой Барбары Міхалкаўны, да таго ж, яна не была жонкай Івашкі Ляньковіча. Шчапан жадаў прадставіць доказы на свой радавод, але земскі маршалак, віленскі ваявода Мікалай Радзівіл адклаў канчатковы вырак на наступныя рокі з-за пільных гаспадарскіх і земскіх спраў. Цяперашні суд пастанавіў, што калі Шчапан

---

[268] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). Vilnius, 2003, p. 35, nr 41, 42; p. 94-95, nr 151.
[269] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 240, арк. 324 адв.-327 адв.
[270] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). Vilnius, 2003, p. 94-95, nr 151.
[271] Цяпер вёска Камена Лагойскага раёна Менскай вобласці.
[272] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 247, арк. 702 адв.-706.

дакажа жаніцьбу свайго дзеда Івашка на згаданай Ганне, то застанецца правым і бліжэйшым да маёмасці, а калі не дакажа, то павінен будзе ўзнагародзіць Юрыю Воўчку за прададзеныя землі Васілю Цішковічу. У сваю чаргу суд пакінуў апошняга пры яго куплі. Нажаль, канчатковы вырак у актах Метрыкі ВКЛ не захаваўся.

Канешне, пра легендарнага Відзімона, пратапласты рода Воўчкаў/Ваўчковічаў, які жыў прыкладна ў першай палове 15 ст., ніякіх дакументальных звестак няма. Аднак пра існаванне такога імя сведчаць наступныя дакументы. У недатаваных рэестрах данін караля Казімера фігуруе Андрушка Відзімінавіч, якому дано сяло "*Свирюнича*" на Ратаме (сяр. 15 ст.)[273]. У 1503 г. кароль Казімір пажалаваў Богушу Багавіцінавічу дворац Нарвідзішкі ў Валькініцкім павеце з людзьмі (падданымі), сярод якіх быў Андрук (Андрус) Відзімонавіч[274]. У 1516 г. перад гападарскімі ўраднікамі судзіўся гаспадарскі баярын Міхайла Відзімонавіч (Відзімінавіч), які меў маёмасць у ваколіцах Эйшышак[275]. Сярод сыноў Відзімона апусцім Карэйву і сына яго Нарбута, бо з такімі імёнамі і прозвішчамі існавала шмат баяраў рознага паходжання, а разглядаемых намі ідэнтыфікаваць не ўдалося. Таксама не ўдалося адшукаць старэйшага сына Відзімона Івашка Вошкеля з яго сынамі і ўнукамі. Але для пацверджання існавання імя Вошкель прывядзём прыклад назваў вёсак Вашкелі ў Радунскай гміне Лідскага павета і Дзевянішскай гміне Ашмянскага павета (у гэтым рэгіёне прадстаўнікі рода Воўчкаў мелі маёнткі) і засценка Вашкелеўшчына Перабродскай гміны Браслаўскага павета[276].

Сын Відзімона Марцін Воўчка, легендарны пратапласта рода Воўчкаў/Ваўчковічаў, які жыў у сярэдзіне XV ст., у такім найменні ў дакументах не сустракаецца. Па аналогіі з іншымі панамі і баярамі таго часу можна меркаваць, што бацькі, назваўшы яго Воўчкам, пры хросце далі яму другое, хрысціянскае імя Марцін, а яго паганскае імя сярод яго нашчадкаў замацавалася як прозвішча. Прывядзем прыклады некаторых Воўчкаў, якія сустракаюцца ў дакументах XV ст. і якія маглі бы быць заснавальнікамі разглядаемай лініі.

У вышэй цытаваных рэестрах данінаў вялікага князя і караля Казімера ёсць недатаваны запіс (паміж запісамі за 9 і 10 індыкты, г.зн. за 1446 і 1447 г.): "*Кнегини Михайловой село у Тетерине*[277]*, што Волчко, Довъкгирдовъ слуга, держалъ. Панъ Кгастовтъ и вси панове. Логвинъ.*"[278] Ян Доўгірд быў пісарам пры канцылярыі вялікага князя літоўскага Казімера яшчэ да таго, як апошняга абралі польскім каралём (1447 г.), памёр перад 1450 г. Вось яшчэ колькі запісаў там жа: "*Вольчку Борокъ,ережъ того за нимъ же было, а Житковичи*[279]*. Сопега*"[280]; "*Юде село, што былъ подъ нимъ Волчко подпросилъ*"[281] (сярод данінаў у Пінскім павеце, сяр. XV ст.). Два апошніх запіса могуць датычыць Воўчка, заснавальніка кіеўска-мазырскай лініі Воўчкавічаў.

У 2-й палове XV ст. з'яўляецца ў актах сын Марціна Ваўчка Якуб Ваўчковіч. Вось колькі запісаў у рэестрах Казіміравых данін: "*Якубу Волчъковичу 6 копъ с корьчомъ довъкговъскихъ*[282]*, а 6 копъ з мытъ в Ковне*"[283] (23 лістапада 1486 г.); "*Якубу Волчъковичу 8 копъ гр(о)шеи с корчомъ ошменьских, а 8 копъ з мыта в Луцку*"[284] (17 сакавіка 1488 г.); "*Якубу Вольчъковичу 20 бочокъ ржи въ Еишишъкахъ въ пана Якуба Ганусовича. <...>*

[273] РИБ, т. XXVII, СПб, 1910, слп. 82.

[274] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 5 (1427-1506). Vilnius, 2012, p. 159-160, nr 252; Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 6 (1494-1506). Vilnius, 2007, p. 304, nr 517.

[275] РИБ, т. XX, слп. 311-313, № 235; слп. 314-315, № 237.

[276] Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej z oznaczeniem terytorjalnie im właściwych władz i urzędów oraz urządzeń komunikacyjnych. Przemyśl-Warszawa, [po r. 1931], s.1802.

[277] Цяцерын, в. Круглянскага раёна Магілёўскай вобл.

[278] РИБ, т. XXVII, слп. 30-31.

[279] Жыткавічы, г. п., цэнтр раёна Гомельскай вобл.

[280] РИБ, т. XXVII, слп. 41.

[281] РИБ, т. XXVII, слп. 94.

[282] Доўгі, мястэчка ў Троцкім павеце, цяпер у Літве.

[283] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4 (1479-1491). Vilnius, 2004, p.29, nr 1.3.

[284] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4 (1479-1491). Vilnius, 2004, p.57, nr 16.4.

*Якубу Волчъковичу жеребя въ пана Михаила, а 3 бочъки соли з мыта въ Ковне*"[285] (28 кастрычніка 1488 г.). На жаль, іншых, больш разгорнутых дакументаў, датычных Якуба Ваўчковіча, адшукаць не ўдалося.

Якуб Ваўчковіч ужо не жыў у пачатку XVI ст., бо у 1516 г. згадваецца ўдава па ім пані Якубавая Ваўчковіча Ганна. Тады перад земскім маршалкам Янам Мікалаевічам (Радзівілам) скардзілася на яе гаспадарская баярыня Радунскага павета Пецькавая Мацовіча Доня аб збеглай жонцы нявольнай Кацярыне, якую утрымлівала Ганна і не жадала аддаваць уласніцы[286]. У адказ Ганна паведзіла, што гэтая нявольніца належала яе першаму мужу Алехну Родзевічу, які даў яе на паслугу свайму слузе Мацэлю, які заставіў яе бацьку скаржніцы Міхну Юрковічу, а цяпер тая Кацярына вярнулася да ўласніцы. Аднак канчатковы вырак не быў вынесены, бо быў аб'яўлены збор на гаспадарскую земскую службу. З гэтага дакумента вынікае, што Якуб Воўчкавіч меў жонку Ганну невядомага паходжання, якая перад тым была за першым мужам. Улічваючы, што адзіны вядомы сын Якуба Юры нарадзіўся не пазней канца XV ст., можна лічыць, што Ганна таксама была яму не першая жонка. Бо Юры Ваўчковіч у гэты ж самы час пачынае выступаць у дакументах самастойна.

Юры (Юхна) Якубавіч Ваўчковіч, як гаспадарскі баярын Васілішскага павета, упершыню згадваецца у пацвярджальным прывілеі караля Жыгімонта I ад 11 студзеня 1517 г. для гаспадарскага маршалка і сакратара, шоўленскага дзяржаўцы Мікалая Міхнавіча Рачкевіча[287]. Сярод іншага кароль пацвердзіў яму набыццё зямлі пашнай з сенажаццю і чалавекам Міленцам у згаданага Юхна Якубавіча Ваўчковіча. Апошні прадаў Мікалаю Рачкевічу сваю палову мацярызнага маёнтка на *Верцы*[288], які маёнтак па смерці Дашка Монгірдавіча дастаўся матцы Юхна (імя не названае) і яго ж цётцы (сястры маткі) Святохне напалам. Таксама згадваецца, што Юхна ўжо меў падзел мацярызных маёнткаў са сваімі сёстрамі (імёны не названыя), ад якіх атрымаў згаданую палову гэтага маёнтка, што сведчыць аб смерці іх маці, якая была з роду Монгірдавічаў. Гэта яшчэ раз даказвае, што вышэй згаданая ў 1516 г. Ганна Якубавая Ваўчковіча была мачахай Юхну.

Аб размяшчэнні атчызных маёнткаў Юхны Ваўчковіча ў раёне Васілішак, Эйшышак і Салечнік сведчаць наступныя дакументы. 4 лютага 1520 г. у вялікакняскім судзе перад земскім маршалкам Янам Мікалаевічам (Радзівілам) скардзіўся Цішка, салешніцкі наменік гарадзенскага старосты Юрыя Мікалаевіча (Радзівіла), на гаспадарскага зямяніна Юхна Ваўчковіча аб наездзе на панскую зямлю, збіцці салешніцкага цівуна і захопе валоў з сахою[289]. Прыкладна ў той жа час (перад 2 ліпеня 1521 г., дакумент не датаваны) Юхна Ваўчковіча сярод іншых абраў сваім суддзёй Крыштаф Рэмязовіч у справе з ім пані Кахны Ладзяцінай[290]. Паводле попіса войска ВКЛ 1528 г. сярод баяр Рудомінскага павета Віленскага ваяводства Юхна Якубавіч Ваўчкевіча выстаўляў на вайну трох коней.[291] Пазней, у 1530-я г. Юры Ваўчковіч не раз згадваецца ў якасці суддзі або дзельчага ў справах сваіх суседзяў-шляхты, засядае пры гаспадарскіх урадніках пры разглядзе судовых спраў у вялікакняскай канцылярыі. З 1538 г. і да канца жыцця на розных дзяржаўных пасадах: канюшага і падканюшага віленскага, пазней – гаспадарскага маршалка, трымае розныя гаспадарскія дзяржавы (староствы). Памёр перад 7 лістапада 1557 г.[292] З невядомай з імя жонкай меў сыноў Мікалая, Яна і Станіслава,

[285] Ibidem, p. 80, nr 23.2.
[286] РИБ, т. XX, слп. 397-399, № 299.
[287] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 9 (1511-1518). Vilnius, 2002, p. 353-354, nr 651.
[288] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе **на Вярсоцы**, рака ў разглядаемым рэгіёне, уздоўж якой размяшчаліся шматлікія панскія і баярскія маёнткі, аднайменныя з назвай ракі. Цяпер знаходзіцца ў Літве каля Салечнікаў.
[289] РИБ, т. XX, слп. 1397-1399, № 115.
[290] РИБ, т. XX, слп. 1498-1499, № 174.
[291] Перапіс войска…, с. 68.
[292] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 34, арк. 629. Гэтая дата яго смерці больш дакладная, чым у выданні: Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. Pod red. A. Rachuby. Tom I. Województwo Wileńskie XIV-XVIII wiek. Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba i inni. Warszawa, 2004.

другая жонка – Міласлава Багданаўна Валавічоўна, удава па Мікалаю Якубавічу Кунцэвічу.

Як вышэй было згадана, у Юрыя Якубавіча Ваўчковіча было колькі сясцёр, з якімі меў падзел мацярызнымі маёнткамі яшчэ перад 1517 г. Так, 11 траўня 1536 г. Юры вёў судовую справу сваёй сястры Афры Ленартавай Буткевіча з гаспадарскім чашнікам Войцехам Мікалаевічам Андрашэвічам аб праве на маёнтак Дзітва[293]. Яшчэ адна вядомая яго сястра – Ганна Якубаўна Воўчкаўна, жонка Мікалая Салагубавіча, памерла перад 1 лютым 1565 г. у маёнтку мужа Кіявец Менскага павета[294].

**Група 3. Дакументы змешанага характару.**

**Роды Пашынічаў і Юрцэвічаў.**

9 траўня 1550 г. перад Віленскім урадам скардзіўся гаспадарскі баярын Мікалай Андрэевіч на свайго *брата* гаспадарскага баярына Шчастнага Міхніча, быццам бы апошні трымае яго атчызную частку Свіранскую ў Падольцах[295], а скаржніку не паступае[296]. Шчастны адказваў, што Падольцаў не трымае, але жыве на сваёй атчызне, на Алешышках, дзе і яго бацька жыў, які дзяліўся зямлёй па смерці свайго бацькі Пашы (Пашыны) толькі са сваім братам Шчапанам. Да таго ж, бацька Мікалая Андрэевіча не быў родным братам дзеду адказчыка Пашы, а меў асобны ад Пашы зямельны аддзел, з якім служыў Грыгорыю Осцікавічу да Свіранаў. А дзед Шчастнага Паша з сынамі Міхнам і Шчапанам, а потым і сам Шчастны служылі са сваёй зямлёй князю Ждану Свірскаму, блізкаму пана Андрэя Доўгірдавіча, ад якога тую зямлю продкі Шчастнага і набылі. Са słоваў Шчастнага, бацька скаржніка яшчэ 60 год назад прадаў сваю зямлю Грыгорыю Осцікавічу і з'ехаў з гэтых мясцінаў. Скаржнік жа сцвярджаў, што яго бацька быў братам Пашы (Пашыны), і цяпер скаржнік служыць пані Юр'евай Грыгор'евіча Осцікавай да яе маёнтка Свіраны. У свой доказ Шчастны прадставіў ліст на пергаміне, у якім апісаны выдзел зямлі і людзей на частку яго бацькі. Суд пастанавіў, каб Мікалай Андрэевіч выклікаў у суд таго, хто ў сапраўднасці трымае яго атчызную частку і высвятляў права ўласнасці.

Праз колькі год, 7 студзеня 1558 г., перад Віленскім урадам стаў Мацей Багданавіч Юрцэвіча і паведаміў, што ён нядаўна вярнуўся з Чаркасаў і Кіева, куды з'ехаў яшчэ ў маладосці і доўгі час жыў, на радзіму, дзе ўбачыў сваю атчызную і дзедзізную палавіцу зямлі Юрцоўшчыны, якая ляжыць паміж Свіранамі і Ясенем[297], у запусценні, узяў яе і прывёў у парадак пры дапамозе і грашовым накладам свайго пана князя Лукаша Баляслававіча Свірскага. Таму Мацей паведамляе перад урадам, што з гэтай зямлёй абавязваецца служыць князю Свірскаму на вечныя часы "*службой конской, яко панцерный слуга*", зракаючыся ад лістоў на вольнасці, дадзеныя продкамі князя Свірскага яго продкам[298]. Такім чынам, нацярпеўшыся ад вольных хлябоў, Мацей Багданавіч вырашыў навечна асесць з нашчадкамі на зямлі і служыць свайму пану панцырным баярынам, а не баярынам-шляхтай, які мог заўсёды пакінуць свайго гаспадара.

У сваім апавяданні Мацей Багданавіч Юрцэвіч распавёў гісторыю свайго рода, якая значна дапаўняе факты, выкладзеныя ў папярэднім дэкрэце. Некалі продкі князя Лукаша Баляслававіча Свірскага надалі вечнасцю свайму слузе, дзеду Мацея Юрцу вышэй згаданы маёнтак з вольнасцямі служыць нашчадкам надаўцаў. Значна пазней, дзядзька Мацея Павел Пашына (Паша ў папярэднім дакуменце), скарыстаўшыся тым, што Мацей з братамі засталіся малымі пасля смерці бацькі, выціснуў іх з іх бацькоўскай паловы маёнтка і з усім маёнткам служыў то князям Свірскім, то панам Осцікавічам. Пакрыўджаныя ж пляменнікі вымушаныя былі сысці з зямлі і бадзяцца доўгі час у дальніх мясцінах. Потым сын Пашыны Міхна Пашыніч, стрыечны брат[299] скаржніка Мацея, са

[293] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 225 (1528-1547). Vilnius, 1995, p. 138-139, nr 195.

[294] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 260, арк. 884.

[295] Падольцы, в. Астравецкага раёна Гарадзенскай вобл.

[296] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 238, арк. 569 адв.-570 адв.

[297] Ясень, в. Астравецкага раёна Гарадзенскай вобл.

[298] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 252, арк. 282-283.

[299] У дакуменце напісана: "**братанич его стриечный**", што, несумненна, апіска пры перапісванні кніг.

сваёй бацькоўскай паловай маёнтка служыў князю Ждану Аляксандравічу Свірскаму, як прыроджанаму з продкаў пану, да яго смерці напрацягу 40 гадоў. А другую палову зямлі, атчызну Мацея, які недзе бадзяўся па далёкіх краях, князь Ждан Свірскі даў на службе свайму служэбніку нейкаму Шчастнаму Ляху. Па смерці князя Ждана яго ўдава запісала ў суме грошаў маёнтак Ясень, да якога цягнула апісваемая зямля Юрцоўшчына, сваячыніцы Барбары (Сіруцеўне), жонцы Міклаша Горскага. Тады Міхна Пашыніч, а пасля яго смерці яго сын Шчастны Міхніч пачалі "*с послушенства от них выламываться*" (перасталі служыць з зямлі баярскую ваенную службу), а Шчастны Лях увогуле сышоў з той зямлі ў іншае месца, дзе і памёр. У апавяданні Мацея нічога не сказана аб наяўнасці на дадзены час у апісваемай мясцовасці Шчастнага Міхніча, які выступае ў папярэнім дакуменце ў 1550 г.

Цяпер паспрабуем згаданых вышэй асоб прывязаць да канкрэтных датаў і падзей і пацвердзіць, наколькі магчыма, іх існаванне дакументальна. Самае дзіўнае тое, што згадваемы ў абодвух дакументах прывілей, г.зн. пергамінны ліст Андрэя Доўгірдавіча, дзедзіча Свіранаў, для свайго слугі Юрца, датаваны 1461 г., захаваўся ў арыгінале![300] Ён знаходзіцца сярод папер пазасталага фрагмента архіва маёнтка Свіранкі (Свіраны ў старажытнасці), канфіскаванага ў першай палове XIX ст. у Віленскай каталіцкай капітулы ў дзяржаўны скарб, дакументы якога пазней былі перададзены ў Архіў Віленскай палаты дзяржмаёмасцяў, а цяпер захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве. Такім чынам, Андрэй Доўгірдавіч (памёр у 1462 г.) падараваў слузе Юрцу маёнтак з зямлёю, называемы ***Олешкышкоу*** (Алекшышкі), а таксама зямлю ***Малашокышкоу*** (Малешкішкі) і чатырох чалавекаў, таксама ўступ у пушчу Заклевейскую каля возера Быстрыцкага, называемага ***Милетна***, да ракі Баброўны. З гэтым маёнткам Юрэц абавязаны быў служыць свайму пану да яго смерці, а пасля меў права разам са сваімі нашчадкамі з маёнткам служыць каму захоча.

Андрэй Доўгірдавіч, сын гаспадарскага пісара вялікага князя Казіміра Яна Доўгірда (памёр да 1450 г.), меў адну з дачок Алену Доўгірдаўну (напісала тэстамент у 1502 г.), якая была замужам за князем Петкам Ірыкавічам Свірскім (жыў у сярэдзіне – 2-й палове XV ст.). Троцкі ваявода Грыгорый Станькавіч Осцікавіч (памёр у 1518 г.) трымаў Свіраны па сваёй жонцы Аляксандры, дачцэ князя Петка Свірскага. Сцверджанне ў першым дэкрэце 1550 г., што бацька Мікалая Андрэевіча 60 год таму (1490 г.) прадаў Грыгорыю Осціку зямлю, не зусім карэктнае. Гэта магло адбыцца паміж 1511 г. (год смерці віленскага каноніка князя Андрэя Петкавіча Свірскага, калі Свіраны канчаткова адышлі да Осцікаў, да гэтага яны трымалі маёнтак ад князя заставай) і 1518 г., калі памёр Грыгоры Осцік. Адзін з саўласнікаў Свіранаў Юры Грыгор'евіч Осцік памёр у 1547 г., пасля чаго маёнтак трымала яго ўдава княжна Марына Міхайлаўна Мсціслаўская, якой служыў Мікалай Андрэевіч на момант выдання дэкрэта (1550 г.)[301].

У князя Петка Свірскага, між іншымі, быў сын Аляксандр, а ў яго – адпаведна сын князь Ждан Аляксандравіч Свірскі, які згадваецца ў цытуемых дакументах. Гэты князь Ждан нашмат часцей фігуруе ў рэтраспекцыі ў пазнейшых дакументах, чым у дакументах, вышадшых пры яго жыцці. Ён яшчэ фігуруе ў попісе войска ВКЛ 1528 г. Таму дату яго смерці можна вылічыць вельмі прыблізна – скажам, сярэдзіна 1530-х гадоў. Як сказана ў дакуменце 1558 г., Павел Пашына, адзін з сыноў Юрца, атрымаўшага прывілей у 1461 г. (другі яго сын Багдан падразумеваецца па імені яго сына Мацея Багданавіча Юрцэвіча, да і Павел напрамую не называецца сынам Юрца, але падразумеваецца як трымаючы палову апісваемай зямлі), а потым яго сын Міхна Пашыніч служылі нашчадку Андрэя Доўгірдавіча, г.зн. яго праўнуку, князю Ждану Свірскаму напрацягу 40 гадоў. Значыць, пачынаючы недзе з першай паловы – сярэдзіны 1490-х г. Гэта можна дапусціць, бо з часу надання зямлі Юрцу прайшло болей за 30 год і той мог ужо памерці, а сыны аддзедзічыць яго маёнтак. Але ў той час Свіраны і Ясень трымала і распараджалася імі Алена

[300] Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas (LVIA), f. 525, ap. 8, b. 395, l. 18.
[301] Глядзі адпаведныя артыкулы Г.Брэгера ў выданні: Памяць. Астравецкі раён. Мн.: БелЭн, 2004.

Доўгірдаўна, жонка князя Петка Свірскага, якая памерла ў 1502-1503 г. Потым нядоўгі час у дакументах выступае адзін з іх сыноў князь Аляксандр, які судзіцца са сваякамі аб бацькоўскай спадчыне ў 1511 г. А яго сын князь Ждан з'яўляецца ў дакументах ў 1526 г., ужо пасля смерці бацькі. Так што сцверджанне аб службе Міхны Пашыніча князю Ждану яўляецца абагульняючым як служба некалькім пакаленням князёў Свірскіх, прадстаўнікі якіх па апісваемай лініі ненадоўга затрымліваліся на гэтым свеце.

Павел Пашына выгнаў з зямлі сваіх пляменнікаў-сіротаў яшчэ маладымі, гэта магло адбывацца пры змене ўласнікаў маёнтка Ясень, да якога Пашына служыў. Прадстаўнікі разглядаемай лініі князёў Свірскіх паміралі даволі маладымі, пакідаючы непаўнагадовымі сваіх дзяцей, маёнткамі кіравалі іх удовы і іншыя сваякі, таму адбываліся розныя неразбярыхі. Брат Пашыны Багдан Юрцэвіч памёр, пакінуўшы малых дзяцей, прыкладна ў 1510-я г., а калі старэйшы з іх Мацей Багданавіч дасягнуў самастойнага ўзросту (18–20 гадоў), але па маладосці будучы яшчэ безабаронным, то быў выгнаны сваім дзядзькай. Гэта магло адбыцца недзе ў пачатку 1520-х г., калі ў правы ўласнасці латыфундыяй уступаў малады князь Ждан Свірскі, якому прысягнуў Пашына, а потым і яго сын Міхна Пашыніч. Верагодна, Павел Пашына памёр яшчэ пры жыцці князя Ждана, недзе ў канцы 1520-х г.

Жонкай князя Ждана Свірскага была Марына Войцехаўна Нарбутовіча, якая першы раз была замужам за Станіславам Сіруцям, з якім мела адзіную дачку Барбару. Выхаваннем непаўнагадовай падчарыцы займаўся князь Ждан, бо адзіны яго сын князь Андрэй памёр у маладым веку безпатомна, відаць, нават не жаніўшыся[302]. Марына нашмат пераджыла і другога мужа (жыла яшчэ ў 1558 г.). Атрыманы ад другога мужа князя Ждана ў вене ў 1000 копаў грошаў маёнтак Ясень яна запісала ў 1530-я г. сваёй дачцы ад першага шлюбу Барбары Сіруцеўне ў пасаг, калі тая выйшла замуж за Міклаша (Мікалая) Барташавіча Горскага. У 1555 г. стрыечныя пляменнікі князя Ждана Свірскага князі Лукаш і Ян Баляслававічы Свірскія выкупілі па блізкасці Ясень з усімі баярскімі землямі ў сына нябожчыка Міклаша Юрыя Міклашавіча Горскага[303].

Як заўсёды, пры смене ўласнікаў маёнткаў баяры-шляхта не заўсёды жадалі служыць новым гаспадарам, да таго ж, гэта была для ніх магчымасць трымаць свае баярскія маёнткі, не выконваючы павіннасцяў, бо новыя гаспадары не заўсёды былі дасведчанымі ў справах securityнабытага маёнтка. Таму Міхна Пашыніч, а потым і яго сын Шчасны Міхніч у 1530-я г. пачалі "*с послушенства от них выламываться*" (аспрэчвалі баярскую службу Міклашу Горскаму). Шчасны Міхніч валодаў сваёй зямлёй яшчэ ў 1550 г. (першы дакумент).

На заканчэнне скажам, што вывучэнне дакументаў маянткова-генеалагічнага характару як у плане дакументальнай тыпалогіі, храналагічным развіцці (у розныя этапы развіцця судова-натарыяльнага заканадаўства), так і гістарычнай навукі вельмі перспектыўнае. Гэтыя дакументы, асабліва тыя, у якіх распавядаецца пра дастаткова раннія часы, з'яўляюцца ледзь не адзінымі крыніцамі па гісторыі пэўных асоб і падзей таго часу. У іншых выпадках яны значна дапаўняюць захаваныя дакументы, што больш грунтоўна асвятляе гістарычную карціну таго часу.

[302] НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 250, арк. 208 адв. Князь Андрэй Свірскі згадваецца нябожчыкам у рэтраспекцыі ў пазнейшым дакуменце за 1555 г.

[303] Інфармацыю аб князях Свірскіх і іх нашчадках глядзі ў выданнях: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895, s. 507-509; Tęgowski J. Rodowód kniaziów Świrskich do końca XVI wieku. Wrocław, 2011. 219 s. Памяць. Астравецкі раён. Мн.: БелЭн, 2004.

**Алег Ліцкевіч**
**(Менск)**

## ЯШЧЭ РАЗ ПРА "ПАЧАТКІ НЯСВІЖА": ПЕРШАЯ ПІСЬМОВАЯ ЗГАДКА І АСОБА НОБІЛЯ КЛАЎКІ

Працы, прысвечаныя пачаткам населеных пунктаў, маюць вельмі важнае значэнне не толькі для гістарыяграфіі, але і для грамадства ў цэлым. Яны спрыяюць умацаванню гістарычнай самасвядомасці жыхароў таго ці іншага мікрарэгіёна. Да таго ж, дата першай згадкі горада, мястэчка альбо вёскі ў старажытных пісьмовых крыніцах звычайна становіцца падставай для правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных гісторыі лакальнай супольнасці.

Безумоўна, нельга перабольшваць значэнне першых пісьмовых згадак пра населеныя пункты і блытаць гэтыя даты з датамі заснавання. Вельмі часта, калі не заўсёды, вынікі археалагічных даследаванняў паказваюць, што населены пункт існаваў задоўга да той даты, калі ён упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах. Але дакладнае вызначэнне дат першых пісьмовых згадак пра населеныя пункты тым не менш мае не толькі практычны, але і сімвалічны сэнс, бо гісторыя можа прэтэндаваць на званне навукі толькі пры ўмове скрупулёзнай працы з крыніцамі і пры максімальна дакладным устанаўленні фактаў, якія паддаюцца ўстанаўленню.

**I.** У 2011 г. выйшла манаграфія А.А.Мяцельскага "*Пачаткі Нясвіжа*"[304], якая на сёння з'яўляецца найбольш поўным абагульненнем навуковых дадзеных пра старажытную гісторыю Нясвіжа і яго ўладальнікаў. Амаль адначасова з выхадам манаграфіі даследчык выпусціў артыкул з такой жа назвай у часопісе "*Białoruskie Zeszyty Historyczne*"[305].

Не беручыся ацэньваць гэтую манаграфію ва ўсёй яе паўнаце, дазволю сабе, аднак, кароткую рэпліку па адным з найбольш істотных аспектаў, які патрабуе ўдакладнення. Справа ў тым, што, гаворачы менавіта пра "*пачаткі Нясвіжа*", а дакладней, пра першую пісьмовую згадку пра Нясвіж, аўтар дапусціў недакладнасць. Насуперак сцвярджэнню А.А.Мяцельскага, першы дакумент, дзе згадваецца Нясвіж, датуецца не 1446, а 1445 годам.

Папяровая грамата з першай згадкай Нясвіжа раней захоўвалася ў Нясвіжскім архіве Радзівілаў, адкуль трапіла ў Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве[306].

У 1910 г. дакумент скарыстаў для свайго даследавання ксёндз Зыгмунт Дунін-Казіцкі. Ён памылкова датаваў грамату 1477 г., але правільна прачытаў імя першага ўладальніка Нясвіжа – "*Клавко*" і прыцягнуў шэраг пісьмовых крыніц для вывучэння яго біяграфіі[307]. Гэтая праца, бадай забытая сучаснай беларускай гістарыяграфіяй, нягледзячы на некаторыя свае недахопы дагэтуль не страціла навуковай каштоўнасці.

У 1923 г. грамату паводле арыгінала надрукаваў Ян Якубоўскі, які датаваў дакумент 1446 годам, а імя былога ўладальніка Нясвіжа прачытаў як "*Селавко*"[308]. Дзеля справядлівасці, такое ж чытанне дакумента прымалі і супрацоўнікі Нясвіжскага архіва, якія пакінулі нататку на адвароце граматы: "<…> *Danina krolewicza Kazimierza Wo Xcia Lith. p(an)u Mikołaiowi Niemirowiczowi dobr Nieswieża ze wszystkim tym, iak Sielawka trzymał* <…>".

У 2009 г. дакумент перадрукаваны аўтарам гэтых радкоў паводле арыгінала з AGAD (шэраг правільных чытанняў пры публікацыі дапамог устанавіць А.Б.Доўнар)[309]. У

---

304 Мяцельскі, А.А. Пачаткі Нясвіжа. Мн., 2011.
305 Мяцельскі, А.А. Пачаткі Нясвіжа // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Т.34. Białystok, 2010. С.5-19.
306 Цяперашняя сігнатура (па стану на 2008 г.): AGAD. Archiwum Radziwiłłów. Dz. XV. Teka 1. Plik 1. S. 2.
307 Dunin-Kozicki, Z. Szczątek kalendarza Franciszkanów wileńskich z XV wieku // Kwartalnik Litewski. Rok 1, t. 4. Grudzień 1910. Petersburg, 1910. S. 8, 11.
308 Jakubowski, J. Czy istnieli kniaziowie Nieświescy? // Ateneum Wileńskie. R.1. № 1. 1923. S.2.
309 Ліцкевіч, А.У. Старабеларускія граматы XV ст. з Archiwum głównego akt dawnych у Варшаве // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. Вып. 11. Мн., 2009. С.17-18, № 4.

публікацыі дакумент датаваны 1445 г. і растлумачана, чаму датаванне 1446 годам у Я.Якубоўскага было памылковым.

Нажаль, А.А.Мяцельскі, напэўна, не скарыстаў альбо праігнараваў гэтую публікацыю, інакш бы ён больш уважліва паставіўся да праблемы датавання першай пісьмовай згадкі Нясвіжа. Таму мушу паўтарыць сваю ранейшую аргументацыю.

У грамаце вялікі князь літоўскі, каралевіч Казімір паведамляе жыхарам Нясвіжа, што даў Нясвіж Мікалаю Няміравічу на тых жа ўмовах, як яго раней трымаў Клаўка. Поўны тэкст наступны: "Ѡ*т* велико*г*(о) кн(я)зя Казимира королевича ко вси*м* людемъ Несвижаномъ, [ш]то Клавко дѣржалъ. Дали есмо | Несвижь паноу Миколаю Немировичоу со вси*м*, по тому *ж*, какъ Клавко дѣржалъ. И вы бы его были | послушни. Пса*н* оу Меречи сентяб(ря) 17 день, инди*к*(т) оу 9".

Паколькі мы маем справу з арыгіналам, то вельмі малая верагоднасць таго, што 9-ы індыкт у тэксце пазначаны памылкова. Чаму ж такі выдатны спецыяліст у гісторыі ВКЛ, як Я.Якубоўскі, усё ж датаваў дакумент 1446 годам? Гэта, верагодна, адбылося таму, што ў тагачаснай польскай гістарыяграфіі праблема індыктавай храналогіі ў справаводстве ВКЛ была слаба распрацаваная. Я. Якубоўскі альбо памыліўся ў разліках, альбо палічыў, што ў дакуменце выкарыстоўвалася заходнееўрапейская індыктавая шкала, згодна з якой 17 верасня 9-га індыкта прыходзілася на 17 верасня 1446 г. Гэта так званы папскі індыкт, які пачынаўся 25 снежня альбо 1 студзеня.

Але ў дзяржаўным справаводстве ВКЛ выкарыстоўвалася іншая – візантыйская – індыктавая шкала, у якой адлік індыктаў пачынаўся з 1 верасня 5509 г. да н.э. Згодна з гэтай шкалой у той перыяд, калі Казімір Ягайлавіч яшчэ не быў польскім каралём і тытулаваўся вялікім князем літоўскім, каралевічам, 9 індыкт прыходзіўся на перыяд з 1 верасня 1445 года па 31 жніўня 1446 года; гэта 6954 вераснёўскі год.

**II.** Усім, хто цікавіцца метадамі разліку індыктаў, можна параіць тры спосабы: ужыванне формул і табліц, праграмных сродкаў альбо даведнікаў.

*Формулы*. Паводле вядомай формулы, індыкт можна разлічыць, ведаючы парадкавы нумар вераснёўскага года: у гэтым выпадку нумар вераснёўскага года дзеліцца на 15, а рэшта складае лічбу індыкта[310].

Пры разліку індыкта для сакавіцкага года задача крыху ўскладняецца, бо рубеж паміж старым і новым індыктамі прыходзіцца на 1 верасня – якраз пасярэдзіне сакавіцкага года. Пагэтаму, калі дата ў межах аднаго сакавіцкага года прыходзіцца на перыяд з верасня па снежань і са студзеня па люты ўключна, то да рэшты ад дзялення дадаецца 1: напрыклад, 17 верасня 1445 г. адпавядае 6953 сакавіцкаму году; такім чынам, пасля дзялення 6953:15 застаецца рэшта 8, да якой дадаецца 1.

Практычныя прыклады разліку індыктаў па матэрыялах Метрыкі ВКЛ можна знайсці ў падручніках Л.В.Чарапніна і С.І.Куль-Сяльверставай. Тамсама змешчаны і табліцы, з дапамогай якіх можна вылічыць індыкт любога года ад Нараджэння Хрыстовага[311].

У цэлым формулы і табліцы вылічэння індыктаў не заўсёды зручныя ў карыстанні, бо ў большасці выпадкаў індыктавыя даты ў дакументах ВКЛ XV–XVI стст. ужываюцца без пазначэння года ад стварэння сусвету альбо ад Нараджэння Хрыстовага.

*Праграмныя сродкі.* Алгарытм самай прымітыўнай кансольнай праграмкі для разліку індыктаў і вераснёўскага года з 1300 па 1600 гады, напісанай на мове C, наступны (праграма рабочая, скампілявана на DevCPP 4.9.9.2):

```
#include <stdio.h>
main()
{
printf("Table of indicts\n");
```

[310] Гл.: Черепнин, Л.В. Русская хронология. М., 1944. С. 32-33, 75.

[311] Черепнин, Л.В. Русская хронология, с. 35 (таблица V), 75; Куль-Сяльверстова, С.Я. Гістарычная храналогія: практыкум. Гродна, 2009. С. 6-7.

```
printf("\t\n");
long y1, y2, ind, sy, kf;
long lower, upper, step;
lower = 1300; upper = 1600;
step = 1;
y1 = lower;
while (y1 <= upper)
{
y2 = (y1 + 1);
sy = (y1 + 5509);
kf = (sy/15);
ind = (sy - (kf * 15));
if (ind == 0)
ind = 15;
printf("%4d.IX.01-%4d.VIII.31\t%4d\t%4d\n", y1, y2, ind, sy);
y1 = y1 + step;
}
getchar();
}
```

*Даведнікі.* Зрэшты можна абысціся без формул і без праграмных сродкаў, скарыстаўшыся даведнікамі. Адзін з іх – літоўскае выданне 3-й кнігі Метрыкі ВКЛ, дзе прыведзена табліца індыктаў з 1430 па 1500 год[312].

**III.** Гаворачы пра нобіля Клаўку – аднаго з першых уладальнікаў Нясвіжа, А.А.Мяцельскі прыцягнуў толькі матэрыялы з 3-й кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ, таму ягоныя высновы і дапушчэнні наконт біяграфіі Клаўкі па большай частцы памылковыя. Напрыклад, ён лічыць, што Клаўка валодаў Нясвіжам да самага 1446 г. і нібыта мог быць служылым баярынам нобіля Івашкі Вяжэвіча. Гэта абвяргаецца звесткамі іншых крыніц.

*Род Клаўкі.* Сваяцкія сувязі Клаўкі можна ўстанавіць з так званага календара (або памянніка) віленскіх францішканцаў з касцёла Св. Марыі на Пясках. Ад календара захаваліся некалькі кавалкаў пергамена, якія пазней выкарыстоўваліся для абкладкі кніг і былі выяўленыя у Віленскай публічнай бібліятэцы ў XIX – пачатку XX ст. На гэтых кавалках рознымі почыркамі запісана 21 нататка пра асоб, за ўпакой якіх па даручэнні іх сваякоў маліліся францішканцы. Самая ранняя нататка датуецца 1428 г., самая позняя – 1475 г. Публікацыю і аналіз гэтай каштоўнай генеалагічнай крыніцы зрабілі З.Дунін-Казіцкі ў цытаванай працы, а потым С.К. Роўэл[313].

Пра Клаўку ў календары віленскіх францішканцаў гаворыцца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| [Sub] anno Domini millesimo CCCC$^{0}$XLIX domina Sonyka marita domini [Gymb]uth animam fratris sui videlicet domini Clauko filii Gasthult (?), [filium suum] Iacobum (?) et filiam suam Beatam; oretur pro eis; [animam] domini Voychil (?) et predicte conthoralis sue…[314] | *Пераклад:* У год ад Нараджэння Хрыстовага 1449 пані Сонька, жонка пана (Гімб)ута душу брата свайго, а менавіта Клаўкі, сына Гаштаўта (?), (сына свайго) Якуба і дачку сваю Беату; узнесена малітва за іх; душу пана Войхіла (?) і згаданага мужа свайго… |

Гаворачы пра гэты запіс, трэба, аднак, мець на ўвазе, што ён захаваўся ў вельмі кепскім стане. Паводле фотаздымка, апублікаванага З.Дунінам-Казіцкім (пра месцазнаходжанне арыгінала нам невядома), дастаткова ўпэўнена чытаюцца імёны Sonyka і Clauco, а ад імені Gasthult можна не без цяжкасці разабраць літары G…t…lt.

Па гэтай прычыне некаторыя чытанні з’яўляюцца па меншай меры спрэчнымі. Пра мужа Сонькі – Гімбута, як і пра саму яе, практычна нічога невядома. Праўда, у эпоху

312 Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498): Užrašymų knyga 3 / Parengė L. Anužytė ir A. Baliulis. Vilnius, 1998. P. 93-94.
313 Dunin-Kozicki, Z. Szczątek kalendarza Franciszkanów wileńskich z XV wieku, s. 3-12; Rowell, S.C. Winning the Living by Remembering the Dead? Franciscan Tactics and Social Change in 15th century Vilnius // Tarp istorijos ir būtovės. Studijos prof. Edvardo Gudavičiaus 70-mečiui. Specialusis “Lietuvos istorijos studijų” leidinys (T. 1). Vilnius. 1999. P.87-120.
314 Dunin-Kozicki, Z. Szczątek kalendarza Franciszkanów wileńskich z XV wieku, s.11; Rowell, S.C. Winning the Living, p.119.

вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча жыў жамойцкі нобіль “*Кгенбут*”[315], але ці быў гэта той самы “*[Gymb]uth*”, імя якога ўгадваецца ў радках календара віленскіх францішканцаў, сказаць з абсалютнай упэўненасцю нельга.

Аналагічным чынам выклікае сумнеў чытанне “*Gasthult*”, не толькі з-за нечытэльнасці некаторых літар, але і таму, што, як адзначыў у свой час У. Семковіч, ні Соньку, ні яе брата Клаўка немагчыма звязаць з якім-небудзь вядомым адгалінаваннем Гаштаўтаў першай паловы XV ст. Усе такія спробы заводзяць у тупік, бо няма ні прамых, ні ўскосных дадзеных альбо аргументаў.

У бліжэйшым атачэнні вялікага князя Вітаўта знаходзіўся нобіль Гетаўт (Gethowoth, Gettoth). У 1409 г. ён быў цівуном у Бірштанах і прымаў удзел у заняцці Жамойці[316]. У 1413 г. Гетаўт быў адаптаваны ў Гародле адным з польскіх шляхецкіх родаў з гербам “*Копач*”. Ад вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча Гетаўт (“*Кгетолт*”) каля 1437/1438 г. атрымаў чалавека ў Расейнскай воласці Жамойці[317].

У.Семковіч і Р.Пятраўскас налічваюць у Гетаўта дваіх сыноў: Дорга і Георгія. Па нашых падліках, сыноў у Гетаўта было не менш як пяцёра. Ніжэй прадстаўлены іх пералік, які можа прадстаўляць цікавасць не толькі для літоўскай, але і для беларускай гісторыі, бо Гетаўтавічы мелі значныя ўладанні ў Крэўскай воласці.

1. Войтка Гетаўтавіч (“*Воитъко Кготовтович*”) прыблізна ў 30-х альбо 40-х гг. XV ст. атрымаў чалавека ў Крэўскай воласці; верагодна, гэта была мясцовасць ў раёне сучаснай вёскі Вярэбушкі Смаргонскага раёна[318].
2. Дорг (Доргіс) Гетаўтавіч (“*Dorgys Gethowthowycz*”) 2 лістапада 1449 г. у Вільні прадаў Пятру, кухмістру віленскага біскупа, вёску Лошыцы (Loschycze alias Vaszylewo), а таксама землі на рацэ Падлеснай (Slepla alias Podlasna). Гэтыя ўладанні лакалізуюцца на Падляшшы, на поўдзень ад Дарагічына[319]. Ад жонкі Доргу Гетаўтавічу дасталіся маёнткі Олбяз (Любязь), Любешаў, Біскупічы і Роснае ў басейне рэк Прыпяць і Стаход, на тэрыторыі сучаснай Валынскай вобласці Украіны[320]. Меў сыноў Грыгорыя, Міхна і дачку Кахну[321].
3. Монька Гетаўтавіч (памёр да 18 чэрвеня 1482 г.), пра якога, апроч імя, нічога больш не вядома[322].
4. Мікалай Гетаўтавіч – валодаў маёнткамі Бакшты і Куцішкі, якія перайшлі пасля яго смерці да яго дачкі Ганны, выдадзенай замуж за нейкага нобіля Будылу альбо Будылавіча. Гэтыя звесткі пра Мікалая Гетаўтавіча (“*Mikołaja Gotoltowicza*”)

---

[315] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 225 (1528-1547): 6-oji Teismų bylų knyga (XVI a. pabajgos kopija) / Spaudai parengė S. Lazutka, I. Valikonytė ir kt. Vilnius, 1995. P. 269 (дата для дакумента прапанавана: 29 верасня 1431 альбо 1432 г.).

[316] “Gettoth kemmerer vom Birsten” (Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. T. 6. Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. 1376-1430 / Collectus opera A.Prochaska. Kraków, 1882. S. 185). Зводку дадзеных пра Гетаўта гл.: Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Rocznik Towarzystwa heraldycznego we Lwowie. T. 7. R. 1924-1925. Kraków, 1926. S. 218; Petrauskas R. Lietuvos diduomenė XIV a. pabaigoje - XV a. Sudėtis – struktūra – valdžia. Vilnius, 2003. P. 234.

[317] “Кгетолту ч(о)л(о)в(е)къ Еибутъ” (Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3, p. 50). Дата 1437/1438 г. устанаўліваецца на падставе таго, што гэты запіс змешчаны пасля надання, выдадзенага па загаду Яна Гаштаўта, і перад наданнем, датаваным 1 індыктам (перыядам з 1 верасня 1437 г. па 31 жніўня 1438 г.).

[318] “Воитъку Кготовтовичу чоловек. Пан Кгастовт. Сопега” (Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3, p. 23); гл. таксама вырак в.к.л. Аляксандра ад 28 мая 1501 г. па справе паміж удавой пана Юхна і татарамі наконт маёнтка “Воробишки”: “Отец наш, король его милость, после смеръти пана Войтковы Кготовътовича тое именье мужу ее, пану Юхну, далъ” (Русская историческая библиотека. Т. 27. Литовская Метрика. Отдел 1. Часть 1: Книги записей. Т. 1. СПб., 1910. Стлб. 817-818, № 241).

[319] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej. T. 1. 1387-1507 / Oprac. J.N.Fijałek, W.Semkowicz. Kraków, 1932-1948. S. 221-222.

[320] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4 (1479-1491): Užrašymų knyga 4 / Parengė L. Anužytė. Vilnius, 2004. P. 117.

[321] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4, p. 28, 55, 112, 117 (пра Міхна Даргевіча і Кахну); Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М., 1915. Приложение, с. 349 (тут пра Грыгорыя Даргевіча, які пэўны час у другой палове XV ст. валодаў землямі ў Крэўскай воласці).

[322] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 4, p. 112.

прывёў у сваёй працы Чэслаў Янкоўскі са спасылкай на кнігу 2402 з колішняга Цэнтральнага Віленскага архіва (кніга з дэкрэтамі Духоўнага трыбуналу за 1788 г., арк.7-10)[323]. Нажаль, ён не працытаваў дакумент, таму верагоднасць і карэктнасць гэтага паведамлення цяжка ацаніць. Калі яно дакладнае, то Ганна Мікалаеўна, дачка Мікалая Гетаўтавіча, магла быць жонкай Будылы Мангірдавіча, сын якога Станіслаў Будылавіч ахвяраваў у 1486 г. пэўныя наданні Віленскаму францішканскаму касцёлу Панны Марыі на Пясках[324]. Назвы "*Бакшты*" і "*Куцішкі*" даволі распаўсюджаны на тэрыторыі былога ВКЛ: так, вёскі і хутары Бакшты існуюць на тэрыторыі Шчучынскага, Іўеўскага, Мядзельскага, Маладзечанскага раёнаў, а вёскі Куцішкі – на тэрыторыі Астравецкага і Мядзельскага раёнаў. Але толькі ў адным выпадку вёскі з такімі назвамі размешчаны ў непасрэднай блізкасці адна ад адной – гэта вёскі Бакшты і Куцішкі ў Мядзельскім раёне на поўнач ад гарадскога пасёлка Свір, па абодвух берагах ракі Страчы[325]. Магчыма, Ганне, дачцэ Мікалая Гетаўтавіча, дасталася толькі пэўная частка маёнткаў Бакшты і Куцішкі; астатняй часткай валодалі ўдава і сын Георгія Гетаўтавіча, якія ў 1468 г. запісалі з Бакштаў і Куцішак дзесяціну на карысць Крэўскага парафіяльнага касцёла[326].

5. Георгій Гетаўтавіч (Georgius Gottoltowycz) выступае 13 ліпеня 1443 г. як сведка дакумента, якім свірскі князь Ян Крыг разам з жонкай Даротай запісаў наданне віленскім францішканцам[327]. 23 красавіка 1452 г. ён фігуруе сярод паноў рады ВКЛ у якасці брацлаўскага дзяржаўцы[328] (маецца на ўвазе падольскі Брацлаў). Памёр да 24 чэрвеня 1468 г., калі яго ўдава Ганна і сын Георгій (Юхна) запісалі Крэўскаму парафіяльнаму касцёлу шэраг наданняў[329]. З гэтага і некаторых іншых дакументаў вынікае, што Георгій Гетаўтавіч і яго нашчадкі валодалі наступнымі маёнткамі:

- Вішнева (Wisniewo, 1468, 1478). Законным дзедзічам гэтага населенага пункта названы ў 1468 г. Георгій, сын Георгія Гетаўтавіча; цяпер гэта в. Вішнёўка Смаргонскага раёна, на рацэ Вішнёўка, за 4 км на паўднёвы захад ад Крэва[330]. Гэты населены пункт як спадчыннае ўладанне Гетаўтавічаў, вядома ж, нельга блытаць з мястэчкам Вішнева на рацэ Альшанцы, у былым Ашмянскім павеце, дзедзічам якога 29 кастрычніка 1447 г. называецца зусім іншы нобіль – Пётр Сенька Гедыгольдавіч[331].
- Няверышкі (Niewieryszki, 1468). Населены пункт з такой назвай ў мінулым існаваў на месцы сучаснага ўрочышча Няверышкі на тэрыторыі Крэўскага сельсавета Смаргонскага раёна, на левым беразе ракі Краўлянкі, за 3 км на поўдзень ад Крэва[332].
- Вярэбушкі (Werebiszki, 1468; Воробишки, 1501). Цяпер гэта в. Вярэбушкі Смаргонскага раёна, на левым беразе ракі Краўлянкі, за 4 км на поўдзень ад Крэва[333]. Першапачаткова гэтым населеным пунктам валодаў Войтка Гетаўтавіч, а пасля яго смерці Вярэбушкі былі перададзеныя яго пляменніку Георгію (Юхну), сыну Георгія Гетаўтавіча. Паколькі ў адпаведным дакуменце

[323] Jankowski, Cz. Powiat oszmiański: materjały do dziejów ziemi i ludzi. Cz.2. Petersburg, 1897. S.223.
[324] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.403.
[325] Тапаграфічная карта N-35-41 (маштаб 1: 100000).
[326] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.294.
[327] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.202.
[328] "Juszkone Gethowtowicz tenutario Braclawiensi" (Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.236).
[329] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s. 293. У 1478 г. наданне было дапоўнена (ibid., s.365-366).
[330] Тапаграфічная карта N-35-65.
[331] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.212.
[332] Тапаграфічная карта N-35-65.
[333] Тапаграфічная карта N-35-65.

вялікі князь літоўскі Казімір ужо тытулаваўся каралём Польшчы, гэтая перадача Вярэбушак адбылася не раней за 1447 г.[334]

- Дварэц альбо Івашкішкі (Dworzec alias Iwaskiszki, 1468). Лакалізацыя гэтага населенага пункта сустракаецца з цяжкасцямі, бо назвы тыпу "*Дварэц*" вельмі распаўсюджаны на тэрыторыі былога ВКЛ. У.Семковіч, зрэшты, прапаноўваў атаясаміць гэты маёнтак Гетаўтавічаў з вёскай Дварэц у кіламетры на поўнач ад в. Ілля Вілейскага раёна[335]. Поўнай упэўненасці ў такой лакалізацыі, аднак, няма.
- Бакшты (Baxti, 1468) і Куцішкі (Kutiszki, 1468). Меркаванне У.Семковіча, што ў дакуменце 1468 г. меліся на ўвазе Бакшты, змешчаныя за 3–4 км на паўночны ўсход ад Радашковічаў, дзе цяпер існуюць вёскі Вялікія Бакшты і Малыя Бакшты[336], з'яўляецца недакладным. Як ужо адзначалася вышэй, абедзьве вёскі можна бадай з поўнай упэўненасцю атаясаміць з сучаснымі вёскамі Бакшты і Куцішкі, якія змешчаны за 8-10 км на поўнач ад гарадскога пасёлка Свір. Такая лакалізацыя маёнтка добра тлумачыць блізкасць Георгія Гетаўтавіча да свірскага князя Яна Крыга. Часткай Бакштаў і Куцішак, магчыма, валодала Ганна, дачка Мікалая Гетаўтавіча.
- Альгіняны (Olghenany, 1468). Як цалкам слушна адзначыў У.Семковіч, гэты маёнтак можна атаясаміць з сучаснай вёскай Альгіняны Астравецкага раёна[337].
- Гальчунцы (Golczvnczy, 1484). Маёнтак, які Георгій, сын Георгія Гетаўтавіча, 24 сакавіка 1484 г. прадаў віленскаму біскупу Андрэю. Цяпер гэта вёска Гальчуны Астравецкага раёна за 3 км на паўночны ўсход ад Альгіянянаў[338]
- Нелакалізаваныя землі ў раёне Бабруйска (1468), з якіх Крэўскаму парафіяльнаму касцёлу была запісана мядовая даніна ў адпаведнасці з ужо цытаваным вышэй дакументам.
- Залушша альбо Залужжа (Zalusza альбо Zalusse, 1488, 1510). Вёска, якой валодалі Георгій (Юхна), сын Георгія Гетаўтавіча, і яго жонка Ганна. У 1510 г. Ганна, удава Георгія Георгіевіча, падаравала Вішнева на рацэ Вішнёўцы і Залушша Яну Стэцковічу, які ў 1538 г. завяшчаў гэтыя маёнткі каралеве Боне Сфорцы[339]. Цяперашняя лакалізацыя вёскі Залушша не высветлена. Па інфармацыі аднаго з дакументаў 1522 г., шукаць яе месцазнаходжанне трэба на тэрыторыі былога Крэўскага павета[340].

Вяртаючыся да Клаўкі, былога ўладальніка Нясвіжа, заўважым, што гэтае імя (у формах Clauko альбо Clawko) у XIV–XV стст. нярэдка ўжывалася на тэрыторыі каталіцкіх краін, такіх як Польшча і Тэўтонскі ордэн у Прусіі. Яно з'яўляецца формай імя Nicolaus (Мікалай)[341].

Існуюць пэўныя падставы для таго, каб атаясаміць Клаўку са згаданым сынам нобіля Гетаўта – Мікалаем Гетаўтавічам.

Па-першае, сугучнасць імені. Слова "*G…t…lt*" з календара віленскіх францішканцаў можна прачытаць як "*Gottvlt*" альбо "*Gettvlt*". Такім чынам, у фразе

---

[334] РИБ. Т.27. Стлб. 818.
[335] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.294, nota 7; тапаграфічная карта N-35-55.
[336] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.294, nota 8; тапаграфічная карта N-35-67.
[337] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.294, nota 9; тапаграфічная карта N-35-53.
[338] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej, s.394; тапаграфічная карта N-35-53.
[339] Описание документов и бумаг, с.332, 337-338, 340, 344, 357; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S.68.
[340] "Jan Steczko z Dolobowa, marszalek Krolia iego M. i dziedicz dobr Wissniewo i dannikow w Zalusse, w powieczie Krewskim leżączÿch" (Описание документов и бумаг, с.338).
[341] Malec, M. Imiona chrześcijańskie w średniowiecznej Polsce. Kraków, 1994. S.126. Прыклады ўжывання імені Clauko (Klawko) у Прусіі гл.: Schuldbücher und Rechnungen der Großschäffer und Lieger des Deutschen Ordens in Preußen. Bd. 1. Großschäfferei Königsberg I (Ordensfoliant 141) / Hsgb. C. Heß, Ch. Link und J. Sarnowsky. Köln, 2008. S.92, 95, 138, 292 ды інш.

“*domini Clauko filii G(ot)tvlt*” гаворка ідзе практычна пра поўнага цёзку Мікалая Гетаўтавіча.

Па-другое, як сведчаць дакументальныя крыніцы, Гетаўтавічы, прынамсі галіна Георгія Гетаўтавіча, былі шчырымі каталікамі, блізкімі да віленскага францішканскага асяродка. Пагэтаму невыпадкова, што Сонька, калі яна была дачкой Гетаўта, таксама мела стасункі з віленскімі францішканцамі і даручыла ім маліцца за спачын душ сваіх крэўных.

Па-трэцяе, паводле календара, Сонька папрасіла манахаў маліцца за нейкага чалавека, чыё імя ў календары цяжка дакладна прачытаць. З. Дунін-Казіцкі прапанаваў чытанне Voychil, але дадаў да яго пытальнік (?). Магчыма, тут гаворка ідзе пра аднаго з братоў Гетаўтавічаў – Войтку Гетаўтавіча, і сапсаванае імя ў календары магло гучаць як “*Voyczіech*” альбо “*Voytko*”.

*Пасада Клаўкі, абставіны і дата яго смерці.* Пасада, якую займаў Клаўка пры двары вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча, дакладна называецца ў адным з дакументаў. У 31-й кнізе запісаў Літоўскай Метрыкі захаваўся лацінамоўны тэкст пацвярджэння вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча на шэраг уладанняў для біскупскай каталіцкай кафедры ў Луцку (Трабы, 2 лютага 1437 г.). Сярод сведкаў дакумента мы сустракаем вялікакняжацкага вярхоўнага пасцяльнічага Клаўку: “*Claukone nostro supremo cubiculario*”[342].

Вядома, што яшчэ пры двары вялікага князя літоўскага Альгерда існавала пасада пасцяльнічага (ст.-бел. “*коморник*”; лац. cubicularius), які, апрача засцілання ложка, абавязаны быў даваць гаспадару пітную ваду (верагодна, каштуючы яе перад ужываннем). З нагоды магчымых атручанняў характар гэтай пасады патрабаваў выключнага даверу паміж гаспадаром і слугой. Нездарма, як распавядаецца ў “*Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх*”, адзін з пасцяльнічых Альгерда — былы “*халоп*” Вайдыла – зрабіў хуткую кар’еру, атрымаўшы ад Альгерда ў дзяржанне Ліду, а потым стаўшы найбліжэйшым дарадцам Ягайлы і ажаніўшыся з князёўнай Марыяй Альгердаўнай (1379 г.)[343]. Адзін з «каморнікаў» вялікага князя літоўскага Ягайлы – “*Прокша, што воду давал ему*” – удзельнічаў у забойстве Кейстута (1382). Пры двары вялікага князя літоўскага Вітаўта была ўведзена пасада вярхоўнага пасцяльнічага (“*supremus cubicularius*”), якую ў 1428 г. займаў нобіль Юшка Страміла. Ён карыстаўся такім даверам з боку Вітаўта, што праз год, 29 жніўня 1429 г., згадваецца ў адным з дакументаў ужо не толькі як вялікакняжацкі вярхоўны пасцяльнічы, але і як скарбнік[344]. Займаючы аналагічную пасаду вярхоўнага пасцяльнічага пры вялікім князі літоўскім Жыгімонце Кейстутавічы, Клаўка належаў да кола яго бліжэйшых слуг і давераных асоб.

Як і яго гаспадар, Клаўка скончыў жыццё пры трагічных абставінах. Пра падрабязнасці яго смерці распавядаецца ў хроніцы Быхаўца – у фрагменце пра забойства вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча. Храніст піша, што падчас замаху Жыгімонт Кейстутавіч знаходзіўся ў сваёй “*лажніцы*” (спальні альбо пакою[345]) у адной з вежаў Троцкага “*вялікага*” замка, дзе слухаў імшу. Загаворшчыкі ведалі, што ў вялікага князя ёсць ручны мядзведзь, які, каб зайсці ў “*лажніцу*”, звычайна драпаў кіпцюрамі па дзвярах і тады яго ўпускалі. Таму забойцы – князь Іван Чартарыйскі, яго слуга Скабейка і іншыя людзі – паскраблі па дзвярах, і Жыгімонт Кейстутавіч, мяркуючы, што гэта быў ягоны мядзведзь, загадаў адчыніць. Уварваўшыся ў пакой, загаворшчыкі ўдарылі вялікага князя ў галаву віламі, якімі варушыліся дровы ў коміне. У гэты час у “лажніцы” побач з

[342] Акты Литовско-Русского государства / Изд. М.В.Довнар-Запольским. Вып.1. (1390-1529). М., 1899. С.15, № 9. Як слушна зазначыў у цытаванай працы З.Дунін-Казіцкі, пры перапісцы альбо пры публікацыі гэтага дакумента былі паблытаны лацінскія літары “k” і “b”, таму імёны Некраша і Клаўкі апублікаваны са скажэннямі: “Nebrasio” замест “Nekrasio” і “Claubone” замест “Claukone”. Устанаўленне правільнага чытання, зрэшты, не складае цяжкасцей.

[343] Полное собрание русских летописей. Т.35. М., 1980. С.85, 115.

[344] Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi, magni ducis Lithuaniae / Opr. i wyd. J.Ochmanski. Warszawa etc., 1986. S.13, 46, 105.

[345] Значэнне слова “ложница” гл.: Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып.17. Мн., 1998. С.107.

Жыгімонтам Кейстутавічам, апроч каталіцкага капелана, знаходзіўся яго бліжэйшы слуга, якога хроніка Быхаўца называе “*Sławko*”. Ён, смуткуючы, прыпаў да цела Жыгімонта Кейстутавіча, а забойцы скінулі гэтага слугу з вежы і ён загінуў.

Прывядзем адпаведны фрагмент цалкам:

| | |
|---|---|
| Y w tot czas pał na neho miłostnik ieho na imia Sławko, ne chotiaczy widety smerty hospodara swoieho, poneże bo welmi był lub welikomu kniaziu Żygimontu; a oni toho Sławka wziali y kinuli oknom z weży, y on tam szyiu złamał[346]. | *Пераклад на сучасную беларускую мову.* І ў той час на яго [на цела забітага Жыгімонта] паў ягоны любімец па імені Слаўка, не жадаючы бачыць смерць свайго гаспадара, бо вялікі князь Жыгімонт яго вельмі любіў; а яны таго Слаўку ўзялі і кінулі праз акно з вежы, і ён там зламаў шыю. |

Характар і месца гэтага здарэння (вялікакняжацкая “*лажніца*”, дзе прысутнічалі самыя блізкія слугі), а таксама сугучнасць імя, не пакідаюць сумневу, што ў хроніцы Быхаўца гаворка ідзе менавіта пра вярхоўнага пасцяльнічага Клаўку. Транслітаруючы кірылічны пратограф хронікі Быхаўца польскімі літарамі, перапісчык прачытаў імя “*Клавко*” як “*Славко*”, бо паміж мачтамі кірылічнай літары “*к*” у беларускім скорапісе XVI ст. заставаўся інтэрвал і адну з мачтаў, хутчэй за ўсё, правую, крыху выгнутую пасярэдзіне, ён прыняў за літару “*с*”.

Як зазначыў у свой час Е.Ахманьскі, калі першыя часткі хронікі Быхаўца, скампіляваныя з міфаў, фантазій і матэрыялаў першага летапіснага зводу ВКЛ, практычна не маюць ніякай самастойнай каштоўнасці як гістарычная крыніца, то пачынаючы з падзеяў 1440 г. гістарычная вартасць хронікі Быхаўца рэзка ўзрастае[347]. Аповед пра забойства Жыгімонта Кейстутавіча грунтаваўся на ўражаннях і ўспамінах непасрэдных удзельнікаў альбо сучаснікаў падзеяў, таму прыведзеныя ў ім дэталі, у тым ліку пра слугу “*Слаўку*” (Клаўку), заслугоўваюць пільнай увагі.

Хаця ў іншых крыніцах, якія апісваюць забойства Жыгімонта Кейстутавіча ў Троках, няма згадак пра яго слугу, тым не менш яны ў дэталях даволі сугучныя з хронікай Быхаўца, за выключэннем таго, што паводле большасці крыніц Жыгімонт Кейстутавіч быў заколаты нажамі. Ян Длугаш, напрыклад, пацвярджае, што вялікі князь літоўскі быў забіты, калі слухаў каталіцкае набажэнства ў сваім пакоі, а ягоныя дваране ў той час знаходзіліся ў касцёле[348]. Такая экзатычная дэталь, як ручная мядзведзіца, выгадаваная пры двары вялікага князя літоўскага, апісваецца таксама ў раздзеле «*Пра Літву*» з “*Гісторыі Еўропы*” Энея Сільвія Пікаламіні (1405-1464), хаця ў гэтым творы князь Свідрыгайла блытаецца з князем Жыгімонтам Кейстутавічам[349].

Смерць вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча як беларуска-літоўскія летапісцы, так і Ян Длугаш аднадушна датуюць вербнай нядзеляй 1440 г. (6948 г. ад стварэння сусвету)[350].

Такім чынам, Клаўка загінуў разам са сваім гаспадаром 20 сакавіка 1440 г.

*Уладанні Клаўкі, лёс ягоных нашчадкаў.* Устанаўленне дакладнай даты смерці Клаўкі вымушае па-іншаму ацаніць і датаваць запісы аб ягоных уладаннях.

Па-першае, відавочна, што ў той час, калі Нясвіж быў перададзены пану Мікалаю Няміравічу (17 верасня 1445 г.), Клаўкі ўжо больш як пяць гадоў не было ў жывых.

Па-другое, усе запісы аб наданнях зямель Клаўку, якія знаходзяцца ў 3-й кнізе запісаў Літоўскай Метрыкі мусяць быць датаваны перыядам кіравання вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча (з 1 верасня 1432 г. па 20 сакавіка 1440 г.). Меркаванне А.А.Мяцельскага, што гэтыя наданні выдаў вялікі князь Казімір Ягайлавіч у 1440-1447

[346] Полное собрание русских летописей. Т.32. Мн., 1975. С.156.
[347] Ochmański, J. Nad kroniką Bychowca // Studia Źródłoznawcze. T.12. Warszawa etc., 1967. S.159.
[348] Długosz, J. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście / Przekład K.Mecherzyńskiego. T.4. Ks.XI, XII. Kraków, 1869. S.574.
[349] Scriptores rerum Prussicarum. T.4. Leipzig, 1870. S.237.
[350] Полное собрание русских летописей. Т.35. М., 1980. С.60, 77, 143, 164; Długosz, J. Dziejów Polskich ksiąg dwanaście, s.574.

гг.[351], з’яўляецца памылковым яшчэ і таму, што ў тэксце рэгестаў імя Казіміра Ягайлавіча не згадваецца.

Існуе дзве копіі 3-й кнігі запісаў Метрыкі ВКЛ, абедзьве зробленыя ў XVI ст. Першая, якая знаходзіцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве, неаднойчы выдавалася і добра вядомая. Другая, выкананая для Радзівілаў, захоўваецца ў Бібліятэцы Чартарыйскіх у Кракаве і ў шэрагу чытанняў дапаўняе копію з РДАСА[352]. Па нейкай прычыне літоўскія метрыканты пры перавыданні 3-й кнігі запісаў у 1998 г. пакінулі гэты каштоўны рукапіс па-за ўвагай. Прывядзем цікавыя для нас запісы, як яны гучаць у абедзьвюх копіях.

| Копія з РДАСА[353] | Копія з Бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве[354] |
|---|---|
| Ивашку Вяжевичу десеть ч(о)л(о)в(е)ков на Морочи и с ловищи; до воли. Самъ велики*и* князь. При пане Петраши.<br>Клавку десеть ч(о)л(о)в(е)ковъ, тыхъ же половина, што за Вяжевичомъ. Самъ велики*и* кн(я)зь. Сопега. | Ивашку Вяжевичу 10 ч(о)л(о)в(е)ковъ на Морочы и с ловищи; до воли. Самъ в(е)л(икий) князь. Пры панѣ Петрашы.<br>Клавку 5 ч(о)л(о)вековъ, тых же половина, што за Вяжевичом. Самъ в(е)л(икий) княз. Сопѣга. |

Як бачым, у кракаўскай копіі ёсць істотная папраўка: чытаецца “*Клавку 5 чоловеков*” замест “*Клавку десеть чоловеков*” (лічба 5 перададзена кірылічнай літарай “*е*” пад цітлам). У агульным кантэксце гэтае чытанне здаецца больш правільным.

Рака Морач – гэта правы прыток р. Случы, які пачынаецца каля в. Вошкаты Капыльскага раёна і далей цячэ на тэрыторыі Слуцкага, Клецкага і Салігорскага раёнаў[355]. Тапанімічныя сляды, звязаныя з імёнамі Івашкі Вяжэвіча і Клаўкі, уздоўж яе цячэння выявіць не ўдалося. Звяртае на сябе ўвагу, што землі па рацэ Морачы, напэўна, уваходзілі ў сферу ўплыву Слуцка-Капыльскага ўдзела, якім валодаў князь Алелька Уладзіміравіч. Перадача гэтых зямель вялікакняжацкім нобілям Івашку Вяжэвічу і Клаўку магла быць звязана з апалай Алелькі Уладзіміравіча, які быў у 1433 г. зняволены разам з жонкай і дзецьмі па загаду вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча[356].

Другі рэгест у 3-й кнізе запісаў Літоўскай Метрыкі датычыць сына Клаўкі – Семенца. Гучыць ён наступным чынам.

| Копія з РДАСА[357] | Копія з Бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве[358] |
|---|---|
| Зьяловичомъ Говенса, два ч(о)л(о)в(е)ки, што Клавковъ сынъ Семенец, держалъ. Логвинъ. | Зьяловичомъ Говеньса, два ч(о)л(о)в(е)ки, што Клавъковъ с(ы)нъ Семене*ц* держа*л*. Ло*г*(вин). |

Калі пра нобіляў Зьяловічаў пакуль не ўдалося знайсці ніякіх іншых звестак, то населены пункт “*Говенса*” досыць упэўнена (тут можна пагадзіцца з А.А.Мяцельскім) лакалізуецца на месцы пазнейшай вёскі Гавязна, якая знаходзілася на шляху паміж Стоўбцамі і Нясвіжам, на рацэ Гавязнянка, левым прытоку Нёмана. Старая вёска Гавязна, як лічыцца, была на месцы цяперашняй в. Навапольцы Стаўбцоўскага раёна. У XVIII ст. непадалёк ад старой вёскі было заснавана аднайменнае мястэчка Гавязна, у 1964 г. перайменаванае ў Вішнявец[359].

Такім чынам, сын Клаўкі Сямён у 30-х – 40-х гг. XV ст. некаторы час валодаў землямі ў Гавязне побач з Нясвіжам. Але пасля смерці бацькі і змены палітычнай фартуны

[351] Мяцельскі, А.А. Пачаткі Нясвіжа // Białoruskie Zeszyty Historyczne. T.34. Białystok, 2010. С.6.
[352] Апісанне рукапіса гл.: Sułkowska-Kurasiowa, I. Nieznane egzemplarze ksiąg Metryki Litewskiej z lat 1440-1518 // Kwartalnik historyczny. R.90, z.1. Warszawa, 1983. S.119-122; The “Lithuanian Metrica” in Moscow and Warsaw: Reconstructing the Archives of the Grand Duchy of Lithuania. Including an annotated Edition of the 1887 Inventory Compiled by Stanisław Ptaszycki / Patricia Kennedy Grimsted (Harvard University) with the collaboration of Irena Sułkowska-Kurasiowa (Polish Academy of Sciences). Cambridge, Massachusetts, 1984. Appendix 2. P. A-10; Галенчанка, Г.Я. Метрыка Вялікага княства Літоўскага // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Т.2. Мн., 2006. С.307.
[353] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498), p.56.
[354] Biblioteka Czartoryskich w Krakowie, rkps 2329, s.99-100.
[355] Блакітная кніга Беларусі (водныя аб’екты Беларусі). Энцыклапедыя. Мн., 1994. С.249.
[356] Пазднякоў, В. Алелькавічы // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя. Мн., 2005. С.218.
[357] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498), p.54.
[358] Biblioteka Czartoryskich w Krakowie, rkps 2329, s.50.
[359] Шаблюк, В.У. Вішнявец // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 т. Т.2. Мн., 1994. С.343.

гэты маёнтак быў у яго адабраны. У наступныя часы, ажно да 1588 г., Гавязна, па некаторых звестках, належала да ўладанняў слуцкіх князёў Алелькавічаў[360].

Калі Клаўка, вярхоўны пасцяльнічы вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча і уладальнік Нясвіжа, быў сапраўды тоесны нобілю Мікалаю Гетаўтавічу, то ў яго, апроч сына Семенца, была дачка Ганна, якая валодала часткай маёнтка Бакшты і Куцішкі. Як мы казалі вышэй, яна, магчыма, выйшла замуж за нобіля Будылу Мангірдавіча. Але гэтыя звесткі патрабуюць пераправеркі – вядома ж, пры ўмове, што будуць адшуканы архіўныя матэрыялы, на якія спасылаўся Ч. Янкоўскі і ў якіх ішла гаворка пра Мікалая Гетаўтавіча і ягоную дачку.

Яшчэ адно цікавае пытанне – гэта наяўнасць каля Нясвіжа тапонімаў, магчыма, звязаных з іменем Клаўкі. Маюцца на ўвазе два населеныя пункты з назвай Слаўкава, якія існавалі са старажытных часоў побач з Нясвіжам. Па дадзеных XIX ст. ("*Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства*"), адным населеным пунктам, які называўся Слаўкава, быў засценак у Слуцкім павеце, уласнасць Радзівілаў, за 3 вярсты на поўнач ад Нясвіжа. Другая вёска з назвай Слаўкава існуе і цяпер у 2-3 км на ўсход ад Нясвіжа[361]. Ідэя, што гэтыя населеныя пункты першапачаткова называліся "*Клаўкава*", а потым, з цягам часу, народная этымалогія перайначыла іх на свой капыл (як гэта адбылося і ў хроніцы Быхаўца, дзе Клаўка пераўтварыўся ў "*Слаўку*"), не падаецца празмерным перабольшаннем. Хаця гэта ўсяго толькі здагадка, але даволі праўдападобная.

*Высновы.* Коратка падсумуем галоўныя высновы. Першым вядомым нам уладальнікам Нясвіжа быў нобіль Клаўка, вярхоўны пасцяльнічы і адзін з бліжэйшых слуг вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча. Паводле шэрага прамых і ўскосных дадзеных, Клаўка мог быць тоесны нобілю Мікалаю Гетаўтавічу, г. зн. ён быў прадстаўніком балцкага каталіцкага рода Гетаўтавічаў, які, верагодна, паходзіў з Жамойці, але ў першай палове XV ст. атрымаў уладанні на ўсходзе гістарычнай Літвы – на тэрыторыі цяперашніх Смаргонскага, Мядзельскага, Астравецкага раёнаў. У перыяд апалы слуцкага князя Алелькі Уладзіміравіча ў 1433-1440 гг. Клаўка атрымаў землі ўздоўж ракі Морач і ў Нясвіжы. Загінуў ён 20 сакавіка 1440 г., скінуты з вежы Троцкага замка пад час забойства вялікага князя літоўскага Жыгімонта Кейстутавіча. Пасля смерці Клаўкі статус Нясвіжа на працягу пяці гадоў застаецца няясным. 17 верасня 1445 г. (а не 1446 г., як лічыць А.А.Мяцельскі) Нясвіж быў перададзены новаму ўладальніку – Мікалаю Нямiравічу, і гэту дату трэба лічыць датай першай пісьмовай згадкі пра гэты населены пункт.

[360] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T.3. Haag-Kępy. Warszawa, 1882. S.170.

[361] Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T.10. Rukszenice-Sochaczew. Warszawa, 1889. S.786; тапаграфічная карта N-35-102.

**Аляксей Шаланда**
**(Менск)**

# САПРАЎДНЫ ГЕРБОЎНІК ШЛЯХТЫ ВАЎКАВЫСКАГА ПАВЕТА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVI-XVIII ст. (Г)

З гербаў ваўкавыскай шляхты, прозвішча якіх пачынаюцца на літару "*Г*", на сённяшні дзень былі вядомы гербы пераважна з гербоўніка Войцаха Каяловіча, які пісаў пра князёў Глінскіх гербу ўласнага "*Глінск*", Голубаў гербу ўласнага і Гарадзельскіх гербу "*Лебедзь*" [3, s.70-71, 123, 277]. У дадатак да гэтага Віктар Вітыг і Станіслаў Дзядулевіч бачылі пячатку зямяніна Ваўкавыскага павета Каспара Грыбоўскага з 1600 г. з гербам "*Прус III*" [10, s.109]. Прапануем увазе Чытачоў некалькі гербаў ваўкавыскай шляхты, якія ўдалося выявіць на падставе сфрагістычнага матэрыялу XVI-XVIII ст.

**(45). Габрыяловіч Павел**, зямянін гаспадарскі Ваўкавыскага павета, 1575.




**Герб**: на тарчы месяц рагамі ўправа, паміж якімі шасцікутная зорка, над тарчай – ініцыялы "*P[aweł]:G[abryjałowicz]*".
Пячатка: адб. № 4, вак, 15x17 мм, в [20, ф.694, воп.4, спр.823, а.52].

24 сакавіка 1575 г. у Ваўкавыску Павел Габрыяловіч, як сведка і пячатар, прыклаў сваю пячатку да дароўнага ліста Ганны Себастыянаўны Дыбоўскай.

Звесткі пра Паўла Габрыяловіча знаходзім яшчэ ў попісе войска ВКЛ 1565 г., калі ён у Ракаве 1 жніўня быў запісаны асабіста: "*Павелъ Кгабрыаловичъ з дыму конь въ пан[цыри], въ пр[илбицы], с т[арчей], з ощепомъ*" [17, слп.321]. Відаць, прозвішча Паўла, утворанае ад патраніміка, не было сталым, а таму пазней магло быць зменена. Магчыма, яго братам ці нейкім крэўным быў ваўкавыскі возны ў 1594 г. Лукаш Габрыяловіч [103, с.74]. Вызначэнне "*з дыму*" і ўрад вознага апошняга можа сведчыць пра тое, што род быў дробнашляхецкім.

Герб Паўла Габрыяловіча дэманструе ўласную форму польскага герба "*Ляліва*" [37, s.91], але ўпэўненасці ў тым, што гэта быў менавіта зменены яе варыянт, няма. Магчыма, гэта быў уласны герб ваўкавыскіх Габрыяловічаў. Шукаць татарскія матывы ў ім не варта, па-першае, з-за папулярнасці сюжэта ў шляхецкай геральдыцы ВКЛ і Польшчы, па-другое, з-за адсутнасці такога роду сярод татараў [80, s.487]. Служба пад павятовай харугвай сведчыць на карысць таго, што Габрыяловічы былі мясцовага паходжання.

Пазней у крыніцах род Габрыяловічаў у Ваўкавыскім павеце намі не зафіксаваны [19; 42; 60; 67; 108]. Габрыяловічы гербу "*Дубарог*", якія былі вядомыя Адаму Банецкаму, не мелі да іх ніякага дачынення [27, T.5, s.335].

**(46). Газдзельскі Юрый**, зямянін гаспадарскі Ваўкавыскага і Гарадзенскага паветаў, 1571.



**Герб**: на тарчы просты крыж, раздзёрты ў крокву, канцы якой заламаныя ўверх, над тарчай ініцыялы: "*г*[362]*[ozdzielski] I[erzy]*".
Пячатка: адб. № 3, вак, 13x14 мм, в [21, КП 9219, а.1 адв.].

28 красавіка 1571 г. у Рэплі Юрый Газдзельскі, як сведка і пячатар, прыклаў сваю пячатку да прадажнага ліста Станіслава Ідзікоўскага, шляхціча з Гарадзенскага павета.

[362] Кірылічная літара "г" пераблытана з лацінскай "Н", аднак, магчыма, гэта скарочанае імя, напісанае кірыліцай: "г[еорг]і" – Юрый.

Звесткі пра Юрыя Газдзельскага сустракаюцца яшчэ ў попісе войска ВКЛ 1565 г., паводле якога ён пад ваўкавыскую павятовую харугву павінен быў ставіць двух вершнікаў: "*Юрый К(г)озъдельски 2 кони въ зброы, з ощепомъ*" [17, слп.323]. Згадка пра тое, што ён быў зямянінам ваўкавыскім і гарадзенскім, дае магчымасць меркаваць, што Юрый Газдзельскі меў уладанні ў Гарадзенскім павеце. У 1621 г. на попіс ваўкавыскай павятовай харугвы нейкі пан N Газдзельскі разам са Шчыгельскім і Крываносам ставілі два вершнікі па-казацку [42, с.48]. У 1760 г. згадваецца нейкі Марцін з Гоздава Газдзельскі, які пісаў тэстамент непісьменнаму Казіміру Сапоцьку [9, ф.1663, воп.1, спр.1346, а.1 адв.], што можа сведчыць, пра генеалагічны працяг роду.

Клейнавы ўласны герб Юрыя Газдзельскага, хаця і носіць рысы падабенства з польскім гербам "*Сыракомля*" [37, s.145], але не мае з ім нічога агульнага з генетычнага пункту гледжання.

**(47). Гастомскі Андрэй,** шляхціч Ваўкавыскага павета, 1573.




**Герб**: на картушовай тарчы з-за цаглянага мура выходзіць палова льва ("*Праўдзіц*" зменены), над тарчай ініцыялы: "*A[ndrzej] G[ostomski]*".
Пячатка: адб. № 3, нак, 15х17 мм, в [9, ф.1664, воп.1, спр.604, а.3].

10 сакавіка 1573 г. у Свіслачы Андрэй Гастомскі, як сведка і пячатар, прыклаў сваю пячатку да застаўнага ліста ***Яна Хадкевіча***, графа на Шклове і Мышы, старосты жамойцкага, найвышэйшага маршалка ВКЛ, адміністратара і гетмана Інфлянцкай зямлі, старосты ковенскага, дзяржаўцы плятэльскага і цяльшоўскага.

У Войцаха Каяловіча, які пайшоў за Шыманам Акольскім, памылкова да гербу "*Праўдзіц*" аднесены быў род Гатомскіх[363] [3, s.238]. Іх памылку выправіў Каспар Нясецкі, але нікога з роду ў ВКЛ не назваў [4, T.4, s.245]. Паводле Адама Банецкага, "*Праўдзічы*" Гастомскія – мазавецкі род з Цеханоўскай зямлі, а Андрэй быў сынам Войцаха Гастомскага і Атыліі Бялінскай, пра што згадваецца ў 1588 г. [27, T.5, s.351]. Севярын Урускі выводзіў мазавецкі род Гастомскіх з вёскі Гастоміна ў Плоцкім ваяводстве, а пра Андрэя Войцахавіча Гастомскага ўдакладніў, што ў ВКЛ ён валодаў часткай маёнтка Бярэзіна, якую ў 1620 г. прадаў канцлеру ВКЛ Льву Іванавічу Сапезе [26, T.4, s.316]. У Ваўкавыскім павеце Андрэй Гастомскі з'явіўся дзякуючы сваёй службе гетману Яну Хадкевічу, а таму не пусціў тут глыбокіх каранёў. Нашчадкі яго нам засталіся невядомы.

У ВКЛ Андрэй Гастомскі карыстаўся змененым варыянтам "*Праўдзіца*", дзе адсутнічала кола ў лапах льва [37, s.127].

**(48). Грабоўскі на Канопніцы Павел Ян**, староста судовы Ваўкавыскага павета, 1784.



**Герб**: на авальнай тарчы ў чырвоным полі срэбны тапор, тарча аточана вянком, перавязаным унізе, і пакладзена на княжацкі гарнастаевы плашч, над тарчай графская карона з 12 пэрлінамі, у кляйноце ўбіты тапор ("*Тапор*" зменены), герб аточаны пацеркавай каймой, надпіс у атоку пячаткі ў два колы: *"+ PAWEŁ Z KONOPNICE GRABOWSKI STAROSTA SADOWY PO: WOŁKOWYSKIEGO || PIECZEC ◦ GRODZKA ◦ PTTu ◦ WOLK[owyskiego] ◦ R 178[?]*".
Пячатка: адб., пак, 51х58 мм, в [9, ф.1664, воп.1, спр.264, а.11].

Пячатка замацоўвала інквізіцыйны дэкрэт ваўкавскага гродскага суда ад 22 верасня 1784 г. па справе паміж ксяндзом Вацлавам дэ Паржаў, інфлянцкім канонікам, мяжырэчаўскім пробашчам і ваўкавыскім маршалкам Янам Мікалаем Быхаўцам, яго сынам Юзафам, шамбелянам ЯКМ

[363] У "Наменклятары" гэтай памылкі няма: "Gostomscy są na Litwie, używaią herbu Prawdzic..." [104, s.202].

і іх манцяцкім эканомам Аляізым Хлусовічам аб крыўдах і гвалтоўных дзеяннях у адносінах да падданых першага з вёскі Пічукі.

Род Грабоўскіх быў польскага паходжання, з Сярадзкай зямлі. Паводле Война Каяловіча, першым перасяліўся ў ВКЛ Ян Грабоўскі, ротмістр ЯКМ панцырнай харугвы, які вызначыўся ў Смаленскай вайне 1632 г. Сынам яго ён называў Андрэя Грабоўскага, берасцейскага гараднічага. Каспар Нясецкі, які падаў гэтыя звесткі, называў апошняга Крыстыянам, а Яна згадвае яшчэ пад 1674 г. у Менскім ваяводстве [4, Т.4, s.265]. Адам Банецкі пра Андрэя нічога не пісаў. Адзначыўшы, што Ян Грабоўскі быў фанатычным кальвіністам, ён падаў трох яго сыноў: Крыстыяна Крыштафа, берасцейскага гараднічага і струкчашага ЯКМ у 1670 г., электара Яна III Сабескага ў 1674 г., берасцейскага земскага суддзю ў 1693 г., памерлага ў 1711 г., Марціна, віцебскага стольніка ў 1677-1687 г. і электара Яна III Сабескага ў 1674 г. і Стэфана Антонія, берасцейскага чашніка ў 1696 г. [27, Т.7, s.9; 92, s.94]. З чаго можна зрабіць выснову, што першапачаткова новай радзімай пратэстантаў Грабоўскіх у ВКЛ стала Берасцейскае ваяводства. Невядома чые сыны былі браты Мацей і Максіміян Грабоўскія, якія, як нябожчыкі, згадваюцца ў 1689 г. у ардынарыйным раскладзе кляштара Святой Брыгіты ў Горадні. Паволе згаданага раскладу, Максіміян за памінанне сваёй душы і душы брата легаваў 7000 злотых, якія знаходзіліся ў старосты ноўскага Яна Бутлера [9, ф.1783, воп.1, спр.23, а.14-14 адв.].

У Ваўкавыскім павеце Грабоўскія фіксуюцца з канца XVII ст., якія у XVIII ст. дасягнулі статусу магнатаў. У павятовым падымным рэестры 1690 г. згадваецца віцебскі стольнік Марцін з Канопніцы Грабоўскі, які застаўным правам трымаў маёнткі Конна і Гнезна [67, s.221]. У 1692 г. ён заняў урад ваўкавыскага гродскага суддзі [92, s.94]. Пераважна яго нашчадкі склалі ваўкавыскую галіну роду. Марцін Грабоўскі (памёр у Вільні ў 1693 г.) з Кацярынай Аборскай (шлюб 18 ліпеня 1677 г.) меў трох сыноў: Яна, Багуслава Міхала, якімоўскага старосту ў 1715-1725 г. і Стэфана, віштынецкага старосту ў 1714-1720 г. Апошні з Тэадорай Стрыенскай пакінуў чатырох сыноў: Яна Юрыя, генерала лейценанта войска ВКЛ[364], Тамаша Марцыяна, дудзкага старосту ў 1746-1750 г., генерала маёра ў 1755-1765 г., генерала лейтэнанта войска ВКЛ у 1767 г.[365], Паўла, чхоўскага старосту ў 1747-1780 г., кавалера ордэну Святой Ганны ў 1780 г. і Міхала Грыгорыя, спярша шамбеляна ЯКМ і палкоўніка ў 1757-1764 г., пасля генерала маёра Рэгімэнту коннай Гвардыі ВКЛ у 1772-1777 г., генерала лейтэнанта ў 1783 г., кавалера ордэну Святога Станіслава ў 1787 г. [27, Т.7, s.9-10, 12-13; 92, s.94-96]. Севярын Урускі згадваў апошняга як генерала маёра Рэгімэнту коннай Гвардыі ВКЛ і шэфа карабінераў прыбочнай варты караля Рэчы Паспалітай у 1783 г. [26, Т.4, s.341].

У 1763-1764 г. Міхал Грыгоры з Канопніцы Грабоўскі, шамбелян ЯКМ, палкоўнік Лейб Рэгімэнту ЯКМ войска ВКЛ выклікаўся ў суд Янам Мікалаем Быхаўцам, ваўкавыскім земскім суддзічам, ваўкавыскім гродскім суддзёй (з 1764 г.) па справе аб фальварку Падкруп'е. Са справы вынікала, што Міхал Грыгоры Грабоўскі трымаў згаданы фальварак заставай ад Міхала Вадашынскага, пяцігорскага таварыша Вялікай Булавы ВКЛ і нейкага N Гарэцкага [9, ф.1664, воп.1, спр.817, а.1, 2, 6-7, 8; 92, s.96]. Як вынікае з абвесткі Антонія Талочкі, ваўкавыскага гродскага і каптуровага пісара, харужага пяцігорскага Польнай Булавы ВКЛ ад 30 сакавіка 1764 г., з-за непрыбыцця ў каптуровы суд Міхал Грыгоры Грабоўскі быў абвешчаны банітам, а таму яго застаўны маёнтак Падкруп'е павінен быў падвергнуцца экзекуцыі [9, ф.1664, воп.1, спр.819, а.1-1 адв.].

---

[364] Ян Юрый Людвік з Канопніцы Грабоўскі, у 1755-1756 г. палкоўнік ЯКМ, у 1757 г. генерал маёр і палкоўнік войска ВКЛ, у 1763 г. палкоўнік Пінскага Рэгімэнту, у 1776-1785 г. генерал інспектар войска ВКЛ, у 1779-1789 г. генерал лейценант войска ВКЛ, домбскі староста, кавалер ардэноў Святога Станіслава (1779 г.), Белага Арла (1780 г.) і Аляксандра Неўскага. Памёр 13 лютага 1789 г. Валодаў у Ваўкавыскім павеце маёнткамі Ізабелін, Зеляневічы, Крупкі, як гэта вынікае з дзельчага ліста яго сыноў ад 1789 г. З'яўляўся фундатарам і калятарам кальвінскага збору ў Ізабеліне [27, Т.7, s.10; 92, s.95].

[365] Тамаш на Канопніцы Грабоўскі, генерал маёр войска ВКЛ у 1762 г. валодаў у Ваўкавыскім павеце маёнткам Тэалін ці Харашкаўшчызна [9, ф.1783, воп.1, спр.48, а.1, 2].

Пазней справа была ўлагоджана, што відаць з далейшага кар'ернага росту Міхала Грыгорыя.

Жонкай Міхала Грыгорыя Грабоўскага была Эва Караліна Жаленьская, з якой ён узяў шлюб ў сваім маёнтку Цяшковічы 23 студзеня 1757 г. З ёй меў трох сыноў: памерлых у малалецтве Тэадора Станіслава і Аляксандра Ксаверыя, а таксама Паўла Яна, пра якога ніжэй. Міхал Грыгоры памёр у Кракаве 8 жніўня 1799 г. [92, s.96].

Павел Ян на Канопніцы Грабоўскі нарадзіўся 30 мая 1761 г. Ён быў сынам згаданага вышэй Міхала Грыгорыя і Эвы Караліны Жаленьскай [92, s.96]. На ўрадзе ваўкавыскага судовога старосты згадваецца ў 1783-1789 г., быў паслом на Вялікі сойм ў 1788-1792 г. У 1789 г. прызначаны генералам інспектарам войска ВКЛ, быў шэфам 5 пяхотнага палка войска ВКЛ. Іншая інфармацыя пра яго [48, s.40, 209], патрабуе праверкі. З жонкай Веранікай Сцыпіён дэль Кампа меў двух сыноў Юзафа Міхала і Канстантыя Эдмунда, а таксама две дачкі: Караліну і Людвіку [27, Т.7, s.13-14; 92, s.96].

На конт герба Грабоўскіх у гербоўніках маецца пэўная блытаніна. Войцах Каяловіч адносіў іх да гербу "*Тапор*", але з ім не пагадзіўся Каспар Нясецкі, запісаўшы Грабоўскіх да гербу "*Окша*" на той падставе, што "*Jam ich widział z tym herbem*" [4, Т.4, s.265]. Адам Банецкі прыняў кампрамісны варыянт, бо падаў абодва гербы, адзначыўшы, што: "*Pisali się z Konopnicy, skąd wyszli, a właściwym ich herbem jest Oksza, który jednak że już za czasów Niesieckiego mięszali z Toporem i dotąd niektóre gałęzie tego domu stale Toporu używają*" [27, Т.7, s.8]. Такая геральдычная невызначанасць была ўласціва таксама прадстаўнікам ваўкавыскай галіны роду Грабоўскіх, бо калі ў 1783 г. Міхал Грыгоры выводзіў сваё шляхецтва, то ўказаў свой родавы герб – "*Окшу*" [27, Т.7, s.13]. Аднак пячатка яго сына ваўкавыскага судовага старосты Паўла дэманструе герб "*Тапор*". Асаблівасцю яго герба былі таксама: графская карона і княжацкі гарнастаевы плашч. Сапраўды, лінія Грабоўскіх, якая ішла ад брата бацькі Яна Юрыя, мела графскі тытул, але пра гэта згадваецца пазней. У 1836 г. сын апошняга Станіслаў Грабоўскі[366] атрымаў пацверджанне графскага тытулу, пры гэтым, як піша Адам Банецкі: "*Za herb w miejsce Okszy przybrał Topor*" [27, Т.7, s.11]. Паводле прыведзенага ім малюнку герб графоў Грабоўскіх выглядаў так: на французскай тарчы ў чырвоным полі срэбны "*тапор*" з драўляным тапарышчам, над тарчай графская карона з 9 пэрлінамі, над ёй гелм са шляхецкай каронай, у кляйноце ўбіты "*тапор*", вакол тарчы намёт з лісця [27, Т.7, s.13].

У 1816 г. тытул графа атрымаў у Прусіі сын Тамаша Марцыяна Грабоўскага – Альберт. У сваю чаргу, сын апошняга Вільгельм дабіўся яго прызнання ў Расійскай Імперыі ў 1840 г. [27, Т.7, s.12-13]. Шыман Канарскі згадваў таксама пра сына Яна Юрыя Грабоўскага ваўкавыскага маршалка Казімера, што той пісаўся графам яшчэ ў 1807 г. [92, s.97]. Сапраўды, у 1820 г. Казімір граф Грабоўскі быў маршалкам Літоўска-Гарадзенскай губерні [9, ф.332, воп.5, спр.1, а.1]. Магчыма, бацьку апошняга і быў нададзены графскі тытул, у сувязі з чым, ён распаўсюджваўся і на іншыя лініі роду. Тады гэта тлумачыла б графскую карону ў гербе Паўла Яна Грабоўскага. Што да княжацкага плашча, то ў выпадку з ім маем прыклад распаўсюджанага ў XVIII ст. сярод шляхты ВКЛ "*гербавага сепаратызму*" [52, с.47].

Пячатка Паўла Яна Грабоўскага цікавая яшчэ тым, што яна дэманструе адзін з адметных тыпаў ваўкавыскіх гродскіх судовых пячатак, для якога былі характэрны наступныя рысы: родавы герб старосты, надпіс у атоку па-польску ў два колы з датуючым элементам і дастаткова вялікія памеры. Пададзеная на пячатцы дата павінна была сігналізаваць пра год уступлення Паўла Яна Грабоўскага на старасцінскі ўрад.

**(49). Грымала Казімір**, старшыня земскіх судоў Ваўкавыскага павета, 1774.
**Герб**: на картушовай тарчы зацертая выява муру з трыма вежамі і адчыненай брамай, у якой стаіць ледзь відочны рыцар, над тарчай шляхецкая карона ("*Грымала*").

[366] На самой справе ён быў сынам польскага караля і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага і Альжбеты Шыдлоўскай, другой жонкі Яна Юрыя Грабоўскага [27, Т.7, s.10].

Пячатка: адб. № 1, чорны сургуч, 17х20 мм, к [9, ф.1664, воп.1, спр.480, а.4].

26 сакавіка 1774 г. Казімір Грымала, старшыня земскіх судоў Ваўкавыскага павета разам з ваўкавыскім гродскім суддзёй ***Ануфрыем Дзяконскім*** прыклаў сваю пячатку да інатэсцэнтыяльнага ліста з паведамленнем Схалястыцы з Ваньковічаў Аўсянай, ваўкавыскай войскай, яе апякуну Міхалу Сароку, ваўкавыскаму стражніку, Брыгідзе Бянецкай Прушаковай, Ганне Фігертовай, Крыстыне і Юліяне Сарачанкам, ваўкавыскім стражнікоўнам, Тамашу Філіповічу і Яну Грабоўскаму, генералу маёру войскаў ВКЛ і шэфу Пінскага Рэгімэнту аб намеры прыехаць у маёнтак Манцякі 25 красавіка з мэтай праверкі дакументаў па іх судовай справе аб узаемных прэтэнзіях і скаргах. Падпісаўся: "*Kazimierz Grzymała Prezes Sądow Ziem. Pttu Wołkow mp.*".

Мазавецкі род Грымалаў герба "*Грымала*" выводзіўся з вёскі Залессе ці Залессе Грымалы ў Закрачымскім павеце [26, Т.5, s.45; 27, Т.7, s.175]. Ужо ў 1541 г. у ВКЛ згадваецца Фелікс Грымала "*z Kamionbrodu*", які судзіўся з нейкім N Вярбіцкім [39, s.68]. Каспар Нясецкі пад 1700 г. узгадаў у ВКЛ Марціна, Аляксандра і Станіслава Грымалаў, да якіх адносяцца яго словы: "*Jedni z nich temi czasy znajdują się w powiecie Lidzkim...*" [4, Т.4, s.323]. У Ваўкавыскім павеце Грымалы фіксуюцца з першай паловы XVIII ст. Адам Банецкі згадваў нейкага Юрыя Грымалу, ваўкавыскага абознага і ротмістра, прыхільніка Аўгуста III Ветына ў 1733 г. [27, Т.7, s.178].



У Дадатку да Каспара Нясецкага, Ян Непамуцэн Бабровіч у 1844 г. надрукаваў радавод Грымалаў гербу "*Грымала*", як ён сам адзначыў, на падставе "*родавых дакументаў*". Паводле яго, галіна Грымалаў у ВКЛ брала пачатак ад Каспара Грымалы, які з N Лось[367] меў двух сыноў: Грыгорыя і ксяндза-езуіта Францішка [4, Т.10, Dodatek, s.153]. Ад Грыгорыя, жанатага на N Завішы, пайшла ваўкавыская лінія роду, бо іх дзецьмі былі: Разалія, замужам за N Булгакам, Ганна – за N Гедройцем, Тамаш, ваўкавыскі абозны ў 1745 г. [9, ф.259, воп.1, спр.3, а.208 адв.], электар з Ваўкавыскага павета Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1764 г., ваўкавыскі скарбнік у 1765 г., ваўкавыскі гараднічы ў 1773 г., люстратар чопавага і падымнага падатку ў 1775 г., ваўкавыскі гродскі суддзя ў 1784 г., жанаты на N Булгарын і Казімір, ваўкавыскі земскі суддзя ў 1765-1778 г., жанаты на N Алендскай [4, Т.4, s.323; 4, Т.10, Dodatek, s.153; 26, Т.5, s.47; 27, Т.7, s.178].

Апошні ідэнтычны з Казімірам Грымалай, старшынёй земскіх судоў Ваўкавыскага павета, які згадваецца на сваёй пасадзе яшчэ ў 1782-1785 г. [9, ф.1664, воп.1, спр.79, арк.1; спр.654, а.1]. У сваю чаргу, сынамі Казіміра былі Юзаф, лідскі каптуровы суддзя ў 1764 г. і Юры, ваўкавыскі земскі суддзя ў 1775-1783 г., уладальнік Варончына [26, Т.5, s.47; 27, Т.7, s.178].

**(50). Глінскі Юзаф**, зямянін Ваўкавыскага павета, 1610.



**Герб**: на тарчы клейнавы знак накшталт "*П*"-падобнай нізкай падставы з заламанымі ў бакі канцамі, паміж імі доўгі крыж верхам ўніз, канец якога над падставай раздзёрты ў котвіцу, над тарчай тры пёры, па баках якіх змешчаны ініцыялы: "*I.[ozef] H[linski]*".

Пячатка: адб. № 3, вак, 14х15 мм, в [20, ф.694, воп.10, спр.3, а.11 адв.].

6 ліпеня 1610 г. у Ваўкавыску Юзаф Глінскі, як сведка і пячатар, прыклаў сваю пячатку да зрачонага ліста ***Станіслава Грыгоравіча Паўловіча***. Падпісаўся: "*Jozef hlinski własną ręką*".

Князі Глінскія з'яўляюцца ў Ваўкавыскім павеце ў пачатку XVI ст. як смаленскія бежанцы. У 1503 г. князь Іван Сямёнавіч Глінскі ад вялікага князя літоўскага Аляксандра за страчаныя на карысць Масквы смаленскія маёнткі атрымаў у "*хлебакармленне*" у Ваўкавыскім павеце двор Пабоева. Ён памёр у 1504 г., пакінуўшы сем сыноў: Міхайлу,

[367] Севярын Урускі называў яго Каспарам Казімірам, а жонкай памылкова лічыў N Лопат [26, Т.5, s.47].

Фёдара, Юрыя, Вацлава, Яраслава, Сямёна і Васіля [25, s.89]. Князю Міхайлу Іванавічу Глінскаму, двараніну ЯКМ Жыгімонт Стары ў тым жа Ваўкавыскім павеце надаў у 1522 г. некалькі чалавек [7, с.163; 27, T.6, s.86]. Цікава, аднак, што на попіс 1528 г. князі браты Сямён і Міхайла Іванавічы Глінскія не ставіліся з Ваўкавыскага павета [17, с.54]. Князь Міхайла Іванавіч Глінскі памёр у 1532 г., пакінуўшы з жонкай Петранэляй N сына Аляксандра і дачку Алену першы раз замужам за Станіславам Войцахавічам Вайшвіловічам, а другі – за Шыманам Грыбоўскім [25, s.89-90; 27, T.6, s.86]. У 1565 г. пад дворную харугву ВКЛ князь Аляксандр Міхайлавіч Глінскі павінен быў ставіць трох збройных вершнікаў [18, слп.258-259]. Але ў тым жа 1565 г. у рэестры Ваўкавыскай харугвы згадваюцца таксама: "*Михайло Глинъски 2 кони въ пан[цыри], въ пр[илбицы], з ощепам. Князь Богдан Глинъски конь въ каф[тане], въ пр[илбицы], съ кордомъ*" [18, с.319]. Па-першае, звяртае на сябе ўвагу тое, што Міхайла, у адрозненне ад Багдана, быў запісаны без княжацкага тытулу. Па-другое, быў гэта яшчэ адзін Міхайла Глінскі, як ўбачым ніжэй – сын князя Вацлава Іванавіча Глінскага. Пра апошняга Юзаф Вольф ведаў толькі, што ён служыў Гаштольду [25, s.89].

Больш падрабязную інфармацыю пра іх дае попіс войска ВКЛ 1567 г. З яго вынікае, што ваўкавыская галіна князёў Глінскіх па свайму маёмаснаму стану нічым не вылучалася з асяроддзя павятовай шляхты. Той жа князь Міхайла Глінскі ставіў са свайго маёнтка Самуйлавічы ўсяго аднаго збройнага вершніка [18, слп.858]. Князь Аляксандр Міхайлавіч Глінскі ставіў трох збройных вершнікаў і аднаго драба "*...з ыменей своихъ съ Побоева, с Парфеновичъ и с Красного в повете Волковыйскомъ...*" [18, слп.865-866], а князь Багдан Фёдаравіч Глінскі з Самуйлавічаў – аднаго вершніка [18, слп.866]. Апошні быў сынам Фёдара Іванавіча Глінскага, які акрамя яго пакінуў з жонкай Апраняй яшчэ Дзмітрыя і Івана [25, s.90].

Згаданы ў 1565 і 1567 г. князь Міхайла ідэнтычны з князем Міхайлам Глінскім, сын якога Мікалай у 1590 г. судзіўся з ваўкавыскім старостай ***Крыштафам Монвідам Дарагастайскім***, а дачка Раіна ў 1583 г. была замужам за зямянінам Слонімскага павета Львом Сцяпанавічам Сцяцкевічам [105, с.117-118]. У 1604 г. князь Мікалай Міхайлавіч Глінскі судзіўся з ***Мікалаем Крыштафовічам Вольскім*** на Крамяніцы па маёнтку Юхновічы. Сутнасць справы была ў тым, што пасля смерці свайго бацькі – князя Міхайлы Вацлававіча Глінскага – Мікалай застаўся "*в летех вел[ь]ми малых и молодых*", а яго апякун – Андрэй Катовіч, гарадзенскі земскі пісар – распараджаўся яго маёнткамі Самуйлавічы, Юхновічы і Пабоева, з якіх Юхнавічы "*двор з будованем, з ставом, з млыном и люд[ь]ми оселыми и зо всими кгрунтами*" заставіў падскарбію ВКЛ Лаўрыну Войне, а пасля яго маёнтак нейкім чынам апынуўся ў руках Мікалая Вольскага. Князь Мікалай Глінскі "*тепер дошедшы лет своих зуполных*" паспрабаваў вярнуць Юхнавічы праз суд [9, ф.1783, воп.1, спр.9, а.7-7 адв]. Але аказалася, што сястра князя Мікалая Раіна, "*малжонка пана Стецковича*" ў 1599 г., калі брат "*в недорослости еще лет его на тот час кгды он бавечысе учъстивыми службами в ыншых панствах за границами Великого князства Литовского служыл*", сама распарадзілася маёнткам, падмануўшы ўсіх наконт яго жывых спадчыннікаў па мужчынскай лініі: "*таковую справу дала иж вжо померли на свете их [родицове] ... а ни потомства их нет тоеж подобно разумела ... братей...*" [9, ф.1783, воп.1, спр.9, а.8]. Як можна меркаваць па гэтай інфармацыі, князь Міхайла Вацлававіч Глінскі пакінуў дачку Раіну і сына Мікалая.

Попіс ваўкавыскай харугвы 1621 г. дазваляе гаварыць, што да гэтага года памерлі нейкія Сямён і Ян Глінскія, бо згадваюцца толькі іх удовы, пры гэтым за першую ставіў вершніка Крыштаф Кандзераўскі, а другая ставіла сама "*каня па-казацку*" з маёнткаў Парфіянавічы і Бершты [42, с.47]. З нейкім другім князем Сямёнам Глінскім, хворым на той час, ставіў з Самуйлавічаў аднаго вершніка пан Васілеўскі, гараднічы [42, с.48], якога мы раней пад пытальнікам прызналі як ваўкавыскага гараднічага [106, с.130]. На падставе публікацыі ваўкавыскіхураднікаў (адсутнасць ваўкавыскіх гараднічых) [107, с.143-155] і інфармацыі Юзафа Вольфа [25, s.90], мусім зрабіць шэраг заўваг.

Па-першае, наколькі можна меркаваць, першы Сямён Глінскі пакінуў малалетніх сыноў, бо за яго ўдаву ставіў вершнікаў Крыштаф Кандзераўскі (апякун?). Магчыма, памерлы Сямён ідэнтычны з сынам Аляксандра, унукам Сямёна Іванавіча Глінскага Пабоеўскага, князем Сямёнам Глінскім, жонкай якога ў 1600 г. была Раіна Іванаўна Жынева [25, s.90-91], у 1621 г. ужо ўдава. Сынамі князя Сямёна Аляксандравіча Глінскага былі Траян, уладальнік Пабоева, які згадваецца ў 1648 г. як электар Яна Казіміра [25, s.91], і Багдан, які ў 1655 г. склаў прысягу маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу: "*Богдан Семёнов сын Глинский*" [18, с.83].

Другі Сямён, які хварэў, магчыма, быў сынам князя Дзмітрыя Фёдаравіча Глінскага, бо пад гараднічым, згаданым разам з ім, маецца на ўвазе Мікалай Васільевіч Васілеўскі, гараднічы віцебскі ў 1616 г.[368] Маці апошняга была княжна Ганна Дзмітраўна Глінская, дачка Дзмітрыя Фёдаравіча Глінскага [25, s.90] і, на нашу думку, сястра Сямёна, бо інакш патлумачыць сумеснае стаўленне імі вершнікаў на попіс 1621 г. мы не можам.

Па-другое, калі зыходзіць з назвы маёнткаў, на якіх гаспадарыла ўдава Яна Глінскага, апошні з'яўляўся сынам Аляксандра Міхайлавіча Глінскага з попісаў 1565 і 1567 г. У сваю чаргу Ян меў сына Канстанціна Уладзіслава, які ў 1648 г. быў электарам Яна Казіміра [25, s.91], а ў 1655 г. склаў прысягу маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу: "*Князь Костятин княж Янов сын Глинской*" [18, с.87].

Хто быў бацькам Юзафа Глінскага невядома, бо ў радаводах Глінскіх ён не згадваецца [25, s.89-91]. Вядома толькі, што ў 1599 г. Юзаф Глінскі быў суддзёй і дэпутатам ад Ваўкавыскага павета ў Галоўны Трыбунал ВКЛ [109, s.109]. Адсутнасць звестак пра яго ў попісе 1621 г. ставіць пытанне аб смерці Юзафа Глінскага да гэтай падзеі. Невядома таксама ці пакінуў ён нашчадкаў. Адзінае, што можна яшчэ сказаць, так гэта тое, што яго каталіцкае імя можа сведчыць пра змену канфесіі.

Гербавая выява Юзафа Глінскага адрозніваецца ад агульнапрынятага ўзору ўласнага герба князёў Глінскіх "*Глінск*", даўнейшы тып якога фіксуецца на пячатцы князя Міхайлы Львовіча Глінскага з 1501 г. [80, s.401; 111, с.133-134. № 460]. Адрозненне датычыць ляскі крыжа, які ў гербе Юзафа Глінскага мае большае падоўжанне, што дазваляе бачыць у ім адметны варыянт "*Глінска*".

**(51). Глінскі Пётр Аляксандравіч**, падстароста ваўкавыскі, 1630.




**Герб**: тарча падзелена на чатыры часткі, у 1-ай – клейнавы знак "*П*"-падобнай падставы з заламанымі ў бакі канцамі, паміж імі крыж, доўгі канец якога над паставай раздзёрты ў котвіцу, у 2-ой – перавернуты трызуб з крыжам наверсе ("*Радван*"), у 3-яй – страла вастрыём дагары на выгнутых у бакі ножках ("*Агоньчык*"), у 4-ай – стаіць цялё ("*Цялё*"), над тарчай гелм са шляхецкай каронай, у кляйноце тры пёры стравуса, вакол тарчы намёт, па баках кляйноту ініцыялы: "*P[iotr] H[linski]*".

Пячатка: адб., вак, 13х16 мм, д [9, ф.1664, воп.1, спр.347, а.1 адв.; 21, КП 9216, а.1 адв. (1631)].

20 студзеня 1630 г. у Ваўкавыску Пётр Глінскі, падстароста ваўкавыскі, прыклаў сваю пячатку да выпісу з кніг судовых гродскіх па справе Мікалая і Лукаша Раманавічаў Адамовічаў з ***Андрэям Фёдаравічам Адамовічам*** аб 80 капах грошаў літоўскіх, запісаных іх бацьку Раману Марынай Лукашаўнай Адамовіч спярша ***Ленартавай Аляхновічавай***, а пасля – Дзмітровай Акулічавай.

Упершыню князь Пётр Глінскі згадваецца ў 1601 г, калі быў суддзёй і дэпутатам ад Ваўкавыскага павета ў Галоўны Трыбунал ВКЛ [109, s.115]. Бацькам яго быў вядомы нам Аляксандр Міхайлавіч Глінскі [25, s.90; 27, Т.6, s.86], а братам, верагодна, Ян, памерлы да 1621 г. У тым жа годзе пад ваўкавыскую павятовую харугву Пётр павінен быў ставіць з

[368] У спісе земскіх ураднікаў Віцебскага ваяводства ў другой палове XVI-першай палове XVII ст. гараднічыя не згадваюцца [110, с.51-61].

бацькоўскага маёнтку аднаго вершніка па-гусарску, а другога – з застаўнага маёнтку Навасёлкі [42, с.46]. Ваўкавыскім падстаростай фіксуецца з 1627 г. [12, Nr 5, s.73].

Меў сына Андрэя Глінскага, які ў 1648 г. быў электарам Яна Казіміра [25, s.91], а ў 1655 г. склаў прысягу маскоўскаму цару Аляксею Міхайлавічу: “*Ондрей Петров сын Глинский*” [18, с.83]. Нашчадкі князя Андрэя Пятровіча Глінскага нам невядомы. У падымным рэестры 1690 г. згадваюцца тры Глінскія: Багдан на Самуйлавічах – 1 дым, Станіслаў – з Краснага – 2 дымы і Нікадым на Пабоеве – 1 дым, які пісаўся князем Глінскім Пабоеўскім [19, s.165, 169, 195]. У 1734 г. у падымным тарыфе Ваўкавыскага павета былі запісаны тыя ж Багдан на Самуйлавічах і Нікадым на Пабоеве Глінскія, а таксама з Каласоў – Міхал і з Яскольдаў – Ян Глінскія [108, с.164, 165, 171]. Магчыма, апошні быў электарам ад Ваўкавыскага павета Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў 1764 г. [27, T.7, s.291].

Радавод ваўкавыскай галіны князёў Глінскіх у XVII-XVIII ст. не распрацаваны, таму генеалагічна звязаць згаданых прадстаўнікоў роду пакуль не ўяўляецца магчымым. Тым не меней, насуперак меркаванню Адама Банецкага [27, T.6, s.86], Глінскія ў XVIII ст. добра памяталі пра сваё княжацкае паходжанне, пра што згадвалі ў сваіх подпісах. Так, у 1729 г. Міхал Глінскі, ідэнтычны са згаданым у тарыфе 1734 г., у Лыскаве Ваўкавыскага павета падпісаў ліст скарбовага пісара ВКЛ ***Людвіка Быхаўца***: “*Michał Kniaz Hlinski mp*” [9, ф.1664, воп.1, спр.89, а.2].

Генеалагічная нераспрацаванасць роду не дазваляе ідэнтыфікаваць гербавыя выявы ў асабістым складаным гербе Пятра Глінскага, бо невядома, хто была яго маці (з роду герба “*Радван*”), бабка па бацьку (з роду герба “*Адравуж*”) і бабка па маці (з роду герба “*Цялё*”). Затое цікавым выглядае кляйнот на гелме са шляхецкай каронай – тры пёры стравуса. Здавалася, што ён сведчыць пра поўнае забыццё Пятром Глінскім пра свой княжацкі тытул і пра яго прыхільнасць ідэалам шляхецкай роўнасці і дэмакратыі. Але, як вынікае з другой яго пячаткі з 1627 г., якую ў свой час апублікаваў Юзаф Пузына, Пётр Глінскі добра памятаў пра сваё княжацкае паходжанне, бо змясціў у сваім простым гербе замест шляхецкай кароны з пёрамі княжацкую мітру [12, Nr 5, s.73, № 28; 111, с.134, 282. Перамалёўка № 461]. Адсутнасць крыжа на сярэдняй лясцы гербавага знаку Пятра Глінскага Юзаф Пузына патрактаваў як яго ўласны адметны варыянт герба “*Глінск*” [12, Nr 5, s.73]. На нашу думку, ён там быў, але застаўся незаўважаны з-за дэфекта адбітка пячаткі.

Князь Пётр Глінскі фіксуецца на ўрадзе ваўкавыскага падстаросты па 1637 г., калі згадваецца як “*бывшый*” [9, ф.1783, воп.1, спр.17, а.11]. Знаходзіўся на пасадзе з рукі Пятра Войны, падстолія ВКЛ, ваўкавыскага старосты, дзяржаўцы поразаўскага і новадворскага [9, ф.1664, воп.1, спр.348, а.3]. У 1631 г. быў другі раз суддзёй і ваўкавыскім дэпутатам у Галоўным Трыбунале ВКЛ [109, s.204].

**(52). Глушынскі Дунін Мальхер Казімір** з Крынна, харужы і сурагатар Ваўкавыскага павета, 1680.




**Герб**: на тарчы лебедзь (“*Лебедзь*”), над тарчай гелм з каронай, у кляйноце лебедзь, вакол тарчы намёт і ініцыялы: “*M[alcher] [Kazimierz] D[unin] G[łuszyński] CH[orąży] P[owiatu] W[ołkowyskiego]*”.

Пячатка: адб., пк, 12х13 мм, к [9, ф.1664, воп.1, спр.699, а.1 адв.].

10 чэрвеня 1680 г. у Ваўкавыску Мальхер Дунін з Крынна Глушыньскі, харужы і сурагатар ваўкавыскі выдаў выпіс з кніг сурагатарскіх Ваўкавыскага павета са скаргай Казіміра Адамовіча на Казіміра Аўсянага ў сувязі з яго збіццём і спусташэннем сенажаці. Падпісаўся: “*MDGłuszynski Cho y Surogator Wołkowyski mp*”.

Войцах Каяловіч выводзіў Дунінаў Глушынскіх з Польшчы, а ў Менскім ваяводстве ВКЛ згадваў Юрыя Дуніна Глушынскага герба “*Лебедзь*”, які быў электарам

Уладзіслава IV у 1632 і Яна Казіміра ў 1648 г. [3, s.123; 104, s.194]. Больш інфармацыі пра род і асабіста пра ваўкавыскага харужага Мальхера Дуніна Глушынскага падаў Каспар Нясецкі. Паводле яго, род паходзіў або з Раўскага, або Сандамірскага ваяводстваў Польшчы, адкуль некаторыя яго прадстаўнікі перасяліліся ў ВКЛ. Мальхер быў сынам Каспара Глушынскага, які ў 1648 г. з'яўляўся паслом на элекцыйны сойм са Смаленскага ваяводства, і N Ваейкі: "*z Wojejkowny urodzony*" [4, T.5, s.152]. У 1670 г. Мальхер разам з братам Лукашам, як камісары ЯКМ, размяжоўвалі землі шляхты-бежанцаў, якія страцілі свае маёнткі на карысць Расіі. Жонкай яго была N Шэмет, полацкая падсталянка (Тэрэза [41, s.221]), з якой меў дзве дачкі – Альжбету, першы раз замужам за аршанскім лоўчым N Хлусовічам, другі раз – за лідскім стольнікам і падстаростай Аляксандрам Глубоцкім і Тэадору, першы раз замужам за сахачэўскім стольнікам Альбрыхтам Цадроўскім, другі раз – за менскім падстолім Тамашом Завішай[369], а таксама чатырох сыноў: пяцігорскага паручніка Пятра (першая яго жонка Галена Сцяцкевіч Заверская, другая – N Голуб), пяцігорскага паручніка Яцка, Станіслава і Міхала, ваўкавыскага падстолія (жонка N Барташэвіч). У сваю чаргу Пётр з першай жонкай дзяцей не меў, а з другой была дачка Ганна, замужам за берасцейскім чашнікам Лукашам Садоўскім. Яцак і Станіслаў памерлі без нашчадкаў, а Міхал меў сына Язафата (1740 г.) і дзве дачкі [4, T.5, s.152; 26, T.4, s.204].

Адам Банецкі выводзіў Дунінаў Глушынскіх з маёнтка Глушыны ў Радамскім павеце і лічыў іх адным родам з Дунінамі Вольскімі. Ведаў ён таксама пра сына Каспара Мальхера Казіміра, у 1670 г. смаленскага войскага, у 1678 г. – ваўкавыскага харужага [27, T.6, s.125, 126]. Пэўную інфармацыю ён удакладніў пра сына Мальхера – Міхала, ваўкавыскага падстолія ў 1722 г., жонкай якога была ў 1720 г. Крыстына Барташэвіч, удава па віцебскаму стольніку Лявону Багамольцу. Адная з дачок Міхала была ў 1759 г. замужам за N Навацкім [27, T.6, s.126]. Севярын Урускі дадаў інфармацыю пра тое, што смаленскі войскі, пасля ваўкавыскі харужы Мальхер Казімір Глушынскі ў 1673 г. быў дэпутатам у вайсковую раду, валодаў маёнткам Вайтовічы ці Вайткевічы [26, T.4, s.204].

У Ваўкавыскім павеце Дуніны Глушынскія з'яўляюцца ў другой палове XVII ст. Падымны рэестр 1690 г. фіксуе ваўкавыскага харужыча Пятра Дуніна Глушынскага. Як вядома, ён быў сынам Мальхера і валодаў з братамі Яцкам, Станіславам і Міхалам непадзеленым маёнткам Івашкевічы з карчмой і млыном, фальваркам Пятровічы, вёскай Вайткевічы, а таксама карчмой у Ваўкавыску [19, s.178-179]. Відавочна, што бацька братоў ужо памёр. У сувязі з гэтым, кар'ера Мальхера Казіміра з Крынна Дуніна Глушынскага бачыцца так: у 1669-1676 г. – смаленскі войскі [41, s.221], у 1670 г. – камісар ЯКМ, у 1673 г. – дэпутат у вайсковай радзе, у 1678–1680 г. – ваўкавыскі харужы, у 1680 г. – сурагатар Ваўкавыскага павета. Памёр да 1690 г. Яго сын Пётр Глушынскі фіксуецца таксама ў падымным тарыфе Ваўкавыскага павета 1734 г. [108, с.167]. У 1720 г. той жа Пётр Глушынскі згадваецца як староста казімерскі [9, ф.1664, воп.1, спр.218, а.1]. Пра Міхала Дуніна Глушынскага вядома, што ваўкавыскі падстолі ў 1725 г. быў суддзёй і віцебскім дэпутатам у Галоўны Трыбунал ВКЛ [112, s.131].

Герб Мальхера Казіміра Дуніна Глушынскага адпавядае агульнапрынятаму ўзору польскага герба "*Лебедзь*" ці "*Дунін*" [37, s.98], ад якога ён браў прыдомак да свайго прозвішча.

(працяг будзе).

**Літаратура і крыніцы:**


1. Paprocki, B. Herby rycerstwa polskiego 1584. Kraków, 1858 964 s.
2. Okolski, S. Orbis Polonus. Cracoviae, 1640-1645. T.1-3.
3. Kojałowicz, Wijuk W. Herbarz rycerstwa W.X.Litewskiego tak zwany Compendium. Kraków, 1897. 527 s.
4. Niesiecki, K. Herbarz polski. Lipsk, 1839-1846. T.1-10.


[369] Каспар Нясецкі памылкова называе яго Чорным Завішай герба "Яліта" [4, T.5, s.152]. На самой справе гэта быў Тамаш Завіша, менскі падстолі, ужо ў 1714 г. жанаты на Тэадоры з Скрынна (так!) Дунінай Глушынскай, ваўкавыскай харужанцы, уладальнік вёскі Крапіўніца ў Ваўкавыскім павеце [9, ф.1664, воп.1, спр.835, а.1].

справай, склалі асаблівы рэестр злачынстваў былога магілёўскага намесніка, якія былі накіраваны супраць падданых у радзівілаўскіх уладаннях. З васьмі пунктаў гэтага рэестра былі прызнаны асабліва шкоднымі супрацьпраўныя ўчынкі, звязаныя з забойствам зямян Фалалеевічаў і нападам на жанчын на дабравольнай дарозе. Акзалася, што ўладанні Зяноў'явіча межаваліся на вялікім працягу з землямі канцлера ВКЛ у Мядзеле. Фалалеевічы, бацька Якаў і яго сын Давыд, займалі землі, на якія прэтэндаваў і Зяноўевіч. На двор Фалалеевічаў напалі падданыя намесніка магілёўскага і не толькі забілі гаспадара і яго сына, але забралі гатовага жыта 39 бочак і яшчэ на 100 бочак нажалі на ніве, якая належала забітым зямянам.

Наместнік ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ у адным з сёлаў у ваколіцах Мядзела накіраваў па нейкай патрэбе ў суседнюю вёску трох жанчын. Да месца прызначэння яны не дайшлі. Па дарозе іх перахапілі слугі Юрыя Зяноўевіча. Двух з іх завезлі ў Чучэлевічы, маёмасць свайго гаспадара, а трэцюю, якая была цяжарнай, стапталі коньмі. У выніку чаго ў жанчыны нарадзілася мёртвае дзіця. Праз некалькі дзён слугі магілёўскага намесніка ўчынілі новы напад на палеткі радзівілаўскіх сялян і забралі больш чым 130 бочак жыта. На гаспадарскі суд Зяноўевіч не стаў, а прыслаў замест сябе сыноў: Мікалая і Міхала.

Юрый Зяноўевіч нападаў не толькі на сёлы, якія належалі Мікалаю Радзівілу, ваяводзе віленскаму і канцлеру ВКЛ. У сярэдзіне 1514 г. наступствы сваркі з Юрыем Зяноўевічам адчулі браты, князі Свірскія. Згодна са скаргай Пятра Міхайлавіча Свірскага Зяноўевіч наслаў людзей на ўласнае сяло князёў Свірскіх і забраў са стайні 20 коней і 40 свірэп [15, № 76, с.100-102]. На судовым паседжанні Юрый Зяноўевіч толькі пад прымусам прызнаў напад сваіх слуг і звод стада коней. Па яго словах выходзіла, што ў даўно мінулыя часы гэтыя коні і свірэпы былі пазычаны бацькам князёў Свірскіх, ды так і нявернуты гаспадару. Суд не паверыў сцвярджэнням намесніка магілёўскага і прысудзіў заплаціць адшкадаванне пацярпеўшым за грабёж іх маёмасці па 5 коп за кожнага каня і па 3 капы за свірэпу.

Страціўшы пасаду намесніка магілёўскага, Зяноўевіч зразумеў немагчымасць супрацстаяння з самім канцлерам ВКЛ і вымушаны быў пайсці на прымірэнне з Мікалаем Радзівілам, ваяводам віленскім. Не працягваючы далей супрацьстаяння, ён выплаціў адшкадаванне за нанесеныя гаспадарцы магната страты. З лістом, у якім утрымлівалася прашэнне аб дараванні віны Юрыю Зяноўевічу, звярнуліся да Радзівіла і крэўныя былога намесніка магілёўскага. Радзівіл дараваў Юрыю Зяноўевічу яго ўчынкі, але дазволу на вяртанне пасады не даў.

Праз некаторы час і Сямён Адзінцэвіч уступіў пасаду намесніка магілёўскага іншай асобе. У больш познія часы мы не сустрэлі ніводнага ўпамінання аб знаходжанні Сямёна Багданавіча Адзінцэвіча на гэтай пасадзе. У дакументах, складзеных у перыяд з 1520 г. і па 1529 г., ён упамінаецца толькі як гаспадарскі дваранін.

24 ліпеня 1516 г. Сямён Адзінцэвіч атрымлівае каралеўскі дазвол на набыццё ўрочышчаў Іваноўшчыны, Андрэеўшчыны, Янцоўшчыны, Яскоўшчыны і Санцоўшчыны на берагах ракі Шчары ў мясцовых зямян Івана і Паўла Мілашэвічаў [13, № 245, р.190]. Адначасова яму дазваляецца набыццё земляў у баярына Стэцка Славуціча, якія знаходзіліся непадалёку ад земляў Мілашэвічаў. 27 снежня гэтага ж года кароль дае дазвол Адзінцэвічу на атрыманне ў пажыццёвае карыстанне трох чалавек у воласці Велюнскай і на сенажаць у Пудзешы. Раней гэтыя людзі і зямля знаходзіліся ў пажыццёвым карыстанні каралеўскага пісара Федзкі Міхайлавіча Святошы і пасля яго смерці трапілі ў каралеўскае распараджэнне [13, № 583, р.324].

Не склаліся адносіны ўладальнікаў дзярэчынскіх земляў, менавіта Андрэя Міхайлавіча Сангушкавіча, Івана Дуды Палубенскага і Сямёна Багданавіча Адзінцэвіча, з суседзямі. Найбольш сур'ёзнае супрацстаянне ў іх склалася з князем Цімафеем Іванавічам Пузынам, які валодаў землямі ў ваколіцах Дзярэчына. На нашу думку захопы земляў князя Цімафея Пузыны Палубенскім і Адзінцэвічам пачаліся неўзабаве пасля ўзяцця імі шлюбу з сёстрамі Сангушкаўнамі.

7 чэрвеня 1515 г. гаспадарскі суд вымушаны быў у чарговы раз адкласці разгляд справы па заяве Цімафея Пузыны супраць Івана Палубенскага і Сямёна Адзінцэвіча. Незважаючы на ранейшыя пастановы судоў ВКЛ, Палубенскі сілай захапіў зямлю Катчынскую, сенажаць і пушчу, якія з дзядоў і прадзедаў знаходзіліся ў валоданні рода Пузынаў [15, № 178, с.237]. Працягваў захопліваць землі суседа і Адзінцэвіч. Па яго загаду слугі і падданыя з Дзярэчына сілай захапілі ўрочышча Пашкоўскае разам з сям'ёй падданага, які апрацоўваў гэтыя землі. Цімафей Іванавіч Пузына, упэўненны ў сваёй праваце, ставіў шапку і 100 коп грошаў лічбы літоўскай у пацвярджэнне сваіх слоў аб уласнасці на Пашкоўшчыну. Сямён Багданавіч Адзінцэвіч запэўніваў суд у сваёй невінаватасці і заявіў, што нават і не ведае аб захопе земляў дзярэчынскімі падданымі. Суд аднак не паверыў Палубенскаму і Адзінцэвічу і загадаў ім паставіць сваіх суддзяў і выехаць на месца здарэння для ўчынення справядлівасці. Аднак Палубенскі і Адзінцэвіч адмовіліся станавіцца на суд і выводзіць сваіх суддзяў. Яны растлумачылі, што "*маёнтак Дзярэчынскі яшчэ не падзелены поўнасцю*". Таму неабходна выклікаць у суд не толькі іх, учыніўшых напад, але і ўсіх іншых уладальнікаў дзярэчынскіх земляў. Пра сябе ж яны запісалі, што не адмаўляюцца прымаць удзел у судовай справе, але не ведаюць калі звольняцца з гаспадарскай службы. Сёстры захавалі права ўласнасці на дзярэчынскім землямі за сабой. Не ведаючы аб гэтым, пакрыўджаныя суседзі выклікалі ў суды княства Палубенскага і Адзінцэвіча. Сваякі адмаўляліся станавіцца на суд, так як не былі ўладальнікамі земляў у Дзярэчыне.

Асабліва шмат захавалася дакументаў аб узаемаадносінах уладальнікаў Дзярэчына з Цімафеем Іванавічам Пузынам, якія былі складзены ў 1519-1520 г. Калі ранейшыя дакументы паведамляюць аб поспехах у наступленні на землі Пузыны Палубенскага і Адзінцэвіча, то ў гэтыя гады становішча змянілася поўнасцю. Верагодна, Цімафей Пузына атрымаў падтрымку сваім дзеянням і стаў больш настойліва пагражаць суседзям. Цяпер Палубенскі і Адзінцэвіч былі вымушаны часцей звяртацца ў гаспадарскія суды за абаронай правоў на землі ў Дзярэчыне. 24 мая 1520 г. яны абвінавачваюць людзей Пузыны ў забойстве двух падданых [15, № 137, с.788]. Цімафей Пузына не прызнаў сваіх людзей вінаватымі, а лічыў, што забойства ўчынілі сяляне суседняга сяла Азёрычы, у якіх дзярэчынскія падданыя пакралі коней. У канцы 1520 г. правалiліся спробы Івана Андрэевіча Палубенскага правесці капу (*сход сялян для ўчынення пакарання вінаватых у злачынстве*). На думку Палубенскага падданыя Пузыны падпалілі яго дом. У полымі згарэлі не толькі яго скарбы і маёмасць, але былі знішчаны і паперы, якія ўтрымлівалі запісы аб пазыках і заставе земляў [15, № 188, с.1509].

Да 7 жніўня 1521 г. Цімафей Пузына сілай захапіў поле ва ўрочышчы Мехоўскім, якім здаўна карысталіся дзярэчынскія сяляне [15, № 491, с.1515]. Цяпер ужо Пузына паведаміў на судзе, што не мае ніякіх звестак аб захопе гэтых земляў.

На нашу думку, супярэчнасці паміж Цімафеем Іванавічам Пузынам, дваранінам каралевы польскай і вялікай княгіні ВКЛ Боны, і Андрэем Міхайлавічам Сангушкавічам, гаспадарскім маршалкам, і гаспадарскімі дваранамі: Сямёнам Багданавічам Адзінцэвічам і Іванам Андрэевічам Палубенскім не спынілася да 1528 г. [18, арк.240]. У лістападзе гэтага года ўлады ВКЛ вымушаны былі прызначыць асаблівую камісію, якая складалася з самых аўтарытэтных людзей княства, для спынення зацягнуўшагася канфлікта. Як пісаў у сваёй скарзе Пузына, у пачатку восені 1528 г. "*яны сваіх слуг з наменснікам на яго палі наслалі... і слуг яго і людзей пабілі*". Астрожскі, гетман ВКЛ, судзіў гэтую справу і прысудзіў уладальнікам дзярэчынскіх земляў аплаціць усе страты дваранiна каралевы Боны і яго падданых.

Да 1521 г. сапсаваліся адносіны Сямёна Адзінцэвіча і з Іванам Есманавічам, які пачаў патрабаваць ад Адзінцэвіча вяртання некалі захопленных ім земляў [15, № 192, с.1517]. Карыстаючыся падтрымкай некаторых прадстаўнікоў кіруючых колаў ВКЛ, Сямён Адзінцэвіч не пабаяўся ўступіць у супрастаянне і з самім князем Канстанцінам Іванавічам Астрожскім, гетманам найвышэйшым ВКЛ, кашталянам віленскім [15, № 150,

с.1462]. Фёдар Валошын, былы слуга Адзінцэвіча, па нейкіх прычынах пакінуў гаспадара і наняўся на службу да Астрожскага. Да 22 чэрвеня 1520 г. Сямён Адзінцэвіч з вялікім натоўпам слуг і падданых напаў на маёмасць Валошына ў ваколіцах Менска, нанёс вялікія страты яго гаспадарцы і перагнаў у свой хлеў статак рагатай жывёлы колькасцю ў 30 галоў. Гаспадарскі дваранін тлумачыў у судзе, што Фёдар Валошын, былы яго намеснік у сяле Магільным, што знаходілася ў Полацкім ваяводстве, скраў грошы прызначаныя для тых, хто страціў коней падчас вайсковага паходу. Астрожскі не прыняў пад увагу тлумачэнні Адзінцэвіча і патрабаваў аплаты страт Валошына.

28 снежня 1523 г. Сямён Адзінцэвіч набывае за 600 коп грошаў літоўскіх у Марціна Міхайлавіча Пяткевіча Сонгайлавіча, канюшага Віленскага ваяводства [19, № 440, s.118], частку яго дзедзічных земляў у Бысцені, Гноіне і Любішычах, якія засталіся Пяткевічу па роўным падзеле з братамі бацькоўскай спадчыны [20, арк.136 адв.]. Напэўна каб Адзінцэвіч ведаў, якія наступства будзе мець для яго жонкі, менавіта для Настассі Міхайлаўны Сангушкаўны, гэтае набыццё, то не набываў бы гэтыя землі. У 1551 г., спасылаючыся на дзеючае літоўскае права, крэўныя, памёршага да 3 красавіка 1538 г. канюшага віленскага, прад'явілі прэтэнзіі Настассі Міхайлаўне на землі Бысцені і Гноіна.

Аўтарытэт Сямёна Адзінцэвіча, як суддзі, сярод прадстаўнікоў вышэйшых колаў ВКЛ быў на высокім узроўні. Яго запрашалі ў якасьці палюбоўнага суддзі нават Радзівілы. У тыя часы не ўсе справы вырашаліся ў каралеўскіх судах. У многіх выпадках удзельнікі судовай справы прызначалі з кожнага боку роўную колькасць суддзяў, якія і прымалі канчатковае рашэнне. Падпарадкаванне такому рашэнню палюбоўных суддзяў было гэтак жа абавязковым, як і выкананне рашэння гаспадарскага суда. У кастрычніку 1523 г. Ганна Янавая Мікалаевічавая Радзівілавічавая запатрабавала правядзення падзелу той часткі маёмасці, якая да гэтага часу знаходзілася ў агульным карыстанні братоў Радзівілаў, а менавіта яе мужа Яна і Юрыя [21, № 74, p.91]. Адносіны паміж братамі маглі быць узорам для тагачаснага грамадства. Некаторыя землі яны перадалі адзін другому ў часовае карыстанне, не аформіўшы гэта ў праўным парадку. Справы істотна змяніліся пасля смерці Яна Мікалаевіча. Да згоды з братавай Юрый Мікалаевіч Радзівілавіч не хацеў, або не мог прыйсці. Для вырашэння даволі заблытаных адносінаў пані Ганна запрасіла да сябе суддзямі Сямёна Адзінцэвіча і Марціна Меляшкавіча. Хутчэй за ўсё і суддзі не змаглі прыйсці да згоды. Даведаўшыся аб гэтай справе, кароль вырашыў забраць спрэчныя маетнасці ў сваё часовае распараджэнне і трымаць іх да тых часоў пакуль Юрый Мікалаевіч не выканае свае абяцанні, якія ён даў яшчэ пры жыцці свайго брата Яна.

У 1527 г. Сямён Адзінцэвіч, гаспадарскі дваранін, накіроўваеца на ўсход княства для выканання прысуду гаспадарскага суда ў справе па спадчыне, нядаўна памёршай, княгіні Даміниды Сямёнаўны Сакалінскай Сямёнавай Ямантавай Падбярэзскай [18, арк.362]. Яе крэўныя, не атрымаўшы згоды Сямёна Падбярэзскага на вяртанне мірным шляхам мацярынскай маетнасці Крывіна, дабіліся спрыяльнага для сябе каралеўскага дэкрэта. Князі Сакалінскія са сваімі сваякамі, спадзяваліся атрымаць яе, не выканаўшы ўмовы тэстаментавага запісу пані Даміниды. Сямён Адзінцэвіч павінен быў узяць у сваё распараджэнне сяло і перадаць Падбярэзскаму 60 коп грошаў літоўскіх, запісаных маці дачцы, пані Дамінідзе, у пасаг. На нашу думку Сямён Ямантавіч не дапусціў Адзінцэвіча ў сяло. Не выключана, што князь Адзінцэвіч асабліва і не настойваў на выкананні Падбярэзскім каралеўскага дэкрэта.

На жаль не захаваліся тэстаменты маці і бацькі князёўны Даміниды. Аднак у наша распараджэнне трапіў ліст караля Жыгімонта І, у якім прыведзена прадгісторыя атрымання Падбярэзскімі Крывіна [18, арк.362].

Перад смерцю маці князёўны Даміниды Сямёнаўны Сакалінскай, запісала сынам свае землі, уключаючы і двор Крывіна. Потым гэтак жа зрабіў перад смерцю і бацька князёўны Даміниды Сакалінскай, Сямён Фёдаравіч, намеснік бранскі, першы з князёў Друцкіх Сакалінскіх. У свой тэстамент князь Сямён Сакалінскі ўнёс асаблівае распараджэнне дзецям і іх апекунам, якім забараніў "*у тые маёнткі сястры іх уступаць*".

Сямён Сакалінскі памер у 1501 г., таму яе вяселлем кіраваў яе брат Андрэй. З-за нястачы грошай Дамініда атрымала ў пасаг сяло Крывіна, ацэненае ў 60 коп грошаў літоўскіх [1, s.462]. Браты перадавалі сяло сястры толькі часова, да таго часу пакуль у іх не знойдуцца грошы для выплаты яе пасагу. Пра атрыманне ў пасаг Сямёнам Падбярэзскім і Дамінідай іншых земляў, асабліва тых, якія знаходзіліся ў Друцку і з'яўляліся дзедзічнымі землямі князёў Друцкіх Сакалінскіх, ніякіх упамінанняў у судовых справах, якія вяліся крэўнымі памёршай Дамініды ў 1527 г. і 1530 г. з аўдавеўшым князем Сямёнам Ямантавічам, мы не сустрэлі. Сямён Падбярэзскі валодаў землямі ў Друцку не па запісе сваёй жонкі, а па спадчыне ад яго бацькоў.

Князь Падбярэзскі прызнаў неабходнасць вяртання крэўным Дамініды Крывіна, але, спасылаючыся на запіс жонкі, мог трымаць сяло пасля 1530 г. яшчэ тры з паловай гады. Жонка запісала мужу сяло Крывіна ў суме ўжо 80 коп грошаў. Крэўныя Дамініды сабралі 60 коп грошаў літоўскіх, але доўга не пагаджаліся даплаціць яшчэ 20 коп.

З матэрыялаў судовай справы, узбуджанай Янам Пятровічам Пянько супраць старосцічаў берасцейскіх: Яна, Станіслава і Шчаснага Юр'евічаў Ільінічаў стала вядома, што не заўсёды Сямён Адзінцэвіч мог пахваліцца тым, што судовыя дэкрэты, прынятыя з яго ўдзелам маглі лічыцца самымі справядлівымі. Першыя суды па гэтай справе адбыліся задоўга да 23 жніўня 1528 г. Каралеўскія суддзі: Богуш Багавіцінавіч, падскарбі земскі, маршалак і пісар ВКЛ, браты, князі Васіль і Іван Палубенскія і князь Сямён Багданавіч Адзінцэвіч дзесяць чалавек "*людзей лулінскіх*", здаўна належаўшых самому Яну Пяньковічу, а яшчэ раней і яго бацьку, прысудзілі Юрыю Іванавічу Ільінічу [22, № 27, p.72]. 27 жніўня 1528 г. каралеўскі суд у новым складзе: князь Ян, біскуп віленскі, Альбрыхт Марцінавіч Гаштольд, ваявода віленскі і канцлер ВКЛ, і Юрый Мікалаевіч Радзівіл, стараста гарадзенскі, уважліва вывучылі ўсе абставіны справы і касавалі ранейшы дэкрэт. Суддзі звярнулі ўвагу на тое, што той склад суда, які прымаў гэты дэкрэт, не быў правамоцны для прыняцця рашэння па гэтай справе. Суддзі прадстаўлялі інтарэсы толькі Ільінічаў, а суддзі ад Яна Пянько па важкай прычыне адмовіліся прыняць удзел у разглядзе справы.

3 лістапада 1528 г. гаспадарскі суд разглядаў адну з найбольш цікавых спраў у гісторыі судоў ВКЛ. Баярына Міхайлавая Сенькавічавая Ульяна князёўна Падбярэзская паскардзілася на дзеянні свайго пляменніка, каралеўскага двараніна, князя Сямёна Адзінцэвіча. Адзінцэвіч сілай захапіў маёнтак Сямёнаўскі, які, на яе думку, павінен перайсці па спадчыне яе сынам: Рыгору і Івану [22, № 46, p.85]. Адзінцэвіч тлумачыў, што Ульяна і яе дзеці валодаюць бяспраўным чынам многімі маёнткамі яго дзядзькі Яцка Сенькавіча, а яе дзеці не з'яўляюцца законнымі дзецьмі нябожчыка Сенькавіча. Ульяна апавядала перад суддзямі, што яна ў першым шлюбе была за Міхалам, родным братам Яцка Сенькавіча. Пасля нядоўгага сумеснага жыцця Міхал памёр у 1510 г., не пакінуўшы нашчадкаў, а з ёй ажаніўся яго родны брат Яцка Сенькавіч. У царкве іх шлюб асвяціў мясцовы святар, хутчэй за ўсё не ведаючы аб папярэднім шлюбе пані Ульяны. У шлюбе Яцка Сенькавіча і Ульяны нарадзілася тры сына: Рыгор, Іван і Сямён. Сямён памёр пасля 1518 г. і ў 1528 г. яго імя ў дакументах не сустракаецца. У той жа царкве, дзе праходзіла вянчанне Яцка Сенькавіча і пані Ульяны, "*паводле закону грэчаскага*" ахрысцілі і іх сыноў.

Упершыню каралеўскі суд займаўся разглядам справы аб нязгодным з грэчаскай рэлігіяй шлюбе Яцка Сенькавіча з Ульянай, жонкай памерлага яго брата Міхала, у канцы 1518 г. Да 30 кастрычніка 1518 г., дня прыняцця каралеўскім судом канчатковага рашэння па гэтай справе на карысць дзяцей Яцка і Ульяны, з моманту ўступлення Яцка Сенькавіча ў шлюб з сваёй былой братавай, прайшло шмат часу. Спачатку гэтай справай займаўся царкоўны суд, устаноўлены, як гэта запісана ў дакуменце (!), першым мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі Іосіфам. Іосіф Солтанавіч не быў першым мітрапалітам кіеўскім. Сваю пасаду ён заняў да 1513 г. ужо пасля смерці свайго папярэдніка, менавіта Іоны, які зышоў з гэтага свету каля 1509 г. Найбольш верагодна, што якраз дзякуючы пераменам у

царкоўнай іерархіі і стаў магчымым шлюб Яцка (*Якуба*) Сенькавіча і пані Ульяны Ямантаўны Падбярэзскай. Мітрапаліт Іосіф да атрымання сваёй высокай пасады займаў пасаду ўладыкі полацкага і верагодна не дапусціў бы сваю паству да такога грэху. Заняццё самай высокай пасады ў сістэме праваслаўнай царквы ВКЛ запатрабавала шмат высілкаў і своечасова рэагаваць на многія падзеі не хапала часу.

Мітрапаліт аказаўся ў вельмі складанай сітуацыі, узяцце шлюбу асобамі, якія знаходзіліся ў такой ступені сваяцтва, па нормам тагачаснага рэлігійнага права забаранялася. Аднак царква павянчала Яцка Сенькавіча з жонкай памерлага яго брата. Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Іосіф, даведаўшыся пра абставіны гэтага шлюба, развёў Яцка і Ульяну. У выніку рашэння царкоўнага суда пані Ульяна страціла права называцца Яцкавай Сенькавічавай. Цяпер у дакументах аж да самай смерці яна пісалася. як пані Ульяна Міхайлавая Сенькавічавая.

Што ж датычылася дзяцей, сыноў Яцка і Ульяны (*Рыгора, Івана і Сямёна*), якія былі народжаны ў законным шлюбе, то да іх царква паставілася вельмі лагодна і на працягу амаль дваццаці гадоў, калі ішлі судовыя працэсы, узбуджаныя Сямёнам Адзінцэвічам, не ставіла пад сумненне іх правы на законнасць нараджэння. Мітрапаліт кіеўскі на запыт пані Уляны аб лёсе яе сыноў прызнаў, што нягледзячы на незаконнасць шлюбу, яна "*в законе тыи дети с ним [з мужам] прибыла, и оставил тых детей при чсти, иж они суть правыи законныи дети Яцковы*". Атрымаўшы ад мітрапаліта на рукі дакумент з прызнаннем таго, што яго дзеці народжаны ў законным шлюбе і ахрышчаны, Яцка Сенькавіч (на гэты час Ульяна яшчэ не прымала ўдзелу ў вырашэнні справы) у 1518 г. звярнуўся і ў каралеўскі суд за прызнаннем яго сыноў "*при чти*", г. зн. сапраўднымі спадчыннікамі шляхетных бацькоў. Без такога прызнання дзеці не мелі правоў на атрыманне ад бацькоў ў спадчыну земляў і грашовых сродкаў. Страчвалі яны правы на шляхецтва і не маглі карыстацца тымі правамі, якімі карысталіся людзі гэтага прывілеяванага стану. Да 1518 г. памерлі не толькі Міхал Сенковіч, але і яго браты Багдан і Івашка. Аднак Ульяну падтрымалі дзеці Багдана і Івашкі: Андрэй Багданавіч, Андрэй і Рыгор Івашкавічы Сенькавічы. Прычым Андрэй Івашкавіч Сенькавіч, разам з пані Улянай Міхайлавай Сенькавічавай станавіўся на суд і перад канстанцінопальскім патрыярхам Іерэміяй, падтрымліваючы правы сваіх непаўналетніх стрыечных братоў на маёмасць, якая засталася ад Міхала і Яцка Сенкавічаў. Дзеці Івашкі і Багдана Сенькавічаў не адмовіліся ад сваіх братоў і прызналі іх за сваіх крэўных і годных людзей. Падтрымаў Сенькавічаў і патрыярх Іерэмія. Магчыма, што Андрэй Івашкавіч ездзіў у Стамбул да патрыярха за атрыманнем ад яго рашэння ў карысць дзяцей [12, № 36, р.65].

Пры жыцці Яцка Сенькавіча пытанне аб прыналежнасці ўсіх добраў, нажытых Яцкам і Міхалам Сенькавічамі, не ўзнікала. На нашу думку памёр Яцка Сенькавіч да 1525 г. так, як у перапісе войска ВКЛ, праведзенага ў канцы 1528 г., ваяроў са сваіх маёнткаў, трапіўшых у яе валоданне ад першага і другога мужа, у войска выстаўляла толькі пані Ульяна. У сярэдзіне 1525 г. кароль вырашае прызначыць апекуном Ульяны Ямантаўны і яе дзяцей Івана Багданавіча Сапегу, ваяводу віцебскага [18, арк.283 адв.]. Ваяводзе віцебскаму загадвалася, "*абы не даваў іншым бяспраўна крыўды чыніць*". Аб прызначэнні апекуном ваяводы полацкага размова не ўзнікала, "*бо яна [Ульяна Падбярэзская] з ваяводам полацкім пасварылася*" і землі сяла Магільнага да замка полацкага далучыў. Верагодна ў пані Ульяны Міхалавай Яцкавічавай была моцная падтрымка сярод прадстаўнікоў кіруючых колаў ВКЛ.

Пасля смерці Яцка Сенькавіча Сямён Багданавіч Адзінцэвіч пачаў сілай захопліваць найбольш буйныя валоданні свайго дзядзькі. Сямён Адзінцэвіч лічыў, што абставіны, якія склаліся пасля смерці Яцка Сенькавіча, садзейнічалі перагляду ранейшых судовых пастаноў. Але і на гэты раз спадзяванні гараднічага гарадзенскага аказаліся марнымі.

Не марнавалі дарма часу і Рыгор ды Іван Яцкавічы Сенькавічы. Яны яшчэ раз звярнуліся да новага мітрапаліта кіеўскага, Іосіфа і да канстанцінопальскага патрыярха за

пацвярджэннем сваіх правоў на маёнткі і грошы памерлага іх бацькі. Разгледзеўшы паўторна ўсе абставіны справы мітрапаліт кіеўскі і патрыярх не прызналі законнымі прэтэнзіі Сямёна Адзінцэвіча. На колькі вялікае значэнне ў ВКЛ надавалася гэтай справе відаць са складу маршалкоўскага суда, які і прымаў канчатковае рашэнне па гэтым складаным пытанні. Верагодна гэтая справа прыцягнула да сябе ўвагу грамадства ВКЛ. Па загаду вялікага князя ў склад суда, які пад кіраўніцтвам Канстанціна Іванавіча Астрожскага, ваяводы трокскага, найвышэйшага гетмана ВКЛ, разглядаў прэтэнзіі Сямёна Адзінцэвіча да дзяцей Яцка Сенькавіча, сваіх стрыечных братоў, увайшлі: Альбрыхт Марцінавіч Гаштольд, ваявода віленскі, канцлер ВКЛ, Юрый Мікалаевіч Радзівіл, кашталян віленскі, маршалак дворны ВКЛ, і Ян Янавіч Забярэзінскі, маршалак земскі ВКЛ [21, № 324, р.268].

Каралеўскі суд пасля стараннага вывучэння сутнасці справы прыняў такое ж рашэнне на карысць дзяцей Яцка Сенькавіча, як і царкоўны суд у 1518 г. У яго пастанове забаранялася Сямёну Адзінцэвічу ў будучым не толькі яшчэ раз выклікаць у суды дзяцей пані Міхайлавай Сенькавічавай, але і звяртацца да патрыярха ў Стамбул з патрабаваннем паўторнага разгляду гэтай справы. Сямёну Адзінцэвічу было даведзена, што “*к именням и статкам его (Яцка Сенькавіча) не мает нихто ближшии бытии, только они*”. Кароль загадаў скасаваць раней выданы Сямёну Адзінцэвічу дазвол на ўступленне ва ўладанне сялом Сямёнаўскім і вызваліў удаву па гэтай справе ад усіх магчымых позваў.

У 1528 г. яшчэ жыў бацька Сямёна, Багдан Федаравіч Адзінцэвіч, але намі не заўважана яго ўдзелу ў судовай справе. Магчыма, што ён хварэў і знаходзіўся ў вельмі цяжкім стане.

Дарэчы пані Ульяна на перыяд судоў у 1528 г. па спадчыне братоў Яцка і Міхала аказалася ўладальніцай вялікай зямельнай уласнасці. У 1528 г. яна ставіла ў войска ВКЛ з тых земляў, якія атрымала ад Міхала і Яцка Сенькавічаў, 14 каней. Для параўнання, жонка яшчэ аднаго з братоў Сенкавічаў, а менавіта Івашкі, ставіла ў войска ВКЛ толькі 2 коней [14, с. 154]. Ужо пасля завяршэння судовага працэса па прыналежнасці сяла Сямёнаўскага пані Ульяна Ямантаўна дабілася атрымання яшчэ аднаго каралеўскага прывілея на вяртанне ў яе ўласнасць сяла Пагост [10, № 708, р.544]. Некалі гэтае сяло атрымалі ў спадчыну пасля смерці бацькі браты Сенькавічы: Міхал, Івашка і Яцка. Аднак кароль Аляксандр забраў гэтае сяло ў скарб і надаў у пажыццёвае карыстанне Юрыю Немцу і слузе путнаму Кузьме Смальяніну.

Зусім інакш пайшлі справы з вяртаннем у распараджэнне Ульяны Падбярэзскай земляў у сяле Магільным, якое з дзядоў належала Сенькавічам, а потым было падзелена дзецьмі полацкага баярына Сенькі [18, арк.235 адв.]. Падданыя той часткі сяла, якія павінны былі перайсці ў яе валоданне, адмовіліся служыць ёй і яе сынам: Рыгору і Івану. Полацкі ваявода падтрымаў падданых і загадаў далучыць іх да полацкага замку. Неабходна мець на ўвазе, што часткай Магільнага, былой уласнасці Сенькі Радковіча, сына Грыдкі, валодаў па спадчыне яго ўнук, менавіта Сямён Багданавіч Адзінцэвіч. Не выключана, што яго ўраднікі выдатна правялі падрыхтоўку сустрэчы новай гаспадыні і дабіліся згоды ваяводы на пераход земляў у дзяржаўную ўласнасць. Зразумела, што гэта прывяло Ульяну Падбярэзскую Міхалавую Сенькавічавую да вострага канфлікту з полацкім ваяводам.

Вопыт і сувязі дазволілі Адзінцэвічу на працягу значнага часу прымаць удзел у разглядзе самых складаных пытанняў ў складзе маршалкоўскага суда. Большасць спраў, якія разглядаў маршалкоўскі суд з удзелам Сямёна Адзінцэвіча, датычыліся зямян заходніх паветаў і ваяводстваў ВКЛ. Гаспадарскі дваранін пасылаўся каралём не толькі для разгляду судовых спраў, якія ўзнікалі паміж дробнай і сярэдняй шляхтай, але прыцягваўся і для ўдзелу ў наглядзе за выкананнем судовых рашэнняў. 14 лютага 1529 г. Жыгімонт Стары загадвае Сямёну Адзінцэвічу ўвесці ў часовае валоданне Зельвай гарадзенскіх жыдоў: Хацка Ісакавіча і брата яго Харашэнку. Некалі Юрый Ільініч, староста берасцейскі, пазычыў у Ісакавічаў грошы і не паспеў іх вярнуць [22, № 62, р.99].

Не вельмі клапаціліся аб выкананні пазыковых абавязкаў бацькі і яго сыны. Тлумачачы немагчымасць тэрміновага выканання абавязацельстваў перад крэдыторамі адсутнасцю згоды паміж усімі сынамі старасты берасцейскага, Ільінічы спадзяваліся і надалей карыстацца землямі ў Зельве.

У 1532 г., з 23 красавіка і па 18 жніўня, Сямён Адзінцэвіч у якасьці каралеўскага камісара разам з канюшым гарадзенскім Багданам Грынкевічам прымае ўдзел ў вырашэнні вельмі складанага пытання, якое датычылася земляў, належачых каралеве і аднаму з найбольш уплывовых магнатаў ВКЛ, а менавіта Юрыю Мікалаевічу Радзівілу, кашталяну віленскаму, найвышэйшаму гетману ВКЛ, старосце гарадзенскаму, маршалку дворнаму гаспадарскаму. Камісары павінны былі садзейнічаць “*присуженю некоторых земль и успокоеню розниц межи подданными её милости двора Жорославского, а межи именем пана Юря Миколаевича Радивиловича*” [22, № 147, p.185].

У 1532 г. гараднічы гарадзенскі атрымлівае каралеўскі прывілей на пажыццёвае валоданне Любашанскага староства, двара і агародаў у Горадні [1, s.283]. Праўда адразу яму не ўдалося прыступіць да выкарыстання ў сваіх інтарэсах земляў і падданых, насяляючых староства. Сямёну Багданавічу прышлося чакаць некаторы час пакуль сыдзе з гэтага свету Юрый Неміравіч, “*стары і вельмі хворы*” староста любашанскі.

3 верасня 1533 г. Сямён Адзінцэвіч па загаду караля накіроўваецца ў маёмасць Паца, каралеўскага ляснічага, для прывядзення яго да прысягі. Каралеўскі ляснічы абвінаваціў Ільінічаў, старосцічаў берасцейскіх, у парушэнні межаў каралеўскіх пушчаў і забойстве вялікай колькасці зуброў, мядзведзяў і ласёў. Ільінічы не прызнавалі свой удзел у паляванні і гатовы былі стаць на прысягу перад самім каралём [23, № 28, p.41]. 14 кастрычніка 1533 г. гараднічага гарадзенскага запрашае ў якасьці палюбоўнага суддзі Аляксандр Солтан, каралеўскі маршалак [23, № 60, p.56].

У 1534-1556 г. гарадзенскае староства і Мейшагола ў Віленскім ваяводстве па прывілеі Жыгімонта Старога ад 22 снежня 1533 г. з’яўляліся ўласнасцю каралевы Боны [7, № 2333, s.336]. Каралева аказвала ўплыў на заняцце пасад і ўрадаў у Гарадзенскім старостве і з часам атрымала права прызначаць у Гарадзенскім павеце са свайго акружэння наместнікаў, спраўцаў, або старост, як іх называлі інакш, для кіравання зямельнымі ўладаннямі, нададзенымі ёй каралём. Яе ўраднікі не толькі кіравалі маёмасцю каралевы у старостве, але і судзілі справы, якія ўзнікалі паміж гарадзенскімі зямянамі. Зразумела, што Сямён Адзінцэвіч займаў пасаду гараднічага гарадзенскага толькі таму, што знаходзіўся на службе ў каралевы. Яго папярэднік на гэтай пасадзе Марцін Іванавіч Меляшкевіч, гаспадарскі дваранін, памёр неўзабаве пасля 16 лістапада 1529 г. [7, № 1616, s.252]. Урад гараднічага Адзінцэвіч атрымаў у канцы 1529 г., або ў пачатку 1530 г.

Пасля смерці Пятра Станіслававіча Кішкі, старосты жамойцкага, у 1534 г. [24, с. 189] гараднічы гарадзенскі і Ян Станкевіч Белевіч прызначаны каралём спраўцамі, г. зн. часовымі выканаўцамі абавязкаў жамойцкага старосты [23, № 197, p.141]. Напэўна і не захавалася бы звестак аб гэтым этапе ў жыцці Сямёна Багданавіча Адзінцэвіча каб не тыя непаразуменні, якія ўзніклі ў Яна Мікалаевіча Радзівілавіча, новага старосты жмудскага, з жыхарамі Жамойці. Усе зямяне, людзі гаспадарскія Тондзягольскай воласці, да 3 мая 1536 г. паскардзіліся “*на п(а)на Яна, его м(и)л(о)сти, Миколаевича Радивиловича, старосту жомойтьского и ковенског(о), подчашого (го)сподарского, державцу василишского*”, які ўстанавіў новыя падаткі: “*от сохи воловой и коньской по полукопъю грошей, а по бочъце овса, по возу сена, з дыму по курати и по десяти яецъ, чого жъ есмо за предковъ его м(и)л(о)сти першых старостъ жомойтъскихъ николи не даевали*”. Як паведамляў Ян Радзівілавіч князь Сямён Адзінцэвіч, падчас выканання сваіх абавязкаў на месцы старосты, браў у зямян таксама па паўкапы грошаў у скарб княства. На нашу думку гэты працэс зямяне Тондзягольскай воласці прайгралі.

Князь Сямён Багданавіч Адзінцэвіч, гарадзенскі гараднічы, у 1535 г. уключаецца каралевай Бонай у склад камісіі па разгляду скаргі падляскіх месцічаў на тых яе ўраднікаў, якія забаранілі ім нарыхтоўваць дровы ў пушчы. Раней яны бесперашкодна атрымлівалі

драўніну для ацяплення сваіх дамоў, высякаючы Камянецкую пушчу [25, с. 215]. Справа была больш складаная, чым нам можа здацца з першага знаёмства з ёю. Разам з гараднічым гарадзенскім у склад камісіі ўвайшлі такія добра вядомыя гісторыкам асобы, як Васіль Багданавіч Чыж, староста аінскі (*пасля 1600 г. ужывалася найменне – староста гаенскі*), Мікалай Юр'евіч Пацэвіч і Пацей Тышкевіч.

Старраннае выкананне Адзінцэвічам сваіх абавязкаў і каралеўскіх даручэнняў было справядліва ацэнена вялікім князем літоўскім Жыгімонтам І. У 1540 г. ён атрымлівае прывілей на староства смальнянскае [1, s.283].

Амаль да часу ўзяцця Андрэем Адзінцэвічам шлюбу з Федзькай Багданаўнай Заслаўскай адносіны Адзінцэвічаў з Глябовічамі заставаліся вельмі дрэннымі. 22 лістапада 1540 г. Ян Юр'евіч Глебовіч паклікаў у суд князя Сямёна Багданавіча Адзінцэвіча, абвінаваціўшы яго людзей, коргаўскіх і нестанаўскіх, у нападзе на яго сенакосы каля ракі Чарніцы. З няхведаўскіх балот пад кіраўніцтвам Патапа, урадніка князя Сямёна, "*двадцат и два стоги сена взялъ и во власномъ бору его м(и)л(о)сти пчолы подрали, и дерево бортное порубали, потерли и показили, и во власной земли его м(и)л(о)сти, пастухи разогнавши, быдло побрали*" [26, № 75, р.49]. Землі коргаўскія былі падзелены паміж многімі ўладальнікамі. Найбольш значнымі памерамі выдзяляліся тыя землі, якія аказаліся ва ўласнасці: Адзінцэвічаў, князя Слуцкага і Яна Глябовіча, ваяводы полацкага. Спачатку людзі ваяводы полацкага скасілі сенажаці на "*вялікіх балотах Няхведаўскіх*" і паставілі стагі. Потым у балота выехалі на вазах людзі Адзінцэвіча з Коргава і Нестанавіч. Мала таго, што яны звезлі ўсё сена, дык і ў бары нарабілі шмат шкоды Глябовічу. Некалькі бортных дрэў былі ссечаны, а пчолы выдраны. Ваявода полацкі неаднаразова патрабаваў ад Адзінцэвіча паставіць перад судом людзей, сярод якіх упаміналіся: ураднік нестанаўскі Патап і сын яго Халецкі, старэц гарадзецкі Гаўрыла, якія і ўзначальвалі па загаду свайго гаспадара вываз чужога сена. Да суда гаспадарскага выклікалася і тыя падданыя, якія прымалі ўдзел у звозе сена. Сямён Адзінцэвіч спрабаваў давесці на судзе, што гэтыя землі здаўна знаходзіліся ў яго карыстанні, але не змог прадставіць сведкаў. У выніку гаспадарскі суд пастанавіў аплаціць страты ваяводзе полацкаму згодна Статуту. Сямён Адзінцэвіч прызнаваў, што сапраўды звёз сена, але грошы за гвалтоўны наезд на сенажаці плаціць не павінен, бо гвалт па Статуту можа быць толькі тады, калі наезд быў учынены на сёлы, а ў гэтым выпадку справа датычылася незаселеных земляў. Ваявода полацкі давёў суду, што "*яко нива, так сеножати, так теж и пушча есть именье, за наеханьем и побраньем кгвалътовнымъ ма бытии кгвалъть сужонъ водле Статуту*". Верагодна, што такія напады людзей Адзінцэвіча не былі адзінкавымі і не дабаўлялі цеплыні ў адносіны паміж суседзямі.

Справа на гэтым не скончылася. У сваю чаргу людзі Глябовіча некалькі разоў нападалі на памежныя землі Адзінцэвіча і нанеслі яму немалыя страты. 23 снежня 1540 г. Сямён Адзінцэвіч паклікаў у суд ваяводу полацкага, спрабуючы дабіцца прызнання сваёй уласнасцю на "*сеножати на болоте Великом, на реце Черницы*" [26, № 107, р.73]. На нашу думку на гэты час Глябовічы і Адзінцэвічы яшчэ не знаходзіліся ў сваяцтве, а другая жонка Яна Юр'евіча Глябовіча, пані Зафея Пяткевічаўна яшчэ была пры жыцці. Гараднічы гарадзенскі, дзяржаўца любашанскі і смольненскі патлумачыў суддзям, што вымушаны быў пазваць у суд ваяводу полацкага з-за немагчымасці карыстання сенажацямі "*на балоце Вялікім, на рацэ Чарніца*". Ён прыводзіў доказы, што "*кгвалътовные наезды, бои, головъщыны, грабежы и ... инъшые крывъды и шкоды*", якія пастаянна наносяць яму падданыя ваяводы полацкага, зрабілі немагчымым карыстанне Адзінцэвічам і яго людзьмі гэтымі землямі. На папярэднім разглядзе менавіта гэтай скаргі, Адзінцэвічу і яго падданым прысудзілі ад людзей Глябовіча некаторае адшкадаванне. Пасля некалькіх позваў у суды ў адносінах будучых сваякоў нічога не змянілася да лепшага.

Скаргі з узаемнымі абвінавачваннямі ў нанясенні шкод маёмасці, яшчэ доўга будуць класціся на сталы судовых ураднікаў княства. У жніўні 1549 г. Настасся

Міхайлаўна Адзінцэвічавая скардзілася на ўрадніка Станіслава Янавіча Глябовіча, старэйшага сына Яна Юр'евіча, ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ [27, арк.208 адв.]. Яго намеснік з Чэрнева, Плачынскі, з грамадой людзей напаў на яе Мірамінскую маетнасць "*і шмат шкоды нарабіў не толькі яе асабістай уласнасці, але і яе баярам*".

Незадоўга да сваёй смерці Сямён Адзінцэвіч аказваецца ўцягнутым у вельмі складаны судовы працэс, які быў звязаны з выкарыстаннем земляў у Дзярэчыне. На яго думку застаўны трымальнік дзярэчынскіх земляў, якія належалі Адзінцэвічам, менавіта Лявон Пацеевіч, дваранін каралевы Боны, не спаўна разлічваецца з ім за карыстанне гэтымі землямі. 22 снежня 1540 г. ён звяртаецца ў каралеўскі суд з прашэннем аб прадоўжванні тэрміна атрымання з Лявона Пацеевіча часткі даходу з застаўленных ім людзей у Дзярэчыне. На мінулым судзе яму прысудзілі атрыманне гэтых даходаў толькі на адзін год [26, № 104, р.72]. Лявон Пацеевіч на суд не стаў і суддзі выкарысталі гэта для адкладу вырашэння просьбы Адзінцэвіча на іншы тэрмін.

3 студзеня 1541 г. Сямён Адзінцэвіч, гараднічы гарадзенскі, разам з іншымі суддзямі, устаноўленнымі гаспадарскім загадам, займаўся разглядам скаргі княгіні Міхайлавай Мсціслаўскай на Васіля Палубенскага, старосту мсціслаўскага, маршалка каралеўскага. Каралеўскі маршалак абвінавачваўся ў захопе вялікай часткі, "*под самое место и замок на двесте человеков пашен засеянных и пашню дворную*", земляў яе цяцерынскага маёнтка [26, № 127, р.78]. Суды па гэтай справе былі і раней і стараста мсціслаўскі атрымаў судовы дэкрэт у сваю карысць. Аднак княгіня мсціслаўская атрымала ад караля дазвол на прыпыненне дзеяння судовага рашэння да моманту ўзяцца шлюбу яе дачкой. Нашу ўвагу прыцягнуў склад суда, які займаўся разглядам апошняй скаргі княгіні мсціслаўскай. Пад кіраўніцтвам Мацея Войцахавіча Яновіча, ваяводы віцебскага, працавалі: князь Іван Андрэевіч Палубенскі, шурын Сямёна Адзінцэвіча, Ян Нарбут, кухмістр каралеўскі, і Іван Андрэевіч, падскарбі дворны літоўскі. Цікава што князь Сямён Багданавіч Адзінцэвіч, гараднічы гарадзенскі, дзяржаўца любашанскі і смольнянскі, пазначаны прадапошнім у спісе суддзяў. Апошнім пастаўлены Ян Стэцкевіч, маршалак гаспадарскі, дзяржаўца менскі. Магчыма гэта было выклікана тым, што Стэцкевіч быў старым чалавекам і моцна хварэў. У сярэдзіне гэтага года ён памёр. У гэтым жа складзе гаспадарскі суд на працягу ўсяго студзеня 1541 г. займаўся разглядам спраў зямян ВКЛ. Вядома аб ўдзеле Сямёна Адзінцэвіча ў разглядзе спраў: пані Зафеі Шчаснавай Станкевічавай з яе пасынкам Станіславам; Аўгуштына Фурса, маршалка біскупа віленскага, з Васьком Дурыцкім; жыда гарадзенскага Мошкі Ганькавіча з баярамі гаспадарскімі Багданам Вазгірдам і яго сынам Юрыям; пана Івана Сапегі, ваяводы падляшскага, з сваёй сястрой, Ганнай Багданаўнай Сапяжанкай Алёхнавай Скаруцінай, маршалковай ВКЛ [26, № 161, р.103; № 164, р.104; № 166, р.105; № 174, р.109].

25 студзеня 1541 г. пры разглядзе справы ваяводы падляшскага з сястрой аб падзеле спадчынных маёнткаў, Сямён Адзінцэвіч унёс у акты Метрыкі ВКЛ свае прэтэнзіі на валоданне некаторымі з гэтых маёнткаў, а менавіта на Ілемніцу і Палоннае, тлумачачы свае прэтэнзіі наяўнасцю роднасных повязяў з Сапегамі.

Суды ў якіх гараднічы гарадзенскі прымаў удзел, прызначаныя каралём для вызначэння адказнасці шляхетных асобаў у здзяйсненні крыміналу, некалі канчаюцца і пачынаюцца тыя суды, на якія выклікаюць самога гараднічага гарадзенскага. 31 студзеня 1541 г. баяры абалецкія пазвалі ў суд дзяржаўцу любашанскага, абвінавачваючы яго ў многіх крыўдах, якія ім учыніў службовец дзяржаўцы любашанскага Хверыян [26, № 196, р.125].

У пятніцу 4 лютага 1541 г. князь Сямён Адзінцэвіч паклікаў у суд князёў Друцкіх па справе аб валоданні землямі ў друцкім замку. Некаторыя з Друцкіх пагадзіліся з прэтэнзіямі Адзінцэвіча. Аднак Андрэй Азярэцкі адмовіўся прыняць удзел у судовым паседжанні, пакуль гараднічы гарадзенскі не пакліча ў суд усіх уладальнікаў земляў у Друцку [26, № 210, р.131]. Крыўду Адзінцэвіча выклікала тое, што князі: Васіль Юр'евіч Талачынскі, дзяржаўца аршанскі і Андрэй Іванавіч Азярэцкі сілай захапілі друцкі замак і

выгналі яго ўраднікаў. Князі Друцкія не хацелі станавіцца на каралеўскі суд. Яны пагаджаліся з правам князёў Адзінцэвічаў на валоданне дзедзічнымі землямі ў Друцку, але хацелі дабіцца для сябе больш выгодных умоў. Толькі пад пагрозай устанаўлення ад караля вялікага штрафу браты пагадзіліся перадаць справу на разгляд асаблівага “яднальнага” суда, прызначанага для ўлагоджвання ўзнікшых супярэчнасцей. З кожнага боку было выстаўлена роўная колькасць давераных асобаў, якія і заняліся пошукам кампрамісу, задавальняючага, як князёў Друцкіх, так і князя Адзінцэвіча. Пасля доўгіх перамоў князі Друцкія дасягнулі паразумення з гараднічым гарадзенскім у справе трымання ў будучым земляў Друцкага замка. Сямён Адзінцэвіч атрымаў землі Друцкага замку ў трыманне на паўтары гады. Пасля завяршэння яго гаспадарання ў замку, кожны з трох князёў, пасля наступлення сваёй чаргі павінен быў гаспадарыць у Друцку і трымаць землі друцкага замка толькі па аднам годзе.

20 лістапада 1541 г. Жыгімонт Стары пацвердзіў князю Сямёну Адзінцэвічу ліст, дзе былі агавораныя вынікі дасягнутай згоды з князямі Друцкімі [28, № 7, арк.54]. Аднак поўнае прымірэнне ў гэтай справе не наступіла. Князі Друцкія працягвалі прадпрымаць высілкі для захавання ў сваім валоданні земляў у Друцку. Вырашэннем гэтай справы прышлося займацца ў 1549 г. і Андрэю Сямёнавічу Адзінцэвічу

Верагодна, што справы, якімі займаўся Сямён Багданавіч Адзінцэвіч у 1541 г. былі апошнімі ў яго жыцці і праз некаторы час ён сыйдзе з гэтага свету. Пасля лістапада 1541 г. паведамленні пра яго перастаюць сустракацца ў матэрыялах Метрыкі ВКЛ. Найбольш верагодна, што гараднічы гарадзенскі памёр у 1542 г.

Пасля смерці мужа Настасся Сангушкаўна не ўступіла дзецям сваіх земляў і працягвала кіраваць імі самастойна. Прычым адносілася яна да справы вельмі сур’ёзна, па-гаспадарску. У матэрыялах Метрыкі ВКЛ захавалася некалькі спраў, якія вяла гараднічына гарадзенская са сваімі суседзямі. У ліпені 1550 г. у гаспадарскім судзе слухалася скарга Аляксандра Солтанавіча на дзеянні сваёй суседкі па Жыровіцкай маетнасці, менавіта Настассі Сямёнавай Адзінцэвічавай (27, арк.108 адв.). Паміж тымі часткамі Жыровіцкіх земляў, якія знаходзіліся ў карыстанні Солтанавіча і пані Сангушкаўны, межы не былі акрэслены. Увагу суседзяў здаўна прыцягвалі вялікія сенажаці, якія знаходзіліся на памежжы, падзяляючым іх землі. Першай да актыўных дзеянняў перайшла Настасся Адзінцэвічавая. Сабраўшы вялікі натоўп слуг і ўзброеных падданых, у суправаджэнні шматлікіх вазоў яна наведала Усеневіцкую сенажаць. У той час калі адны падданыя касілі і сушылі сена, дарэчы яго вывезлі каля трохсот вазоў, другая частка падданых пані Адзінцэвічавай рупліва жала чужое жыта. Сабраўшы каля 30 бочак зерня адвезлі і яго ў свой свіран. Адчуўшы непрыхільнасць да сваіх дзеянняў падданых Солтанавіча, вырашылі пакараць і іх. На палеткі сялян наслалі быдла і хутка знішчылі вынікі іх працы. Паламалі ў сяле вароты. Сустрэўшы быдла, што вярталася з поля, шмат кароў пабілі і скалечылі. На развітанне, падданыя Настасіі Адзінцэвічавай, ад’язжаючы дамоў з адчуваннем добра выкананага загаду, падпалілі складзенае ля вёскі сена. Суд не стаў займацца вырашэннем гэтай справы, а зыходзячы з тагачаснай практыкі, прапанаваў вызначыць з кожнага боку па двух суддзяў, якія павінны былі ўлагодзіць гэты канфлікт. Аб сувязях Настассі Міхайлаўны з кіруючымі коламі адміністрацыі ВКЛ сведчыць тое, што адным з яе палюбоўных суддзяў на гэты раз згадзіўся стаць Гермаген Іванавіч Гарнастай, пісар ВКЛ, які належаў да вельмі ўплывовага шляхецкага роду.

Пачынаючы з 1551 г. Настассю Міхайлаўну пачалі выклікаць у суды нашчадкі былых уладальнікаў земляў, якія ёй засталіся ў дажывотняе карыстанне па смерці мужа. У пачатку кастрычніка гэтага ж года позву ў суд даслаў пані Сямёнавай Адзінцэвічавай Яраш Карыцкі,канюшы дворны, дзяржаўца валожынскі і трабскі. Яго жонка, Ганна Андрэеўна Давойнавіча, аказалася крэўнай Марціна Міхайлавіча Пяткевіча, які 28 снежня 1523 г. прадаў Сямёну Багданавічу Адзінцэвічу частку земляў у Бысцені і Гноіне [20, арк. 136 адв.]. Па ўмовах продажу ў рукі Адзінцэвічаў павінна былі перайсці толькі палова

земляў. Аднак тая частка земляў, якія засталіся ў валоданні нашчадкаў канюшага віленскага па нейкіх прычынах аказалася меншай.

Верагодна кіраўніцтва ВКЛ надавала гэтай справе асаблівае значэнне. Суддзямі прызначылі: князя Фрыдрыха Глебавіча Пронскага, ваяводу кіеўскага, Гераніма Аляксандравіча Хадкевіча, старосту жамойцкага, і Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча, падкаморыя гаспадарскага. Ад імя гаспадарскага канюшага ў судзе выступаў вядомы на той час адвакат, Павел Касправіч Астравіцкі. Астравіцкі з 1554 г. і па 1565 г. займаў пасады харужага ашмянскага і суддзі замка віленскага і на гэты час лічыўся адным з найлепшых адвакатаў Вялікага Княства Літоўскага[19, s.702].

Заўважана, што ў Астравіцкага не было дакументаў, якія б пацвярджалі правы Настасіі Міхайлаўны Адзінцэвічавай на карыстанне землямі, набытымі ў Пяткевіча. Адвакат Карыцкіх запатрабаваў прадстаўлення яму копій усіх дакументаў па гэтай справе, якія меліся ў княгіні Адзінцэвічавай. Аднак адвакат Настассі Міхайлаўны, спасылаючыся на адсутнасць у позве ўпамінанняў аб неабходнасці пацвярджэння права на валоданне Адзінцэвічамі землямі ў Бысцені, Гноіне і Любішыцах, адмовіўся прадставіць іх. Ён заўважыў, што і ў ранейшых позвах у суды княства, якія судзіў ваявода віленскі, "*павадовы бок*" не ўпамінаў аб іншых абставінах справы.

Яраш Карыцкі і Ганна Давойнаўна былі настроены рашуча і спадзяваліся паступова адваяваць усе землі Пяткевіча. 28 лістапада 1551 г. Яраш Карыцкі і Ганна Давойнаўна даслалі ў суд новую позву, у якой патрабавалі ўжо безумоўнага вяртання ўсіх земляў, якія некалі належалі Пяткевічу, але цяпер, "*не вядома з якой прычыны знаходзячыхся ў валоданні Адзінцэвічавай, чым вялікія крыўды і шкоды робяцца іх сапраўдным гаспадарам*" [20, арк.193 адв.]. На нашу думку ўмацаваны Настасіі Адзінцэвічаўны не ўступаў Астравіцкаму ў сваёй кампетэнтнасці і веданні права ВКЛ. Ён заявіў, што Настасся Адзінцэвічавая атрымала былыя землі Марціна Пяткевіча не правам вечнасці, а толькі да "*свайго жывата*" і "*вяноўным звычаем*", па запісе яе мужа, нябожчыка Сямёна Адзінцэвіча. Адвакат Настассі Адзінцэвічавай папрасіў канюшага дворнага зрабіць, з улікам паведамлення княгіні Адзінцэвічавай, папраўку ў новай позве, якую ён павінен дасылаць толькі яе дзецям. Суд у чарговы раз пагадзіўся з аргументамі княгіні Адзінцэвічавай і пакінуў землі ў Бысцені, Гноіне і Любішыцах у распараджэнні Адзінцэвічаў.

У гэты ж дзень позву Настассі Адзінцэвічавай у суд даслала і дачка Марціна Пяткевіча. Пані Ганна Марцінаўна Пяткевічаўна і яе муж, Шчасны Аўгустынавіч Фурсовіч запатрабавалі ад Адзінцэвічавай вяртання "*спадчынных земляў*", якія тая трымае "*ня вядома які́м звычаем на вечным праве*" [20, арк.195 адв.]. І ў гэтым выпадку суд адмовіў Фурсовічам у выкананні іх патрабаванняў.

Напэўна адным з апошніх працэсаў, у якім удзельнічала састарэлая маці аршанскага старосты была судовая справа з Станіславам Барташэвічам за клюковічаўскія землі на рацэ Мерач. Праз пяцьдзесят гадоў карыстання Настассяй Адзінцэвічавай гэтымі землямі, Станіслаў Барташэвіч успомніў, што гэты маёмасць у канцы XV ст. належалі яго дзядзьку Яраславу Іванавічу Клюковічу і выклікаў княгіню Сямёнавую Адзінцэвічавую ў суд [17, арк.87]. Пані Адзінцэвічавая выйграла і гэтую справу.

Па нашых пыблізных падліках Настасся Міхайлаўна Сямёнавая Адзінцэвічавая пражыла доўгае нават па сённяшніх мерках жыццё. На момант сваёй смерці ў 1559 г. яна мела больш за семдзесят гадоў.

У лютым 1560 г. слуга пані Адзінцэвічавай унёс у канцылярыйскія кнігі Метрыкі ВКЛ дароўны ліст сыну, Андрэю Адзінцэвічу, на ўсе яе багацці [28, арк.278]. Дочкам па ўзяцці шлюбу перадалі пасагавыя сумы і выправу і, пры наяўнасці брата, яны не маглі прэтэндаваць на атрыманне іншых падараванняў. Нястанавічы і 1000 коп грошаў літоўскіх, якія Настасся Сямёнавая Адзінцэвічавая пазычыла Скуміну Львовічу, яна запісала толькі сыну Андрэю, маршалку гаспадарскаму.

У сям'і князя Сямёна Багданавіча, гараднічага гарадзенскага, дзяржаўцы любашанскага і смольнянскага, і князёўны Настасіі Міхайлаўны Сангушкаўны нарадзіліся акрамя сына Андрэя і дзве дачкі, Марына і Ганна [3, с.96]. Дочкі ўзялі шлюб яшчэ у канцы 20-х гадоў XVI ст. Марына пашлюбіла каралеўскага дваряніна Лявона Барысавіча Абразцова, пасынка самога Васіля Тышкевіча, каралеўскага маршалка, старосты судовага менскага і пінскага. Лявон Абразцоў да 12 мая 1542 г. дасягнуў высокага сацыяльнага статуса ў ВКЛ і засядаў у гаспадарскіх судах княства [29, № 123, с.97].

Марына Сямёнаўна Адзінцэвічаўна Львовая Абразцовая памерла каля 1547 г. Праз некаторы час Лявон Абразцоў пашлюбіў Кацярыну Іванаўну князёўну Казечанку, якая паходзіла з Валыні [1, s.181]. У снежні 1551 г. Андрэй Міхайлавіч Сангушкавіч Кашырскі, стараста луцкі, пазваў у гаспадарскі суд Лявона Абразцова, яго другую жонку Кацярыну Казечанку і іх слугу Марка Рагозіча, абвінаваціўшы іх "*у многіх крыўдах і няслушным уступленні ва ўладанне яго маёнткам*" [17, арк.120].

Дзве дачкі Лявона Абразцова, найбольш верагодна народжаныя ў яго першым шлюбе, Алена і Ганна, у другой палове XVI ст. былі ў шлюбе адпаведна з Юрыям Тышкевічам, гаспадарскім маршалкам [30, арк.274-275], і Юрыям Быкоўскім [31, арк.252-253]. На нашу думку ў Лявона Абразцова і Марыны Адзінцэвічаўны нарадзілася тры дачкі. Яшчэ адна дачка, імя якой не вядомае, уступіла ў шлюб з Фёдарам Быкоўскім. Юры Васілевіч Тышкевіч, каралеўскі маршалак, у адным са сваіх дакументаў, складзеным каля 1570 г., называе Івана Фёдаравіча Быкоўскага, яшчэ падстаросту судовага гродскага менскага, сваім сестранцом. У канцы XVI і пачатку XVII ст. Іван Фёдаравіч Быкоўскі трымаў урад войскага Менскага павета.

Другая дачка Сямёна Багданавіча Адзінцэвіча і Настасіі Сангушкаўны, Ганна, двойчы панаўляла шлюбныя адносіны. Першым яе мужам быў Юры Васільявіч князь Саламярэцкі. Шлюб не быў шчаслівы. Нязгоды паміж мужам і жонкай дасягнулі такой вастрыні, што ў справу вымушана была ўмяшацца маці, пані Сямёнавая Адзінцэвічавая Настасся Сангушкаўна. У 1555 г. князь Юры Саламярэцкі скардзіцца ў гаспадарскі суд на сваю цешчу [1, s.258]. Настасія Сангушкаўна, дачакаўшыся пакуль князь Саламярэцкі па справах выедзе з маёнтка, сабрала вялікую грамаду людзей і вывезла з Плешчаніц сваю дачку, не забыўшыся пакласці на вазы ўсё тую рухомасць, якую дачка атрымала ад бацькоў згодна з шлюбнай дамовай.

Юры Васільявіч на 19 красавіка 1546 г. і 20 красавіка 1550 г. займаў пасаду ашмянскага судовага старосты [19, № 1984, s.297]. Пасля 1555 г. ён саступае сваю пасаду і памірае ў 1559 г. Да 1561 г. Ганна Сямёнаўна Адзінцэвічаўна ўзяла другі шлюб з князем Фёдарам Пятровічам Галаўнёй Астражэцкім, які паходзіў з Валыні [1, s.258].

Што датычыцца жыцця Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча, у канцы кар'еры старосты аршанскага і каралеўскага маршалка, то звесткі пра яго да 1540 г. не захаваліся. Пра многія падзеі ў яго жыцці мы можам рабіць толькі здагадкі. Некаторыя гісторыкі лічаць, што князь Андрэй нарадзіўся каля 1530 г. і памёр параўнальна маладым пасля 1566 г. [3, с.95]. На нашу думку Андрэй Адзінцэвіч нарадзіўся значна раней чым лічыў А.Нарбут. Магчыма, што ён нарадзіўся нават да 1520 г. і дасягнуў сталасці ў сярэдзіне 30-х гадоў XVI ст. Паведамленні пра Андрэя Адзінцэвіча пачынаюць сустракацца ў матэрыялах Метрыкі ВКЛ толькі пасля 1540 г.

Найбольш часта мы знаходзілі ў кнігах Метрыкі ВКЛ паведамленні пра Андрэя Адзінцэвіча падчас выканання ім абавязкаў гараднічага менскага ў перыяд з 1544 г. і па 1550 г. уключна Нам невядома, калі ён атрымаў прывілей на гэтую пасаду, калі і па якой прычыне ад яе адмовіўся. У тыя часы ўрад гараднічага яшчэ не меў тытулярнага характара. За выкананне абавязкаў гараднічага прадугледжваліся грашовае і натуральнае ўтрыманне. Захаваліся ўпамінанні аб знаходжанні ў пачатку 40-х гадоў XVI ст. на пасадзе гараднічага менскага Грынашкі Багданавіча Шалухі, які меў пастаяннае месца пражывання ў той частцы Віленскага павета, якая пасля 1567 г. увайшла ў склад Менскага павета. Пераход пасады ад Грынашкі Шалухі да Андрэя Адзінцэвіча, на нашу думку,

адбыўся па папярэдняй дамоўленнасці. Захаваліся сведчанні аб існаванні сяброўскіх адносінаў паміж Адзінцэвічам і Грынашкам Багданавічам. Грынашка Шалуха, былы гараднічы менскі, яшчэ ў 1551 г. прымаў удзел у працы каралеўскага суда і памёр да 16 сакавіка 1559 г. [32, арк.96 адв., арк.98 адв.].

На нашу думку, каралеўскі прывілей на гарадніцтва менскае атрыманы Андрэем Адзінцэвічам дзякуючы пратэкцыі Яна Юр'евіча Глябовіча. У пачатку 1541 г. Ян Юр'евіч Глябовіч у трэці і апошні раз узяў шлюб са стрыечнай сястрой жонкі Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча. Гэтая падзея аказала ўплыў на хуткі кар'ерны рост самога Адзінцэвіча. У будучым, на далейшае ўзвышэнне Адзінцэвіча несумненна аказаў уплыў і яго шлюб з дачкой самога ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ, які адбыўся пасля смерці першай жонкі Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча.

На той час у абавязкі гараднічага ўваходзіў нагляд за станам гарадскіх умацаванняў і іх своечасовы рамонт. Гараднічы займаўся таксама і наглядам за падтрыманнем у належным стане і ў неабходнай колькасці зброі, якая павінна была выкарыстоўвацца толькі пры аблозе каралеўскага, менскага замку. Ён жа павінен быў паклапаціцца і аб вытворчасці пораху, дастаўцы ў замак жалеза і свінца.

Аб стане нагляду за ўтрыманнем у баявой гатоўнасці ўмацаванняў у ВКЛ яскравае ўяўленне дае дакумент, які з'явіўся праз стагоддзе пасля спынення Андрэем Адзінцэвічам выканання абавязкаў гараднічага менскага. 1 сакавіка 1656 г. Ян Казімір прызначае гараднічым берасцейскім Яна Гераніма Жабу [33, арк.2]. Пры гэтым ён адзначае, што "*ў замку нашым берасцейскім парадку ніколі не было, масты не рамантаваліся*". Асабліва збянтэжыла манарха выкарыстанне адной гарматы, якая павінна была забяспечваць падтрымку гарнізона крэпасці пры адбіцці нападаў ворага. Аказваецца ў мінулыя часы гармату ў Берасці выкарыстоўвалі не па прамым прызначэнні. Напэўна ніводная урачыстасць не праходзіла ў горадзе без ужывання гэтай гарматы. Зразумела, што перадача гарматы для ўрачыстасцяў, звязаных з шлюбнай цырымоніяй, або з наведваннем горада высокім госцем, прыемна папаўняла кішэні берасцейскага гараднічага. Кароль патрабаваў, каб "*гармата нікому без дазволу гетмана не выдавалася*".

У чэрвені 1550 г. менскі гараднічы скардзіцца ў каралеўскі суд на дзеянні ўрадніка Васіля Міхайлавіча Сангушкавіча, стрыечнага брата бацькі Настассі Міхайлаўны Сямёнавай Адзінцэвічавай [27, арк.325 адв.]. Васіль Сангушкавіч трымаў у сваім карыстанні Свіслацкую воласць і абавязаны быў пасылаць падданых у распараджэнне менскага гараднічага для выканання рамонтных прац на мурох менскага замка. Адпаведным лістом караля і паноў Рады ВКЛ прадугледжваўся ўдзел сялян з дзяржаўных маёнткаў для рамонту абарончых пунктаў княства. Аднак князь Васіль Міхайлавіч забараніў сваім слугам выконваць распараджэнні менскага гараднічага. Магчыма, што такое рашэнне Васіль Сангушкавіч прыняў пад уплывам канфлікта з Адзінцэвічам з-за прыналежнасці некаторых земляў, які поўнасцю сапсаваў адносіны сваякоў.

Добра, што ў гэтым выпадку спрэчка аб неналежным выкананні абавязкаў па рамонту крэпасных умацаванняў скончылася, як сёння любяць часта паўтараць, у прававым полі і справа не дайшла да баявых дзеянняў. У тыя часы спробы прымусу вяльможных асобаў да выканання іх абавязкаў нярэдка прыводзілі да праліцця крыві. У пачатку мая 1559 г. Станіслаў Давойна, полацкі ваявода, і Фёдар Корсак, полацкі гараднічы, паскардзіліся каралю на князёў Лукомскіх [34, арк.642 адв.]. Лукомскія павінны былі выканаць рамонт вежы ў Полацкім замку. Вежа захавалася з даўніх часоў у сваім першапачатковым выглядзе, неаднаразова была пашкоджана ў часе штурмаў горада маскоўскімі войскамі. Улічваючы стан муроў крэпасці, кароль даслаў у Полацк некалькі лістоў, дзе звяртаў увагу кіраўніцтва ваяводства на неабходнасць найхутчэйшага правядзення папраўчых работ.

З даўніх часоў праца па падтрыманню гэтай вежы ў баяздольным стане была замацавана за князямі Лукомскімі, якія атрымалі ў дажывотнае карыстанне немалую колькасць ленных земляў. Да шматлікіх напамінанняў аб неабходнасці выдзялення

дастатковай колькасці падданых з каралеўскіх старостваў Лукомскія аднесліся абыякава. Сустрэўшыся “*з непаслухмянасцю*”, ваявода і гараднічы Полацкага ваяводства накіравалі ў Лукомль невялікі, але добра ўзброены атрад, які складаўся з некалькі дзесяткаў “*пахолікаў*” для пакарання Лукомскіх. Верагодна Лукомскія хутка даведаліся аб намерах ваяводскай адміністрацыі і старанна падрыхтаваліся да сустрэчы ваяроў. Як заўважана ў скарзе: “*яны, Лукомскія, пахолікаў пабілі і паранілі, а Арцёма Іванавіча, намесніка чарсвяцкага, камандзіра атрада, так збілі, што ня ведома ці будзе жыць*”. Дасталося і памочніку камандзіра, пану Марціну Курчу, у будучым выдатнаму ротмістру, удзельніку войнаў са шведамі і Масквой у Інфлянтах, каралеўскаму маршалку, старосце фелінскаму. Яго паранілі з ручніцы ў руку. Былі збітыя таксама каморнікі Ян Мардас і Марцін Копач, якія прымалі ўдзел у карнай экспедыцыі – “*і раны іх вялікія*”.

Аб пакаранні Лукомскіх звестак не захавалася. Зразумела, калі б справа датычылася шляхетных асобаў больш нізкага стану, то пакаранне было бы вельмі жорсткім. У нашы рукі трапіў дакумент аб пакаранні князя Андрэя Сямёнавіча Друцкага Сакалінскага за нестанне на суд ваяводы полацкага. Ураднік ваяводы полацкага забраў з гаспадаркі Сакалінскага грошай і розных рэчаў на 100 коп грошаў лічбы літоўскай [18, л. 361]. У сваім пісьме ваяводзе кароль выказаў здзіўленне, “*што з заслужанага нам княжаці ён [ваявода полацкі] узяў, як з простага шляхціца*”.

Найбольш верагодна, што кароль “*за багатым чалабіццём*” Лукомскіх дараваў ім непаслушэнства і пакінуў справу без прыняцця належных мер. Зразумела, што пасля гэтай падзеі колькасць ахвочых прымаць удзел у рамонце крэпасных мураў значна зменшылася.

Трэба мець на ўвазе, што такія адносіны да працы на замкавых ўмацаваннях былі звычайнай з’явай і для часоў панавання Жыгімонта І Старога. У 1533 г. кароль накіраваў князя Фёдара Васілевіча Саламярэцкага ў Мсціслаўль для разгляду справы князя Мацвея Мікіцініча, які “*не хацеў даваць падданых на працу ў Мсціслаўскі замак*” [1, s.495].

Абавязкі гараднічага менскага Адзінцэвіч выконваў нядоўга. Верагодна, што ад урада гараднічага менскага Адзінцэвіч адмовіўся ў канцы 1550 г.

На нашу думку, пачынаючы з 1549 г. і да часу ўступлення ў шлюб з Гальшкай Глябовічаўнай, ваевадзянкай віленскай, Андрэй Адзінцэвіч знаходзіўся ў войску. Таму пра яго дзейнасць за гэты час у матэрыялах Метрыкі ВКЛ нам сустрэлася толькі адно паведамленне. У 1551 г. Андрэй Адзінцэвіч па нейкіх прычынах прыехаў у Вільню. Магчыма, што ён прымаў удзел у працы вальнага сойма ВКЛ, які на гэты час праходзіў у сталіцы княства. У Вільні яго чакала вельмі непрыемнае падзея, якая вымусіла яго нават паскардзіцца ў гаспадарскі суд. Уцёк яго слуга, немец па паходжанні. Некалькі гадоў таму назад ён узяў да сябе на службу жыхара горада Рыга Ермана, як запісана ў скарзе, для ўдасканалення ведаў хлапца ў “*рускай мове*”. За доўгі час знаходжання Ермана на службе Адзінцэвіч пачаў давяраць яму выкананне многіх складаных спраў, у тым ліку і такіх, якія былі звязаны з кіраваннем землямі і выкананнем грашовых разлікаў. Падчас вальнага сойма хлапец знік і зрабіў Адзінцэвічу шмат шкод [35, арк.219 адв.]. Як і ў некаторых іншых дакументах, складзеных крыху раней, прозвішча Адзінцэвіча у дакуменце ўпамінаецца без тытулаў і пасад.

Сярод каралеўскіх ротмістраў Андрэй Адзінцэвіч знаходзіўся не на апошнім месцы. Пад харугвы ВКЛ Андрэй Адзінцэвіч станавіўся ў многіх бітвах у Валахіі і Інфлянтах. У каралеўскай адміністрацыі не было прэтэнзій да ротмістра, у справе выканання ім вайсковых абавязкаў і кампетэнтнасці пры вядзенні баявых аперацый. Зусім інакш аказалася справа з тымі грашыма, якія дзяржава выдзяляла не толькі Адзінцэвічу, але і іншым каралеўскім ротмістрам на ўтрыманне шэраговых. Пры атрыманні ротмістрам “*прыпаведнага*” ліста на фарміраванне вайсковай адзінкі, каралеўскі ротмістр меў права на атрыманне адпаведнай сумы грошай. Гэтыя грошы звычайна выбіраліся дэпутатамі ад харугваў у пабарцаў тых паветаў, якія вызначаліся для ўтрымання вайсковай адзінкі на ўвесь перыяд вайсковых дзеянняў. Вось тут у Адзінцэвіча, як і ва ўсіх іншых ротмістраў, каралеўская адміністрацыя пасля старannай праверкі выявіла сапраўдны крымінал. Ваяроў

у атрадах аказалася меней, чым было заяўлена, а лішнія грошы ротмістры выкарыстоўвалі на свае патрэбы. Магчыма, што гэтыя грошы таксама выдаткоўваліся на патрэбы харугвы, але пасля іх выдаткавання каралеўскія ротмістры звычайна прад’яўлялі прэтэнзіі скарбу аб вяртанні ім грошай, выдаткаваных звыш устаноўленных сум. Пры адсутнасці фінансавання, не атрымліваючы належнага за сваю крывавую працу, ваяры кідалі пазіцыі і адпраўляліся да межаў краіны, дзе выбівалі з грамадзян тое, што ім не заплацілі. Даведаўшыся аб сапраўдным становішчы ў справе фінансавання вайсковых адзінак ВКЛ, Жыгімонт Аўгуст загадаў Васілю Тышкевічу, каралеўскаму маршалку і ваяводзе падляшскаму, судоваму старасце менскаму і пінскаму, яшчэ раз праверыць усіх ротмістраў і пры выяўленні фактаў злоўжывання “*роты распускаць, а грошы вярнуць у скарб*”. Сярод тых ротмістраў, у якіх былі выяўлены падман дзяржавы, аказаўся не толькі гараднічы менскі, але нават і Юры Васілевіч Тышкевіч, сын каралеўскага маршалка, у будучым ваявода берасцейскі [36, арк.104].

Сціплыя звесткі захаваліся пра жыццё князя Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча. З вялікай цяжкасцю удалося ўстанавіць імёны і прозвішчы некаторых асобаў, адносіны з якімі ў Андрэя Адзінцэвіча складваліся найлепшым чынам. Умоўна гэтых людзей можна залічыць да найбліжэйшых сяброў менскага гараднічага. На працягу доўгага часу яго прыяцелем лічыўся Ян Янавіч Карэйва, у будучым войт менскі. Аднак даўно вядома, калі хочашь страціць сябра пазыч яму грошы. Так і адбылося ў гэтым выпадку. У сярэдзіне ліпеня 1550 г. Адзінцэвіч, страціўшы цярпенне, выклікае ў суд Яна Янавіча Карэйвіча (*або Карэйву*), які не пагаджаўся вярнуць гараднічаму менскаму пазычаныя рэчы [37, арк.438]. На нейкую вельмі адказную сустрэчу Ян Карэйвіч пазычыў у Адзінцэвіча “*аксамітавыя шаты*”. Для забеспячэння вяртання адзення гаспадар шатаў атрымаў пазыковы ліст на 5 коп грошай. Грошы Карэйва Адзінцэвічу не перадаваў. У гэтую суму былі ацэненны некалькі служб падданых, якія, за час карыстання адзеннем, павінны былі сваёй працай забяспечыць атрыманне Адзінцэвічам працэнтаў з пазыкі.

Як тлумачыў менскі гараднічы, Ян Карэйва своечасова не вярнуў яму каштоўнае адзенне, якое каштавала каля 30 коп грошаў лічбы літоўскай. Зараз можна толькі здагадвацца аб прычынах несвоечасовага вяртання Янам Карэйвам каштоўнага адзення. Не выключана, што Ян Янавіч палічыў атрыманне адзення, як спробу гараднічага менскага разлічыцца з ім за аказаную паслугу на судовым працэсе з-за Прылук з Янушам Друцкім Любецкім. Напэўна Адзінцэвіч не падымаў бы вялікага шуму ў адносінах са сваім найлепшым сябрам, калі б своечасова не зразумеў, што яго падманваюць. Так сталася, што пры спробе Андрэя Адзінцэвіча праўным шляхам атрымаць у карыстанне службы падданых Яна Карэйвы, людзі Яна Янавіча Карэйвы не дапусцілі давераных асобаў Адінцэвіча да ўступлення ў валоданне застаўленнымі падданымі. Не спадзяючыся на такую хуткасць у дзеяннях Адзінцэвіча Карэйва заставіў чужое адзенне іншай шляхетнай асобе, ацаніўшы іх выкарыстанне таксама ў 5 коп грошаў лічбы літоўскай. Грошы Ян Карэйвіч атрымаў і тут жа выкарыстаў на свае “*пільныя*” патрэбы.

Кожны з удзельнікаў гэтай судовай справы тлумачыў свае ўчынкі ў выгадным для сябе свеце. Ян Карэйвіч у сваім дакуменце піша, што ніколі не адмаўляўся ад вяртання шатаў. Нібыта “*яшчэ ў мінулы панядзелак яны дамовіліся вярнуць аксамітавыя шаты ў срэбры і пазалоце*”, але Адзінцэвіч не прыйшоў і аб прычынах сваёй адсутнасці ні яму, ні ў суд гродскі менскі звестак не даў [27, арк.342 адв.]. Зразумела, што пасля завяршэння разгляду гэтай справы аб сяброўстве Яна Карэйвіча і Андрэя Адзінцэвіча можна гаварыць толькі, як аб мінулым этапе іх жыцця.

Да сяброў Андрэя Адзінцэвіча неабходна залічыць Андрэя Іванавіча Вінка і Грынашку Багданавіча Шалуху, былога гараднічага менскага. Неаднаразова Адзінцэвіч выступаў палюбоўным суддзёй (або камісарам) з боку Андрэя Вінка і Грынашкі Шалухі. Пры наяўнасці скаргі па памежных пытаннях, гвалтоўных наездах і рабаванні маёмасці гаспадарскі суд пастанаўляў аб прызначэнні з кожнага боку па двух суддзяў, якія павінны былі дасканала вывучыць справу і вынесці, у адпаведнасці з правам, рашэнне аб пакаранні

вінаватых і ўзнагароджванні пакрыўджаных. Андрэй Адзінцэвіч абавязаны быў адстойваць інтарэсы сяброў і дабівацца прыняцця спрыяльнага для іх камісарскага дэкрэту. Часта ў справах, звязаных з Адзінцэвічам, знаходзім узгадкі аб удзеле ў іх вырашэнні Сямёна Мікуліча, гаспадарскага двараніна, які ў канцы жыцця займаў пасаду менскага войта.

На наш погляд цесныя сувязі ў Адзінцэвіча ўсталяваліся з князем Сямёнам Ямантавічам Падбярэзскім. Падчас судовых працэсаў, якія вяліся Ульянай Ямантаўнай Міхалавай Сенькавічавай, з Сямёнам Багданавічам Адзінцэвічам па спадчыне яе другога мужа, менавіта Яцка Сенькавіча, Падбярэзскі не прымаў ніякага ўдзелу ў гэтай справе. Мы не знайшлі ніводнага ўпамінання аб аказанні ім падтрымкі высілкам сястры па захаванні за ёй і яе дзяцьмі земляў першага і другога мужа. Перад сваёй смерцю Сямён Падбярэзскі ўнёс у тэстамент запіс, якім пазбавіў усіх сваіх крэўных правоў на сваю спадчыну, пакідаючы ўсе набыткі другой жонцы, князёўне Федзі Заслаўскай. Гэты дакумент быў прама накіраваны супраць магчымых спробаў Ульяны Ямантаўны, яго сястры, на захоп братавай ўласнасці.

Князь Сямён Падбярэзскі пачаў служыць яшчэ пры Аляксандры Казіміравічы Ягелончыке і памёр у 1540 г. Сямён Ямантавіч, пасля пераходу ў яго валоданне Падбярэззя, пачаў называцца Падбярэзскім. На нашу думку Падбярэззе знаходзілася ў спадчынным, дзедзічным уладанні продкаў Сямёна Ямантавіча і перайшло ў яго валоданне пасля смерці бацькоў.

У пачатку 1541 г. Андрэй Адзінцэвіч узяў шлюб з князёўнай Федзяй Багданаўнай Заслаўскай, у першым шлюбе княгіняй Сямёнавай Ямантаўнай Падбярэзскай. Асноўным чыннікам, які паспрыяў уступленню ў шлюб гараднічыца гарадзенскага і княгіні Падбярэзскай, несумненна з'яўляліся матэрыяльныя інтарэсы абодвух бакоў.

Для характарыстыкі падзей, якія адбываліся вельмі даўно, карыснай з'яўляецца любая дробязь. Асабліва нас зацікавіла праблема ўзросту асобаў, якія ўступалі ў шлюб. У гістарычных матэрыялах захаваліся прыблізныя дадзеныя аб нараджэнні братоў Заслаўскіх, патомкаў Яўнуція, сына Гедзіміна, кароткі час засядаўшага на вялікакняскім стальцы ў Вільні. Старэйшы з братоў Заслаўскіх, Міхал, нарадзіўся каля 1460 г., Багдан Заслаўскі, бацька Федзі, нарадзіўся каля 1465 г., а Фёдар каля 1470 г. Багдан Заслаўскі ў вельмі маладым узросце, у 1489 г. маючы ад нараджэння каля дваццаці чатырох гадоў, займаў пасаду намесніка менскага. Некаторыя гісторыкі лічаць, што Федка Заслаўская нарадзілася каля 1510 г. [38, с.413]. Невыключана, што князёўна Заслаўская нарадзілася значна раней, чым аб гэтым даводзяць гісторыкі, у канцы XV, або ў самым пачатку XVI ст.

Для першага мужа Федкі Заслаўскай, менавіта для князя Сямёна Ямантавіча Падбярэзскага, шлюб з ёй быў другім. У першы шлюб з Дамінідай Сямёнаўнай з князёў Друцкіх Сакалінскіх, дачкой намесніка бранскага, першага ў родзе Друцкіх Сакалінскіх [3, с.102], Падбярэзскі ўступіў да 1510 г. Некаторыя гісторыкі лічаць, што менавіта землі, якія прынесла ў сямью Дамініда Сакалінская, знаходзіліся ў Друцку і пасля смерці яе Сямён Падбярэзскі некаторы час валодаў гэтымі землямі. На іх погляд Падбярэзскія не могуць быць аднесены да ліку князёў Друцкіх.

У пачатку XVI ст. Сямён Ямантавіч Падбярэзскі знаходзіўся на службе Мікалая Радзівілавіча, ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ, і трымаў ад яго карчму ў Барысаве [16, № 244, р.214].

Дзяцей у шлюбе Сямёна Падбярэзскага і Дамініды Сямёнаўны не было. Падбярэзскага хваляваў лёс жонкі і ён разумеў, што пасля яго смерці крэўныя Дамініды пастараюцца пакінуць яе ні з чым. 27 лістапада 1522 г. князь Падбярэзскі запісвае Альбрыхту Марцінавічу Гаштольду, ваяводзе віленскаму, канцлеру ВКЛ, некаторыя свае землі, а менавіта Плешчычы і Басю ў Магілеўскім старостве. Ён просіць канцлера, "*естли бы на мъне Богъ смерть перепустилъ первеи, нижли на жону мою, абы жону мою у своеи опеце и обороне мел, взял есми его м(и)л(о)сть за сына место, и которое именье*

*выслужилъ есми на г(о)сп(о)д(а)ри нашомъ, великомъ короли его м(и)л(о)сти Жикгимонъте*” [39, № 17, p.86]. Дамініда Друцкая Сакалінская памерла да 1527 г. Праз некаторы час, верагодна каля 1533 г., Сямён Ямантавіч узяў другі шлюб з Федзяй Багданаўнай князёўнай Заслаўскай [1, s.152]. Аднак і ў гэтым шлюбе не было дзяцей.

У канцы 30-х гадоў XVI ст. Сямён Падбярэзскі і яго жонка моцна захварэлі. Былому гаспадарскаму дваранiну, а потым керноўскаму намесніку, давалі знаць раненні, атрыманыя ім за гады службы каралю. Альбрыхт Гаштольд, канцлер ВКЛ, памёр у 1539 г., а праз год памёр і сам Падбярэзскі. У выніку ў яго другой жонкі не аказалася моцных абаронцаў. Перад смерцю Сямён Падбярэзскі запісвае Федзі Заслаўскай, усе свае зямельныя добры і грашовыя сумы, аддаліўшы ад іх усіх крэўных. У яе рукі трапіў двор Падбярэззе, з усімі прысёлкамі да гэтага двара належачымі. Зразумела, што крэўныя князя Падбярэзскага не маглі пагадзіцца са стратай значных матэрыяльных багаццяў і, даведаўшыся аб узяцці Федзяй, князёўнай Заслаўскай, новага шлюбу, прадпрынялі рашучыя крокі па вяртанню зямельных і грашовых багаццяў Смёна Падбярэзскага. Прычым яны дабіваліся атрымання не толькі яго спадчынных уладанняў, ад бацькоў і дзядоў, але і тых, якія былі атрыманы Сямёнам Ямантавічам ад каралёў у спадчыннае ўладанне.

У шлюб за Андрэя Адзінцэвіча Федзя Заслаўская пайшла будучы вельмі хворай. У 1540 г., год смерці Падбярэзскага, князёўна Заслаўская мела больш за трыццаць гадоў ад нараджэння і была старэйшай за свайго другога мужа.

Не ўсё ў гэтым шлюбе зразумела і сення. Сам абрад адбыўся ў пачатку 1541 г. “*по Божъем нароженьи, спустивши тыдень, в неделю*”. Аб гэтым шлюбе не павінны былі ведаць людзі. Поп Іван “*венъчалъ князя Одинъцевича с княгинею Семёновою [Федзяй Багданаўнай Заслаўскай Сямёнавай Ямантавіча Падбярэзскай], водлугъ обычаю закону светого хрестиянъского*” [26, № 250, p.158]. Вянчанне адбылося ў поўнай таямніцы ў маёнтку княгіні Падбярэзскай, якая знаходзілася за Дняпром. Праз некаторы час святар сабраў усю сваю маёмасць і па загаду ўладыкі полацкага схаваўся ў доме пані Міхайлавай Сенькавічавай. Магчыма, што святар даведаўся аб некаторых асаблівасцях гэтага шлюбу, якія маглі супярэчыць праву ВКЛ. Пасля пачатку разгляду скаргі пані Ульяны Міхайлавай Сенькавічавай у гаспадарскім судзе, святар па загаду кіраўніка полацкай епархіі выказаў жаданне стаць перад судом і давесці ўсю праўду аб гэтым шлюбе. Даведаўшыся аб здрадзе святара князь Адзінцэвіч і яго жонка паабяцалі святару шмат непрыемнасцяў. “*На того попа ся грозять и похваляють на статок и на здоровъе его, звазнившы ся на него для того вызнанья его*”.

Федзя Багданаўна Заслаўская Андрэевая Адзінцэвічавая жыла яшчэ ў канцы 1542 г. і, нягледзячы на цяжкую хваробу, прымала ўдзел у спробах вяртання спадчыны па сястры, памершай пры нараджэнні дзіцяці. Ганна Багданаўна Заслаўская Янушавая Друцкая Любецкая склала тэстамент 4 красавіка 1542 г. і хутка пасля гэтага памерла. Памерла і дзіця, якое яна нарадзіла. Патомства ў Любецкіх не засталося і крэўныя Ганны Янушавай Любецкай палічылі магчымым вярнуць пасагавую маёмасць сястры ў свае рукі. Родныя сёстры, менавіта Федзя Адзінцэвічавая, Марыя Васілёвая Талачынская і Таміла Багданаўны Заслаўскія, паклікалі ў суд князя Януша Раманавіча Любецкага, патрабуючы ад яго вяртання Прылук, якія Ганна Заслаўская прынесла ў дом Любецкіх у якасьці пасагу [40, № 44, p.50-52]. Сёстры сумняваліся ці магла Ганна, пры нараджэнні ахрышчаная Агаф’яй, запісаць мужу Прылукі. Аднак Януш Любецкі паказаў на судзе тэстамент не толькі сваёй жонкі, але і тэстамент яе маці пані Багданавай Іванавіча Заслаўскай, у якім запісана, што “*видечы повол(ь)ности дочки своее, кн(я)жны Ганьны, отписала ей тисечу копъ грошей на йменью Прилукахъ*”. Сёстры абвінавацілі Януша Любецкага ў падмане, паколькі не ўсе асобы, якія засведчылі подпісам тэстамент князёўны Ганны Заслаўскай, прыціснулі да дакумента свае пячаткі. Аказалася што адзін са сведкаў, а менавіта Ян Янавіч Карэйвіч, не меў пры сабе пячаткі і паставіў толькі подпіс, паабяцаўшы паставіць яе крыху пазней. Слову шляхетнага чалавека паверылі, але аказалася, што дарэмна.

Спроба Любецкага выклікаць яго ў суд правалілася. Ян Карэйвіч пад уплывам свайго сябра Андрэя Адзінцэвіча адмовіўся даваць тлумачэнні і выступаць у судзе ў якасьці сведкі. Не прынялі суддзі пад увагу і сведчанні Яна Стэцкевіча, старосты судовага менскага, якія прывяла яго жонка, пані Багдана Сапяжанка. Каралеўскія суддзі палічылі, што Ян Стэцкевіч Далобаўскі, каралеўскі маршалак і староста судовы менскі, не мог лічыцца сапраўдным сведкам. Некалькі гадоў таму назад каралеўскі маршалак аўдавеў і ўзяў шлюб з маці Януша Друцкага Любецкага Багданай Сапяжанкай. На час разгляду справы ў каралеўскім судзе каралеўскі маршалак ужо нежыў. На думку суддзяў і адвакатаў князёўнаў Заслаўскіх пячатка старосты судовага менскага магла знаходзіцца на захаванні ў яго новай жонкі, якая сама і прыклала яе да дакумента. У дадатак да ўсяго вышэй сказанага, суддзі палічылі нязгодным з правам учынак княгіні Багданавай Іванавіча Заслаўскай, якая ў абыход іншых сваіх дачок падаравала землі Прылук толькі адной Ганне. У выніку каралеўскія суддзі прысудзілі маёнтак Прылукі княгіням: Талачынскай Марыі, Адзінцэвічавай Федзцы і князёўне Таміле Багданаўнам "*Жославъскимъ*" (*Заслаўскім*). Януш Друцкі Любецкі з цяжкасцю змог дабіцца рашэння на сваю карысць толькі адносна маёнткаў у Рубілкавічах і Памінічах, якія таксама некалі належалі Багдану Іванавічу Заслаўскаму. На нашу думку, на выніку гэтай судовай справы паўплывала і тое, што судзіў 7 кастрычніка 1542 г. дачок Багдана Заслаўскага з Янушам Друцкім Любецкім сам Ян Юр'евіч Глябовіч, ваявода віленскі, дзяржаўца бабруйскі, які на гэты час ужо знаходзіўся ў шлюбе з Ганнай Заслаўскай, стрыечнай сястрой вышэйпералічаных дачок Багдана Заслаўскага [40, № 44, р.50-52].

На пачатак 1541 г. Падбярэззе, як і ўсе тыя маетнасці князя Падбярэзскага, якія ляжалі за Дняпром, у тым ліку і Бася, знаходзіліся ў валоданні Андрэя Адзінцэвіча і яго жонкі Федзі Багданаўны. Аднак не ўсе землі, якія пры жыцці знаходзіліся ў вячыстым валоданні, або пажыццёвым карыстанні Падбярэзскага, трапілі ў рукі Адзінцэвічаў. Нам не вядомы лёс земляў у Азярышчанскай і Усвяцкай валасцях, атрыманых Сямёнам Ямантавічам 18 кастрычніка 1526 г. ад Жыгімонта I [10, № 613, р.472]. Некаторыя землі, да прыкладу спадчынныя ўладанні Падбярэзскага ў Друцку, прадстаўнікі шматлікіх адгалінаванняў роду князёў Друцкіх, без асаблівага розгаласу, размеркавалі паміж сабой.

Аб існаванні маёмасці Сямёна Ямантавіча Падбярэзскага ў Друцку стала вядома з матэрыялаў судовай справы, якая разглядалася гаспадарскім судом у сакавіку 1548 г., праз восем гадоў пасля яго смерці. Узбудзіў справу Рыгор Яцкавіч Падбярэзскі, пляменнік памёршага князя Сямёна Ямантавіча [41, арк.61 адв.]. Ён пазваў у суд усіх уладальнікаў земляў у Друцку. Перад судом сталі князі Андрэй Іванавіч Азярэцкі, дзяржаўца аршанскі, Дзмітры Раманавіч Любецкі (*карыстаўся тытулам князя Відзеніцкага*) і яго брат, Цімафей і Павел Юр'евічы, Міхал Васілевіч і Лявон Фёдаравіч Сакалінскія; княгіні: Васільявая Юр'евая Талачынская, Марыя Іванавая Іванавіча Горская, пані Андрэевая Сямёнавіча Сакалінская, пані Васільявая і сын яе Рыгор Фёдаравіч Горскія. У суд выклікаліся для разгляду прэтэнзій Рыгора Падбярэзскага на тую частку Друцка, якая некалі належала Сямёну Ямантавічу, і ўсе іншыя князі, якія належалі да розных адгалінаванняў рода князёў Друцкіх. Сярод не названых князёў Друцкіх у суд з'явіўся і князь Андрэй Сямёнавіч Адзінцэвіч.

Юзаф Вольф лічыў, што землі ў Друцку Сямён Ямантавіч князь Падбярэзскі атрымаў у пасаг па Даміні дзе Сакалінскай. На яго думку Сямён Ямантавіч не меў ніякіх адносін да князёў Друцкіх, а паходзіў ад літоўскіх князёў, нашчадкаў князя Гурды Гінвілавіча [1, s.151]. У 1530 г. крэўныя памёршай Даміні ды Сямёнаўны пазвалі ў каралеўскі суд Падбярэзскага і дабіліся ад яго абяцання аб вяртанні праз тры з паловай гады толькі сяла Крывіна [1, s.462]. Князі Сакалінскія, родны брат Даміні ды Сакалінскай Андрэй Сямёнавіч, яе пляменнікі Цімафей Юр'евіч і Міхал Васільявіч, ведалі якія спадчынныя землі атрымала іх сястра і цётка пасля ўступлення ў шлюб. У выпадку смерці беспатомнай Даміні ды яе муж павінен быў у абавязковым парадку вярнуць крэўным жонкі ўсё атрыманыя дзедзічныя землі. Ніякіх правоў на спадчыну па Даміні дзе

Сямёнаўне Падбярэзскай Рыгор Яцкавіч, пляменнік князя Сямёна Падбярэзскага, не меў. Пазваныя ім на каралеўскі суд князі Сакалінскія, як і Друцкія і Адзінцэвічы, павінны былі вярнуць толькі тые землі, якія на князя Сямёна Ямантавіча спалі з яго дзядоў і прадзедаў і былі разабраны вышэй пазначанымі асобамі. Патомкі Гурды Гінвілавіча ніколі землямі ў Друцку не валодалі. Гэтымі землямі ў далёкім мінулым валодалі толькі продкі Сямёна Ямантавіча, якія належалі, на нашу думку, да князёў Друцкіх.

Як паведамляе А.Нарбут, праз шмат часу пасля вышэй апісаных падзей, князі Падбярэзскія, патомкі Рыгора Яцкавіча, пачалі ўжываць тытул князёў Друцкіх [3, с.120]. На нашу думку яны рабілі гэта, апіраючыся на паведамленні дакументаў, якія яшчэ на той час захоўваліся ў іх сямейных зборах. Не выключана, што князі Міхал і Аляксандр Дзмітравічы Друцкія Падбярэзскія, якія, дарэчы, разам з патомкам Гінвілавіча, прыняўшым хрысціянскае імя Васіль, загінулі ў 1399 г. ў нешчаслівай для войскаў ВКЛ бітве на рацэ Ворскле, маглі быць продкамі князя Сямёна Ямантавіча Падбярэзскага [1, s.151].

Сястра князя Падбярэзскага пані Ульяна Ямантаўна Міхалавая Сенькавічавая, нягледзячы на тое, што пасля смерці Міхала яна да 1518 г. была ў шлюбе за яго родным братам, Яцкам, да 16 сакавіка 1541 г. паклікала ў каралеўскі суд княгіню Сямёнавую Падбярэзскую, абвінавачваючы яе ў тым, што яна, не маючы дзяцей, прыбрала да сваіх рук усю уласнасць першага свайго мужа [26, № 250, p.158]. Згодна з правам, дзейнічаўшым у ВКЛ, Міхайлавая Сенькавічавая Ульяна Ямантаўна Падбярэзская, як адзіная і найбліжэйшая крэўная Сямёна Ямантавіча, які памёр не пакінуўшы нашчадкаў, мела найбольшыя правы на атрыманне большай часткі спадчыны па памерлым браце, што перайшла ў яго валоданне пасля смерці дзядоў і бацькоў.

З вялікай крыўдай пералічвала Ульяна Ямантаўна маёнткі, якія, згодна з яе разуменнем, павінны былі перайсці ў валоданне яе і сыноў, народжаных ёй у шлюбе з Яцкам Сенькавічам: Рыгора і Івана. Мала таго, што братовая не знаходзілася ў жалобе па памерлым мужы, яна ўсе грошы, каштоўнасці і іншую яго маёмасць забрала з сабой у новую сям'ю. Федзя Багданаўна атрымала на падставе тэстамента мужа: Пераволочню, Вострыя Шапкі, ей належалі людзі на Людаве, Стайках, Забалацці, Ельянах, у Забярэзінне, Калюжанцах, Лагу, і Беліцы. Вялікія абшары земляў на Басі, у склад якога ўваходзілі сёлы Навасёлкі, Кішчыцы, Бярозавае, Гарадзішча, людзі ў Хамінічах і Казловічах [26, № 252, p.160] таксама перайшлі ў валоданне Адзінцэвічаў і тыя не збіраліся адмаўляцца ад сваёй маёмасці. Найбольшую скруху выказвала пані Міхайлавая Сенькавічавая з-за таго, што незаконным шляхам у рукі Адзінцэвічаў перайшлі: "*вси скарьбы яко грошы, такъ тежъ золотые, сребро, ковшы, кубъки, лыжки, ланъцухи, перъстни, клейноты, перъла, шаты, зброи, кони ездъные, иноходники, возники, стадо свирепъя и зъ жеребьцы, кони дворные и быдло рогатое, и вси статъки домовые, и инъшые многие речы*". Выказваючы такія абвінавачванні, пані Ульяна фактычна помсціла Андрэю Адзінцэвічу за тыя турботы, якія яна перажыла пасля смерці свайго другога мужа Яцка Сенькавіча, ад Сямёна Багданавіча, гараднічага гарадзенскага, бацькі Андрэя.

Княгіня Федзя Заслаўская адмовілася прымаць удзел у разглядзе судовай справы і на суд не з'явілася, спасылаючыся на прывілей Жыгімонта Старога, у якім ёй, як вельмі хворай, дазвалялася на працягу аднаго года і шасці тыдняў пасля смерці Сямёна Ямантавіча Падбярэзскага не з'яўляцца на суды.

Ускосным пацвярджэннем нашай высновы аб цяжкай хваробе Федзкі Заслаўскай, якая пачалася яшчэ да 1540 г. і працягвалася да самай яе смерці, могуць быць і матэрыялы судовых спраў, якія вёў Андрэй Адзінцэвіч у 1546-1547 г. 4 траўня 1546 г. Шчасны Мікалаевіч Ільініч паведамляў, што заставіў свой двор Рэпухаў толькі Андрэю Адзінцэвічу, не ўпамінаючы пры гэтым імя і прозвішча яго жонкі, што было абавязковым у такіх выпадках [42, арк. 103]. 5 ліпеня 1547 г. Андрэя і яго маці Настассю Адзінцэвічаў пазваў у суд Пётр Цімафеевіч Пузына. Людзі княгіні на дарозе з Нестанавіч да Дамашэвіч перахапілі яго падданых і многа шкоды ўчынілі будучаму войскаму менскаму [42,

арк.103]. І ў гэтым выпадку Пётр Пузына не ўпамінае аб прыцягненні да супольнай адказнасці і жонку Андрэя Адзінцэвіча.

Негледзячы на адчайнае супраціўленне Андрэя Адзінцэвіча большая частка вялікіх ўладанняў Сямёна Ямантавіча дасталася Ульяне Ямантаўне Падбярэзскай Міхалавай Сенькавічавай. Сястра Сямёна Ямантавіча апратэставала і дабілася скасавання ўсіх яго запісаў жонцы. У 1542 г. яна падзяліла іх паміж сваімі сынамі: Рыгорам і Іванам, народжанымі ў яе другім шлюбе [3, л.120]. Падбярэззе дасталося старэйшаму сыну пані Ульяны, Рыгору Сенькавічу. За пляменнікамі князя Сямёна Ямантавіча Падбярэзскага: Рыгорам і Іванам прызналі княжаскі тытул.

Найбольшага поспеху ў жыцці з братоў, дзяцей Яцка Сенькавіча і Ульяны Ямантаўны, дасягнуў князь Рыгор Яцкавіч Падбярэзскі. Пасля ўтварэння Аршанскага павета, шляхта на сваім першым павятовым сойміку выбірае яго адным з чатырох электаў (кандыдатаў-Ф.Ч.) на пасаду падкаморыя аршанскага [43, арк.168 адв.]. Каралеўскі выбар спачатку выпаў на Габрыела Богушавіча Войну. Даведаўшыся аб каралеўскім прывілеі, Рыгор Яцкавіч і давёў да вушэй караля і яго найбліжэйшых词 дарадчыкаў думку аб немагчымасці даць Войне гэтую пасаду. Рыгор Яцкавіч "*біў чалом*" каралю і прасіў прызначыць на пасаду менавіта сябе, так як асоба Габрыэля Войны не адпавядае патрабаванням новага Статута ВКЛ. У Г. Войны не было аселасці ў межах Аршанскага павета. Захады Рыгора Яцкавіча мелі поспех. У выніку каралеўскі прывілей на наданне Войне пасады быў скасаваны, а падкаморыям Аршанскага павета кароль прызначыў Падбярэзскага.

Невядома, якія яшчэ аргументы выкарыстаў Рыгор Яцкавіч Падбярэзскі для атрымання гэтай вельмі важнай пасады, але намаганні для дасягнення сваёй мэты прыклаў вялікія. Толькі аднаго паведамлення аб адсутнасці ў Войны аселасці ў Аршанскім павеце было недастаткова для перагляду прынятага раней каралеўскага рашэння. Некаторае святло на высілкі, якія прадпрымаў Рыгор Яцкавіч для хутчэйшага дасягнення сваіх памкненняў, пралівае судовая справа, узбуджаная ў пачатку 40-х гадоў XVI ст. Іванам Сенькавічам супраць свайго роднага брата Рыгора [41, арк. 7]. Аказалася, што Рыгор Яцкавіч, князь Падбярэзскі, не паведаміўшы аб сваіх дзеяннях брату, падараваў каралю тыя часткі іменняў Басі і некаторых іншых, якія павінны былі перайсці ў валоданне яго малодшага брата.

У 1585 г. Рыгора Яцкавіча, князя Падбярэзскага, прызначылі маршалкам Аршанскага павета. Трэба думаць, што на гэта ў немалой ступені паўплывала яго служба пры двары каралевы Боны. Да 1541 г. Рыгор Яцкавіч Сенькавіч перайшоў на службу да Мацея Войцахавіча Янавіча, ваяводы віцебскага, дзяржаўцы ваўкавыскага, каралеўскага маршалка і называўся ў дакументах Метрыкі ВКЛ "*панам*" [23, p.189]. У 1561 г. Рыгор Сенькавіч (*ў дакуменце ён памылкова назван Сеньчуковічам*) суправаджаў польскія войскі, якія з каронных земляў накіроўваліся ў Інфлянты [44, № 30, p.51]. Іван Яцкавіч з 1555 г. перастаў ужываць прозвішча Падбярэзскі, а пасля атрымання ў свае ўладанне земляў вёскі Стрэжэва, стаў пачынальнікам шляхецкага роду Стрэжэўскіх [1, s.153].

Згодна з А.Нарбутам Фёдзя Багданаўна Андрэевая Адзінцэвічавая, памерла да 1562 г. [3, с. 75]. Паспрабуем правесці ўдакладненне часу яе смерці і даты ўступлення ў другі шлюб з Андрэям Адзінцэвічам. Землямі, як прылукскімі, так і часткай тых, якія некалі знаходзіліся ва ўладанні Сямёна Падбярэзскага, Адзінцэвічы карысталіся толькі да часу смерці пані Федзкі. Памерла пані Адзінцэвічавая яшчэ да 1560 г., а не каля 1562 г. Пасля смерці Федзі Заслаўскай Андрэевай Адзінцэвічавай, Прылукі з усімі прылегласцямі перайшлі да двух, яшчэ жывых дочак Багдана Іванавіча Яўнуц'евіча Заслаўскага, пані Тамілы, якая неўзабаве пасля 1542 г. уступіла ў шлюб з Рыгорам Друцкім Горскім і Марыі Васілевай Юр'евай Талачынскай [3, с.75, 111]. На наш погляд гэта яшчэ адно пацвярджэнне таго, што не магла Федзя з Заслаўскіх Адзінцэвічавая памерці каля 1562 г., у той час калі княгіні Марыя Талачынская і Таміла Друцкая Горская атрымалі ў сваё ўладанне землі Прылук яшчэ да моманту сваёй смерці ў 1560 г.

На нашу думку ў шлюб з Глябовічаўнай Адзінцэвіч уступіў да 1560 г. Гальшка Глябовічаўна, дачка Яна Юр'евіча, ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ, і Ганны Заслаўскай нарадзілася каля 1542 г. і дасягнула сталасці каля 1558 г. Найбольш верагодна, што і вяселле Андрэя Адзінцэвіча і Гальшкі Глябовічаўны, ваевадзянкі віленскай, таксама адбылося яшчэ да 1560 г. У 1562 г. нарадзіўся старэйшы сын старосты аршанскага, менавіта Андрэй Андрэевіч. У тым жа 1562 г. Ганна Глябовічавая, ваяводзіна віленская, маці Гальшкі Адзінцэвічавай, падзяліла паміж усімі дзецьмі частку сваіх зямельных валоданняў. У сваім дароўным запісе яна ўпамінае пра дачку, старосціну аршанскую [1, s.284].

Андрэй Адзінцэвіч пачаў службу ў Яна Юр'евіча Глябовіча, ваяводы віленскага, з 1546 г. канцлера ВКЛ. Каля 1546 г. Адзінцэвіч заняў пасаду маршалка двара гэтага магната. Аднак дабіцца такога становішча пры двары канцлера ВКЛ Андрэю Адзінцэвічу было вельмі няпроста. У Адзінцэвічаў на працягу значнага часу не складваліся адносіны з прадстаўнікамі магнацкага роду Глябовічаў. Яшчэ ў пачатку XVI ст. князь Сямён Багданавіч Адзінцэвіч скардзіўся на розныя шкоды, якія яму былі нанесены Станіславам Глябовічам, ваяводам полацкім. Не самымі лепшымі былі адносіны паміж Адзінцэвічамі і Янам Юр'явічам Глябовічам, які спачатку займаў пасаду ваяводы полацкага, а ў канцы жыцця ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ.

На нашу думку прыход Адзінцэвіча на службу да Яна Юр'евіча Глябовіча і заняцце такой высокай пасады, як маршалкоўства пры двары канцлера ВКЛ не выпадковасць, але быў абумоўлены яго сваяцктмі стасункамі з самім Глябовічам.

Ян Юр'евіч Глябовіч, нарадзіўся каля 1490 г. і памёр у 1549 г. За сваё жыццё ён тройчы ўступаў у шлюб і ў кожным шлюбе дабіваўся таго, каб пасля смерці жонак іх пасаг заставаўся ў яго ўладанні. Першай яго жонкай была Ганна Станіславаўна Барташэвічаўна, старасцянка пунская, маршалкоўна ВКЛ [3, с.151]. Пасля яе смерці, меўшай месца да 1519 г., Глябовіч уступае ў шлюб з Зафеяй Станіславаўнай Міхайлавіча Пяткевічаўнай, толькі нядаўна пахаваўшай свайго мужа Яна Немировіча Шчыта, гаспадарскага маршалка [22, № 54, p.92]. Дачка памерлага маршалка і яе муж паспрабавалі ў 1528 г. дабіцца вяртання маёмасці, запісанай пані Зафеі Пяткевічаўне яе першым мужам. Справа аказалася вельмі падобнай на тую, якая разглядалася каралеўскім судом па скарзе Ульяны Міхайлавай Сенькавічавай. Крэўныя памерлага Яна Якубавіча Неміровіча Шчыта не атрымалі ніводнага гроша з яго вялікай спадчыны. Па нейкіх прычынах каралеўскі суд маёмасць Неміровіча Шчыта пакінуў Глябовічам.

У 1541 г. Ян Глябовіч, яшчэ ваявода полацкі, уступае ў апошні свой шлюб з Ганнай Фёдараўнай з князёў Заслаўскіх, якая прынесла яму ў пасаг землі Заслаўскага княства [3, с.150-151]. Найбольш верагодна, што ў шлюб ваявода полацкі ўступіў толькі ў сярэдзіне гэтага ж года. Аб шлюбе Яна Глябовіча з Ганнай Заслаўскай сведчыць цікавы дакумент, унесены самім ваяводам полацкім у акты Метрыкі ВКЛ у канцы снежня 1541 г. Яна Глябовіча, ваяводу полацкага, па загаду караля накіравалі з пасольствам у Маскву. Дзяржаве неабходна была перадышка для прывядзення войскаў і гаспадаркі княства ў належны парадак. Ад'язджаючы ў падарожжа, у якім мог затрымацца надоўга, у Маскве мелі кепскую звычку асабліва ўпартых паслоў затрымліваць на неакрэслены тэрмін, Ян Глябовіч звярнуўся да караля з прашэннем аб прыпыненні ўсіх судовых працэсаў, якія маглі пачацца, або ўзнікнуць у будучым да яго вяртання з замежжа. Асабліва яго турбавалі справы новай цешчы, княгіні Зафеі Раманаўны Сангушкаўны Фёдаравай Жаслаўскай, якая знаходзілася ў яго ў апецы пасля смерці ў 1539 г. мужа [29, № 81, с.131]. Улічваючы асаблівасці падарожжа ў Маскву, кароль забараніў выклікаць у суды княства пані Фёдаравую Заслаўскую да часу вяртання яе зяця, Яна Юр'евіча Глябовіча. Гэта было не першае пасольства Глябовіча ў Маскву. Яшчэ пры вялікім князі Аляксандры ў 1500 г. ён ездзіў да вялікага князя маскоўскага і вымушаны быў не па сваёй волі затрымацца ў Маскве на некалькі гадоў.

Не выключана, што Ганна Глябовічавая, стрыечная сястра пані Федкі Багданаўны, пахадайнічала перад мужам аб урэгуляванні ўсіх спрэчных пытанняў Адзінцэвічаў з магнатам і настаяла на прадстаўленні яму месца пры двары свайго мужа. Зразумела, што адмовіцца ад выканання жадання так добра забяспечанай жонкі Глябовіч не мог.

Глябовіч быў адным з самых багатых магнатаў у ВКЛ. У 1528 г. ставіў з сваіх маёнткаў каля 148 коней. Яшчэ 88 вершнікаў выстаўляліся ім з іменняў яго другой жонкі, Соф'і Пяткевічаўны [14, с.50].

Шмат часу ў Андрэя Адзінцэвіча, як і ў яго бацькі, займалі судовыя справы, якія разглядаліся пры яго ўдзеле ў каралеўскіх судах княства. 2 мая 1548 г. Андрэя Адзінцэвіча і Рыгора Багданавіча Шалуху, як людзей добра вядомых у Менскім павеце сваёй памяркоўнасцю, запрасілі для вырашэння складанага пытання Ян Волменскі, у будучым каралеўскі маршалак, і Сямён Мікуліч, каралеўскі ротмістр і ў будучым войт каралеўскага места Менска [42, арк.124]. Не маглі яны прыйсці да згоды са сваім суседам Андрэям Вінкам. Бакі спрачаліся з-за некалькіх сенажацяў, якія падзялялі іх землі.

Андрэю Адзінцэвічу прыходзілася даволі часта займацца справамі, якія былі звязаны з вызначэннем прыналежнасці памежных земляў. Прычым вастрыня справы не залежала ад таго, у якой ступені радства знаходзіліся прэтэндэнты на гэтыя землі. Не шкадавалі не толькі чужых, але і сваякоў. Як прыклад можна прывесці справы звязаныя з вызначэннем прыналежнасці земляў, якія ўваходзілі ў склад Друцкага княства. У другой палове XVI ст. на гэтыя землі прэтэндавалі ўсе прадстаўнікі шматлікіх адгалінаванняў князёў Друцкіх Горскіх. Вострыя спрэчкі вяліся пры Сямёне Багданавічы Адзінцэвічы, гараднічым гарадзенскім, не зменшылася іх вастрыня і пры жыцці Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча. Прычым часта саюзнікі пераўтвараліся ў ворагаў, а падтрымку Андрэй Адзінцэвіч часта знаходзіў сярод тых, з кім раней варагаваў. У сакавіку 1548 г. Андрэй Адзінцэвіч аб'ядноўваецца з князямі Багрыноўскімі. Разам з Васілём і Рыгорам Іванавічамі Адзінцэвічамі, князямі Багрыноўскімі, стрыечнымі братамі свайго бацькі Сямёна Багданавіча, Андрэй Адзінцэвіч паклікаў у гаспадарскі суд князёў: Андрэя Іванавіча Азярэцкага, дзяржаўцу аршанскага, Дзмітра, Івана і Яна Раманавічаў Відзеніцкіх (*пазней Друцкіх-Любецкіх*); Рыгора і Абрама Фёдаравічаў Горскіх, Лявона Фёдаравіча Друцкага Канаплю, Паўла і Цімафея Юр'евічаў Сакалінскіх, пані Васільявую Юр'евіча Талачынскую [41, арк.62 адв.]. Спасылаючыся на вялікую занятасць іншымі, больш пільнымі справамі, кароль перанёс разгляд гэтай справы на іншы час.

Жыццё землеўласніка ў тыя часы не было лёгкім. Кожны з яго высокародных суседзяў, карыстаючыся магчымасцю, крыўды на Андрэя Адзінцэвіча пераносіў на яго падданых. 26 сакавіка 1550 г. Адзінцэвіч скардзіцца ў гаспадарскі суд на Багданца, намесніка суседа Данілы Міхайлавіча Пакаржоўскага [27, арк. 330]. Багданец, сустрэўшы ў Слуцку на таргу падданага гараднічага менскага Сцяпана Івашкевіча, не толькі без усялякай прычыны збіў яго, але і не паленаваўся абшукаць небараку і выцягнуць з кішэні тыя невялікія грошы, якія выдаў яму гаспадар на набыцце некаторых рэчаў. З пачуццём выкананага абавязку Багданец пайшоў па сваіх справах, прыхапіўшы ў дадатак сякеру і шапку Івашкевіча.

Абавязкі маршалка двара Глябовіча не перашкаджалі Андрэю Адзінцэвічу выконваць дыпламатычныя даручэнні Жыгімонта Аўгуста. Каля 1555 г. Адзінцэвіч паспяхова правёў перамовы з Даўлет Гіреем, ханам Крымскай Арды [1, s.284]. Пасля выканання дыпламатычных даручэнняў караля Жыгімонта Аўгуста Андрэй Адзінцэвіч у 1559 г. атрымлівае прызначэнне на пасаду каралеўскага маршалка, а ў 1560 г., пасля смерці Пятра Корсака, на пасаду старосты аршанскага [3, с.95].

Пасада аршанскага старосты і кіраўніка мясцовага шляхецкага апалчэння была вельмі важнай для абароны ўсходніх межаў ВКЛ. 15 лістапада 1561 г. Адзінцэвіч атрымлівае загад аб найме ў Оршы казакаў, "*которие бы ся у войско ку службе нашой господарской згодили*" [44, № 72, p.80]. Стараста аршанскі такіх людзей перапісаў у асаблівы рэестр і пераслаў да караля. З пачаткам вайны Андрэй Сямёнавіч Адзінцэвіч

павінен быў загадаць усім падданым аршанскім пераехаць у мясцовыя замкі з усёй сваёй маёмасцю. Усё быдла мясцовыя жыхары абавязаны былі прыгнаць пад ахову крэпасных сцен. Тых жа, хто хацеў увесь неспакойны час адседзецца ў лясах, староста аршанскі меў права арыштоўваць і кідаць у турму. Была гараднічы менскі на пасадзе аршанскага старосты да самай смерці паспяхова займаўся абаронай усходніх межаў княства.

Знаходжанне Оршы на важным гандлёвым шляху, які звязваў заходнія і цэнтральныя паветы і ваяводствы ВКЛ з Маскоўскім княствам, дазваляла весці назіранне за станам спраў у неспакойнага суседа. 22 сакавіка 1562 г. кароль Жыгімонт Аўгуст, спасылаючыся на звесткі, атрыманыя ад Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча, старасты аршанскага, і Івана Васілевіча Саламярэцкага, старасты мсціслаўскага, папярэджвае кіраўніцтва памежных замкаў аб неабходнасці падрыхтоўкі да вядзення вайсковых дзеянняў з маскоўскімі войскамі. Па яго словах "*люди немалые московские до Смоленска прышли, маючы злыи умысл еше перед выштьем перемиря в панство нашо вторгнути, шкоду и плен чинити"* [44, № 87, р.95].

Староста аршанскі не ўвесь свой час прысвячаў абароне межаў краіны. Не забываўся ён і пра вырашэнне асабістых спраў. У яго распараджэнні было дастаткова магчымасцяў, каб давесці суседзям, нязгодным з яго рацыяй, сваю правату. У пачатку снежня 1561 г. Андрэй Адзінцэвіч на чале вялікай грамады добра ўзброеных людзей, праводзіць рэйд у маёнтках Васіля Стэцкавіча Рагозы, якія знаходзіліся ў ваколіцах Лукаўца і Хаценчыц [45, арк.345]. Яшчэ ў 1556 г. Рыгор Іванавіч Адзінцэвіч, князь багрыноўскі, прадаў Рагозе частку земляў у Багрынове [1, s.256]. Верагодна, што прадаваў князь не толькі свае ўласныя землі, але частку і тых грунтоў, якія знаходзіліся ў валоданні яго роднага брата Васіля і былі ім запісаны перад смерцю Андрэю Адзінцэвічу. Васіль Стэцкавіч Рагоза, гаспадарскі дваранін, спадзяваўся на атрыманне адшкадавання за панесеныя страты, але, здаецца, што яго надзеі былі марнымі.

Вельмі складанымі аказаліся адносіны каралеўскага маршалка і старосты аршанскага з князямі Багрыноўскімі. Варожыя адносіны да Андрэя Адзінцэвіча з боку дзяцей князя Рыгора Іванавіча Багрыноўскага ўзніклі не на пустым месцы. Перад смерцю ў 1555 г., Васіль Іванавіч князь Багрыноўскі, стрый Андрэя Адзінцэвіча, на той час каралеўскага ротмістра, тэстаментам запісаў пляменніку большую частку зямельных уладанняў: сваю частку Багрынова, Плешчаніцы, Хатаевічы, частку Крайска і інш. Васіль Багрыноўскі не пакінуў спадчыннікаў, а яго землі і грошы, у большай частцы, павінны былі перайсці да роднага брата Рыгора. Паміж братамі не было згоды. Васіль Іванавіч Багрыноўскі часта скардзіўся на крыўды, якія ён атрымліваў ад свайго брата. У 1550 г. нелады паміж братамі дайшлі да таго, што Рыгор на горкі яблык збіў Васіля. Дзецям роднага брата Васіль князь Багрыноўскі пакінуў толькі нязначную частку сваіх багаццяў [1, s.284, 286, 287]. Зразумела, што Рыгор Іванавіч, яго жонка Ганна і сын Іван не прынялі ўсур'ёз тэстамент памерлага і захапілі ўсю спадчыну па ім. Рыгор Іванавіч і яго сын Іван, князі Багрыноўскія зышлі з гэтага свету да 1559 г. Іван Іванавіч пакінуў на руках у жонкі чатырох дзяцей: сыноў Сямёна і Дзмітра і дачок Тамілу і Багдану.

Атрымаць тэстамент аказалася не самай цяжкай задачай для Андрэя Адзінцэвіча. Самае галоўнае было ў тым, каб прымусіць людзей, які даўно гаспадарылі на палетках, развітацца з імі. Да часу смерці князёў Рыгора і яго сына Івана Андрэй Адзінцэвіч спрабаваў прававым шляхам атрымаць тое, што яму запісаў стрый. Толькі пасля смерці князёў Багрыноўскіх каралеўскі ротмістр перайшоў да рашучых дзеянняў і, сабраўшы вялікую грамаду залежных ад сябе людзей, гвалтоўна захапіў землі, якія былі запісаны яму ў тэстаменце. Княгіня Іванавая Іванавіча Багрыноўская Ганна Глебаўна Есманаўна, другая жонка князя Івана Іванавіча Багрыноўскага, у 1559 г. скардзілася ў каралеўскі суд на дзеянні каралеўскага ротмістра. Андрэй Сямёнавіч Адзінцэвіч напаў на яе маёнтак Багрыноўскі і забраў усю рухомасць, якая на той час была ў сяле. Старэйшага сына Сямёна і двух дачок, менавіта Тамілу і Багдану, спачатку звёз у Мышкавічы і там кінуў у вязніцу. Праз некаторы час дзеці аказаліся ўжо ў Рэпухаве. Верагодна Андрэй Адзінцэвіч

пагражаў жанчыне, абяцаючы пазабіваць дзяцей. Толькі калі Адзінцэвіч атрымаў ад княгіні Багрыноўскай ліст з адмовай ад усіх правоў на спадчыну па Васілю Іванавічу Багрыноўскаму ён вярнуў маці яе дзяцей. Жанчына аказалася з характарам. Праз некаторы час яна ўнесла у суды княства пратэстацыю на дзеянні Андрэя Адзінцэвіча і адмовілася ад падпісанага ёй зрачэння на карысць Адзінцэвіча, тлумачачы, што напісала яго толькі пад прымусам. Няма нічога дзіўнага, што Сямён і Дзмітры Іванавічы Адзінцэвічы, князі багрыноўскія, дачакаўшыся смерці свайго ворага, пастараліся адплаціць яго крэўным за той жах, які яны перажылі ў дзяцінстве.

Як лічыць А.Нарбут, менскі гараднічы памёр у 1566 г. [3, с.96]. Не выключана, што яны памыляюцца. На нашу думку староста аршанскі памёр у канцы 1565 г. Непасрэдна пасля смерці мужа, пані Ганна, звяртаючыся за дапамогай да Жыгімонта Аўгуста, паведамляла, што "*я жонка, нядаўна памерлага Андрэя Адзінцэвіча, Ганна Янаўна Глябовічаўна. Муж памёр, а дзеці да гадоў не дараслі і аб іх апецы [муж] нікому не даручэнняў не даў*" [43, арк.131 адв.]. Павінен быў прайсці некаторы час пасля смерці Адзінцэвіча пакуль жонка адчула неабходнасць звярнуцца да караля за дапамогай. Час спатрэбіўся і для ўзгаднення кандыдатур будучых апекуноў. Дзеля забеспячэння правоў маці і яе сыноў на маёмасць памерлага мужа кароль прыняў рашэнне аб устанаўленні над імі апекі. У канцы лютага 1566 г. у кнігі Метрыкі ВКЛ скапіравалі каралеўскі загад, верагодна прыняты пасля згоды будучых апекуноў, аб прызначэнні апекунамі падскарбія земскага ВКЛ Астафія Валовіча і роднага брата Гальшкі Глябовічаўны, Яна Янавіча Глябовіча, старосту зельвенскага.

Звярнуцца ж з просьбай аб апякунстве да "*крэўных мужа па мячы*" Ганна Глябовічаўна не магла. Вялікую крыўду наносілі ўдаве і яе малым дзецям сваякі мужа князі Адзінцэвічы Багрыноўскія: "*Яны наязджалі і вялікія шкоды дзецям рабілі, бо з іх бацькам у непрыязных адносінах былі*".

Аб тым, што становішча ўдавы было вельмі складаным сведчаць матэрыялы судовай справы, якая была ўзбуджана старосцінай аршанскай ужо ў другой палове гэтага года. Яна пазвала ў суд Філона Кміту Чарнобыльскага, новапрызначанага старасту аршанскага, патрабуючы вяртання трох сёл, якія былі аддзелены ў пачатку 60-х гадоў XVI ст. ад Аршанскага староства, і да моманту смерці старосты аршанскага знаходзіліся ў дажыватным карыстанні Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча і яго жонкі [43, арк.115 адв.]. Многія землі Андрэя Адзінцэвіча, якія знаходзіліся ў Полацкай зямлі, былі захоплены маскоўскімі войскамі. У прывілеі на атрыманне сёл у Аршанскім старостве адзначалася, што землі ў Аршанскім старостве могуць быць вернуты ў распараджэнне караля толькі пасля "*ачышчэння яго [Андрэя Адзінцэвіча] маёнткаў на Полаччыне*". Кміта Чарнобыльскі, атрымаўшы каралеўскі прывілей на Аршанскае староства, палічыў нязгодным з сваімі матэрыяльнымі інтарэсамі тое, што значныя землі староства знаходзяцца ў карыстанні пані Андрэевай Адзінцэвічавай. Ён з лёгкасцю атрымаў згоду караля на пераход гэтых земляў у сваё пажыццёвае карыстанне. У канцы 1566 г. Фрыдрых Жыжэмскі, каралеўскі дваранін, які звычайна выклікаўся для выканання загадаў адміністрацыі княства, "*увязаў*" Філона Кміту ва ўладанне 3-х службаў у сяле Бабіна, з якіх толькі адна была неаселай, 2-х у Дзівіне і 2-х у Зацер'і. У пачатку лютага 1567 г. каралеўскі суд, старанна разгледзеўшы ўсе абставіны гэтай справы, адмяніў ранейшы каралеўскі прывілей і прысудзіў падданых у Бабіне, Дзівіне і Зацер'і да вяртання ў пажыццёвае карыстанне Гальшкі Глябовічаўны Андрэевай Адзінцэвічавай. Праз дзевятнадцаць гадоў, у 1586 г. гэтыя сёлы былі забраныя ў Гальшкі Глябовічаўны і перададзеныя ў пажыццёвае валоданне Андрэю Сапезе, старосце аршанскаму [1, s.285]. Яшчэ Стэфан Баторы, вымушаны быў, з мэтай захавання каралеўскіх уладанняў, забараніць пераход каралеўскіх земляў пасля смерці іх пажыццёвых карыстальнікаў у трыманне іх дзяцей.

Аб тым, што зыход з гэтага свету старасты аршанскага адбыўся ў канцы 1565 г., або ў пачатку 1566 г., сведчаць і матэрыялы судовай справы старосціны аршанскай з

наступнікам Андрэя Адзінцэвіча на пасадзе старосты Філонам Кмітам Чарнобыльскім. Каралеўскі прывілей на пасаду пан Кміта атрымаў у першай палове 1566 г., не пазней чэрвеня гэтага года. Яшчэ 1 траўня 1565 г. Філон Кміта, карыстаўся толькі тытулам старосты чарнобыльскага, адмовіўшыся на карысць Лаўрына Ратамскага ад карыстання асцёрскім староствам.

Зразумела, што большая частка ленных земляў, якія былі наданы Адзінцэвічу ў "*дажывоцце*", трапілі пасля яго смерці ў распараджэнне караля. Памеры зямельных уладанняў, якія апынуліся ў Гальшкі Глябовічаўны Андрэевай Адзінцэвічавай пасля 1565 г., значна паменшыліся. У попісе войска ВКЛ, праведзенага ў другой палове 60-х гадоў XVI ст., княгіня Андрэевая Адзінцэвічавая з сваёй маёмасці ў Нястанавічах выставіла на чале са сваім нястанавіцкім ураднікам Мікалаем Холдзінскім толькі 8 коней [46, с.459]. У распараджэнні старосціны аршанскай аказалася каля 64 службаў падданых.

У абодвух шлюбах Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча дзяцей не было. Сапраўды аб нараджэнні дзяцей у першым шлюбе Андрэя Адзінцэвіча і Федкі з Заслаўскіх звестак не захавалася. У другім жа шлюбе Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча з Ганнай Глябовічаўнай нарадзілася некалькі дзяцей, самым старэйшым з якіх быў Андрэй. Аб гэтым паведамляе сама Ганна Глябовічаўна Адзінцэвічавая, ваевадзянка віленская, у сваім прашэнні, накіраваным Жыгімонту Аўгусту.

Захавалася некалькі паведамленняў пра старэйшага сына каралеўскага маршалка. Да пачатку верасня 1580 г. Андрэй Андрэевіч дасягнуў "*гадоў зупольных*" і атрымаў ад апекуноў у сваё ўладанне ўсе тыя землі, рухомасць і грошы, якія пакінуў яму яго бацька. У квітацыйным лісце, выданым ім апекунам з нагоды атрымання бацькоўскай спадчыны, старосціч аршанскі выказвае вялікіе жалье, што застаўся ў дзіцячым узросце без моцнай бацькоўскай падтрымкі і шмат гадоў пражыў у сіроцтве. У Дзярэчыне 3 верасня 1580 г. Андрэй Андрэевіч Адзінцэвіч складае прызнанне аб атрыманні ім ад апекуноў бацькоўскай спадчыны. Пры гэтым ён большую частку сваіх добраў, якія знаходзіліся ў Аршанскім, Ковенскім, Менскім, Полацкім і Слонімскім паветах ВКЛ, перадае ў дажывотнае карыстанне маці, якая на гэты час ўжо была ў другім шлюбе за Міхалам Valовічам. Відаць, што паміж сынам і маці, нягледзячы на яе ўступленне ў новы шлюб, захаваліся вельмі добрыя адносіны. Праўда карыстацца доўга бацькоўскімі набыткамі старосціч аршанскі не змог. 20 красавіка наступнага 1581 г. у Дзярэчыне Андрэй Андрэевіч Адзінцэвіч складае тэстамент, у якім выказвае сваю апошнюю волю, і просіць пахаваць яго у той жа царкве, дзе пахаваны яго бацька. Усю сваю маёмасць ён пакідае маці [47, арк.244 адв.]. Не выключана, што Андрэй Адзінцэвіч, пасля дасягнення паўналецця, прымаў удзел у адной з ваенных экспедыцый войскаў ВКЛ, якімі так багата была гісторыя другой паловы XVI ст., атрымаў цяжкія параненні, не сумяшчальныя з жыццём і памёр.

На нашу думку ў шлюбе Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча і Гальшкі Глябовічаўны нарадзілася не больш за два дзяцяці. На жаль мы не ведаем дзяўчынка або хлопчык нарадзіўся ў гэтай сям'і акрамя Андрэя Андрэявіча. Дзіця памерла да 1580 г.

Гальшка Глябовічаўна Андрэевая Адзінцэвічавая, ваевадзянка віленская, старасціна аршанская, пасля смерці мужа двойчы панаўляла шлюбы. У другі шлюб яна пайшла за Міхала Валовіча, які на 1581 г. займаў пасаду старосты судовага Слонімскага павета. Дзецям, народжаным Гальшкай Глябовічаўнай у шлюбе з Міхайлам Валовічам, старастам слонімскім, было наканавана больш доўгае жыццё, чым гэта было ў выпадку з дзецьмі Андрэя Сямёнавіча Адзінцэвіча. У 1596 г. Яраш, старэйшы сын Міхала і Гальшкі Валовічаў, займаў пасаду пісара ВКЛ. У гэтым жа годзе ён пазваў у суд сваіх малодшых братоў, менавіта Самуэла, які нарадзіўся каля 1586 г., і Станіслава, яшчэ не дасягнуўшых "*гадоў зупольных*". Пісар ВКЛ абвінаваціў сваіх братоў у тым, што яны прыпісаўшы сабе гады, квітавалі маці, Гальшку Глябовічаўну Станіслававую Нарбутавую, ваяводзіну мсціслаўскую, у атрыманні ад яе Молчадзі і Сакалова, якія перайшлі ў распараджэнне ваводзіны мсціслаўскай ад іх бацькі, ад Міхала Валовіча, старосты судовага Слонімскага

павета [1, s. 285]. У гэтай сям'і нарадзіліся і дзве дачкі. Старэйшая дачка Зафея пашлюбіла Андрэя Завішу, ваяводу менскага, а ў канцы жыцця падскарбія ВКЛ. Яшчэ адной дачцэ, менавіта Гальшцы, у першым шлюбе Адамавай Стэфанавай Роскай, падкаморыне ашмянскай, а пасля 1594 г. [19, № 2792, s.386]. Аляксандравай Галаўчынскай, старасціне судовай лідскай, маці запісала ў пасаг Рэпухава, якое каля паўстагоддзя знаходзілася ў валоданні Адзінцэвічаў. Зафея і Гальшка Валовічаўны памерлі да 1620 г.

На нашу думку, большая частка спадчыны па гараднічым менскім, а потым і старасце аршанскім Андрэі Сямёнавічы Адзінцэвічы трапіла ў рукі дзяцей Міхала Валовіча, старасты судовага Слонімскага павета, народжаных у яго шлюбе з Гальшкай Глябовічаўнай. 10 кастрычніка 1783 г. Міхал Валовіч, староста неманоіцкі, далёкі сваяк старосты судовага слонімскага, атрымлівае з архіваў Метрыкі ВКЛ выпіс, які утрымліваў тэстамент Андрэя Андрэевіча Адзінцэвіча, старосціча аршанскага [47, арк.244 адв.].

Пасля смерці Міхала Валовіча Ганна Глябовічаўна ў 1587 г. пашлюбіла Станіслава Нарбута, старосту судовага Ашмянскага павета [19, № 1988, s.297]. 21 сакавіка 1595 г. Станіслаў Нарбут атрымлівае прызначэнне на пасаду ваяводы мсціслаўскага, але займае яе толькі каля года і зыходзіць з гэтага свету ў наступным 1596 г. Дарэчы Станіслаў Нарбут, ваяводзіч падляшскі, на 1581 г. яшчэ падкаморы слонімскі, быў адным з найлепшых сяброў старасты судовага слонімскага і Ганны Глябовічаўны. У траўні 1581 г. ён засведчыў тэстамент Андрэя Андрэевіча Адзінцэвіча, старосціча судовага аршанскага [47, арк.244 адв.].

Пані Гальшка Глябовічаўна, ваевадзянка віленская, склала тэстамент у 1603 г. і неўзабаве памерла [1, s.285].

## Літаратура і крыніцы:


1. Wolff, J. Kniaziowie Litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.
2. Вольф, Ю. Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага ад канца XIV ст. // Спадчына. 1992. №№ 4-6; 1993 №№ 1-6.
3. Нарбут, А.Н. Генеалогия Белоруссии. Выпуск 2 (XVI-XVIII вв.). М., 1994.
4. Kojałowicz, W. W. Herbarz rycerstwa W. X. Litewskiego tak zwany Compendium czyli o klejnotach albo herbach których familie stanu rycerskiego w prowincyach Wielkiego Xięstwa Litewskiego zażywają. Kraków, 1897.
5. Lietuvos Metrika. Kn. 3 (1440-1498): Užrašmu knyga 3. V., 1998.
6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Менску (далей – НГАБ). КМФ 18, воп. 1, спр. 4.
7. Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T. II. Województwo Trockie XIV-XVIII wiek / pod red. Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2009.
8. Варонін, В. Палітычны лад Полацкага ваяводства ў першай палове XVI ст. // Беларускі гістарычны агляд. Т.5. Сш.1 (8). 1998. С.27-64.
9. Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею. Т.1. 1340-1506. СПб., 1846.
10. Lietuvos Metrika. Kn. 12 (1522-1529): Užrašmu knyga 12. V., 2001.
11. ЭГБ. У 6 т. Т.1. Мн., 1993.
12. Lietuvos Metrika. Kn. 11 (1518-1523): Įrašų kn. 11. V., 1997.
13. Lietuvos Metrika. Kn. 9 (1511-1518): Užrašmu knyga 9. V., 2003.
14. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523. Кніга публічных спраў 1. Мн., 2003.
15. РИБ. Т.20. Метрика Великого княжества Литовского. СПб., 1903.
16. Lietuvos Metrika. Kniga 8 (1499-1514): Užrašmu knyga 8. V., 1995.
17. НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 239.
18. Тамсама, спр. 14.
19. Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV-XVIII wieku: spisy. T.1. Województwo wileńskie XIV-XVIII wiek. Warszawa, 2004.
20. НГАБ. КМФ-18, воп. 1, с.242.
21. Lietuvos Metrika. Kn. 224 (1522-1530). 4-oji Teismų bylų knyga. V., 1997.
22. Lietuvos Metrika. Kn. 15 (1528-1538): Užrašmu knyga 15. V., 2002.
23. Lietuvos Metrika. Kn. 225 (1528-1547). 6-oji Teismų bylų knyga. V., 1995.
24. ЭГБ. У 6 т. Т.4. Мн., 1997.
25. Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т.6. Вильно, 1872.

26. Lietuvos Metrika. Kn. 229 (1540-1541). 10-oji Teismų bylų knyga. V., 2003.
27. НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 237.
28. Тамсама, спр. 256.
29. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга № 28 (1522-1552). Кніга запісаў 28. Менск, 2000.
30. НГАБ. Ф. 1785, воп. 1, спр. 12.
31. Тамсама, спр. 9.
32. Тамсама. КМФ-18, воп. 1, спр. 41.
33. Тамсама, спр. 131.
34. Тамсама, спр. 40.
35. Тамсама, спр. 240.
36. Тамсама, спр. 37.
37. Тамсама, спр. 238.
38. ЭГБ. У 6 т. Т. 3. Мн., 1996.
39. Lietuvos Metrika. Kn. 25 (1387-1546). Užrašmu knyga 25. V., 1998.
40. Lietuvos Metrika. Kn. 230 (1542m.). 11-oji Teismų bylų knyga. V., 2001.
41. НГАБ у Мінску. КМФ 18, воп. 1, спр. 235.
42. Тамсама. КМФ-18, воп. 1, спр. 233.
43. Тамсама, спр. 266.
44. Lietuvos Metrika. Kn. 564 (1553-1567): Viešųjų reikalų knyga 7. V., 1996.
45. НГАБ. КМФ-18, воп. 1, спр. 255.
46. РИБ. Т. 33. Метрика Великого княжества Литовского. Кн. публичных дел 1. СПб., 1915.
47. НГАБ. Ф. 1785, воп. 1, спр. 6.

**Віталь Галубовіч (Горадня)**
**Аляксей Шаланда (Менск)**

# ВЯРТАННЕ САПРАЎДНАГА ГЕРБА МАСТОЎ: "*MEMORIA STANISLAI AUGUSTI 1791*"

Масты – мястэчка ў былым Гарадзенскім павеце ВКЛ – маюць ужо пэўную гістарыяграфію[370]. Амаль усе аўтары сцвярджаюць, што яно мела Магдэбургскае права і адпаведна герб. Іван Коўкель пісаў пра мастоўскае самакіраванне так: "*Граматамі каралёў Рэчы Паспалітай 1601, 1633, 1653 і 1677 атрымалі некаторыя прывілеі паводле магдэбургскага права*"[371]. Аляксей Сабасцян быў упэўнены, што ў 1601 г. Мастам была "*выдадзена грамата на частковае магдэбургскае права*"[372]. Аднак, відавочна, што гаспадарскія прывілеі на пэўныя вольнасці мастоўскім мяшчанам не адпавядалі Магдэбургскаму праву. Падтрымаем думку Вітальда Карпызы, што Масты ў XVI–XVII ст. яго папросту не мелі[373]. Тое ж датычыць і мастоўскага герба. Па меншай меры, аўтары фундаментальных прац па гарадскіх гербах і пячатках ВКЛ – беларускі даследчык Анатоль Цітоў і літоўскі Эдмундас Рымша – ніякіх звестак пра герб Мастоў не падалі[374].


*Сучасны герб Мастоў, 2006 г.*
Мал. В.Ляхар.

У такой сітуацыі Геральдычны савет пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь распрацаваў для Мастоў свой варыянт герба: *тарча падзелена на дзве часткі, у верхняй у чырвоным полі залаты мост, у ніжняй – у блакітным срэбны плыт з шасці бярвёнаў*, які быў зацверджаны 17 ліпеня 2006 г. у Гербавым Матрыкуле Рэспублікі Беларусь пад № 455[375]. У сваім афіцыйным абгрунтаванні аўтар герба Марына Елінская зыходзіла з ідэі так званага "*гаворачага*" герба – "*в нём отражено название города*"[376]. Яўген Жабрун зразумеў яе ў тым сэнсе, што ў аснову мастоўскага герба "*заложен факт существования паромов через реки, на месте которых позже строились мосты*"[377]. Праўда, самая Марына Елінская настойвала на канкрэтнай рацэ – Нёмане, які, на яе думку, не мог не знайсці свайго адлюстравання ў гербе[378].

Не маем нічога супраць падыходу, пры якім ствараецца новы герб гораду на падставе яго назвы, але галоўным хібам падрыхтоўчай працы дзяржаўных геральдыстаў была неякасная гістарычная даведка пра Масты. Галоўным чынам гэта праявілася ў поўнай адсутнасці спасылак на архіўныя дакументы ці іх публікацыі. Уся інфармацыя пра Масты Марынай Елінскай была ўзята з публікацыі Івана Коўкеля, у тым ліку і дата першай згадкі ў крыніцах – 1486 г.[379]. У гэты год згадваюцца "*мастоўскія корчмы*", што

---

[370] Мараш, Я., Ковкель, И., Себастьян, А. Мосты: Ист.-экон. очерк. Мн.: Беларусь, 1986. 110 с. Коўкель І. Масты // ЭГБ. Мн.: БелЭн, 1999. Т.5. С.94-95. Karpyza, W. Z przeszłości Mostów // Magazyn polski. Grodno, 1999. Nr 1 (15). S.49-51. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мастоўскага раёна. Мн.: Паліграфафармленне, 2002. С.34-51. Коўкель, І. Масты // ЭВКЛ. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С.280.
[371] Коўкель, І. Масты // ЭГБ. Мн.: БелЭн, 1999. Т.5. С.94. Коўкель І. Масты. С.280.
[372] Памяць. С.38.
[373] Karpyza, W. Z przeszłości Mostów. S.49.
[374] Цітоў, А. Геральдыка Беларускіх местаў. Мн.: Полымя, 1998. 287 с. Rimša E. Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego. Warszawa, 2007.
[375] Адамушко, В., Елинская М. Гербы и флаги Беларуси. Мн.: Беларусь, 2006. С.162. Жебрун Е. Геральдика Гродненской области. Гродно: Гродн. тип., 2007. С.15.
[376] Адамушко, В., Елинская М. Гербы и флаги Беларуси. С.163.
[377] Жебрун, Е. Геральдика Гродненской области. С.15.
[378] Адамушко, В., Елинская М. Гербы и флаги Беларуси. С.163.
[379] Коўкель, І. Масты. С.280.

дало падставу для меркавання аб існаванні мястэчка[380]. У сваю чаргу, Вітальд Карпыза фіксуе Масты як "*места*" пад 1529 г.[381] Такі знаўца праблемы, як польскі даследчык Станіслаў Аляксандровіч, такой даты не ведаў[382] і пра Масты згадваў толькі ў агульным кантэксце. У айчыннай літаратуры існуюць і іншыя меркаванні. У прыватнасці, Юры Якімовіч адзначаў, што ўпершыню Масты згадваюцца ў 1551 г.[383] У мастоўскай кнізе "*Памяць*" з датай першай згадкі горада ўвогуле пануе поўная неразбярыха. Так, адзін з аўтараў – Аляксей Сабасцян – лічыць, што Масты існавалі ўжо ў 1410 г., а аўтарка раздзелу "*З гісторыі населеных пунктаў Мастоўскага раёна*" Г.Новікава фактычна паўтарыла думку Юрыя Якімовіча: "*У пісьмовых крыніцах упамінаецца (сучасная вёска Правыя Масты – В.Г., А.Ш.) з 1551 г. як мястэчка Гродзенскай эканоміі Вялікага княства Літоўскага*"[384]. Пры гэтым той жа Аляксей Сабасцян згадваў пра пабудову ў Мастах па загаду каралевы Боны касцёла Святога Яна ў 1539 г.[385] Відавочна, што праблема ўзросту Мастоў патрабуе далейшага даследавання, бо ўсе прыведзеныя вышэй даты няпэўныя.

Мы не ставілі сваёй задачай скласці поўную гістарычную даведку пра Масты, але адзначым, што патэнцыял архіўных крыніц па гісторыі горада далёка не вычарпаны, што паказала публікацыя Генадзем Семянчуком копіі згаданага вышэй прывілея Жыгімонта ІІІ Вазы ад 15 ліпеня 1601 г. мастоўскім мяшчанам з пацвярджэннем іх права браць дрэва з гаспадарскай Мастоўскай пушчы[386]. Ніякіх згадак пра "*частковае магдэбургскае права*" у ім няма, акрамя канстатацыі таго факта, што ў 1579-1601 г. Масты з'яўляліся мястэчкам ЯКМ, прыналежным да Гарадзенскага староства. На чале мясцовай мяшчанскай грамады стаяў войт (у 1561 г. згадваецца Марк, "*стары*" войт), аднак, у судовым плане мастоўскія мяшчане падпадалі пад юрысдыкцыю гарадзенскіх старостаў і іх мастоўскіх намеснікаў ды ўраднікаў[387]. Іншымі словамі, шлях Мастоў да самакіравання быў доўгім, меў пэўную спецыфіку, што можа стаць тэмай спецыяльнага даследавання. Упэўнены, што калі б стварэнню сучаснага мастоўскага герба папярэднічала сур'ёзная архіўная праца, то гэта дазволіла не толькі прасачыць спецыфіку гэтага працэсу, але і канчаткова вырашыць геральдычны аспект гісторыі Мастоў.

У якасці прыкладу друкуем адзін цікавы дакумент з бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта, які ўяўляе сабой копію з арыгінала рэнавацыйнага прывілея Мастам з 1791 г.[388] Яе асаблівасцю з'яўляецца тое, што яна дае інфармацыю пра сапраўдны герб Мастоў, бо перапісчык у копіі падаў не толькі змест тэксту дакументу, але і перамаляваў малюнак герба, які быў у арыгінале. Апошняе з'яўляецца сапраўднай рэдкасцю, бо звычайна пры стварэнні копіі цікавіліся больш тэкстам, чым малюнкам, як, напрыклад, у выпадку з гербам Капыля[389]. Праўда, якасць малюнка герба ў копіі невысокая, што тлумачыцца як ступенню захаванасці ўзору ў арыгінале прывілею, так і мастацкімі здольнасцямі самога перапісчыка. Тым не меней, яго апісанне і малюнак дазваляюць зрабіць рэканструкцыю ў колерах сапраўднага гарадскога герба Мастоў. Як вынікае з друкуемай крыніцы, Масты разам з шэрагам іншых гарадоў ВКЛ у 1791-1792 г.[390] атрымалі ад польскага караля і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага Магдэбургскае права і герб: "*Герб такі надаем як тут намаляваны можна бачыць, гэта значыць на правай тарчы постаць, якая трымае меч ў правай руцэ, а ў левай – шалі, на левай тарчы Боская воля,*

[380] Мараш, Я., Ковкель И., Себастьян А. Мосты. С.3.
[381] Karpyza, W. Z przeszłości Mostów. S.49.
[382] Alexandrowicz, S. Studia z dziejów miasteczek Wielkiego Księstwa Litewskiego. Toruń, 2011. Dodatek 2. Tabela 2: Daty założenia miasteczek. S.73-89.
[383] Якимович, Ю. Зодчество Белоруссии XVI-середины XVII в. Мн.: Навука і тэхніка, 1991. С.214.
[384] Памяць. С.35, 565.
[385] Памяць. С.38.
[386] Памяць. С.51.
[387] Памяць. С.41, 51.
[388] BUW. Akc. Nr 260/66. S.1-4.
[389] Капыль і Магдэбургскае права: нарысы гісторыі горада XIV-XIX ст. Пад рэд. І.Соркінай. Гродна: ЮрСаПрынт, 2012. С.128-129.
[390] Rimša, E. Pieczęcie miast Wielkiego Księstwa Litewskiego. S.238.

*паміж імі Цялё з надпісам пад імі: “Memoria Stanislai Augusti 1791”...*”[391] (мал.2 з вокладкі). І надпіс, і родавы герб “*Цялё*” Панятоўскіх добра сведчыць пра галоўнага “*ініцыятара*” і надаўцу Магдэбургскага права і гарадскога герба Мастам. У сувязі з гэтым, прапануем сучасным мастоўскім уладам вярнуцца да свайго гістарычнага сімвалу:

ПРАЕКТ

АПІСАННЕ
герба Мастоў.

ГЕРБ: тарча падзелена на тры часткі, у першай у чырвоным полі постаць басаною у брунатным хітоне, перавязаная блакітным пасам, завязаным на правым баку, у правай руцэ трымае меч з залатой рукаяццю вастрыём дагары, у левай – залатыя вагі, у другой – у блакітным полі Боская воля ў выглядзе срэбнага трохкутніка з вокам, у трэцяй – у срэбным полі чырвонае цялё з залатымі рагамі і капытамі (мал.3 з вокладкі).

Аўтар герба Аляксей Шаланда.
Мастак Ігар Адасік.

Такім чынам, Масты мелі Магдэбургскае права і герб найраней з 1791 г. У 2013 г. гэтай падзеі споўнілася 222 гады, а таму праз тры гады ў жыхароў Мастоў ёсць магчымасць адсвяткаваць пэўны юбілей – 225 гадоў гарадскому самакіраванню і гербу. У сувязі з гэтым, нашую публікацыю можна разглядаць як навуковае абгрунтаванне для арганізацыі гэтай падзеі, а таксама як падставу для замены сучаснага герба ўзору 2006 г. на сапраўдны гістарычны.

Публікуемы дакумент з’яўляецца позняй копіяй з арыгінальнага прывілея, зробленай у міжваенны перыяд у Польшчы, верагодна, у 20-я г. XX ст. Дзе сёння знаходзіцца арыгінал – невядома. Перапісчык таксама невядомы, хаця ў копіі пазначана, што яна паступіла 12 чэрвеня 1920 г. “*Od p. J.Mitosławskiego*”[392]. Магчыма, гэта ён зрабіў копію і перадаў яе ў бібліятэку Варшаўскага універсітэта. Тэкст напісаны на чатырох аркушах некалі белай паперы фарматам А4 адным почыркам фіялетавым атрамантам. На арк.3 маецца каляровы малюнак герба, зроблены алоўкам. Пагінацыя адсутнічае. На аркушах 1, 2, 3, 4 маецца авальны фіялетавы штамп: “*Bibl. Uniw. | W-wa*”.

Мова рукапісу польская, маюцца памылкі, якія ўзніклі ад таго, што перапісчык не вельмі добра зразумеў некаторыя месцы ў арыгінальным дакуменце.

Дакумент друкуецца палітарным спосабам з максімальным набліжэннем да крыніцы[393]. Захавана аўтарская пунктуацыя. У квадратных дужках падаецца нумарацыя аркушоў, раскрыццё скаротаў і адноўлены намі тэкст. Скароты, якія стала паўтараюцца ў тэксце раскрываюцца толькі раз. Курсівам вылучаны лацінізмы, пазнакі і дапіскі. Памылкі і недакладныя месцы пазначаны словам (sic!). Пры незразумелых месцах ставіўся пытальнік (?). Канцы аркушоў пазначаны падвойнай рысай ||.

**Копія 20-х г. XX ст. лакацыйнага і рэнавацыйнага прывілея
польскага караля і вялікага князя літоўскага
Станіслава Аўгуста Панятоўскага з наданнем
месту Масты ў Гарадзенскім павеце
Магдэбургскага права і герба.
Б/п дня і месяца, 1791 г. Варшава.**

**Ар.**: невядомы.

---

[391] BUW. Akc. Nr 260/66. S.3. Дата “1791” у копіі пададзена памылкова як “№791”, гл. ніжэй.
[392] BUW. Akc. Nr 260/66. S.1.
[393] Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі польскамоўных дакументаў па гісторыі Беларусі XVI-першай паловы XIX ст. Склад. А.Шаланда. Мн.: БелНДІДАС, 2012. 47 с.

**К.**: *BUW*. Akc. Nr 260/66. S.1-4. Ркпс. Папера *in folio*. Колер паперы жоўты. Атрамант фіялетавы. Захаванасць выдатная. Тэкст чытаецца цалкам. На аркушах 1, 2, 3, 4 маецца авальны фіялетавы штамп: “*Bibl. Uniw.* | *W-wa*”.
**Выд.**: упершыню.

[арк.1]

*Od p. J.Mitosławskiego 12.VI.1920*[394]

W Jmię Panskie Amen
Na wieczną rzeczy pamiątkę.

My Stanisław Aug[u]st. (sic!)
z Bożej Łaski y Woli Narodu Król Polski, Wielki Xiąże Litewski, Ruski, Pruski, Mazowiecki, Żmudzki, Kijowski, Wołyński, Podolski, Podlaski, Jnflantski, Smolenski, Siewierski y Cze[r]niechowski (sic!).

Oznaymuiemy tym Naszym *Renowationis Diplomatem* wszem wobec y każdemu z osobna, komu o tym wiedzieć należy; tak teraznieyszego jako y potomnego wieku Ludziom; Przełożono Nam jest przez Panów Rad y Urzędnikow przy Boku Naszym rezydujących w Jmieniu y na rzecz Szlachetnych Burmistrza, Woyta, Radnych y całego Ludu Miasta Naszego Mostow w Wielkim Xięstwie Litewskim, w Powiecie Grodzienskim nad rzeką spławną Niemnem leżącego, że to Miasto za Nayiasnieyszych Poprzednikow Naszych, mianowicie za Króla Zygmunta Augusta miało nadanie wolności Król Stefan w Roku Tysiąc Pięćset Siedmdziesiąt Dziewiątym, Miesiąca Februaryi Dwudziestego Piątego Dnia, osobno dla tegoż Miasta wolnego Mostow Puszcze Mostowską na zabudowanie y opał nadał, za którym Zygmunt Wysocki tąż Puszczę borową ziedney strony począwszy od Rzeki Zelwy, aż do Rzeki Niemna, z drugiej zaś strony od sciany Boru Peskowskiego, bokiem jednym od Boru Nowosielskiego, a drugim bokiem od sciany głowney włok Mieyskich Mieszczan Mostowskich, ograniczył y okopczył, oczym dwa Listy. Listy autentyczne Nayiasnieyszego Zygmunta Trzeciego po Rusku pisane składające się ||

[арк.1 адв.] w Autentykach, jeden nadania wolnosci przez Zygmunta Augusta drugi, nadania Puszczy z ograniczeniem Roku Tysiąc Sześćset Pierwszego Miesiąca July Piętnastego Dnia iednaczasowie (sic!) wydane upewniaią[395].
Pokładano też Przywileja Nayiasnieyszych Poprzednikow Naszych Władysława Czwartego pod Rokiem Tysiąc Sześćset Trzydziestym Trzecim, Miesiąca Maja Trzynastego Dnia. Jana Kazimierża pod Rokiem Tysiąc Sześćset Piędziesiąt Trzecim, Miesiąca Stycznia Dziesiątego Dnia. Michała pod Rokiem Tysiąc Sześćset Siedmdziesiątym Miesiąca Marca Dwudiestego szostego Dnia. Augusta Drugiego pod Rokiem Tysąc Siedmset Ośmnastym Oktobra Dwudziestego Osmego, Królow Polskich, Wielkich Xiążąt Litewskich Konfirmacye, Nadania, Wolnosci, Ziemi, y Puszczy, oraz Jarmarków przez które te Miasto Mosty na wzor innych Miast uprzywilejowanych, mocą Prawa Seymu trwającego – do – opłaty wszelkich Podatków Rżplley (sic!) obowiązane zostało. Zaczym Suppikowano Nas, abyśmy z mocy Naszey Naywyższey Zwierzchnośći, która Nam Prawami Krajowemi iest dozwolona, y na fundamencie Konstytucyi na Seymie teraznieyszym o Miastach postanawionych; mianowicie pod tytułem Miasta Nasze Królewskie Wolne w Państwach Rżpttey = przez którą pozwolono Nam iest nie tylko dawnych Miastom Przywileja *Renovationis* częśći im zaginęły wydawać, ale nawet gdy by na Gruntach Naszych Królewskich Osada iakowa z Ludu wolnego złożona, dała siedlisku swemu przystoyną postać Miasta, tedy Nam Królowi nowy Przywilej *Locatinis* takowey Osadzie, nawet z nadaniem

394 Дапісана простым алоўкам пасля паступлення рукапісу ў бібліятэку Варшаўскага універсітэта.
395 Копія прывілея Жыгімонта III Вазы Мастам ад 15 ліпеня 1601 г. з канфірмацыяй ліста Стэфана Баторыя на абруб Мастоўскай пушчы ад 25 лютага 1579 г. была апублікавана Генадзем Семянчуком, гл.: Памяць. С.51.

Ziemi wydać Moc zostawiona. Ze za tym Miasto Mosty dowiodlo, że iest wolnym y z wolnych Ludzi złozonym, i że maiąc iuż ||

[арк. 2] przystoyną postać Miasta, z czasem przyiść może do uformowania ruwnego innym. Onemu Przywiley Lokacyiny z nadaniem Ziemi y Praw Mieyskich na wzor innych Miast Uprzywilejowanych wydać y też Miasto do Wolnosci innym Miastom ruwne Podatki Rżpttey opłacającym przystosować, Wolney Elekcyi Magistratu na mocy Konstytucyi na Seymie teraźnieyszym zapadłych, dopuscić, od Juryżdykcyi Wszelkiey ziemianskiey, Woiewodzinskiey, Staroscinskiey wyiąć Juryżdyki wszelkie obie, Duchowne y Swieckie w obrębie tegoż Miasta położone uchylić, y one pod Władzą y Juryżdykcyą Magistratu Mostowskiego poddać, od Ciężarów arbitralnie narżuconych uwolnić, y używania wszelkich Swobod, Prerogotyw, Zaszczytow Miastom Wolnym służących dozwolić raczyli. Do – którey prożby ile na Prawie Publicznym gruntuiącey się My Król Łaskawie się, skłoniwszy, a do wyżey wzmionkowanych z Konstytucyi na Seymie teraznieyszym o Miastach postanawionych stosuiąc się, chcąc oraz przerzeczone Miasto Mosty y Jego Obywatelow w wolnośćiach y Zaszczytach Prawami udzielonych zapewnić, one wolnym Ludem handle, rzemiosła sprawuiącym osiedlić, ztąd toż Miasto do dobrego bytu y porżądku przyprowadzić, a pomnażające się z czasem Dochody Rżpttey zwiększyć, przerzeczone Miasto Mosty za wolne uznawszy, wszystkich Obywatelów w tym Miescie tak teraz osiadłych, iako y na potym osiadać mających, y do Prawa się Mieyskiego wcielaiących, za Ludzi wolnych ziemię w obrębie tegoż Miasta położoną y przez nich teraz osiadlą[396] (sic!), oraz downiey[397] (sic!) posiadaną ich Domy, place, Ogrody y całe tegoż Miasta *territorium* iakie do niego wedle Nadań, Przywilejow dawnieyszych prawnie teraz należy, własnoscią Dziedziczną tegoż Miasta Mostow być uznaiemy, ||

[арк. 2 адв.] nienaruszaiąc Prawa o Granicę y własnośći z kimkolwiek mieć mogło. Wszystkich Obywatelow przerzeczonego Miasta Mostów bądź Szlacheckiego, bądź Mieyskiego urodzienia Ludzi prowadzących handle lub rzemiosła, Albo Szynkiem bawiących się, bądź z iakowego kolwiek przemysłu żyjących, y w tymże Miescie, tak teraz Posesye maiących, jako y na potym one nabyć mogących, jakiego kolwiek byleby dostoienstwa, Professyi lub kunsztu. Juryżdykcyi Mieyskiey y Magistratowi mieyscowemu tegoż Miasta, oraz równym Podatkom Wolnosciom y Zaszczytom podleglemi mieć chcemy, A przerzeczone Miasto od wszelkich Juriżdykcyi Ziemianskiey, Staroscinskiey Zamkowey na mocy Prawa swiezo[398] (sic!) o Miastach zapadłego wyimuiemy, y że żaden z Obywatelów tego Miasta w żadnej sprawie przed innym sądem Obcym, ani Zamkowym Staróścinskim odpowiadać nie będzie, tylko przed Urzędem Mieyskim, podług przepisu Prawa teraznieyszego o Miastach postanowionego przez osiadłych w tym Mieście Obywatelów obranym, sądzić się ma. Stanowiemy, a gdyby ktokolwiek Dekretem Sądow Mieyskich Miasta Mostów mniemał się być uciążonym, tedy do sądów Apellacyinych w Miescie Grodnie Prawem Seymu teraznieyszego za widziałowe dla Miast Powiatu Grodzienskiego oznaczonym, lub do Nas y Sądow Naszych Zadwór[nych] (sic!) Asessor[skich] (sic!) WXL$^{o}$ podług gatunku Spraw w Prawie wymienionych, appelować będzie mocen. Urżąd zaś y Sąd Mieyski z Urżędów y Sądzienia tegoż Miasta, jako też całe przerzeczone Miasto Mosty, nie gdzie indziey, iak tylko przed Nami y Sądem Naszym Zadwór[nym] (sic!) Asessor[skim] (sic!) WXL$^{o}$ w sprawach prawem przepisanych odpowiadać będo[399] (sic!) winne.||

[арк. 3] Tudziesż aby tez Miasto Ratusz dla obrad y sądow Mieyskich, jakoteż w przyzwoitych mieyscach jatki y Kramnice na pozytek Mieyski y Cegelnią Publiczną Mieyską wystawiło onemu Dozwolamy. Aby zas też Miasto tak w rzeczach Sądowych, jako y Rządowych Mieyskich na wypisach y Dziełach (sic!) Urzędowych pewnego za zywało zaszczytu Onemu

396 Трэба: osiadłą.
397 Трэба: dawniey.
398 Трэба: swieżo.
399 Трэба: będą.

Herb taki Nadajemy jaki się tu odmalowany widzieć daie. to jest na prawej Tarczy, Geniusz trzymaiący Miecz w prawej ręce, w lewej zaś Szale, na Tarczy lewey Opatrzność, po między temi Ciołek z napisem pod nimi Memoria Stanislai Augusti № 791[400] (sic!). przez tęż Miasto obrany[401]. Ktorego to Herbu na Pieczęciach y wszelkich oznakach, temuż Miastu używać Pozwalamy innych wszelkich Swobod, Wolnośći y Zaszczytow, jakowe Prawami Krajowemi Miastom Wolnym są Dozwolone, y jakowemu Zarzędzienia (sic!) Władziom (sic!) naywyszym (sic!) też Miasto podlegać są obowiązane, to wszystko w tym Miescie Wolnym Mostach dopelnione y wykonane mieć Chcemy, oraz wszelkich Prerogatyw, tak z Praw Krajowych, mianowicie Konstytucyi na Seymach postanowiomych, iako też z Prawa Mieyskiego Magdeburskiego wynikaiących, tymże Mieszczanom Mostowskim używać Dozwolamy, y aby w tym odnikogo nie mieli przes[z]kody (sic!) Ostrzegamy. Na co dla lepszey wiary ninieysze *Dyploma*, Ręką Naszą podpisem y || [арк.3 адв.] Pieczęcią WXL° Stwierdzić Rozkazalismy.

Dan w Warszawie Dnia Miesiąca[402]
Roku Panskiego MDCCXCI Panowania Naszego
XXOII[403] (sic!) Roku.

*Diploma Locationis Renovationis*
Miastu Wolnemu Mostom w Powiecie
Grodzienskim leżącemu. ||

[400] Памылка. Трэба: “1791”.
[401] Наўрад ці мастоўскія мяшчане самі абралі сабе згаданы герб, ды яшчэ з родавым “Цялём” гаспадара. Відавочна, што маецца на ўвазе наданне гарадскога гербу Мастам.
[402] Дзень і месяц не пазначаны, а для іх упісання ў арыгінале былі пакінуты пустыя акенцы, якія складальнік копіі дакладна захаваў.
[403] Памылка. Трэба: “XXVII”.

**Андрэй Мяцельскі**
**(Менск)**

## НАГАНЫ І ВЫВАДЫ ШЛЯХЕЦТВА Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ. ДВА ДАКУМЕНТЫ 1579 ГОДА З СУДОВАЙ КНІГІ № 272 МЕТРЫКІ ВКЛ

У судовай кнізе № 272 Метрыкі ВКЛ, дзе сабраны дакументы з 1576 г. па 1579 г., знаходзяцца некаторыя крыніцы, якія маюць адносіны да праблемы “*вывадаў шляхецтва*” некаторых вядомых асобаў. У прыватнасці, тут захаваўся дэкрэт караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя па справе аб знявазе ці нагане шляхецтва пінскага мастаўнічага Фёдара Еўлашэўскага кіеўскім мастаўнічым Сцяпанам Пацкевічам. Фёдар Міхайлавіч Еўлашэўскі (07.02.1546-1619 г.) – выхадзец з дробнамаёнткова́й шляхты, дзякуючы самаадукаванню змог набыць веды ў галіне матэматыкі, справаводстве і юрыспрудэнцыі, вядомы як аўтар аднаго з першых дыярыушаў на беларускай мове[404].

Другі дакумент, што датычыцца пытання “*вывада шляхецтва*”, адносіцца да разборкі спрэчкі з-за ўладанняў паміж зямянамі Гарадзенскага павета Станіславам Рыльскім, Валентыем Галезскім, Андрэем Гнявінскім і Янам Крычкоўскім, якія былі жанатыя на сёстрах Тunion Туроўнах. У гэтай справе адным з аргументаў Яна Крычкоўскага супраць Андрэя Мацеевіча Гнявінскага быў той факт, што апошні не даказаў свае шляхецтва, як таго патрабавалі артыкулы II Статуту ВКЛ 1566 г. У выніку, Андрэй Мацеевіч Гнявінскі вымушаны быў пацвярджаць сваё шляхецтва як на гарадзенскім з’ездзе (соймік) 1574 г., так і перад каралём і вялікім князем Стэфанам Баторыем. У якасці галоўнага доказу ім быў прадстаўлены ліст Аляксандра Грыгоравіча Хадкевіча, гарадзенскага старосты, у якім яшчэ ў 1574 г. прызнавалася, што род Гнявінскіх з’яўляўся адным з самых старажытных у Гарадзенскім павеце ВКЛ. Таксама Андрэй Мацеевіч Гнявінскі прадстівіў гаспадару выпіс з копіяй ліста аб абранні яго гарадзенскім каморнікам у тым жа 1574 г., калі ні ў каго не ўзнікла пытання пра сапраўднасць яго шляхецтва[405]. У дадатак ім былі таксама прадстаўлены сведчанні іншых шляхцічаў Гарадзенскага павета, якія пацвярджалі шляхецтва роду Гнявінскіх.

Прапанаваныя да друку дакументы цікавыя не толькі тым, што закранаюць біяграфіі згаданых асобаў, але і тым, што ўскрываюць пэўныя прававыя механізмы доказаў шляхецтва ў ВКЛ у другой палове XVI ст. у сітуацыі, калі яно ставілася пад сумнеў.

### Декре*т* мосто*в*ничомꙋ пи*н*ско*мꙋ* Федорꙋ Евлаше*в*|скомꙋ з мостовничи*м* киевскимъ Степано*м* | Пацкевичо*м,* ѡ примовъкꙋ до шляхе*ц*тва | Евлашевскому ѡ*т* Пацкевича etc.

|| *[252|251]*

Стефа*н*, Бо*ж*ю м(и)л(о)*с*тью коро*л* по*л*ски*и*, велики*и* кня*з* литовъски*и*, рꙋски*и*[1]|
Ѡзна*и*мꙋемъ[2] симъ листомъ нашимъ.

[404] Свяжынскі, У. Еўлашоўскі (Еўлашэўскі) Фёдар Міхайлавіч // ВКЛ: Энцыклапедыя. Мн.: БелЭн, 2005. Т.1.С.619-620.

[405] Гл. пра яго: Шаланда, А. Гродскі суд Гарадзенскага павета ВКЛ у другой палове XVI-XVII ст. Частка II: Функцыянаванне гарадзенскага гродскага суда ў перыяд першых бескаралеўяў у 1572-1576 г. // Гарадзенскі палімпсест 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV-XX ст. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Мн.: Зміцер Колас, 2012. С.123. Шаланда, А. Гродскі суд гарадзенскага павета ВКЛ у часы праўлення Стэфана Баторыя (1576–1586 г.) // Вялікае княства Літоўскае і суседзі. Права. Вайна. Дыпламатыя. Пад рэд. С.Сокала, А.Янушкевіча. Мн.: БІП – Інстытут правазнаўства, 2012. С.67-70.

[1] Сказ завершаны знакам які нагадвае перакрэсленую літару “S”.

[2] Загалоўная літара па памерах займае чатыры радкі.

Ижъ за росказаньемъ нашимъ г(о)с(по)д(а)рскимъ | Панове Рады н(а)ши, ихъ м(и)л(о)*с*ть панъ виле*н*ски*и*, канъцле*р* нашъ Великого Княз|ства Литовъского, староста берестe*и*ски*и* и кобринъски*и* панъ Ѡстафе*и* Воло|вичъ а ма*р*шалокъ нашъ дво*р*ны*и* Великого Князства Литовъского, ста|роста ковенъски*и* панъ Ѡльбри*х*тъ Радивилъ кн(я)жа на Ѡлыце и Несвижꙋ, | слухавъши тое справы ниже*и* ѡписаное, которая се за ма*н*датомъ наши*м* | на съемъ нинешъни*и* приточилася, донесли то до насъ г(о)с(по)д(а)ра тымъ ѡбы|чаемъ.

Што жъ де*и* жаловалъ пере*д* нами мостовничи*и* нашъ пинъски*и* Фе|до*р* Михаиловичъ Евълашевъски*и* на мостовничого нашого киевского Сте|пана Пацъкевича ѡ томъ, што жъ де*и* в рокꙋ прошломъ тисеча пя*т*со*т* | семъдесятъ шостомъ, м(е)с(я)ца августа, деве*т*надцатого д(ъ)ня, будꙋчи и*м* | ѡбема на ѡ*н* часъ при пане виле*н*скомъ, старосте жомо*и*тъскомъ, ма*р*ша*л*|ку на*и*вышъшомъ Великого Княз*с*тва Литовъского, небощику п(а)не Яне | Ходкевичу в Ляховича*х*, которому тежъ на то*т* часъ ѡни ѡбадва служили, | то*т* де*и* помененыи Пацъкевичъ словы ꙋщипливыми на него ся то*р*гнꙋ|вши емꙋ примовилъ, ѡ што ся де*и* ѡнъ за разомъ на ѡ*н* же часъ п(а)нꙋ виле*н*|скомꙋ жаловалъ, хотячися с такое примовъки вывести, але де*и* Па*ц*ке|вичъ до тое ся примовъки не зналъ, а панъ виле*н*ски*и* де*и* тое примовъки | додати ему не казалъ кгды жъ того право посполитое заборо|няеть и не чынечи в томъ зꙋполного выроку на су*д* и вырокъ нашъ г(о)с(по)д(а)ръ|ски*и* то заховалъ, до чого де*и* ѡнъ Евлаше*в*ски*и* того Пацъкевича на съемъ | нинешни*и* пере*д* насъ г(о)с(по)д(а)ра припозвалъ, на што де*и* и то*т* листъ небощи|ка п(а)на виле*н*ского подъ печатью и с под*п*исомъ рꙋки его м(и)л(о)*с*ти покладал.|

А ижъ де*и* помененыи Па*ц*кевичъ и недавныхъ часовъ бꙋдꙋчи вжо ѡ*т* него || *[251 адв.]* позваны*и* предсе заѡчъне до*т*кливе ѡ нимъ мови*л*, ку тому, ижъ де*и* тежъ | ꙋмыслилъ ѡнъ самого того Па*ц*кевича ѡ шляхе*т*ство его, если естъ з родꙋ шля*х*|тичъ, пытати, чого де*и* водле права не вольно, только томꙋ, хто бы пе*р*|ве*и* на шляхе*т*с*т*во свое доводъ ꙋчинилъ. Прото *ж* де*и* ѡнъ з бра*т*ею кровными | своими выво*д* шляхетъства своего пере*д* врадомъ нашимъ кгро*д*ски*м* | новгоро*д*скимъ ꙋделалъ.

И покладалъ де*и* пере*д* ними Евлаше*в*ски*и* выписы | два зъ врадꙋ кгро*д*ского новгоро*д*ского в которихъ ꙋра*д* тамошни*и* сознаваеть, | ижъ ставшы пере*д* ними врадомъ ѡчевисте земяне н(а)ши г(о)с(по)д(а)рские поветꙋ | Новгоро*д*ского братья помененого Евлашевъского; зъ ѡ*т*ца его Миха*и*ла Евъ|лашевъского на *и*ме Федо*р* Богушевичъ а Яронимъ Зве*р*клипинове, а ѡсобли|ве дрꙋгие два з ма*т*ки Евълаше*в*ского Федори Ѡколовны Никифоровича на *и*|мя Иванъ Бородичъ а Къмита Никифоровичъ, ѡповедали и добровольне | за присегами своими водле статꙋтꙋ вызнали то, ижъ ѡнъ Евлашевъски*и* | зъ ѡ*т*ца и ма*т*ки своее естъ ихъ приро*д*ны*и* братъ а правъдивы*и* шля*х*ти*ч*, | ѡ чомъ шире*и* на вси*х* ты*х* листе*х* ѡтъ Евълашевъского покладаныхъ | было ѡписано.

А затымъ де*и* ѡповедавшисе ꙋмоцованы*и* зъ стороны | позваное Степана Па*ц*кевича приятель е*го* Янъ Баха*н*ски*и* ѡказалъ ли*ст* | того Па*ц*кевича по*д* двема печатьми в которомъ де*и* то*т* Па*ц*кевичъ со|знаваеть, ижъ самъ за хоробою своею стать не могꙋчы, але чере*з* того | ꙋмоцованого своего и чере*з* то*т* листъ сво*и* на жалобꙋ Евлашевского ѡ*т*казу|еть, ижъ яко пе*р*ве*и* того, кгды ѡто з нимъ Евлашевъски*и* пере*д* п(а)но*м* | виле*н*скимъ справꙋ мелъ, онъ де*и до* тое примовъки не зна*л*ся такъ и те|пе*р* не мееться и никгды де*и* ѡнъ на Евлашевского не по*р*галъ и теперъ | примовляти не можеть и напотомъ не будеть.

И розꙋмееть де*и* | ѡнъ ѡ Евлаше*в*скомъ яко ѡ кожъдомъ почътивомъ шля*х*тичꙋ што жъ | де*и* и то*т* Янъ Боха*н*ски*и* тыми жъ словы мовилъ, яко и в томъ листе | поменено и бра*л* де*и* собе на помочъ статутъ в розделе третемъ, а*р*тыку*л* | двадца*т* вторы*и* || *[253/252]* два*д*цать вторы*и* в которомъ ѡписꙋеть, ижъ кгды бы шля*х*тичъ дрꙋго|мꙋ шля*х*тичꙋ такъ ѡ шляхе*т*ство яко и ѡ иные речи ѡчевисте примо*в*|ки ꙋчинилъ, а пото*м* бы ꙋ права до того не зналъ, тогды томꙋ, комꙋ | примовено то шкодити и на того хтося запрелъ довожоно быти | не маеть.

На то Евлаше*в*ски*и* поведилъ, ижъ де*и* то*т* помененн*ы*и Па*ц*кеви*ч* | приправивъши его не ѡ малꙋю шкодꙋ тепе*р* згола тымъ же ся к тому | не знаеть правъ быть хочеть, за статꙋтомъ выше*и* ѡ*т* него пода|нымъ, котори*и* де*и* статꙋтъ только то ѡ шля*х*тичу пишеть, а ѡнъ | де*и* не естъ ведомъ естли то*т* Пацъкевичъ самъ естъ шля*х*тичомъ, | бо где бы де*и* шляхътичомъ не былъ, тогды бы водле стат*ꙋтꙋ* що | же*и* кара*н* быти мелъ.

И показовалъ де*и* в томъ же статꙋте в розде[ле] | третемъ, а*р*тыкуле ѡсмъна*д*цатомъ ѡписано, ижъ естли бы хто самъ | не бу*д*ꙋчи шля*х*тичомъ приганилъ чоловекꙋ доброму шля*х*тичꙋ, а то*т* шля*х*|тичъ в томъ стане своемъ шляхе*ц*скомъ былъ и дово*д* на шляхе*т*ство свое | ꙋчинилъ, тогды за то *не* шля*х*тичꙋ ꙋрезаньемъ езыка каранъ быти мае*т*.|

И мовилъ де*и* Евълашевъски*и,* ижъ ѡнъ не только *водле* статꙋтꙋ двема ѡсо|бами зъ ѡ*т*ца и ма*т*ки своее, але и на*д* то чоты*р*ма ѡсобами земяны н(а)ши|ми, шля*х*тою, братьею своими поменеными, сведе*ц*ствомъ и присега|ми ихъ шляхе*т*ства своего довелъ, про то жъ и ѡ шляхе*т*стве того | Пацъкевича ведати хочеть.

Яко жъ при то*и* реляце*и* и*х* м(и)л(о)*с*ти Пановъ | Ра*д* нашихъ помененыхъ бꙋдꙋчи передъ нами ѡчевисто сторона | ꙋжалобливая Федо*р* Евълашевъски*и* все *то* водлꙋгъ тое жъ реляцыи и*х* м(и)л(о)*с*ти | Пановъ Ра*д* нашихъ мовилъ и то*т* листъ небощика п(а)на виленъского, | такъже и выписы врадꙋ кгро*д*ского новгоро*д*ского на выводъ шля|хе*т*ства своего покладалъ, и стату*т* выше*и* помененн*ы*и по собе пока|зывалъ и просилъ, абыхмо за такимъ слушнымъ выводомъ его с тое | примовъки вызволивши тому Па*ц*кевичꙋ за припозваньемъ | его шляхе*т*ство свое ѡказати и шкоды и наклады его, которы*х* || *[252 адв.]* ѡнъ собе в томъ три*ста* копъ гроше*и* менꙋеть, на Пацкевичу всказали.

Сторо|на позваная, то*т* Степа*н* Па*ц*кевичъ, яко самъ при то*и* реляцыи и*х* м(и)л(о)*с*ти | Пановъ Радъ наши*х* пере*д* нами г(о)*с*(по)д(а)ремъ кꙋ выроку нашому не сталъ, та*к* | и тотъ выше*и* помененн*ы*и ꙋмоцованн*ы*и его Баханъски*и,* и ни*х*то и*н*ши*и* ѡ*т* него | не ѡказалъсе, только про*д* речоные Панове Рады наши ѡказовали пе|ре*д* нами листъ того Пацъкевича ꙋмоцованн*ы*и ѡ*т* того Яна Баханъского | на тымъ праве пере*д* нами покладан*ы*и*,* в которомъ такъ ѡписано, яко | выше*и* в томъ листе нашомъ естъ поменено.

Котори*и* листъ его велелели[3] | есмо по*д*писавши писарꙋ нашомꙋ, де*р*жавцы немоноі*т*скомꙋ, пану Ве*н*|цлавꙋ Акгрипе до рꙋкъ томꙋ Евлашевъскомꙋ дати и с ты*х* причинъ | того Па*ц*кевича за нест*а*нного здавши, а сторонꙋ жалобливꙋю, помененого | Евълашевъского заховуючи водле права за такимъ правнымъ на | шляхе*ц*ство его достаточне тепе*р* пере*д* нами г(о)*с*(по)д(а)ремъ, яко на рокꙋ | завитомъ [4]завитомъ[4] ꙋчиненымъ выводомъ, вырокомъ нашимъ | г(о)*с*(по)д(а)рскимъ сказꙋемъ, же тая примовка, которая хотя бы и пе|ре*д* людьми Евълашевъскому ꙋчинена была ничого емꙋ шкодити | не маеть. А ѡ показанье шляхе*т*ства того Па*ц*кевича и ѡ шкоды Е*в*|лашевъского, выше*и* помененые, ижъ то на ма*н*дате нашомъ *не* было до|ложоно.

Прото заховываемъ Е*в*лаше*в*скому з нимъ ꙋ права належъного | впере*д* вольное мовенье, на што казали есмо Евълаше*в*скому дать | сесь нашъ листъ по*д* нашою печатью, по*д*писавши его рукою нашо|ю г(о)*с*(по)д(а)рскою.

Писанъ на ва*л*номъ со*и*ме ꙋ Ва*р*шаве, ле*т*(а) Бо*ж*(его) наро*ж*(енья) | 1579, м(е)*с*(я)ца декабра, 21 д(ъ)ня.|

По*д*писъ руки г(о)*с*(по)д(а)рское.|

Ве*нъ*цла*въ* Кгрипа писа*р*[5]|

**Декре*т* межи земяны поветꙋ Городе*н*ского | з о*д*ное стороны Станиславо*м* Ри*л*ски*м* и жоною его, | та*к*же Вале*н*ты*м* Кгалезски*м* а А*н*дрее*м* Гневи*н*скимъ | и жона*ми* и*х* Тꙋро*в*нами, а *з* дрꙋгое стороны Яно*м* | Кричковски*м* и жоною его Тꙋро*в*ною, ѡ де*л* в ы*име*н*ях* Туровски*х*, в Бобре и в Биснянa*х* ѡ заруки, ѡ навезки | и выво*д* шляхе*ц*тва А*н*дрея Гневи*н*ского etc.**

---

[3] Так у рукапісу.

[4-4] У рукапісу закрэслена.

[5] У ніжняй частцы артыкула, па яго цэнтры, знаходзіцца росчырк у выглядзе гарызантальный лічбы 8.

|| *[93 адв.]*[1]

Стефанъ, Божъю м(и)л(о)*с*тью коро*л* полски*и*, велики*и* кня*з* лито*в*ски*и*, руски*и*, пруски*и* etc.

Смотрели есмо того дела зъ ихъ м(и)л(о)*с*тью Паны Радами нашими Великого Кня*з*ства Лито*в*|ского.

Ижъ што которая справа точилася за мандатомъ нашимъ за позва*нем* | и за жалобою земянъ нашихъ повету Городенского Станислава Рилского | и жоны его Ганъны Ю*р*евны Хребтовичовны, Валентого К*г*аленз*с*кого и жо|ны его Марины Павловны Тȣровны, Андрея Матеевича Гневинского | комо*р*ника земъского городенского также и жоны его Зофеи Павловны | Тȣровны, дочокъ помененое Рилское, зъ земениномъ нашимъ в повете | Троцкомъ и Городенскомъ по жоне его ѡселость шляхетъскую | маючого Яномъ Кричковскимъ и з жоною его Раиною Павловною Туровною, | дочкою Рилское жъ.

Ижъ то*т* Янъ Кричковски*и,* яко сторона позваная ѡ*т* нихъ, | ѡбжалованъ естъ самъ и его жона Раина выше*и* помененая, ѡ невыпо*л*не*н*е | з стороны его и жоны его листу з ѡбȣдвȣ сторонъ доброволне з ними на | себе принятого, по*д* печатьми и с по*д*писаньемъ властныхъ рукъ ихъ | самыхъ и по*д* печатьми люде*и* зацныхъ ȣтве*р*жоного, комъпромиса*р*ского, | которимъ ѡни сполне и згодне в року прошломъ тисеча пятъсотъ се*м*|десятъ четве*р*томъ, м(е)*с*(я)ца генвара, три*д*цать пе*р*вого д(ъ)ня з обеюхъ | сторонъ доброволне на делъ ровны*и*, вечисты*и* зезволивши, и рокъ певны*и* | ку розделенью имене*и* Тȣровскихъ правомъ прирожонымъ и вечистымъ | на жону Кричковского и на жоны помененыхъ земянъ Валентого Кгаленз*с*кого | а Андрея Гневинского заровно приходячихъ принявши ѡписалися, и ѡ не|заплаченье сȣмы п(е)н(е)зе*и* Рилско*и* и мȣжȣ ее в листе комъп*р*омисномъ ѡпи|саное шестидесятъ копъ гроше*и*, также ѡ непостȣпенье жита за|сеяного на десеть бочокъ, што все шире*и* на листе комъпромисаръскомъ ѡписа|но естъ. Водле которого, кгды роки делу вечистому в комъпромисе назначо|ные имъ всимъ, такъ в ы*и*меныо Бобре в повете Городенскомъ яко *и* в ы*и*ме*н*ю || Висмя*н*ка*х* || *[95|94]* Висмянкахъ в повете Троцкомъ лежачихъ ȣ именьяхъ Туровскихъ припали, | ѡны*и* Янъ Кричковски*и* з жоною своею Раиною Туровною не *д*баючи ничого на ли*ст* | комъпромиса*р*ски*и,* на зарȣки и ѡбовязки в немъ ȣписаные такъ в ы*и*меныо | Бобренскомъ яко и в Бислянскомъ, в будованью дво*р*номъ, в людехъ, в кгру*н*|техъ, в земляхъ ѡремыхъ, сеножатехъ, в гаехъ, в дереве бо*р*тномъ и во вси*х* | пожи*т*кохъ ку тымъ именьямъ належачихъ делȣ з ними коньчити и имъ | части*и* ихъ ку вживанью постȣпити не хотели и сами ѡдны на себе | забравши тые именья зо всимъ де*р*жать.

За што все, кгды ѡнъ былъ | и жона его до судȣ земского городенского ѡ*т* помененыхъ земя*н* нашихъ и жо*н* | ихъ, имены выше*и* ѡписаныхъ, позвани, судъ земски*и* выслухавши в то*и* | речи ихъ ѡбеюхъ сторонъ, такъ поводовое яко и ѡбжалованое, не нарȣ|шаючи ни вчомъ листȣ ихъ комъпромиса*р*ского, делъ ровны*и* вечисты*и* | всказавши кȣ розделенью на три части, то естъ: жоне Кричковского | Раине з мужомъ ее часть, Марине Кгале*з*ско*и* з мужомъ ее часть а Зофеи Гне|винско*и* также з мȣжомъ ее часть. И за доброволнымъ призволеньемъ | ихъ же самыхъ всихъ сполне на выездъ по*д*коморски*и* ѡтослалъ и тую суму | п(е)н(е)зе*и* шестьдеся*т* копъ гроше*и* и на десеть бочокъ жита засеяного, поме|нено*и* Рилско*и* и мȣжȣ ее, на томъ Яне Кричковскомъ и на жоне его Раине | присȣдилъ, што шире*и* на выписе судовомъ ѡписано естъ, то пакъ кгды | рокъ за ѡтосланьемъ врадовымъ за позвы по*д*комо*р*скими ку разделе*н*ю | именья и двора Бобренского Туровского припалъ в рокȣ минуломъ ти|сеча пя*т*сотъ семдеся*т* семомъ, м(е)*с*(я)ца мая, два*д*цать третего д(ъ)ня.

На | которомъ рокȣ яко по*д*комором*ȣ* делȣ делить, становить и коньчи*т,* | такъ и имъ части*и* ихъ належачихъ, в ономъ именью и дворе звышъ ме|нованомъ самъ то*т* Янъ Кричковски*и* з жоною своею Раиною поступити | а ни тежъ ѡное шестидеся*т* копъ ѡ*т*дати

---

[1] На старонцы пазначана толькі новая пагінацыя.

и жита на десеть бочокъ на по|ли завести Рилскомꙋ и жоне его не хотели и моцно недопущаючи в дворъ || *[94 адв.]* Бобренски*и* Туровски*и* с под*к*оморимъ Шимономъ Сопо*т*комъ выеждчати, стре*л*|бꙋ немалꙋю противъ под*к*оморомꙋ и имъ стороне свое*и* с того двора пу|стити казали и в томъ ся, яко ѡтосланью врадꙋ зе*м*ского, такъ и вые*зд*ꙋ под*к*оморого спротивили, ѡ чомъ шире*и* на выписе под*к*омо*р*скомъ | доложоно естъ.

По которо*и* жалобе ихъ Янъ Кричковски*и* чинечи ѡ*т*ка*з* | на жалобꙋ ихъ самъ ѡ*т* себе и ѡ*т* жоны своее пре*д* речоное Раины Ту|ровны за моцъю слушною, врадовне выписомъ с книгъ кгро*д*скихъ горо|денскихъ вызнанья ее ѡчевистого на враде в томъ ему ѡ*т* нее даного | на зыскъ и страту поведилъ, ижъ Рилски*и* з жоною своею подле постано|венья комъпромиса*р*ского для ꙋтаенья кгрунтовъ в зарꙋки попа*л*, а Гневински*и* за всказаньемъ навески емꙋ на немъ шестидесятъ копъ гро|ше*и* ѡ*т* судꙋ кгро*д*ского троцкого за бо*и* и раны его, а за приганеньемъ ему | шляхетъство ѡ*т* него водле а*р*тыкꙋлу шестна*д*цатого в розделе трете*м* | ѡписаного, еще шляхетства своего не вывелъ.

Андре*и* Гневински*и* на то по|ведилъ, ижъ ѡнъ вжо за ѡтосланьемъ того жъ врадꙋ кгро*д*ского троцъ|кого ꙋроженья шляхе*т*ства своего на *з*езде городенскомъ водле ѡбы|чаю права слушне вывелъ, а ѡ*н* де*и* его ро*збои*нымъ ѡбычаемъ в Трока*х,* | на доброволно*и* дорозе розбивши, до чого за позвомъ в судꙋ кгро*д*ско*г(о)* | тро*ц*кого не знаючи взялсе самъ доброволне за присегꙋ якъ его не розби|валъ и причиною того бою его не былъ, также слугамъ и помочникамъ | своимъ быти не велелъ и ѡ томъ ничого не ведалъ. А на томъ всемъ | поднявшися присегати не хотелъ и в томъ зосталъ, на што и вы|писъ с книгъ враду кгро*д*ского, тро[ц]кого, судовы*и* на него показывалъ. | Одножъ де*и* то*т* же вра*д* кгро*д*ски*и* троцки*и* ку велико*и* кривде его фо*л*|кгꙋ чинечи, в томъ Кричковскому тую справу зася самъ же на вы|рокъ нашъ г(о)*с*(по)д(а)рски*и* ѡтославъ, ѡ*т*ступивши пе*р*вшого декрету своего.|

Zaты*м* || *[96/95]* затымъ показалъ перед нами г(о)*с*(по)д(а)ремъ листъ ѡтвороны*и* годное памети не|божчика пана Александра Ходкевича, старосты городенского и могилевского, | де*р*жавцы аинского, по*д* печатью его м(и)л(о)*с*ти и с по*д*писомъ рꙋки Ивана Жука, пи|сара кгро*д*ского городенского, в которомъ листе панъ староста пишеть | до врадꙋ кгро*д*ского троцкого ѡзна*и*мꙋючи то, ижъ в року прошломъ | тисеча пятьсотъ семъдеся*т* четве*р*томъ, м(е)*с*(я)ца ѡктебра, ѡдинад*ц*а|того д(ъ)ня, бꙋдꙋчи небожъчику в замку нашомъ городенскомъ на зъезде | перед намъ яко старостою тамошнимъ, и при бытности врадников | земъскихъ городе*н*скихъ, то есть пана Ивана Воловича ма*р*шалка нашого ста|росты теперешнего городенского, Шимона Сопотка под*к*оморого, Яна | Клюковского городничого, Федора Кунцевича хорꙋжого, кн(я)зя Ивана Масаль|ского су*ди*, Григо*р*я Масальского по*д*судъка, Андрея Котовича писара, и при | собранью немало шляхты рице*р*ства нашого повету Городенского, то*т* | Андре*и* Гневински*и* комо*р*никъ земли Городе*н*ско*и,* ѡказавши выписъ судовы*и* | кгро*д*ски*и* троцки*и,* в то*и* справе его емꙋ даны*и,* ставилъ и ѡбличне Матея | Яновича Бе*р*натовича ѡ*т*ца своего рожоного, Яна Яновича Бе*р*натовича | дя*т*ка своего рожоного[2] по ма*т*це а брата своего те*т*ченъного Матыса | Езофовича Козырꙋ, землянъ нашихъ поветꙋ Городенъского шляхтичовъ по*ч*|стивыхъ и инъшихъ люде*и* добрыхъ, вери годныхъ, приятеле*и* своихъ земя*н* | нашихъ, шля*х*ту того жъ поветꙋ Городенского, то естъ; Петра Венцко|вича Есимонъта, Кгабриеля Есимонта, Павла Яновича Толочка, Лу|каша Матеевича Сна*р*ского, Андрея Щасновича, Миклаша Андреевича, | Кондрата Ивановича Почабута выводечи ро*д* сво*и* шляхетски*и,* которие | ѡбличне при немъ стоечи сами доброволне вызнали, же Мате*и* Янови*ч* | Бе*р*натовичъ, ѡтецъ Андрея Гневинского, з роду и с продковъ своихъ зда|вна почтивы*и* и правдивы*и* а прирожоны*и* шля*х*тичъ, бра*т* ихъ, во | всемъ имъ ровны*и* естъ и ѡ*т* давныхъ часовъ за памети ихъ самы*х* | [3]по ѡ*т*цу Себестыяна Во*и*теховича Зубри*ц*кого, дя*д*ка

[2] Пасля слова на радку стаіць верцікальная мачта перакрэсленая трыма гарызантальнымі лініямі. Паказвае, што аб'ект, пра які ідзе гаворка, мёртвы.

[3] Перад словам на радку стаіць верцмкальная мачта перакрэсленая трыма гарызантальнымі лініямі. Паказвае, што аб'ект, пра які ідзе гаворка, мёртвы.

